— А трэцяй гадзіне раніцы сюды прыедзе фурман, я змовілася... Мы паедзем разам у горад... Пэўна, Андрэй вярнуўся ўжо, навін сьвежых прывёз... Каб скарэй з гэтымі немцамі кончылі—мір нам дужа патрэбны цяпер...

У словах Ніны ўжо чулася абычайная для яе спакойная руплівасьць, якая здавалася асабліва сымпатычнай тады, калі гаварыла Ніна пра агульную справу, калі ў вялікі клопат мільёнаў людзей улівала шчырую цеплату свае жаночай турботы—такой простай і праўдзівай, роджанай з самай глыбіні істоты.

Лясьніцкі адчуваў глыбокую павагу да Ніны—ён хацеў цяпер сказаць ёй нешта прыветнае, ласкавае і разам з тым многазначнае, каб паказаць, што ён разумее яе, што яны блізкія адзін аднаму. Ён пачаў асьцярожна, з прадмовай, каб ня спудзіць яе ўціхамірнага настрою.

— Вы, Ніна, ня злуйцеся, калі я можа глупства якое скажу... Дадушы, я хачу так, патаварыску... Мне трэба гаварыць, каб зафіксаваць неяк гэты настрой мой... цяперашні... Я, сапраўды, адчуваю да вас цяпер нешта страшэнна добрае. Вы казалі, што вы слабая... Ды не, вы не слабая, Ніна. Я зьдзівіўся сёньня ад вашай сілы... Я дужа ўдзячны вам—не за тое, не... Вось за сілу за гэту, за непасрэднасьць... Неяк сам сьмялейшы робішся, калі такіх людзей сустракаеш... Сапраўды... Я зусім сур'ёзна кажу, што вы, Ніна, моцны і добры чалавек... Вы—слаўны таварыш...

Ніна глядзела на яго з чыстай і ласкавай усьмешкай. Потым, як кончыў ён, яна ў лёгкай задуме сказала:

— Жыцьцё ў мяне, Лясьніцкі, было цяжкое—яно выхавала мяне... Вы-ж ведаеце—я некалі вам гаварыла—змалку прышлося цярпець... Матку страціла, брата, бацьку. Усё жыцьцё—нястача, гарота... Вось і шукаеш нечага лепшага, верыш у яго, захапляешся... А цяпер я чамусьці канчаткова ўпэўнена, што скора знойдзем мы гэтае лепшае. Таму я і проста гляджу на ўсё, ня маю сумненьняў... А слабасьць усё-ткі нападае часамі... Люблю, вось, сына, да болю шкода яго... пэўна, памрэ... а мо' ўжо памёр... Горш няма, як ня ведаеш...

Яна зноў пачала хмурнець, заблішчэлі раптоўнай сьлязой яе добрыя шэрыя вочы. Лясьніцкі пастараўся перавесьці гутарку на другую тэму—напамянуў пра справу, якую яны тут зрабілі, і Ніна папрасіла расказаць аб усім па парадку. Яны рашылі зусім ня класьціся спаць, і прагаварылі аж датуль, пакуль ня прыехаў фурман.

## VI

Дзіця памёрла на руках у Ніны на другі дзень пасьля таго, як яна вярнулася ў горад. У гэты час у хаце ў яе былі Лясьніцкі і Славін. Калі заціхлі апошнія—недалужныя і жаласныя стогны дзіцяці, Ніна спынілася сярод хаты і колькі хвілін глядзела на пасінелы тварык малога, быццам вывучала на ім незразумелы дзікі ўзор халоднае сьмерці. Потым

асьцярожна паклала яго на ложак і зноў пільна ўглядалася ў нейкім тупым і цяжкім задзіўленьні. Нарэшце сказала ледзь чутна—нібы разважала сама з сабой:

— Як мала жыў... А мог быць вялікім і моцным...

І ў глыбокай задуме адышла ад ложку, пачала глядзець у вакно. Тады да нябожчыка падышоў Нікадзім Славін і, гледзячы на яго, загаварыў цягуча і жаласна:

— Так... Мог быць вялікім і моцным... Вось так сьмяецца жыцьцё над чалавекам. Няма ні ў чым пэўнасьці—усё залежыць ад выпадковых і больш за ўсё недарэчных сытуацый, усяму ў любы момант пагражае сьмерць... Які здаровы ён быў радзіўся... І жыў-бы, каб ня выпадак... Страшна робіцца, жудасна... Выпадкова жывём, выпадкова паміраем... Няма нічога пэўнага, сталага...

Ніна падышла да Славіна і зьлёгку адпіхнула яго рукой.

— Ідзеце вы, Славін, ня каркайце... Ідзеце цяпер ад мяне, я хачу быць адна... Ну ідзеце ўсе, хутчэй!

Хлопцы нерашуча пераглянуліся—ці варта кідаць яе адну?—але яна яшчэ з большай настойнасьцю папрасіла, і яны вышлі.

Пад вечар, калі ў убогай—маленечкай і нейкай сьмешнай труне нясьлі дзяцёнка на могілкі, Ніна была ўжо зусім спакойная—яна ішла са Славіным і ўвесь час аб нечым з ім гаманіла. Наогул з гэтага дня Лясьніцкі амаль што заўсёды сустракаў яе з Славіным. Ён з цікавасьцю прыглядаўся да іхных адносін, але ўбачыць у іх што-небудзь пэўнае яму не ўдавалася. Часамі паміж іх панавала цёплая прыязнасьць (з боку Ніны яна была нават асабліва выразная, падкрэсьленая), а часамі Ніна рабілася сухой і глуха-замкнёнай,—тады веяла паміж іх халодная чужасьць, і тады Славін страшэнна мучыўся. Лясьніцкі дагадваўся, што гэта Ніна стараецца пакахаць небараку Славіна, і дзень-у-дзень чакаў канца гэтае цікавае гульні. Аднак неўзабаве яму прышлося спыніць свае назіраньні, бо організацыя камандыравала яго для працы на вёску.

Вандруючы па вёсках і наладжваючы сувязь з рэволюцыйнымі ячэйкамі, а часам нават з асобнымі таварышамі, Лясьніцкі пільна прыглядаўся да жыцьця сялянскае грамады, старанна вывучаў захаваныя рухі сялянскіх настрояў, рабіў падрахункі рознастайных сымпатый і жаданьняў, якімі жыло ў той час беларускае сялянства. Ён адразу пераканаўся, што тая стыхійная барацьба, якую ўзьняў на вёсцы Кастрычнік і якую з зьвярынай жорсткасьцю пяліся задушыць перш польскія легіёны, а потым кайзэраўскія палкі, што гэтая барацьба толькі ўвайшла ў глыб, захавалася, а тымчасам бушуе, бурліць, пагражае магутным выбухам свае бязьмежнае потэнцыянальнае сілы. Ён бачыў, як прыгнечанае сялянства памалу, але настойна змагаецца з памешчыкамі, што панаехалі зноў, заселі ў сваіх разбойніцкіх гнёздах. Ён бачыў, як, абабранае да ніткі, яно то там то сям дае жудасна-ўпарты дружны адпор нямецкім

рабаўнікам. Ён бачыў, як знэрваваная, раздражнёная сялянская моладзь стыхійна організуе партызанскія атрады, гатовая да шырокае масавае барацьбы. Ён бачыў, як па ўсёй окупаванай Беларусі з кожнай гадзінай расьце нястрымана-настойнае патрабаваньне міру і волі, як з кожнай гадзінай сьмялейшым робіцца погляд, з палкай надзеяй накіраваны туды, на ўсход, адкуль павінны прыйсьці чырвоныя збавіцелі... І разам з тым, як ён усё гэта бачыў, у ім гартавалася сіла і воля барацьбіта. Сьвядомасьць жалезнай лучнасьці з колектывам, за які і разам з якім ён змагаецца. Часамі яму здавалася (ён амаль што фізычна адчуваў гэта), што ўзмыўна-бурлівае народнае абурэньне ўзносіць яго на сваіх хвалях некуды высока-высока, на страшное і прыгожае ўзвышша—там бліскавіцы, ветры парыўныя, злосныя, там сьціскаецца сэрца ад наплыву дзіка-імпэтнага парываньня і ў грудзёх узьнімаецца новая непераможная сіла—жалезная сіла колектыву—і штурхае, нясе ў барацьбу—да перамогі, да вызваленьня...

Калі ўжо ў пачатку восені вярнуўся Лясьніцкі ў горад, ён засьпеў там надзвычайна нэрвовы, мятушлівы настрой, якім было ахоплена ўсё жыхарства. За тыдзень перад гэтым па горадзе пайшла выразная і пэўная чутка, што немцы пакідаюць горад, што прыходзяць сюды чырвоныя. А дні праз два пасьля гэтага сярод белага дня і на ўсіхных вачох праляцеў па галоўнай вуліцы гораду аўтомобіль, на якім жвава трапятаўся вясёлы чырвоны сьцяг. На аўтомобілі сядзела некалькі чалавек у скураных тужурках, з наганамі—яны задорна пазіралі на публіку і ўсьміхаліся. Пра гэты аўтомобіль за дзесяць хвілін прачуў увесь горад і ўсе ведалі, што гэта прыяжджалі бальшавіцкія прадстаўнікі для папярэдніх перамаўленьняў з нямецкім камандаваньнем.

З гэтага пачалася сумятня. Заварушыліся мясцовыя буржуі, закідаліся ў жорсткай ліхаманцы нечаканага спалоху. Пачаўся пасьпешны, поўны турботы і панікі, выезд з гораду большасьці багатыроў. Некаторыя ехалі стала, з усім сваім дабром (паслужныя немцы за казачныя цэны прадавалі вагоны і нават цэлыя эшалоны), іншыя выбіраліся ўлегцы—абы вынесьці ўласную скуру. Гэтая сумятня асалапелых паноў адбівалася і на іншых колах жыхарства, ствараючы агульны нэрвованапружаны настрой.

У гэту пару энэргічна ўзялася за працу мясцовая бальшавіцкая організацыя. Ня выходзячы з падпольля, яна здолела разгарнуць шырокую дзейнасьць па падрыхтоўцы да ўстанаўленьня ў горадзе Савецкае ўлады. Вывучалі, падрахоўвалі свае і варожыя сілы, падбіралі кадры савецкіх працаўнікоў, шукалі і бралі на прыметку матэрыяльныя магчымасьці, якія-б можна было скарыстаць у першую часіну. З гэтай мэтай рабілі спробы затрымаць некаторых багацейшых буржуяў—каб ня даць ім вывезьці з сабой золата і каштоўных рэчаў. І адначасна з гэтым вялася праца сярод нямецкага войска—у той час нямала нямецкіх

салдат перайшло да чырвоных і нямала асталося ад немцаў рознай вайсковай маемасьці.

Перад самым ужо прыходам чырвоных організацыя праведала, што ў горадзе зьбіраецца контр-рэволюцыйны атрад, які мае на ўвазе змагацца з чырвонымі пасьля таго, як горад пакінуць немцы. Было адразу вядома, што на чале гэтае справы стаіць купка памешчыкаў, маёнткі якіх знаходзяцца пад чырвонымі, але натрапіць на самае іхнае логава ўдалося толькі за два дні да выхаду немцаў.

У той дзень гадзіне а трэцяй спаўдня за Лясьніцкім забег адзін з таварышоў і сказаў, што трэба зараз-жа ісьці да Андрэя. Праз хвілін дзесяць яны ўжо ўваходзілі ў той мізэрны домік на акрайнай вуліцы—у Андрэеву патаемную кватэру. Там было ўжо некалькі чалавек сваіх. Як увайшоў Лясьніцкі, Андрэй чамусьці з жвавай пасьпешнасьцю зьвярнуў на яго ўвагу:

— Ага! Вось хто ведае! Ён там быў не адзін раз... Яго нам зараз і трэба...

І, убачыўшы няўцямна-зьдзіўленую міну Лясьніцкага, зьвярнуўся да яго:

— Разумееш, Васіль, які выпадак... мы знайшлі галаву гэтае чорнае сотні... Ведаеш, хто ў іх там найважнейшы? Зямляк твой, Карл Іванавіч Шэмпель... Зараз табе трэба пайсьці туды з кім-небудзь і прасачыць, каб ня зьехаў куды... Увечары зробім напад на кватэру і паспрабуем яго ўлавіць... Разумееш?

— Добра!

Лясьніцкі нічога не распытваў, не чакаў больш тлумачэньняў,—узяў з сабой яшчэ аднаго хлапца і пайшоў на знаёмую вуліцу. Ад гэтае раптоўнае весткі, ад гэтага дзіўнага нечаканага супаданьня зьбіўся настрой яго ў нявыразна-глухое і даўкае пачуцьцё—ні-то прадчуваньне нейкае сашчаміла сэрца, ні-то тачыла нутро боязьнь магчымай сустрэчы—недарэчнай і непатрэбнай. „Карлу“ ён і ня ўспомніў, адразу ў думках мігнула і асталася ўжо там паненка Раіса—яна і абурдзіла гэтае прыкрае пачуцьцё.

Калі да знаёмага дому аставалася крокаў з пяцьдзесят, Лясьніцкі заўважыў, як адтуль вышаў нейкі мужчына і падаўся ім насустрэчу. Яшчэ здалёку Лясьніцкі ўбачыў у ім нешта знаёмае, але канчаткова пазнаў толькі тады, як асталося крокаў пятнаццаць. (Дый то не паверыў адразу—ня мог зразумець, чаму ён вышаў ад „Карлы“). Гэта ішоў Матрунін.

На вялікае дзіва Лясьніцкага Матрунін пазнаў яго і яшчэ здалёку прывітаўся з едка падкрэсьленай далікатнасьцю.

— Добры дзень, малады чалавек! Як даўно мы ня бачыліся! Гуляеце, ці па справе куды?

Усьмешка ў Матруніна зусім брыдкая—лісьлівая і разам з тым злосная. А твар стаў яшчэ драбнейшы і яшчэ больш паморшчыўся—

недалужны такі, старэнечкі твар. Лясьніцкаму здаўся Матрунін зусім няпрыемным. Ён наўмысьля перапытаў груба і фамільярна:

— А вы, дзядзька, таксама, мусіць, гуляеце?

— О, не! Я іду на экстраны сход нашае партыі...

— Бальшавікоў сустракаць рыхтуецеся?..

— Хе-хе... Мы іх сустрэнем, так-так... Ого! Мы і зладзеяў можам сустрэць... Калі ласка, заходзьце ў кватэру, вось нашы рэчы... можа шкляначку чаю? Хе-хе... Прыходзіцца сустракаць, даражэнькі...

Лясьніцкі заўважыў з выразным націскам:

— А некаторыя ўцякаюць...

Стары дробненька замятушыўся.

— Нам ня страшна... Мы аддалі ўсё-чыста на рэволюцыю... Больш ня маем... Выбачайце, калі ласка... Можа скуру возьмеце нашу? Хе-хе...

І ўжо заварочваючыся ісьці ён запытаў з хітрым намёкам:

— Вы-ж таксама, здаецца, партыйны? Га, малады чалавек?..

Лясьніцкаму чамусьці стала зусім зразумела, чаго быў Матрунін у „Карлы“. І яшчэ ўспомніў ён, як казалі яму ў організацыі, каб асьцерагаўся мясцовых „соцыялістых“, якія выдадуць хутчэй, чымся хто іншы. Лясьніцкі падумаў:

„Так. Гэткія могуць выдаць, могуць прадаць“...

Да вечара хлопцы праседзелі ў нейчым глухім затравянелым садку, у які зусім лёгка было ўлезьці праз дзіравы шчыкет і з якога добра відаць быў пярэдні фасад патрэбнага ім дома. У дом прыходзілі і з дому выходзілі розныя незнаёмыя людзі, але Карлы было ня відаць. Потым, пад вечар, на канцы вуліцы паказалася некалькі сваіх, і хлопцы вылезьлі з саду, пайшлі ім насустрэчу.

Да цёмнага сабралася чалавек дзесяць узброеных хлопцаў. Спачатку хацелі атачыць дом з усіх бакоў, але потым рашылі проста зайсьціся з параднага ходу і ў поўным парадку, зусім формальна зрабіць патрэбныя арышты.

Гадзіне а дзесятай падышлі да дому. На гэтай вуліцы ня было зусім ліхтароў, і толькі з яскрава асьветленых вокнаў слаліся на дол шырокія снапы сьвятла ды над ганкамі цьмяна блішчэла слабенькая электрычная лямпачка. Хлопцы спачатку трымаліся ў цемры, а потым сьмела ўвайшлі ў асьветлены пляц і падышлі да ганкаў.

Лясьніцкі ішоў наперадзе—яму даручылі кіраваць гэтай справай. Ён сьмела і цьвёрда ступіў на першую прыступку, але якраз у гэты момант расчыніліся дзьверы і на ганкі вышла Раіса. Яна адразу заўважыла хлопцаў і спынілася, сьцеражліва азіраючы чужых, незнаёмых людзей. Лясьніцкаму трэба было затрымаць яе (потым так разважылі), але ён замяшаўся ад нечаканасьці і моўчкі глядзеў на яе, ня ведаючы, што рабіць. Тады Раіса рэзка зьвярнулася і пайшла назад, гулка ляпнуўшы за сабой дзьвярмі. Лясьніцкаму здалося, што яна пазнала яго і што ў той момант,

калі былі сустрэліся іхныя погляды (ён стаяў наперадзе ад усіх), у яе вачох загарэўся востры варожы агонь.

Дзьверы былі завалены. Лясьніцкі раздражнёна, сярдзіта ляпаў у іх і лаяўся, а хлопцы выдумлялі розныя спосабы, як дабіцца ў хату. Усе былі пераканаль, што дзьвярэй цяпер ужо не адчыняць. І ўсе памыліліся. Праз хвіліну ці дзьве пачуліся ў сенцах важкія крокі, загрымеў завал і монумэнтальная цётка Раісы адчыніла ім дзьверы. Потым хлопцы даведаліся, чаму ім зрабілі такую ласку, а ў першы момант страшэнна зьдзівіліся і нават не адразу адважыліся ўвайсьці ў хату.

Ува ўсім доме яны не знайшлі ніводнага чалавека, апрача Раісы і яе цёткі. Раіса сядзела ў сваім пакоі. Лясьніцкі туды не пайшоў і ня бачыў яе, але хлопцы потым казалі, што была яна страшэнна ўсхваляваная і ні з кім не гаварыла ні слова—толькі злосна бліскала вачмі ды кусала бледныя дрыжачыя вусны. А цётка гаварыла занадта многа, сама чаплялася ў гутарку, ахвотна паказвала ўсе закавулкі ў доме, дзе толькі мог схавацца чалавек. Гэта адразу зьдзівіла Лясьніцкага, але самая здагадка мігнула ў яго галаве тады, як неўзаметку заўважыў ён прагна-чакаючы погляд цёткі, накіраваны на дзьверы. Тады ён крыкнуў, як сілы:

— Хлопцы! Уцякайце хутчэй, тут нам пастку рыхтуюць!

І сапраўды, не пасьпелі яны рассыпацца ў цемры, як пачуўся кароткі абарваны топат коняй: к дому пад'ехаў нямецкі атрад. Стала ясна цяпер, што „Карла“ ўцёк праз задні ход і выклікаў немцаў. Так няўдала скончылася была гэтая сьмелая спроба ўлавіць заводцу контр-рэволюцыйнае хэўры. Аднак гэта чорная зграя нічым не пасьмела сябе праявіць пасьля таго, як горад забрала чырвонае войска.

## VII

І вот надышоў той гістарычна-яскравы дзень, калі ўзьвіўся над горадам чырвоны сьцяг і калі ў горад прышло дзіўна-новае жыцьцё, у якім перапляталася жорсткая цьвёрдасьць далёкіх паходаў з барвістым агнём прыгожых лятункаў. Прышло жыцьцё, поўнае рэзкіх контрастаў і цудоўна-дружных суладзьдзяў.

Гэта было блізка другой гадзіны спаўдня, а ў той самы дзень гадзіне а адзінаццатай зранку Лясьніцкаму выпала быць сьведкай таго, як ад няўдалага ходу ў жыцьці жоўкнуць у чалавека кветкі захаваных і таму асабліва яскравых лятункаў, як вяне душэўны запал і як астаецца ён, чалавек, з халоднай жменькай шурпатага попелу на дне апусьцелай душы.

Славін сам прышоў да Лясьніцкага (куды-ж ён дзенецца больш!) і зрабіў від, што ён зусім спакойны, абсолютна нічым ня ўстурбованы. Калі ён сказаў, што паедзе на вёску, дык, хто ня знае яго, мог-бы падумаць, што і сапраўды ён едзе туды па нейкай справе. Але-ж гэта той, хто ня знае, а Лясьніцкі зразумеў з першага погляду, што Славін прынёс нешта цяжкое, балючае і што яго штучная бязуважнасьць ня больш як на колькі хвілін.

Славін, сказаўшы некалькі слоў, змоўк і ўпяўся ў вакно цяжка-застыглым маркотным поглядам. За ім мімаволі зірнуў у вакно і Лясьніцкі—там было, на дварэ, хмарна і шыза (сьляпы восенскі дзень), і калі Лясьніцкі перавёў погляд на шызыя вочы Славіна, дык здалося яму, што нутро ў беднага Нікадзіма якраз такое цяпер, як гэты нярадасны дзень.

Перад тым, як пачаць гаварыць, Славін неспакойнымі рукамі працёр акуляры (без акуляраў вочы ў яго лысыя і вялыя) і неяк зусім павучнёўску паправіў рэмень, абсмаргнуў сваю доўгую задрыпаную сарочку.

— Сільнаму, Васіль, добра ў жыцьці—толькі сільны можа знайсьці сабе... не знайсьці, а ўзяць, адабраць, вырваць усё, што патрабуе яго натура, што яму падабаецца, а гэта значыць—на што ён мае права... Ты думаеш, тут несправядлівасьць якая? Гэта—найвышэйшая, найглыбачэйшая справядлівасьць... Так, так... Сільны бярэ, бо ён скарыстае поўнасьцю, без астачы, а слабы толькі папсуе, памусоліць... Нашто псаваць прыгожыя рэчы! Аддай іх таму, у каго ёсьць сіла спажыць, праглынуць, здаволіцца... Ха-ха... Вось—справядлівасьць!.. Аддай, ня трымайся дарма, бо... адбяруць, усё роўна, ха-ха...

Славін неяк цяжка-цяжка згарбаціўся, панура ківаў галавой і ўсьміхаўся бязьмежна горкай усьмешкай—ён здаваўся цяпер яскравым увасабленьнем людзкога расчараваньня. Потым ён сударгава ўзьняў галаву, зірнуў у твар Лясьніцкаму дзіка-зьбянтэжаным поглядам і загаварыў шпарка, хапліва, не саромячыся таго, што голас дрыжыць і рвецца ад сьлёз, што вусны трасуцца, ледзь спраўляюцца прапускаць напорна-блытаныя словы.

— А нам-жа як, га? Слабым як, скажы? А нам-жа хочацца трошачку шчасьця, жыцьця, як усім... Мы-ж таксама любім прыгожыя рэчы, як нам жыць бяз іх, га? Што нам рабіць? Скажы, што-ж нам рабіць?..

Лясьніцкі адказаў—ні-то жартам, ні-то сур'ёзна:

— Філёзофстваваць.

Славін на хвіліну задумаўся.

— Так... Ты жартуеш, а сказаў праўду. Калі ня возьмеш нічога ў жыцьці, калі адбяруць усё-чыста, тады трэба стварыць жыцьцё ў сваім-жа нутры, міраж тады трэба, ілюзія... Мы, слабыя людзі, усе фантазёры вялікія, выабражэньне нам замяніла і волю і, калі хочаш, розум... Ведаеш, Васіль, мне здаецца, што толькі слабыя людзі могуць быць мастакамі, бо мастацтва—гэта вышэйшая мяжа ілюзіі, і сільны чалавек тут ня зробіць нічога—выабражэньня ня хопіць...

Лясьніцкі далікатна паспрабаваў узьвесьці яго на больш конкрэтную тэму.

— Во што, Славін... Я разумею прычыну гэтых тваіх разважаньняў—ты можаш яе мне не гаварыць... Але мне цікава, што ты хочаш рабіць далей? Ты ўжо думаў аб гэтым, ці не?

Замест адказу Славін лятуценна адвёў у бок свой расплыўчасты погляд і з сумнай павольнасьцю зацягнуў:

— Яна баіцца, што кіне мяне ў першы момант, як я зраблюся ёй лішні. Яна дзіцё сваё дужа моцна любіла—і кінула. Гэта жанчына нязвычайная—у яе многа сілы і розуму. Яна хацела мяне палюбіць, я гэта сам заўважыў... і яна мне казала. Хацела, каб я быў у жыцьці больш дарэчы... так і казала—„да-рэчы“. Ну, а як я зраблю... Я стараўся, рабіў усё, што мог, каб ня быць „недарэчным“. Я ня крыўдую на яе, ані-ні... я буду любіць яе, усё роўна... буду помніць... Гэты час мне здаўся прыгожым—яна часта была дужа ласкавая, і я быў упэнены, што яна мяне палюбіла. Ну, а цяпер...

— Што-ж ты будзеш рабіць цяпер?

— Я паеду на вёску, у сваю школу... Буду працаваць, каб мець на што жыць, каб не памерці... памерці я ўсё-ткі ня здолею. Ну, і што яшчэ... лятуцець буду, можа верш калі напішу... даўно ўжо ня браўся... вось...

Ён зноў застыгла ўпяўся ў вакно сваім поглядам, і Лясьніцкаму зноў здалося, што ўнутры ў яго павосенску хмарна і шыза, як там, на двары, і таксама, як там, асядаюць гнілымі пацёкамі нікому непатрэбныя нудныя сьлёзы.

Пасьля полудню хлопцы пайшлі разам у горад. Седзячы ў хаце, яны зусім ня прымецілі, як распагодзілася і пасьвятлела на двары. Цяпер па небе плылі—сьпяшаліся некуды—рашуча парваныя, зусім нястрашныя хмары, спаміж якіх выглядалі лапікі сьвежа-сіняга неба, а па мокрых вуліцах ужо поўзала жаўтлявае і рэдкае (восенскае) сонца.

На галоўнай вуліцы хлопцаў увабрала ў сябе густая, шумлівая патока народу і пацягнула к масту, адкуль павінны былі прыйсьці чырвоныя. Горад быў поўны пярэста-звонкага мятушэньня, у якім мяшалася радасьць адных з адчаем другіх, у якім крыкі вясёлага захапленьня ахіналіся глухой буркатнёй нездаволеных, у якім было адно агульнае для ўсіх—гэта напружнае, нэрвовае чаканьне нечага яскрава-новага, што павінна прыйсьці зараз з таго боку Дняпра.

Яшчэ сустракаліся на вуліцы апошнія ўцекачы, якія ўжо, пэўна, і самі ня ведалі, куды яны ўцякаюць, дзе будуць шукаць прытулку ад незразумела-грознае сілы. Лясьніцкі бачыў, як купка людзей спыніла аднаго мешчаніна, які праз нейкае непаразуменьне ўбіўся ў хэўру багатыроў з невялічкім возам свайго небагатага рызьзя. Яны з сьмехам пачалі яго ўгаварваць, і ён перш сьпіраўся, а потым размашыста плюнуў і завярнуў назад сваю худую шаўлюжку. Яго праводзілі радасна-дзікімі крыкамі і шалёным рогатам.

Дзе-ні-дзе яшчэ відаць былі асобныя нямецкія коньнікі, а ўжо перад самым мастом праскакаў насустрэчу натоўпу эскадрон „гусараў

сьмерці", апошні раз блеснуў сваймі бліскучымі, аздобленымі эмблемай сьмерці, каскамі.

На беразе Дняпра было поўна народу. Сям-там адзінотна і нясьмела лунали чырвоныя сьцягі, дзе-хто начапіў сабе ўжо, адпаведна моманту, чырвоныя банцікі. З неба ліўся ясны і сьвежы восенскі дзень, пераплятаў хвалі народнага ажыўленьня звонкімі касьнікамі чыстага сонца.

Хлопцы ледзь знайшлі сабе месца, адкуль відаць быў пачатак маста. Чакаць было весела. Вакольны гоман і шум узьнімалі ў нутры прыемна-лёгкае хваляваньне—яно неяк узмыўна расло, горача апаласквала грудзі, пераходзіла ў радасьць, у захапленьне—тады дужа хацелася крыкнуць што-небудзь або запець нейкую вясёлую хвацкую песьню.

Аб тым, што ідуць чырвоныя, паведамілі гукі оркестры, якія раптам прыляцелі адтуль, з-за Дняпра, і прымусілі натоўп замятушыцца ў новым, ужо зусім жывым і вострым, хваляваньні.

У Лясьніцкага чамусьці сьціснулася сэрца. Мімаволі зацяўшы дыханьне, ён упяў у той бок, адкуль ляцелі гукі, свой гарачы напружаны погляд. Неяк проста ня верылася, што вось зараз прыдуць свае, што прынясуць зараз сюды той дзіўны, нябачаны ў сьвеце парадак, які так многа нясе ўсім абяздоленым, за які з такім энтузіазмам змагаюцца і паміраюць.

Набліжаліся і гусьцелі гукі, усё з большай сілай штурхалі перад сабой разгонныя хвалі сталёвага абурэньня, улівалі ў грудзі агонь магутных неперамажных імкненьняў.

Яшчэ бліжэй—яшчэ больш сілы і больш хваляваньня.

Загарэліся ў сонцы крывавым полымем чырвоныя сьцягі.

Першыя шэрагі. Людзі ў звычайнай рабочай вопратцы—з наганамі, з вінтоўкамі. У іншых кулямётныя стужкі. Гэта—партыйная організацыя. У кожнага ў твары—урачыстасьць і сіла. Сіла гэта роджана колектывам—яна адна ўва ўсіх, яна вяжа ўсіх адным непадзельным і неперамажным.

Музыка вырасла, абкружыла, заняла ўсю вуліцу, крыкі і песьні ў ёй патанулі—гэта таксама музыка. І таксама музыка—пагрозны гуд чорных бранявікоў, і музыка—жорсткі скрогат гармат, і тупат чырвоных колён—таксама музыка.

Непаўторна-прыгожая дзіка-магутная музыка!

І вось ужо на пляцы, дзе калісь блішчэла мундзірамі і тлустымі тварамі чорная царская стаўка, разгарнуўся шырокі народны мітынг. І нехта крыкнуў каля самага вуха Лясьніцкага:

— Браткі! Сьцяг!.. Вунь, вунь... угары...

На гарадзкой каланчы ўжо горда лунаў яскравы чырвоны сьцяг.

А на трыбуне зусім нехта знаёмы—вялікі, неўвароткі—крычыць сіпавата-грамоздным голасам, пакрывае ўзрушаны гоман натоўпу.

— Братка! Багун! Багун, ура!.. Хай жыве рэволюцыя!..

Потым хадзілі з песьнямі па вуліцах гораду, ладзілі на кожным кроку лятучыя мітынгі. Лясьніцкі быў зусім ахмелены гэтай урачыстай радасьцю—ён да зьнямогі пеў, крычаў, вылазіў на трыбуну і гаварыў блытаныя палкія прамовы, якімі сам запаляўся бадай што больш, як хто з слухачоў.

Пасьля аднэй з такіх гарачых прамоў, калі ён, сьціснуты натоўпам, стаяў недалёка ад трыбуны і абціраў хусьцінкай спацелы твар, яго нехта досыць выразна штурхануў у плячо. Ён абярнуўся і ўбачыў Халіму—худога, чорнага, з падвешанай на перавязцы рукой.

— Я казаў табе, што сустрэнемся, як бальшавікі прыдуць у горад... Вось я і тут...

Яны вылезьлі з натоўпу і сталі ў браме нейкага дому.

— Ну, дзе ты быў, Халіма, га?..

Халіма хвіліну змоўчыў, потым адказаў нехаця і буркліва:

— Гэта ўсё роўна... Ваяваў... А ты гэта ўдала там, на трыбуне... Урачыста выходзіць...

Лясьніцкі ўсьміхнуўся.

— Сёньня не выпадае сачыць за тым, як хто гаворыць... Сёньня гавораць затым, што рвецца з грудзей пачуцьцё. Сьвята-ж у нас вялікае сёньня. А гаварыць як сьлед мы будзем пасьля. Дый не гаварыць, а рабіць—не да гаворак цяпер...

Халіма—быццам і ня чуў Лясьніцкага—прабурчэў панура, сярдзіта:

— Дзе пачынаецца ўрачыстасьць, там канчаецца бунт.

— Ну і што?

— А бунту мала... Яшчэ многа бунту патрэбна... Трэба пашукаць, дзе няма ўрачыстасьці...

— Як гэта разумець?

— А так, што няма мне чаго тут рабіць... Бывай, Васіль!..

— Куды ты?

Халіма не адказаў. Ён моўчкі завярнуўся і пайшоў прэч ад Лясьніцкага—вялікі і нязграбны, як мядзьведзь. З таго часу ніхто ня бачыў яго і ніхто ня ведаў, дзе ён робіць свой унівэрсальны бунт.

У той самы дзень увечары паехаў і Славін—зарабляць свой кавалак хлеба, лятуцець і пісаць свае сантымэнтальныя вершы.

А над горадам віўся чырвоны сьцяг, і ў горадзе пачыналася дзіўна-новае жыцьцё, поўнае рэзкіх контрастаў і цудоўна-дружных суладзьдзяў.

*(Канец будзе).*

# АДДЗЕЛ УНШТРУТТАЛЬСКІХ ВЭЛЁСЫПЭДЫСТЫХ

*Апавяданьне*

**Бэрта Ляск**

Гэта было 24 сакавіка 1921 г. У калійнай шахце ішла праца. Рудакоп Пётра Мэльле, аднак, ня спусьціўся туды. У паветры адчуваліся адзнакі блізкае навальніцы. Грозныя весткі прыходзілі з Гальле, Мэрзэбургу і іншых мясцовасьцяй дзяржавы. Вось ужо восем дзён як быў утвораны Камітэт Дзейнасьці, які заўсёды быў на варце. Пётра Мэльле сядзеў у маленькім рэсторанчыку і чакаў вестак. Прыблізна а 18—19 гадзіне праехаў цераз вёску нейкі дзяцюк на вэлёсыпэдзе, вельмі сьпяшаючыся. Ён быў абліты потам, хоць у сакавіку паветра бывае халаднаватае. Ён увайшоў у рэсторанчык і выняў з кішэні цыдулку.

„Паведамленьне з Гэльбры“.

Пётра Мэльле прачытаў: „Вяду барацьбу з Эйслебэнскім і Гэтштэдзкім Зыпо'м *). Прышлеце подмогу. Гэльц“.

— „Ад самога Макса Гэльца? Яго ты назваў?“

— „Але, ад самога Макса Гэльца. Хутчэй, Пётра, бярыся за працу. Там усё роўна, як на пажары,—нельга чакаць. Ад Зыпо'ў *) усё-чыста пазелянела. Але работнікі ўсё-ткі змагаюцца з імі“.

Пётра Мэльле падскоквае. Цёмная шчотка яго валасоў грозна тырчыць. Увесь воблік яго, здавалася, быў поўным электрычнае энэргіі. Ясныя, крыху санлівыя вочы раптам зрабіліся бадзёрымі і бліскучымі.

Ён кідаецца на ганца, хапае яго абедзьвюма рукамі за плечы і з шалёным імпэтам трасе.

— „Пачынаецца, Фрыц, пачынаецца“.

— „Братка, ці ты часам не звар'яцеў? Я-ж ня Зыпо“.

— „К шахтам!“

І яны ўскочылі на вэлёсыпэды і памчаліся к калійнай шахце.

— „Усе наверх з капальні! Сход у дэпо. Дайце сыгнал гудком!“

Гудок гучыць. Паведамленьне перадаецца далей па ўсёй чыста калійнай шахце.

— „Што зрабілася? Здарылася няшчасьце нейкае, ці што?“

— „Сход у дэпо. Мэльле Пётра будзе гаварыць“.

---

*) Sipo—Sicherheit—Polizei—паліцыя грамадзкае бясьпечнасьці. Яна носіць зялёную форму. Упамінаецца таксама і Шупо (Schupo)—Schutz polize—паліцыя аховы дзяржаўнага парадку.

Тады яны мелі сілу.

Калі савет вытворчага прадпрыемства[1]) заклікаў мясцовых работнікаў на сход, дык дырэкцыя не адважвалася ўмешвацца. Скора ў дэпо было поўна работнікаў. Пётра стаяў на кучы каменьня.

— „Таварышы, поліцэйпрэзыдэнт[2]) Гэрзынг, як паводкаю, заліў усю чыста Манфэльдзкую краіну сваім Шупо'м“.

— „Вось які сабака кручаны! Вось падлюга!“

— „Што вы гаворыце? Кручаны сабака! Ды ён-жа наш таварыш, соцыял-дэмократ“.

— „Добры таварыш, няма чаго казаць! Кручаны сабака, Носке гэткі. Ціха, дайце гаварыць Пётру Мэльле!“

— „Ці вы чыталі адозву? Шупо зьявіліся сюды не для таго, каб разьбіць і перамагчы работнікаў. Як мог-бы наш таварыш Гэрзынг нават пажадаць чаго-небудзь падобнага?“

— „Дык для чаго-ж яны зьявіліся?“

— „Яны, гэтыя Шупо, прыбылі сюды толькі ў выніку частых крадзежаў ураджаю на палёх“.

— „Так! Калі няма чаго жэрці пры гэткім заробку, пры якім толькі з голаду можна падохнуць, дык, зразумела, здабудзем сабе на полі і бульбы і рэпы. Гэтаму Гэрзынгу няма патрэбы ноччу йсьці на поле. Яму поўную варыўню навязуць. Але цяпер, у сакавіку! Што можна здабыць на полі ў сакавіку? Цяпер нічагуткa няма на палёх. Дык вось Шупо павінен сьцерагчы голую ральлю. Гэта-ж недарэчнасьць“.

— „Такім чынам, магчыма, што Гэрзынг пасылае Шупо не дзеля бульбы і рэпы,—гаварыў далей Пётра.—Гэта ў шахтах і гутах здараюцца такія вялікія крадзежы. Там забіраюць работнікі старыя драўляныя падпоркі, а часам бяруць і новыя бярвеньні на апал“.

— „Калі яны ня маюць грошай на вугаль і няма ў іх апалу, дык чаму-ж ім часам і ня ўзяць старую драўляную падпорку? На чым-жа яны будуць сабе бручку гатаваць, ды сваё зморанае цела грэць? Дырэкцыя, сапраўды, мае досыць дроў і вугалю, дык ёй ня трэба цягаць з шахты ўсякую дрэнь“.

— „Якое гора для работніцкага правадыра, таварыша Гэрзынга, што сябры галадуюць і мерзнуць. Ён слухае толькі паноў дырэктараў. Пад іх дудку ён скача. Мы ня будзем многа аб гэтым гаварыць, таварышы. Вы, мусіць, ужо ведаеце, у чым справа. Справа ня ў бульбе і рэпе, ня ў трэсках з шахты,—трэба змагацца за нашыя правы. Трэба мець сілу. Яны хочуць зламаць моц рабочага люду. Яны хочуць зламаць моц саветаў вытворчых прадпрыемстваў. Ім сольлю ў воку здаецца такі парадак,

[1]) Betriebsrat=уласна кажучы—заўком (або фабком), аднак, мусіць, дзеля пашаны да нашых саветаў, ужывалася не Ausschuss але Rat (Ausschuss—камітэт, Rat—рада, савет).
[2]) Ober-Präsident.

пры якім работніцкі савет на прадпрыемстве ва ўсё ўваходзіць, усё кантролюе і ставіць ім розныя перашкоды. Яны хочуць рабіць тое, да чаго іх пабуджае дух сваволі, яны хочуць канчаткова перамагчы работнікаў і ўкрасьці ў нас васьмігадзінны працоўны дзень".

— „Крывапіўцы! Мы не аддамо васьмігадзіннага працоўнага дня". Мы не аддамо саветаў на вытворчых прадпрыемствах. Хай зноў не махлююць, як гэта было раней, ды не надзяюць на нас намордпікі. А хто бастуе, дык таго яны зусім звальняюць".

— „Яны хочуць пазбавіць нас права на забастоўкі, таварышы! Для гэтага Шупо павінны быць у нашым краі. Зброяй будуць яны гнаць нас у шахты, калі мы забастуем. Знадворку паставяць яны кулямёты, як гэта было зроблена ў часе вялікае забастоўкі ў Манфэльдзкай акрузе ў 1908 годзе".

— „Абы толькі прышлі яны! Мы іх выб'ем адсюль. Мы чакаем іх. Хто толькі адважыцца сюды прыйсьці, той паляціць у шахту. Там, у нізе, хай пакаштуе, які смак мае калі".

— „Таварышы! Цяпер трэба не чакаць, а дзейнічаць. У Гэтштэт увайшлі тры сотні Зыпо'ў, а ў Эйслебэн—дзьве сотні з кулямётамі і ручнымі гранатамі, як на вайне. У Мансфэльдзкай акрузе ўзбройваецца рабочае насельніцтва! У Эйслебэне і Гэтштэце ўжо змагаюцца. Там Макс Гэльц з Фогтаўскае акругі. Ён прыслаў ганца. Мы павінны памагчы Гэльцу".

— „Гэльц Макс! Вось яно што!"

— „Мы тут павінны пачаць забастоўку. Хто за гэта, хай падніме руку".

Падняліся амаль што ўсе рукі.

— „Цяпер зброя сюды дастаўлена. Адна частка застанецца тут для забясьпекі ад нападу з боку Эрфурта. У Нэбры мы мусім зрабіць акопы. А рэшта разам са мною—да Гэльца Макса! Кожны мужчына да 45 год хай зьявіцца ў камітэт дзейнасьці".

Стары работнік ускочыў на кучу каменьня:

— „Сябры, таварышы, мы тут змагаемся ўжо ня першы раз! Мы вялі барацьбу ў 1919 годзе. Мы ў сакавіку 1920 г. змагаліся таксама ў часе Каппавага бунту. Мой сын ляжыць у магіле ў Гальле. Там пахавалі 250 чалавек. Соцыял-дэмократы здрадзілі нам. Рурскія сябры змагаліся да апошняе крывінкі. Цяпер зноў сакавік. На гэты раз нашае змаганьне павінна разьвязаць усе пытаньні".

— „Так, ад нас залежыць цяпер гэтая справа,—усклікнуў Пётра.—Нам хочуць зноў здрадзіць. Соцыялістычная партыя Нямеччыны і Аб'яднаная соцыялістычная партыя з іх бараньнімі правадырамі ў сваіх газэтах абліваюць нас гразьзю. Яны выпускаюць лятучкі проці нас і ў абарону капіталу. Не паддавайцеся на іх хітрыкі! А цяпер справа ўжо пачалася!"

— „Чорт мяне бяры! Як былі ў мяне мінулым летам малайцы з разбройнае камісіі, дык я аддаў ім маю траскатуху[1]),—бедаваў нейкі работнік.

— „А ў мяне кулямётныя часткі таксама прапалі",—сказаў другі. Але шмат чаго ўсё-ткі сабралася.

Камітэт дзейнасьці працаваў. У Нэбры палова жыхарства складалася з комуністых.

Перасечаныя шчылінамі каменяломні ўтвараюць натуральную крэпасьць. Каменяломні былі заняты.

Лінію Эрфурцкае чыгункі сьцерагла варта. Пасьля поўдня прыбыў ганец з Гальле, але ўсё было ўжо вядома, і праца ішла поўным ходам, а Пётра з сваім аддзелам быў ужо далёка.

---

30 чалавек на вэлёсыпэдах з 29 стрэльбамі і адным лёгкім кулятам ехалі з Росслебэна ў Унштрут у Мансфэльдзкую акругу. Два бязбройныя юнакі-работнікі служылі ганцамі.

Гэта здарылася на раздарожжы гасьцінцаў. Сяляне па вёсках трымаліся ціха. Яны яшчэ з пэўнасьцю ня ведалі, за каго ім трэба стаяць. Шупо таксама ўжо прайшоў. Была адна цяжкая справа. Уваднэй вёсцы спыніліся пяць чалавек з гэтага аддзелу, пайшлі па буйнейшых сядзібах і дапытваліся аб аружжы. Сяляне, што належалі да самаабароны жыхарства[2]), не адважыліся ўтойваць аружжа і здалі яго. Са здаваленьнем аддзел паехаў і далей на вэлёсыпэдах. Набралі таксама і крыху набояў.

Перад Леймбахам сустрэліся на ральлі работнікі з маёнтку; яны аралі.

— „Што вы тут робіце, таварышы?—крыкнуў Пётра:—Шупо праходзяць цераз цэлы край. Оргеш[3]) у Баварыі мобілізуецца. Уся чыста контр-рэволюцыя пачынае збываць з рук свой тавар. У шахтах Мансфэльдзкае акругі поўная цішыня. У Лёйне забастоўка скончана. Нашыя сябры ў калійных капальнях выпаўзаюць са сваіх лёхаў. А вы тут араце поле для паноў! Таварышы, выпрагайце коняй і дастаўце іх Гэльцу Максу, які можа іх выкарыстаць,—і пачынайце забастоўку".

— „Так, на мінулым тыдні быў тут Паўла Мюльлер з Клёстэрмансфэльда. Ён організуе сельска-гаспадарчых работнікаў, а зямляўласьнікі цкуюць яго сабакамі, калі дзе-небудзь на яго натрапяць. Дык вось ён і сказаў нам таксама, быццам нешта пачнецца".

Яны пыталіся яшчэ аб розных рэчах: адносна таго, у якім стане знаходзіцца справа і што трэба рабіць, і ў некаторых выпадках спрачаліся. Пётра даў ім плякаты.

---

[1]) Knarre—траскатуха, туркатуха—жартліва, замест gewehr—стрэльба.

[2]) Einwohnerwehr—самаабарона насельніцтва.

[3]) Organisation von Escherich—фашысцкая банда, вядомая сваімі зьверствамі на поўдні і ўсходзе Нямеччыны, зробленымі пад кіраўніцтвам дэгенэрата Эшэрыха.



**BERTA LASK**

**БЕРТА ЛАСК**

нямецкая пролетарская пісьменьніца, супрацоўніца часопісі „Полымя“

— „Вось гэты плякат, заклік да ўсеагульнае забастоўкі, вы прыляпеце ноччу дзе-небудзь на дварэ маёнтку ды ля вясковае ўправы і яшчэ ля вялікага гумна! А вось гэта—плякаты аб наборы“.

— „Аб наборы ў Чырвоную армію? Ці сапраўды ўжо прышоў час?“

— „Калі вы ня сьпіце, дык, значыцца, ужо пара прышла! Утварэце камітэт дзейнасьці гэтай-жа ноччу, прыляпеце плякаты ды парупцеся аб тым, каб атрымаць яшчэ дадатак. Мы вам гэты дадатак прышлем пазьней. Але цяпер мы павінны ехаць далей, у Эйслебэн“.

— „Дык хто-ж вы такія і адкуль вы едзеце?“

— „З Рослебэна і Нэбры; мы работнікі ў калійных капальнях“.

— „Я зараз паеду з вамі“,—сказаў адзін парабак, апрануў куртку, узяў свой вэлёсыпэд, які ён паставіў быў паблізу, павесіў сабе цераз плячо паляўнічую стрэльбу аднаго оргешаўскага селяніна і далучыўся да аддзелу.

— „Той, што жыве там высака—у двары, можа заўтра сам араць. Я ўжо даволі часу араў для яго“.

На раздарожжы яны знайшлі ўжо прыбітыя там цьвічкамі плякаты, якія заклікалі да ўсеагульнае забастоўкі. Вэлёсыпэдыстыя там доўга не затрымаліся і паехалі далей.

Ля Обэрфарнштэта яны зноў супынілі работнікаў з маёнтку.

Ціха ляжала ў нізіне вёска Ротэншырмбах. Яны ехалі цераз гэтую вёску. Стромка паднімаўся гасьцінец, які вёў у Бішофродэ.

Магутныя старыя букі стаялі яшчэ голыя, але за пнямі маглі хавацца ворагі, гатовыя напасьці. Яшчэ больш небясьпекі было там, на версе, на чырвонай гары, дзе ў іглістым бары хмызьняковым рос вельмі густы падлесак. Але ніякіх Зыпо'ў ня відаць. Толькі гасьцінец рабіўся ўсё больш ды больш ажыўленым. Вэлёсыпэдыстыя шумна езьдзілі туды і сюды. Зараз-жа за Бішофродэ яны сустрэліся з патрулем. Яны сказалі пароль, іх вельмі радасна віталі і правялі ў Вольфэродэ.

Там быў адначасна пункт для ганцоў, харчовы пункт[1]). Туды і прыбыў унштруттальскі аддзел вэлёсыпэдыстых на стаянку.

Паходныя кухні дымыліся. Харч гатавалі ў вялікіх саганох. Харчовая камісія павінна была дастарчаць усё тое, што было патрэбна работнікам-ваякам.

Гэльц сэквэстраваў гарадзкія касы і банкі ў шмат якіх мясцовасьцях, каб забясьпечыць харчаваньне войску.

— „Ежце досыць, таварышы,—гаварыў той чалавек, што быў пры паходнай кухні:—хто ведае, калі вы зноў атрымаеце якую-небудзь гарачую страву!“

— „Мы прышлі сюды не для жраньня, а для змаганьня“,—сказалі рослебэнцы, але ўсё-ткі яны былі галодныя і елі.

*) Kurier-und-Verpflegungsstation—кур'ерска-пажыўная станцыя, дзе ганцы атрымоўвалі свае паштовыя даручэньні і дзе харчаваліся яны, а таксама і ўзброеныя аддзелы

— „Цяпер настала для нас жорсткае жыцьцё. Барацьба днём і ноччу, мала сну і ніякае зьмены. Заўсёды адны і тыя самыя штурмавыя аддзелы павінны выступаць. Нас яшчэ замала“.

— „Ці-ж ніякае падмогі ня прыходзіць?“

— „Падмога ўжо йдзе, але ўся яна—вельмі малая. Сувязь з Гальле яшчэ дрэнная. Часамі праходзяць паведамленьні, часамі—не. Ва ўсіх чыста гнёздах залёг Зыпо“.

— „Мы ўжо атрымаем дапамогу,—крыкнуў адзін малады Клёстэрманфэльдзец:—як толькі прыдуць людзі з Гальле разам з Лемкам і Бовіцкім, а таксама і лёйнскія работнікі, 20.000 з лёйнскіх прадпрыемстваў, дык будзем мы гнаць Гэрзынгавых зялёных, бы зайцоў. У часе Каппава бунту я меў стаянку перад самым горадам Гальле. Вось слаўная была там барацьба. Якую армію мы тады ўтваралі! А лёйнскае харчаваньне! Як гэта ўсё было ўзгоднена! Мы тады зрабілі-б сваю справу, каб у той час нам ня здрадзілі папоўскія прыхільнікі“ *).

— „Але!—сказаў рудакоп з Бішофродэ:—каб яшчэ два дні пратрымаліся, дык мы злучыліся-б з чырвонаю арміяй Рурскае краіны. Аднак Юды ўсё-ткі-ж прыдушылі нас. Гэтым разам ім ужо ня ўдасца. Цяпер мы павінны зрабіць сваю справу“.

— „Гэтым разам мы павінны зрабіць сваю справу“—вось які настрой быў амаль ва ўсіх.

Навакол бегала пара хлапцоў з шыбельніцкімі тварамі; да іх ніхто ня меў давер‘я.

Дворны парабак з Леймбаха, чарнявы, малады волат з шалёнаю злосьцю стукнуў сваёй паляўнічай стрэльбай аб зямлю, і твар яго быў хмурны.

— „Я чатыры гады быў у пяхоце і застрэліў двох афіцэраў. Мы павінны зрабіць сваю справу“.

Ён кінуўся на салому і заснуў.

Пётра Мэльле абмацаў свой кулямёт. У гэтай мясцовасьці ня ўсё было так, як чакалі. Ня было ніякае буры, ніякага масавага паўстаньня.

Двудушныя папоўскія прыхільнікі ўжо зноў пачалі сваю гульню, сваёю атрутнаю сьлінаю псавалі яны духоўнае пажыўленьне народу. Шмат людзей стаяла тады за іх справу, а нямала было і такіх, што вагаліся. Нічога ня было чутно аб становішчы ў розных частках дзяржавы. Ці ўсюды было ціха, ці мо‘ сувязь была перарэзана? Але гэта быў толькі пачатак. Нейкі адзіночны момант можна было яшчэ трымацца. Там на версе, паміж двума спадамі горных верхавін, была выгодная для бою мясцовасьць. Там мелася заслона, там можна было без вялікіх страт у людзях трымацца проці колькаснае перавагі ворага, пакуль іншыя аддзелы не адагналі-б яго. Яны-ж *мусілі* адагнаць яго—гэта было

---

*) Bonzen—жрацы будыйскае рэлігіі. але тут—члены веравызнаньнёвых работніцкіх аб‘яднаньняў.

ясна. Гэтым разам на карту было пастаўлена ўсё; гэта павінен быў зразумець кожны работнік. Адабралі-б у рабочых масаў васьмігадзінны працоўны дзень, укралі-б правы ў саветаў вытворчых прадпрыемстваў. Новы закон аб гэтых саветах быў чыстаю здрадаю. А масавае беспрацоўе ўсюды! Што яшчэ маглі чакаць беспрацоўныя? І што-ж яшчэ маглі яны згубіць? У заходнюю краіну ўвайшлі французы, занялі Дыссэльдорф і Дуізбург, а ў Верхняй Сылезіі стаялі нямецкія і польскія фашыстыя, узброеныя з галавы да ног.

А далей, за іх межамі, чакае нас маладая Савецкая Расія.

І тут узброілася тымчасовая добраахвотніцкая варта проці рабочае клясы. У Баварыі адбываюцца ўрачыстыя вайсковыя агляды гэтых добраахвотнікаў. Так, тут павінны раскрыцца вочы нават у найбольш санлівых і нядбалых людзей з рабочае клясы і ўбачыць, што трэба змагацца.

Ён яшчэ раз пагладзіў рукой кулямёт.

— „Дык мы зробім гэта, Фрыц!“

— „Так, Пётра, мы гэта зробім“.

І яны заснулі.

---

Пара гадзін неспакойнага сну. Людзі прыходзілі і выходзілі. Гэта былі паасобныя маленькія аддзелы ўзброеных жыхароў з вакольных мясцовасьцяй, якія аддавалі сябе пад загад правадыра, і ганцы ад камітэтаў дзейнасьці.

Шэраю раніцою, на самым сьвітаньні, выехаў аддзел унштруттальскіх вэлёсыпэдыстых з мэтаю далучыцца да Гэльца.

Аддзел унштруттальскіх вэлёсыпэдыстых ехаў з Вольфэродэ ў Гэльбру да Макса Гэльца. Аддзел праехаў міма сонных шахтаў. Варта са стрэльбамі каля выхадаў. Выцягнутая ўдоўж убогая горная вёска з нізенькімі хаткамі была пахілая і маўклівая. У „Сонечнай“ гасьцініцы была галоўная кватэра. Там Макс Гэльц меў адпачынак на некалькі гадзін. Духаўніка з мясцовае парахвіі ён узяў з сабою ў якасьці закладніка. Яны гаварылі паміж сабою, як чалавек з чалавекам.

Духаўнік потым засьведчыў чыстасьць замераў „разбойніка і зьдзірцы“.

— „Гэльц Макс, мы, 30 збройных людзей, прыбылі з унштруттальскіх калійных шахтаў. Мы хочам разам з табою весьці барацьбу. Пастаў нас там, дзе патрэбна. Я, Пётра Мэльле, член Комуністычнае Партыі Нямеччыны. Ці маеш ты тут усё-ткі сувязь з Гальле, ці ты падлягаеш партыі?“

— „Ці ты хочаш змагацца, ці лапатаць? Партыя! Партыя! Усе цяпер накіроўваюцца на Эйслебэн. Там Шупо атрымалі масавую падмогу людзьмі. Мы павінны сёньня даць ім нешта і з свайго боку“.

— „Мы ўсе пойдзем за табою проці Эйслебэна. Мы будзем біцца там, дзе ты нас паставіш, аднак-жа не бяз пляну, але як партыя“...

— „Ой, каб я часам не разьбіў табе морду! Партыя! Ці ты чуеш, як страляюць?“

Ганец паведамляе: „Каля кухарскай хаткі йдзе бой“.

Трыццаць збройных унштруттальскіх ваякаў імчацца к кухарскай хатцы. Яны скора пачнуць бой з Зыпо‘м. Зыпо ня ведала, якія маленькія былі тыя работніцкія аддзелы, што з ім змагаліся. Скора вадаправодная станцыя была ў работніцкіх руках. Потым усе накіраваліся разам з Гэльцам у Віммэльбург. Там стаяла работніцкая рота з Язэпам Шнэйдэрам на чале. Яны пасунуліся далей аж да выцягнутае ўдоўж Оттавае шахты і занялі яе. Пры вячэрнім змроку апынуліся ўжо каля Эйслебэна.

У Эйслебэне умацаваліся Зыпо. 23-га работнікі аблеглі іх. Тады прыхадзілі падмогі—сотня за сотняю. Восемсот зялёных сядзелі ўжо ў сваім праклятым гнязьдзе, не зважаючы на выбухі пад рэйкамі і на нечаканыя напады. Ці нішто яшчэ не варушыцца ў цэлай дзяржаве? Дзе застаюцца работніцкія батальёны? Дзе застаюцца аддзелы з лёйнскіх прадпрыемстваў? Мы мусім туды прыйсьці яшчэ раз. Мы туды яшчэ раз уварвёмся. Яны не павінны супакоіцца. Хай сабе думаюць, быццам мы атрымалі падмогу.

Дык гайда ў Эйслебэн!

Тут прыбывае ганец з паведамленьнем з Тэйчэнталя. Лемк і Бовіцкі ў дарозе. Лемк робіць агляд свайго аддзелу ў Вэнцэльсбурзе. Ноччу далучаецца да Гэльца 250 збройных людзей. Нарэшце пачынаецца! Калі-ж прыбудуць і ўсе іншыя? Калі прыбудуць дваццаць тысяч з лёйнскіх прадпрыемстваў?

І чаму-ж гэта там разьзявілі рот панове з комуністычна-анархічнай партыі Нямеччыны?

І цяпер нічога ня чутно. Ну, дык і пляваць на гэта! Яны ўсё-ткі павінны яшчэ прыбыць. Ці бастуюць у Біттэрфэльдзе і ў Віттэнбэрзе? Мо‘ ў Бэрліне ўжо больш няма электрычнага сьвятла. Але, чорт мяне бяры, чаму гэта аніводзін ганец не варочаецца?

Скора апынімся, бы на нейкай высьпе. Таксама няма магчымасьці пабачыць газэту якую-небудзь або наагул хоць што-колечы.

Справа адбываецца на цёмных вуліцах Эйслебэна. Там шупо‘ўскі маёр ужо пачувае сябе панам са сваймі васьма сотнямі. Яны „ўціхамірылі“ горад, і грамадзянскі камісар, ранейшы друкар, член соцыялістычнае партыі Нямеччыны—Манн бегае па вуліцах ды крычыць: „Ня ўзбурайцеся! Ня ўзбурайцеся! Гэта ня гожа! Так далей нельга!“ У дамох шукаюць зброі. Турма перапоўнена.

А ўсё такі Шупо ахвотней сядзіць у будынках увечары, калі робіцца ўжо цёмна: „Мы наняты і забясьпечаны харчамі,—гэта праўда, але жыцьця нам ня зьверне ніхто, калі яго ў нас адбяруць. Паўстанцкаму зброду, сапраўды, няма чаго губляць, але нам“...

Дык усё-ткі-ж аднойчы гэты зброд зьяўляецца ў Эйслебэне. Ён стаіць на рыначнай плошчы. Шупо трывожыцца. Грымяць стрэлы. Ідзе бой. Гэльцаў аддзел і сябры з калійных капальняў таксама тут. Што гэта такое? Зямля дрыжыць. Страшэнны грукат. Вугал ратушы ляціць у паветра. Гэта зрабіў аддзел падрыўнікаў. Паўстанцы ўвайшлі ў ратушу, занялі яе і ўтрымліваюць у сваіх руках. У Эйслебэне чартоўская цемра, надта жудасна і можна зьніштажаць дынамітам самыя чысьценькія зялёныя вопраткі. Тут ужо зноў грымоты і ўздрыгі. Загарадны дом Гэйнгольда, галоўнага дырэктара прадпрыемстваў у Мансфэльдзкім таварыстве горных прамыслоўцаў,—ляціць у паветра. А там унутры гэтак шмат было мастацкіх твораў і пышныя дываны. Мансфэльдзкія сябры, сапраўды, ужо не выяўляюць ніякае пашаны да ўсяго гэтага. Ужо нічога нельга зразумець: гэтыя ціхія людзі, заўсёды згуртаваныя ў адданыя дзяржаве аб'яднаньні, гэткія сумленныя людзі, якія ўсе мелі па шнурочку ральлі, хадзілі з шахты на сваю ніву ды, крыху паспаўшы, зноў у шахту, а потым зноў у поле, і гэтак справа ішла заўсёды... а цяпер...

А цяпер? Як найлепш паляціць увесь Эйслебэн у паветра. Гэтыя выбухі зусім ня спыняюцца. Яны ўвесь час грымяць. К д'яблу паслалі паўстанцы ўскінуты выбухам у паветра загарадны дом фашысцкага правадыра—доктара Эвэрса. Там цэлы вялікі склеп быў поўны Оргешаўскіх набояў, якія цяпер паляцелі ў паветра. І адкуль толькі даведаліся гэтыя малойчыкі аб складзе зброі. Гэта-ж нячуваная рэч! Увесь чыста дом паляцеў проста ў паветра.

Цяпер трэ' было-б напасьці на ратушу і прагнаць адтуль паўстанцаў, але ніводная сотня не адчувае ў сябе вялікае ахвоты да гэтае справы.

Паўстанцы будуць кідаць ручнымі гранатамі з вакон. Лепш пачакаць, пакуль будзе сьвятлей.

Урэшце ўсё-ткі напалі. Быў гарачы бой. Ратушу атачылі з усіх бакоў, але паўстанцы прарваліся і ўцяклі. Работніцкія кулямёты сваймі стрэламі праклалі „шырокі шлях" і стрымлівалі Шупо'ў. Але паўстанцаў—усяго толькі адзін маленькі аддзел. Утрымаць у сваім валаданьні горад—рэч немагчымая. Можна было-б гэта зрабіць толькі ў тым выпадку, калі-б прышла вялікая дапамога,—тады, зразумела, была-б іншая справа. Пётра Мэльле ідзе па цёмных вуліцах к Віммэльбурскаму шляху. Твар у яго чорны ад дыму і сажы, у галаве гудзіць ад выбухаў і стрэлаў. Назад? Ужо назад? Але заўтра ўсё пачнецца нанова. І заўтра прыдзе падмога.

---

26-га сакавіка з дзесяцьма цяжкімі самаходамі, сялянскімі калёсамі і пяхотным аддзелам адступаў Гэльц к Зангергаўзэну. Аддзел унштруттальскіх вэлёсыпэдыстых застаўся ў Мансфэльдзкай акрузе з мэтаю абараняць мансфэльдзкіх сяброў ад тэрору і разам з чаканым работніцкім

батальёнам прыступіць да новае, больш шырокае дзейнасьці. У Віммэльбурзе справа ішла жыва. Туды прыбыў аддзел чырвонага крыжу з Гальле. Быў утвораны лазарэт. Супакойна і натхненна здабывала таварышка-кіраўнічка ўсё патрэбнае. Гэтак рыхтаваліся да даўжэйшае барацьбы. З Тэйчанталя і з іншых вёсак прыходзілі новыя падмогі; былі тут і сельска-гаспадарчыя работнікі.

— „Зямляўласьнікі нешта таксама пераймаюць,—сказалі сельска-гаспадарчыя работнікі:—яны езьдзяць разам з Шупо'м у якасьці тымчасовых добраахвотнікаў, дык вось і мы ад вас што-колечы пяроймем. Мы ведаем, за што цяпер ідзе змаганьне. У нас справа йдзе горш, чымся ў вас. Гэтак ідзе яна ў Мюльлера Паўла, Клёстэрманфэльдца, на якога мы і ўскладаем адказнасьць за няўдачу. Ён беспатрэбна выявіў нашыя пляны".

Паведамлялі аб усё новых ды новых сутычках з Шупо'м. У рэйнскай краіне мімаходзь зьявіліся Шупо, якія пасьля Каппава бунту змагаліся з рурскімі нашымі сябрамі і, мусіць, былі асабліва лютыя.

— „Прыбудуць нейкія там унштруттальцы. Трэба іх ня пусьціць".

Аддзел унштруттальскіх вэлёсыпэдыстых падрыхтаваўся да бою. Ён паехаў назад той-жа самаю дарогай, якою ён прыбыў за тры дні перад гэтым. Ён паехаў зноў міма голых букавых дрэваў Бішофродзкага лесу і цераз ціхую катліну ля Ротэншырмбаха.

На Эзэльвіскім полі пры Квэрфурце на гэты аддзел зьнянацку напалі Шупо. Яны мелі колькасную перавагу, мелі добры рыштунак і вялікую ахвоту да гэройства. Нашыя сябры біліся адважна, аднак былі змушаны паволі адступаць. Квэрфурцкія таварышы памагалі нашым, але і гэтых сіл не хапала, бо замала было людзей, а зброя дрэнная. Унштруттальскі аддзел адагналі да Обэрфарнштэта. Двух шупо'ўскіх ваякаў, якія адважыліся пасунуцца задалёка наперад, нашыя ўзялі ў палон. Іх прывялі к Пятру і спыталіся: „Што рабіць з імі?"

Пётра паглядзеў на іх і сказаў сваім звычайным супакойным голасам: „Будзьце-ж таксама пролетарамі, як і мы. Чаму вы змагаецеся з намі? Вы-ж на гэты сьвет зьявіліся не ў паліцэйскай форме".

Шупо стаялі бязмоўна, не сказалі аніводнага слова. Гэта былі дысэльдорфцы. Яны ня мелі ніякіх добрых замераў, яны хацелі даць выхад сваёй злосьці, зьдзекуючыся над працоўнымі людзьмі.

— „Дайце ім разок па вуху—і хай уцякаюць!—сказаў Пётра:—расстраляць іх я не хачу, а цягаць іх за сабою мы ня можам".

Зялёныя дасталі разы са два па вуху, а потым ім далі магчымасьць уцячы.

Ужо зьмяркалася. Але аб сьне не магло быць нават і думкі. Трэ' быць чуткім. Нашыя адступалі ў Бішофродзкі лес і, заняўшы чырвоную гару, утрымлівалі яе ў сваіх руках.

Гэта была добрая позыцыя—абаронны вал для лініі Гэльфта-Эйслебэн. У густым падлеску хваёвага бору хавалася перадавая варта.

Вялікдзень. З Гэльфты яна чуе гукі вялікодных званоў. Шупо націскаюць у напрамку ад Кварфурта. Патруль з пятнаццаці нашых ваякаў падкрадаецца к верхавіне гары.—„Не страляць!“—гучыць каманда. Яны падыходзяць бліжэй—сто мэтраў адлегласьці.—„Страляй!“—чуецца далёка сярод лясной цішы голас Пётры Мэльле. Бом, бом...—гучаць вялікодныя званы. Чацьвёра зялёных ляжаць мёртвыя на голым сакавіковым полі. Рэшта ўцякае.

Нашыя забясьпечвалі сабе кірунак на Борнштэт, але найбольшая небясьпека ішла з Манфэльдзкае краіны. Уначы сядзелі нашыя ў сваіх патаемных прытулішчах і падпільноўвалі ворагаў.

— „Ці ты сьпіш, таварыш?“

— „Добра падрамаў хвілінку, ды зноў прачнуўся. Чуеш—нешта шамаціць? Хто ідзе?“

— „Пароль: *Макс за гэта плаціць*“.

— „Таварыш, адкуль ты ідзеш?“

— „Мы ўтрох, ідзем з Гэльбры, мы цішком прасьлізнуліся. Зялёныя націскаюць з усіх бакоў“.

— „Якое-ж становішча ў іншых мясцох? Ці ёсьць сувязь з Гальле? Што яны робяць на лёйнскіх прадпрыемствах? Дзе Гэльц? Дзе Лемк і Бовіцкі?“

— „Мы круцімся навакол гэтых месцаў вось ужо дваццаць чатыры гадзіны, мы біліся, аточаныя варожымі патрулямі, нічога мы ня ведаем. Набояў ужо таксама ў нас не хапае. Ці ёсьць у вас хлеб?“

Яны яшчэ трымаліся ў горах у вялікодны панядзелак. Там сядзелі яны, бы на скале сярод мора. Усё бліжэй і бліжэй плюскаліся хвалі марскага прыліву. Надзея на перамогу зьнікала. Але аб гэтым не гаварылі. Гаварылі аб стрэле і цэлі і ня гублялі дарма ніводнае кулі.

У вялікодны аўторак разагнаныя ворагам нашыя ваякі прынесьлі вестку, што Вольфэродэ згублена.

— „Цяпер няма ўжо аніводнага апорнага пункту ў Мансфэльдзкай краіне“,—сказаў Пётра.—Мы мусім цяпер прабіцца ў Лёйну. Туды выведзем мы таварышоў ды пабачым, як-бы нам распачаць нешта супроць Мэрзэбургу.

— „Пабачым, калі там яшчэ ня ўсё мёртва. Нешта такое жудаснае ёсьць у паветры“.

— „У Кварфурт вам нельга ісьці. Там усё-чыста цяпер зелена“.

— „Дык можна пайсьці к Эрдэборну!“

Яны ўсе сабраліся. Іх было ўсяго толькі пятнаццаць чалавек. Дзе была рэшта аддзелу,—ніхто ня ведаў.

Лёгкі кулямёт быў прымацаваны да кіравальнае папярэчыны („руля“) у Пятровым вэлёсыпэдзе. Кулямёт паехаў уперадзе. Гэтакім чынам прабіваліся яны да Эрдэборна цераз лясы. Там было ціха. Яны маглі ехаць далей—у Шрапляў.

У Мюльлеравым заезным дварэ яны зьлезьлі з вэлёсыпэдаў і застанавіліся там. Цяпер толькі заўважылі, як страшэнна мучыў іх голад.

Гаспадар Мюльлер быў адданы ім чалавек. Ён прынёс найлепшае, што толькі было ў яго, і напакаваў ім поўныя кішэні. Тады ён сказаў ім:

— „Цяпер сьпяшайцеся далей—у Шафштэт. Тут у паветры адчуваецца блізкая навальніца“.

— „Ну, сядайце на вэлёсыпэды—і ў Лейну!“—камандуе Пётра.

Скора з Шафштэта зьявіўся сялянскі воз. Побач з селянінам сядзіць таварыш са Штэдтэна.

— „Куды вы хочаце ехаць?“—пытаецца гэты таварыш.

— „Мы хочам ехаць у Лейну“.

— „Лейну сёньня раніцой абстралялі з гарматаў і Шупо яе ўзялі штурмам“.

Гэтыя весткі, як быццам цяжкія каменьні, падалі на галаву, як вострыя нажы, ранілі сэрца. Лейна пала. Але гаварылі ня шмат.

— „Пабачым, як-бы нам прабіцца ў радзімую старонку,—сказаў Пётра:—Гайда ў Нэбру! Хутчэй у Шафштэт! Цяпер мы рызыкуем сваімі галовамі“.

Жудасны супакой у Шафштэце. Вокны і дзьверы зачынены. Недалёка за Шафштэтам відаць два самаходы. Зялёныя ваякі. Поле для абстрэлу—роўнае. Абменьваюцца першымі стрэламі. Пятроў кулямёт пасылае цэлы сноп агню ў сярэдзіну першага самаходу. Крыкі раненых. Зялёныя саскокваюць з самаходу. Яны ня могуць разгарнуцца ў баявы парадак. Наш аддзел ідзе ўперад. Першы самаход накіроўваецца на ўбочную вясковую дарогу, другі ўжо павярнуў. Кожны стрэл трапляе ў цэль.

— „Забойцы! Зброд! Вы прышлі сюды, каб да сьмерці мардаваць работнікаў паводле даручэньня тае клясы, якая цяпер пануе. Дык вось вам вашая ўзнагарода!“

Дванаццаць зялёных ляжаць на дарозе. Мы павінны накіроўвацца далей.

— „Гайда! Сядайце на вэлёсыпэды і хутчэй у Унштрутталь!“

Шумна паехалі ў даліну.

Аддзел унштруттальскіх вэлёсыпэдыстых прыехаў назад у Нэрбу ня ў якасьці пераможніка, аднак і ня ў ролі пераможанага. У працягу цэлага тыдня гэтыя людзі бязбоязна, пагэройску змагаліся проці ворага, які меў колькасную перавагу. Цяпер яны зноў пойдуць у калійную шахту або ў вастрог, а ў наступны раз зноў будуць на сваіх мясцох, больш дасьведчаныя і лепш падрыхтаваныя.

Дык вось яны едуць з кулямётам наперадзе аддзелу. Іх брудныя твары, хоць і засмучаны, аднак-жа бадзёры і напружана-ўважлівы. „Скрозь“ і „Далей“—вось адзіныя ў іх думкі. Яны гавораць ня шмат. Часам дасьціпнае слоўца ды звонкі сьмех.

— „Гэй ты, Пётра,—вось там, за кустам, сядзіць нехта—ён цябе прыпячэ аднойчы“.

— „Калі ён мяне прыпячэ аднойчы, дык я-ж яго двойчы“.

Ӏ сапраўды, можна і ў дарозе страляць і трапляць у цэль, хоць ня зусім добра, але і гэтым магчыма здаволіцца ў разе патрэбы.

— „Скрозь, далей!“ Пачынае зьмяркацца. Там, унізе, ляжыць ужо і Нэбра. У Нэбры ціха. Аднак тут на Квэрфурцкай вуліцы нейкая грукатня, бы ад язды цяжкіх самаходаў. Ці-ж гэта Шупо?

Ня было відаць ніякіх патрулёў. Два вэлёсыпэдыстыя, а вось тут ужо і першы самаход. Узброеныя работнікі.

У нашых гарыць полымя новае адвагі. Цэлы самаходавы аддзел, які складаецца з узброеных работнікаў! Самаходы спыняюцца. На іх—узброеныя людзі з лёйнскіх прадпрыемстваў; гэтыя работнікі, убачыўшы, што пэўныя пункты ўсё роўна будуць згублены, пакінулі іх яшчэ да заняцьця гэтых месцаў ворагам,—каб прабіцца ў Турынгію. Там яны спадзяюцца сабраць сабе вайсковыя сілы. Бовіцкі таксама тут.

Вэлёсыпэдны аддзел далучаецца да самаходавага. Накіроўваюцца далей у вёску Гросванген. Гаспадыня заезнага двара, задрыжэўшы з перапуду, змушана была даць памяшканьне. Скора яна супакоілася. Да поўсьмерці зморавыя работнікі паваліліся на салому.

На заўтра раніцой далей! Ля Росьлебэна выбухам былі вырваны чыгуначныя рэйкі, каб перашкодзіць прыходу падмогі для Шупоў.

Тэлеграфны апарат зрабілі няпрыгодным для карыстаньня. Тады пайшлі далей—да Віі. Работнікі з ваколічных калійных капалень далучыліся да аддзелу. Сельска-гаспадарчыя работнікі жылі там у страшэннай нэндзы. Таксама і работнікі з калійных шахтаў у працягу цэлых гадоў змушаны былі голадам усё тужэй ды тужэй падпіразвацца сваімі раменнымі паясамі. Хай-жа і для іх прыдзе аднойчы сьветлы дзянёк! Яны не павінны забывацца на чырвоны аддзел. Чаму гэта грапскі замак так упарта стаіць там? Кажуць, што кладоўні напоўнены там да самага верху. Але ня трэба верыць гэтым павярхоўным ведамасьцям. Трэба самім усё гэта пабачыць. Ну, дык і пойдзем цяпер туды, вясковая галота ды галодныя таварышы-работнікі! Кумпякі вяндліны, каўбасы, масла—усё там ёсьць. Дый пляшкі віна можна вам не пашкадаваць. Ды будзе там для вас магчымасьць яшчэ завaладаць і зарэзаным бараном. Штосьці возьмем з сабою і мы для нашага аддзелу.

Цяпер далей! Ужо зусім цёмна, але нам нельга мець адпачынак, ды ворагі йдуць неадчэпна зараз-жа за намі, па нашых сьлядох.

Далей! Кірунак на Кёльледу. Ці можна карыстацца гэтай дарогаю?

— Ці мы пройдзем тут з цяжкімі вазамі?—Так, мы праходзім. Цэлую гадзіну нашыя пасуваюцца ўперад, вельмі марудна, часта прыпыняючыся. Потым першы самаход загрузнуў, ды так і застаўся ў балоце. Дарога непраезная. Трэба ехаць назад. Вельмі цяжка прышлося працаваць, па-

куль павярнулі вазы. Зноў цэлую гадзіну ехалі назад. Шмат каштоўнага часу згубілі дарма. Цяпер аб нас ужо ўсюды паведамяць. На другой дарозе справа йдзе лепш. Уперад, уперад!—Ці ўсе тут: вэлёсыпэдыстыя, самаходы і тыя людзі, што ішлі пехатою?—Усе тут. Дык далей! Цемру сакавіковае ночы разрывае яскравае зьзяньне. Што гэта такое? Мо' сьветлавы сыгнал? Праз гадзіну зноў яскравае зьзяньне. Прапануецца быць цяпер як мага больш асьцярожнымі.

Першая гадзіна ўначы. Наш аддзел знаходзіцца ў Бахры.

Далей ня ідуць. Да самага гэтага месца ўсе дарогі забясьпечваюцца, усюды ставяцца варты. Але ў працягу апошняга тыдня напружаньне было занадта вялікае. Пара работнікаў была перасілена сном.

Яшчэ ўначы вёска была аточана ворагамі. Страшэнная пачалася тут страляніна. Шэраю раніцою, на сьвітаньні ўжо ляжалі мёртвыя і раненыя на вясковай вуліцы і паміж мужычымі сядзібамі. Рознаю хлусьнёю і жудаснымі казкамі нацкаваныя на нас сяляне кідаліся з сахарамі і з секачамі на раненых і нават на мёртвых.

Расстрэламі, сьмяротным біцьцём, страшэннымі зьдзекамі, нават зьнішчэньнем пры помачы выбухаў—быў прыкончан гэты аддзел. Кулямёт, што быў у Пётры Мельле, ляжаў дзесьці на ральлі.

Частка вэлёсыпэднага аддзелу знайшла сабе дарогу ў радзімую старонку.

Чацьвертага красавіка паставілі 150 паліцыянтаў з Аховы Дзяржаўнага Парадку навакол мястэчка Росьлебэна, каб схапіць пачынальніка паўстаньня. Яны не знайшлі яго.

Аддзел унштруттальскіх вэлёсыпэдыстых жыве і змагаецца далей. І калі загучыць аднойчы баявы сыгнал,—будзе зноў гэты аддзел на сваім месцы, каб весьці барацьбу за вызваленьне пролетарыяту.

З нямецкае мовы пераклаў **Л. Ц.**

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

Урывак з поэмы

**Якуб Колас**

III

Ой, што-ж гэта па дарозе
Круціць, коціць пыл?
Што там сунецца ў пагрозе,
Муціць небасхіл?
Млеюць далі ў смужнай сіні,
У паветры—гар.
Ходзяць цені па даліне,
Вар на полі, вар!
Няма ў небе хмар, сьвятлютка,
Скуль-жа гром той, гуд?
Ой, ліхая ходзіць чутка—
Будзе ўсім капут!
Уцякаюць, бягуць людзі,
Скрогат, скрып калёс.
Прэцца ліха, гора блудзіць
Між старых бяроз.
Па дарогах бітых, цьмяных
Паўстаюць крыжы.
Хто іх зьлічыць? хто ўспамяне,
Апяе, скажы?
Ой, куды вы, ой, куды вы
Бяжыце, людцы?
Не пабачаць роднай нівы
Дзеці і айцы.
Сьвет нязнаны, невядомы,
Край чужы—ня брат.
Кінуў дом, ня знойдзеш дому
І дарог назад...
Ня пытае ў мора вецер,
Ня пытае ў хваль,
Добра ім ці не па сьвеце
Разьліваць свой жаль.

Між прысады ўздоўж дарогі
Колаў грукат, скрып,
Плач зацяты, енк зьнямогі
І прадсьмертны хрып.

Засьценьне—хутарок прыўдалы,
Стаіць на рэчачцы Стружку,
Як-бы ў зялёным кажушку.
Вакол вясёлыя прагалы,
Дзе ўвесну звоняць перавалы,
Дубовы гай на беражку,
А над рачулкаю шумлівай,
Як-бы калышучы струмень,
Бабулькі-вербы цэлы дзень
Схіляюць вецечка руплівa
І штось шапочуць ёй жычліва,
Схаваўшы хвалі яе ў цень.
Між верб сям-там блішчаць ракіты,
На сонцы мыючы лісты,
Алешнік ціснецца густы
Сям'ёю дружнай, сакавітай,
І сьцелюць шоўкі-аксаміты
Над рэчкай травы і кусты.
Вакол двара, на самай горцы,
Стаяць таполі і дубы,
На сонца вынесшы чубы,
Бы тыя волаты-дазорцы,
І моц чуваць у іх гаворцы,
Чуць вецер чэпіць іх слабы.

Сама сядзіба ўжо ня нова.
Відаць, даўно гаспадары
Зьбіраюць, складваюць дары
І пыняць рупна, адмыслова,
Ва ўсім парадак і ахова
І лад заведзены стары.
Выгодна, крэпенька і стала
Збудован гэты хутарок,
Дзе абмяркован кожны крок,
Дзе кожна рэч мясьцінку знала
І свайго месца пільнавала—
Прыхільны, слаўненькі куток!

Глядзяць на поўдзень вокны хаты.
У ціхай прохладзі расьлін
Бялеюць сьцены між галін,

Дзе топаль стройны, зухаваты
Абпёр плячо на дуб кашлаты,
Як брат яго ці родны сын.
Між стромкіх ліп, бяроз і клёнаў
На сонцы песьціцца садок.
Купчастых вішань паясок
Абводзіць некалькі тут гоняў
Пад сад адведзеных загонаў
І апяразвае грудок.
Як ветлы погляд гаспадыні,
На клюмбачках за дзірваном
Красуюць краскі пад акном,
Гараць півоны, геаргіні,
Нібы пышлівыя княгіні,
І пах стаіць над цьвятнікон.
А з гэтай горкі, з вокан хаты
На многа-многа вёрст відаць—
Унь там палі і сенажаць,
Гайкі і лес, курган зацяты,
Узгор'я грэбень сіняваты,
Дзе вісьне смужная пячаць.

Туды шыбуецца дарога,
Адтуль цяпер плыве бяда,
Людзкое ліха і нуда,
І гэта цёмная трывога,
Што ня міне, відаць, нікога,
І ўсякіх страхаў чарада.
Вось гэта немая пагроза
І гэты страх і непакой
Сюды пабеглі талакой,
Карцяць у мысьлях, як заноза,
І веюць подыхам мароза,
Ківаюць страшнаю рукой.
Няма, мінулася ахвота
З даўнейшым жарам працаваць—
Пайшлі сыны ўсе ваяваць.
Ідзе, кульгаючы, работа,
А тут яшчэ адна згрызота—
У сьвет зьбірайся вандраваць!

Нявесел, хмур стары Галута.
Вайна—вось чым завязан сьвет.
Канца-ж яе няма прымет.
Ой, будзе кепска, будзе крута:

Ліхая блізіцца мінута,
На ўсё жыцьцё пакіне сьлед!
Ня сьпіць стары. Няма спакою
Ад гэтых думак і згрызот—
Няшчасьце тут, каля варот!
І часта, часта ранічкою
Або вячэрняю парою
Ён ловіць водгульле грымот.
І гром штодзень расьце, мацнее,
А па шляху ад смужных гор
Цалюткі дзень ад раньніх зор,
Як доўгі хвост страшыдла-зьмея,
Хурманкі валяць. Пыл-завея
Курыць, бы ўзрушыўся віхор.
Імчацца брычкі, плывуць кары,
Шыбуюць панскае дабро—
Хрусталь, дываны, серабро,
А побач дзед, сухі, паджары
З тупой пакораю на твары
Вязе сялянскае дзярмо.
На возе розная надоба:
Мяшочкі, посьцілкі, вузлы,
А ў гэтых бэбахах—малы.
Ляжыць, струпелы ад хваробы,
Страсло ў дарозе ўсе вантробы...
Эх, бедны хлопчык, лёс твой злы!
Адстанеш, мусіць, ты ў дарозе
Ад родных гоняў і сям'і,
Прыпынак знойдзеш ты ў лам'і,
Памёршы тут, на гэтым возе,
І пахаваюць пры бярозе,
Гарбок насыпаўшы зямлі.
Сядзіць з ім поплеч яго маці.
Азызлы, вылушчаны твар.
Няма надзей на ім, ні мар.
Часамі схіліцца к дзіцяці...
Ой, не надоўга яго хваціць—
Вярзе ў гарачцы, паліць жар.
І толькі зрэдка яго вочы
Глядзяць у шкло глухіх нябёс.
Ня бачыць неба гэтых сьлёз,
Ня чуе неба енк жаночы,
І памагчы яно ня хоча,

Глядзіць бяз літасьці на воз.
А двое большанькіх за дзедам
У духаце густой, цяжкой
Дыбаюць мернаю ступой—
Паклажы многа й так на гнедым,
А там за імі тым-жа сьледам
Ідзе ды йдзе людзкі прыбой,
Ідзе навальна, безрассудна.
Ані протэсту, ні жальбы,
Ніхто ня слухае мальбы.
А ў падарожжы цяжка, брудна,
Расчуліць сэрца гэтак трудна,
Калі ў ім зьвер паўстаў грубы.
  Глядзіць Галута, а самога
Агорне страх і пройме боль.
Куды, куды бяжыш ты, голь?
Ой, у дарозе гора многа!
Ой, горка з хлеба жыць чужога!
Ой, ня прыгорне тая роль!
Ня раз спыняліся хурманкі
Тут начаваць пад хутарком,
А наша Насьця вечарком
Або на досьвіце ў заранкі
Ішла да бежанкі-сялянкі,
Дзяцей паіла малаком,
Давала хлеба на дарогу
І з імі гутаркі вяла,
Бо доля-ж іх пякельна-зла,
І як ня даць ім дапамогі?
А Насьця мае жаль к нябогам,
І ў сэрцы сьцелецца імгла.
Ох, колькі-ж гора і пакуты!
Ці хопіць сілы іх здалець?
Ой, цягне ліха сваю сець,
Ачнуўся зьвер, крывавы, люты...
Няма ёй шчасьця ні мінуты,
І як тут сэрцам не балець?..
    Ходзіць ліха бязвокае,
    Ходзіць ліха бязвухае,
    Бязногае, бязрукае,
    А ўсё згледзіць, падслухае,
    У ваконца пастукае,
    Нішчыць поле шырокае,

Сушыць мора глыбокае,
На задворках галёкае.
Ходзіць ліха разлогамі,
Ходзіць ліха узьмежкамі,
Дарогамі і сьцежкамі,
Туляецца пад стрэшкамі.
Ліху дзьверы адчынены,
Ліха ўвойдзе праз шчыліны,
Пераскочыць парожачкі,
Ня спытаўшы дарожачкі.
Як-жа з ліхам змагацiся?
У каго-б тут спытацiся?

Была надзея, ды прапала,
І наша войска прэ назад.
Няма ні стрэльбаў, ні гармат.
Находзіць страшная навала,
Нядоўга наша сіла брала,
І безьліч зьнішчана салдат!
А колькі ходзіць розных чутак!
Чаго, чаго тут не вярзуць!
І паняволі возьме жудзь,
Калі прыкоціцца іх скрутак.
А сэнс адзін—ня добры скутак—
Бяжы, ратуй хоць што-нібудзь!
Бо вораг злы, бясконца люты,
Бо немец—зьвер і людаед,
Якога і ня бачыў сьвет!
Ен чыніць гвалт, нідзе ня чуты...
І гэтым страхам думкі скуты.
Наробіць, ой, наробіць бед!
Ну, як тут быць? Ну, што чыніці?
Куды-ж тут бегчы, уцякаць?
Ці лепей ліха тут чакаць
І добравольна паланіцца?
У перамот сышліся ніці,
І галава гудзе, як кадзь.
— Скажы, як ты мяркуеш, Насьця?
Часамі дома ўвечары
З сям'ёю раіцца стары,
Бо ўжо глядзіць на двор няшчасьце,
І ўсё адходзяць нашы часьці,
А вораг цісьне з-за гары.
Сваё у Насьці меркаваньне,

Свае згрызоты і бяда.
Вядома, хаты ёй шкада,
Ды ёй ня страшна вандраваньне,
Бо там жаданае спатканьне,
Чым сэрца цешыць малада.
А прыдзе вораг—і між імі
Рубеж паложыцца, парог,
Ня будзе к міламу дарог,
І сэрца жалю многа прыме,
А на пісульцы яго імя
Ня блісьне зоркаю ў вачох.
І кажа Насьця: „А вядома,
Складаць манаткі трэба нам,
У Луцк заедзем хоць, а там,
Як можна будзе, зноў дадому",
А бацька важыць падругому,
Але памоўківае сам.

ГАЛУТА

А што, калі і Луцк пакінуць?

НАСЬЦЯ

Паедзем далей.

ГАЛУТА

А куды?
Эх, прападзеш там без яды!

НАСЬЦЯ

Ці ня ўсё роўна, дзе ні гінуць?
І тут з цябе ўсю душу вынуць...

ГАЛУТА

Эх, розум, розум малады!
На сваім котлішчы, дачушка,
Табе паможа вугал, куст,
А там пакрыўдзіць кожны хлюст,
Тут—гаспадар ты, а там—служка...
Запахне, ой, хлябка краюшка,
І крупнік прыдзецца пад густ.
А з гаспадаркаю што стане,
З набыткам нашым і дабром,
Прыдбаным з гэтакім трудом?
Браўна ня знойдзеш у паркане,
Расьцягнуць сьцены ўсе дазваньня,
І будзе воўк гаспадаром.
Свае часамі горш за зьвера,
Страшней за ворагаў ліхіх...
Лепш выпіць гора тут кяліх—

Есьць усяму на сьвеце мера.
А покі што, мае намеры—
Ня кідаць котлішчаў сваіх!
 Такога погляду на рэчы
Дзяржыцца цьвёрда наш стары
І да апошняе пары,
Хоць знае, што на свае плечы
Цяжар кладзе нечалавечы—
Унукі з ім, нявесткі тры...
Як убароніць іх ад зьвера?
А на вайне свой і чужы
Скідае ўсякія гужы—
Яму вядома іх манера,—
Сваім і то малая вера...
І за дачку сваю дрыжы.
Таксама трэба сёе-тое
На ўсякі выпадак прыбраць—
Наваліць гэтакая раць,
Расьцягне, зьнішчыць набытое.
І ён пацiху са старою
Мяркуе, дзе як што схаваць.
Пад дубам тым, што гром калісьці
Залысіў шчытную кару,
Капае яміну-нару
І нішчыць сьлед у жоўтым лісьці...
Няхай для хатняе карысьці
Хоць раз паслужыць і пярун.
 Але ў кароткі час як многа
Часамі здарыцца падзей!..
Гарматы бухалі радзей,
Нібы ўлеглася і трывога,
Аціхла нават і дарога,
І ня відаць на ёй людзей.
„А мо' абыдзецца ўсё страхам,
І не падасца фронт назад"
І раптам—на табе—загад!
Зьбірацца борзда, адным махам—
На ўсіх павеяла тут жахам,
Глыбей у тыл, рад ці ня рад!

ГАЛУТА

Зьбірацца? ехаць? кідаць хату
І ўсё, што ў хаце і ў хлявох,
У сьвірне, клуні, на палёх,

Яшчэ ня прыбраных, ня зжатых?..
О, будзь-жа ты, вайна, праклята!
За што народ карае бог?
  Прыбіты страшнаю навінай,
Зусім зьбянтэжыўся стары.

ГАЛУТА

Загад? а чорт яго бяры!
Я лепей здохну пад адрынай,
Але кутка свайго ня рыну,
З свае ня вылезу нары.
  Найшло няшчасьце на Засьценьне
Зьнямеў на момант хутарок,
І апусьціўся дзень у мрок,
Бы ў часе нейкага зацьменьня,
А потым лемант, галашэньне,
Дзяціны плач, выцьцё жанок.
Адзін Галута, хмуры, строгі,
Свае ня страціў галавы.

ГАЛУТА

Я астаюся тут, а вы
Мяркуйце самі ўжо, нябогі:
Калі ня страшны вам дарогі,
На іх вы маеце правы.

МАЦІ

Ах, што пляцеш ты? Хіба можна,
Ты-ж памяркуй адно, як сьлед:
Пускаць адных жанчын у сьвет?
Да іх і пень пакрыўдзіць кожны,
А час няпэўны і трывожны—
Пабіць адразу лепш кабет!

НЯВЕСТКА

Як без цябе нам ехаць, тата?
Няхай нас лепей тут паб'юць,
Чым выбірацца з дзецьмі ў пуць,
І куды ехаць? дзе нам хата?
Цяпер няма і ў браце брата...
І дзеці нашы прападуць
І самі згінем, як сабакі,
Дык лепш усім пагінуць тут,
Няхай агорне родны кут...
Ох, дзеткі, дзеткі-небаракі!
Няма ў вас татачкі-ваякі.
Яму і вам і ўсім—капут!

ГАЛУТА

Я-ж не ганю вас, мае дзеткі,
А гоніць нас усіх вайна,
Праклята будзь на век яна!
У лес бягайце, у палеткі,
Хавайцеся там неўзаметкі—
Няхай мая будзе віна!..

* * *

І сумятня пайшла ў Засьценьні.
Жывёлу гайда ў хмызьнякі
На ўсякі выпадак такі,
І раптам—стой! адно імгненьне—
І нечаканае здарэньне:
Імчацца ў хутар казакі!
Блішчаць, зіхцяць на сонцы пікі.
Тух-тух! грукочуць капыты,
Праз пожні валяць і платы,
Бы нейкі шквал нясецца дзікі,
І сьвіст, і гіканьне, і крыкі—
Страшней за ворагаў браты!

КАЗАК

Эй, хрэн стары! чаго марудзіш?
Чаму ня выпаўніў прыказ?
Дык пакідай-жа двор ураз!
Кацiся вон у тры міга,
Каб ня была тут і нага,
Іначай здраднік царскі будзеш!

ГАЛУТА

Каціцца вон? куды, казача?
Усюды знойдзе нас бяда.

КАЗАК

Пагавару з табой інача—
Пад клуню, хлопчыкі, айда!

Стаіць Галута, з тропу зьбіты,
Яму ня ўцямкі, не ўзнакі,
А тыя чэрці, казакі,
Адно махнуліся праз жыта
І—клуня полымем абвіта,
Зьмяяцца белыя дымкі.
Тах-тах-тах! дзесь кулямёты
Забарабанілі ў кустох!
Ніжэй к сядлу казак прылёг,
Махнуў стралою у вароты,
Каб не папасьці ў пераплёты—

І зьніклі ўсе яны ў палёх.
І сьціхла ўсё. Замоўклі стрэлы.
Прапалі ў полі казакі,
А агнявыя языкі
І дым клубясты, едкі, белы
У неба рвуцца грозна, сьмела
Ды плач даносіцца з лукі.
Абняў Галута дуб пабіты,
Шчакой прыпаўшы да кары.

ГАЛУТА

Гары, дабро маё, гары!
У неба йдзі агнём, набытак,
Бо небам мы даўно забыты,
І мы тут больш не ўладары.

9-VIII—1927 г.

# ЗБРОЯ

## Іоганес Бэхэр

У вас ёсьць жонка, дзеці?—Слесар вы?
Ва ўсім прызнайцесь, і ня болей,
Як два гады прысудзяць,—і тады,
Тады зноў будзеце на волі.

Скажэце ўсё, і вам-жа лепша будзе;
Скажэце, дзе схавалі зброю.
А хлусіць грэх: усе павінны людзі
Ісьці за праўдаю сьвятою...

За ім на лаўцы жонка, вось кудысь
Глядзіць з усьмешкаю: якою
Хлусьнёю словы судзьдзяў ёй здаліс:
„Ісьці за праўдаю сьвятою"...

Вось нядзеля. Як шумна на рэчцы!
Параплаў шкло паверхні сьвідруе.
А ў рабочай кватэры—у клетцы—
Маці з дзецьмі бяз бацькі гаруе...
Прашчай-жа, жонка, вы, таварышы,
Прашчайце: сёньня ў яму кінуць
Мяне, ў магільнай цемры і цішы
Гады жыцьця майго загінуць.

І робіць ён уперад крок,
Забыў усё; прабіў
Будынка муры востры зрок.
Нядаўні сон прад ім аджыў...

Страйк на фабрыцы; кулі сьвісьцяць і пяюць;
Паліцаі, салдаты радамі ідуць.
Ён каманду ўжо чуе: „па натаўпу плі!"
Вось валяюцца трупы на шэрай зямлі...
Не, ня прыдзе ніколі той час,
Каб прадаў ён працоўны свой клас...

Так! верыць ён: ня з тых нябёс,
А з іхных рук зазьзяе новы лёс...

Ці чуеце вы плач малых дзяцей?
Яны так сьлёзна просяць хлеба.
Каб зьдзейсьніўся сон залатых надзей,
Баяцца барацьбы ня трэба!

Дык слухайце! Вось праўда вам сьвятая:
У нас ёсьць зброя, у зямлі
Яна ляжыць і толькі моманту чакае,
Каб мы яе вам прынясьлі,
Каб з ёю супроць вас, паны, пайшлі.

Дагэтуль так было ва ўсіх краях,
Але так будзе не заўсёды!
Супроць паноў са зброяю ў руках
Пастануць хутка ўсе народы.
Прачнецца ён ў сваёй турме,
Калі народ навокал запяе:

„Мы ўсе вышлі з заводаў і фабрык,
Каб разбурыць турму з ланцугамі;
Мы разьвеем той жудасны жах,
І ня будуць ўжо людзі рабамі,
Бо ўся зброя у нашых руках!“

Пераклаў з нямецк. **П. Р—ч.**

## УСПАМІН

### Кляшторны

Вячэрнія сьцені апалі...
Над рэчкаю дрэмле сасна,
А там,
У бярозавых далях
Блакіт асыпае вясна.
Я першую песьню калісьці
Складаў а такой-жа пары...
Шапталася соннае лісьце
Ў вячэрніх агарках зары.
Дрыжэлі зыбучыя хвалі,
Каціліся ў сінь туманоў...
Гусьлярылі звонкія далі
На п'яных струнах салаўёў...
Мінаюць і дні і нядзелі
(Мінулага зноў ня сустрэць),
Агаркі зары дагарэлі,
А песьні ў душы не згарэць...
Я першую песьню калісьці
Чароўнай вясьне падарыў,
Тады залацістае лісьце
Цьвіло ў пералівах зары.
Вячэрнія сьцені апалі
Над рэчкай драмала сасна,
А там,
У бярозавых далях
Блакіт асыпала вясна.

# ВЕЦЕР У СТЭПУ ТАКІ МАЛАДЫ

**Е. Пфляумбаум.**

Вецер у стэпу такі малады:
Млява схіляецца стройны кавыль;
У сэрцы такі непарушны уздым,
У сэрцы такая квяцістая быль!..
Возера сьветласьць ў адценьнях нябёс,
Белыя лілеі ў слодычы мар;
Мне ў забыцьці гэтак дзіўна і проста
Закалыхаць хараством цяжар...
Мне ў забыцьці ціхамірыцца боль,
Звыкласьць жальбы—мая ціхая радасьць,
І над ракой я шапчу мімаволі:
„Сумна пялёсткам наземіцца, падаць!"
Што расказаць і чаму паверацъ?—
Белым рамонкам шаптаць з усьмешкай:
„Гордых люблю я, люблю бяз меры,
Ну, а пакорлівасьць сэрцы цешыць"...
З белых рамонак вянок маладой...
Дрэмлюць ўспаміны ня зблеклага жалю—
Марыць дзяўчына над п'янай ракой—
Хмельныя словы на цноце скрыжаляў.
Радасьць мая—у румянцы сноў,
Радасьць мая—белакрылая чайка,
Ускалыхнулася ўдумлівым словам,
Словам радзімым у чужынным краю...
Вецер у стэпу такі малады.
Млява схіляецца стройны кавыль.
У сэрцы такі непарушны ўздым,
У сэрцы такая квяцістая быль!..

# АСЕНЬНІ НАПЕЎ

**Падабед Язэп**

Мы любім маладую восень,
калі, як ружы, яблыкі гарацъ
і ў небе ўсё глыбее просінь.
О, восень—мудрая пара!
Час дасьпяваньня—час высокі.
Палі падстрыжаны. Снапы ў гумне.
І сад набрак апошнім сокам:
асыпле плён і пачане чарнець...

* * *

Прырода сьпіць. Яна увесну
абудзіцца, каб пышна расьцьвісьці!..
О, наша моладасьць! Як песьня,
ты сёньня звонка шалясьціш...
А пройдуць дні. Спадуць разьлівы.
Увойдзе рэчка ў скаты-берагі...
Сталёвей будзе шаг. І наш гульлівы
настрой адменіцца другім...

* * *

Хай асыпае моладасьць пялёсткі:
хутчэй дасьпее буйны плён.
Тугую радасьць будзем плёскаць
на пасмы просіні, як лён...
Сады набраклі сьпелым сокам.
Зірнеш, як ружы, яблыкі гарацъ.
Час дасьпяваньня—час высокі.
Ты, восень—мудрая пара!

## ГІМН ЗМАГАНЬНЮ

**Я. Івашын**

Кляўцом напорнага
змаганьня,
пакуль гарацьдушы
агні,
куём вясёлкавае
раньне,
куём мы сонечныя
дні.
Краса і бляск
і сонцазьзяньне—
цьвітуць палі,
цьвітуць лугі...
То моц адвечнага
змаганьня,
што рве ўсе путы—
ланцугі.
Змаганьне—гром, што крышыць
сьветы,
змаганьне—вечнай зьмены
бег;
усё жывое ім
сагрэта.
Жыцьцё і шчасьце—
ў барацьбе.
Змаганьне нішчыць
ўсё старое
і шляхаў новых
тчэ узор.
Змаганьне сонца
залатое,
што ажыўляе
сьвет-прастор.

Жыцьцё ў змаганьні—
красаваньне,—
ў нябыт ідуць
няволя й зьдзек...
Дык вечна хай жыве
змаганьне,
што к долі сонечнай
вядзе!

17-V—27 г.

## З. Бандарына

* * *

Ты праходзіш трывожна і сумна,
Па панэлі дыба́еш адна...
І твае непакорныя кудры
Павуціньнем сплятае імгла.
Ты чакаеш... Любоў на экране—
Вокамгненьне, хвіліна адна...
Многа іх, недапетых жаданьняў,
Яркіх кветак народзіць вясна.
Ты праходзіш трывожна і сумна,
Па панэлі дыбаеш адна...
Раптам... поезд... і радасным гулам
Цешыць сэрца сівенькі званар.
І глядзіш... і шукаеш ты друга,
Ды падобных ня знойдзеш нідзе...
Не глядзі!.. Можа з новаю любай,
Як з табою калісь, ён ідзе...
І штодня ты трывожна і сумна
Па панэлі дыбаеш адна.
Можа вецер з імглою надумаў—
Не згасіць ракавога агня.

24-VII—27 г.

# ПЕСЬНІ НЕДАПЕТЫЯ...

### З. Бандарына

Ой ды ў полі з ветрамі,
Ой у полі з буйнымі
Песьні недапетыя,
Любыя, задумныя...
Ой вянкі ды з верасу—
Думкі, мары-велічы.
Ой ня згубім веры мы,
Дні пакуты вылічым.
Ой ды ў полі з ветрамі,
Ой ды ў полі з буйнымі,
Шлях парос кудзеляю,
Кужальлю ланцужнаю.
Ой ды ў полі з ветрамі,
Ой ды ў полі з буйнымі...
Засьпявалі птушачкі...
— Засьпявайце, голасна!
Я пайду зязюлькаю
Кукаваць над коласам.
Я пайду зязюлькаю,
Я пайду сівенькаю,
Варажыць над доляю,
Варажыць над роднаю.
Ой ды ў полі з ветрамі,
Ой ды ў полі з буйнымі
Песьні недапетыя,
Любыя, задумныя...

30-IV—27 г.

# РОДНАЕ

**Юрка Лявонны**

На парозе да жыцьця
Войстры адчуваньні,
Шолах нізкага трысьця,
Залатое раньне...
У сярэбранай цішы
Расплыліся здані.
Сэрца, сэрца! Калышы
Зжытае каханьне...
Ой, празрыста, быццам шкло,
На палёх, над жытам...
Мала часу працякло,
Многа перажыта!
Паразьбегліся гады—
Іх мне ня стрымаці!
А жыве юнацкі ўздым
На зялёнай гаці...
На дубох—вузоры лісьця.
І далёка гай,
Дзе сказала ты калісьці:
„Пачакай!..“
Памятаю—ці ўва сьне?
(Думкі не застылі)—
Цярусіўся з вішань сьнег
І гарэлі жылы...
„У сярэбранай цішы
Гэтак лёгкі здані...
Ты мяне закалышы
Чарамі каханьня“.

. . . . . . . . . . . . .

Я ня помню і ня знаю—
Ці было, ці не...
Толькі вецьце таго гаю
Шэпча аба мне!..

10-IV—27 г.
г. Магілеў.

# НЕКАТОРЫЯ ПРОБЛЕМЫ ПСЫХОЛЕГІІ Ў АСЬВЯТЛЕНЬНІ МАРКСА І ЭНГЕЛЬСА[1])

П. Панкевіч

## Спадчыннасьць, як біолёгічны фактар паводзін

Пад уплывам вакольных умоў жыцьця організм набывае пэўныя ўласьцівасьці, якія могуць стаць спадчыннымі, перадаючыся з пакаленьня ў пакаленьне. Для чалавека такімі ўмовамі жыцьця перш за ўсё зьяўляецца пастаянна зьменлівае грамадзкае асяродзьдзе. Яно і служыць дамінуючым фактарам перайначваньня і зьнішчэньня гэтай спадчыннасьці. Пад спадчыннасьцю Энгельс разумее фактар захаваньня набытых адзнак, які працівіцца навакольнаму асяродзьдзю. Гэтаму фактару супроцьстаіць дапасаваньне. Яно зьяўляецца творчым, актыўным, вытвараючым процэсам у адносінах да асяродзьдзя і разбураючым актам у адносінах к набытым у спадчыну ўласьцівасьцям. Паміж дапасаваньнем і спадчыннасьцю адбываецца пастаяннае змаганьне.

У тым месцы, дзе Энгельс разглядае ўмовы разьвіцьця рукі і мазгоў у чалавека, ён проста заяўляе аб перадачы спадчынна фізычных уласьцівасьцяй. Дзякуючы працы, чалавек удасканальваўся ў разьвіцьці рук. Набытыя асаблівасьці пабудовы мускулаў, зьвязак касьцей, а таксама гнуткасьць і спрытнасьць рукі да больш складаных опэрацый перадаваліся ад продкаў патомкам, пастаянна ўдасканальваючыся і ўскладняючыся. Асновапаложнікі марксызму выразна гаварылі аб зьмене фізычнай конституцыі пад уплывам вакольных умоў жыцьця. Датыкаючыся пытаньня аб зьмене відаў, Энгельс піша, што ўся фізычная конституцыя робіцца іншай у тых жывёл, якім удаецца дапасавацца да зьменных акалічнасьцяй асяродзьдзя, і што віды, якія ўстанавіліся раз назаўсёды, вымірають. Калі конституцыйныя асаблівасьці могуць зьмяняцца і перадавацца ў спадчыну, то гэта-ж самае адбываецца і з псыхічнымі асаблівасьцямі. Апошнія таксама зьмяняюцца і таксама могуць пераходзіць ад продкаў да патомкаў. Гэта сьцьвярджае Плеханов, які піша, што „навейшы дыялектычны матэрыялізм“ ня мае ані малое патрэбы эдмаўляць, напр., інстынкты і пачуцьці, якія складаюць вынікі фізыолёгічнай спадчыннасьці [2]). У Энгельса мы знаходзім месцы, дзе ён кажа аб перадачы ў спадчыну ня толькі фізычных уласьцівасьцяй, але і практыкі ў шыро-

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 5.

[2]) Плеханов. Соч., т. VIII, стар. 47.

кім сэнсе слова. Ён паказвае, што „прыродазнаўства, прызнаўшы спадчыннасьць набытых уласьцівасьцяй, пашырае суб'ект практыкі, робячы ім не індывіда, а род [1]). Паасобны індывід можа і ня мець свае асабістае практыкі. На дапамогу яму прыходзіць да вядомай ступені практыка шэрагу яго продкаў. „Калі, напрыклад, сярод нас,—тлумачыць Энгельс,— матэматычныя аксыомы здаюцца кожнаму васьмілетняму дзіцяці чымсьці самім па сабе зразумелым, што не патрабуе даводжаньня практычнага, то гэта зьяўляецца толькі вынікам назьбіранай спадчыннасьці. Бушмену-ж ці аўстралійскаму нэгру іх трудна ўтлумачыць шляхам доказу [2]).

Людзі сучаснай культуры маюць за сабою нязвычайна багатую практыку, якая назьбірана чалавецтвам на працягу многіх вякоў у барацьбе за існаваньне. Дзікуны-ж стаяць на ніжэйшай ступені культурнага разьвіцьця, практыка іх продкаў нязначная, таму і спадчыннасьць, якую атрымліваюць дзікуны ад старэйшых пакаленьняў, зьяўляецца беднай. У прыведзенай вытрымцы Энгельс кажа аб перадачы спадчынна нават здольнасьці да вядомых ведаў; у даным выпадку гутарка ідзе аб здольнасьці да ўспрыманьня матэматычных аксыом. У другім месцы Энгельс заяўляе, што тэорэтычнае мысьленьне зьяўляецца прыраджонай уласьцівасьцю ў выглядзе здольнасьці [3]).

Такім чынам, спадчынна перадаюцца фізычныя ўласьцівасьці, інстынкты, пачуцьці і нават здольнасьці да тэорэтычнага мысьленьня. Нездарма Энгельс выказвае такую думку, што „дрэўнія грэцкія філёзофы ўсе былі прыроджанымі, натуральнымі дыялектыкамі [4]).

Адсюль відаць, што спадчыннасьць іграе вялікую ролю ў паводзінах чалавека і жывёл. Аднак гэта роля спадчыннасьці ў паводзінах тых ці іншых груп жывых істот неаднолькавая. Тады, як жывёлы, пасыўна дапасоўваючыся да натуральнага асяродзьдзя, адбіваюць у сваіх паводзінах узьдзеяньне, галоўным чынам, спадчынна набытых інстынктаў, знаходзяцца пад іх уладаю,—у чалавека, наадварот, інстынкты абмяжоўваюцца ўплывам соцыяльнага асяродзьдзя, якое ў даным выпадку выступае ў якасьці домінуючага, азначальнага фактару паводзін. „Паміж чалавекам і ніжэйшаю жывёлаю,—справядліва піша Плеханов,—розьніца месьціцца ў гэтым выпадку толькі ў тым, што разьвіцьцё спадчынна набытых інстынктаў іграе ў яго выхаваньні значна меншую ролю, як у выхаваньні жывёл. Тыграня нараджаецца драпежнаю жывёлаю, а чалавек не раджаецца паляўнічым ці зямляробам, воінам ці гандляром; ён робіцца тым ці другім пад уплывам акаляючых яго ўмоў [5]). Роля і значэньне соцыяльнага асяродзьдзя ў паводзінах чалавека тут падкрэсьлены даволі выразна.

---

1) Архив Маркса и Энгельса под ред. Рязанова, кн. II-ая, стар. 135.

2) Там-жа.

3) Архив.., кн. II-ая, стар. 125.

4) Анти-Дюринг, стар. 19.

5) Плеханов. Сочин., т. XIV, стар. 62.

У сувязі з проблемай спадчыннасьці трэба разглядзець біо-генэтычны закон. Геккель формуляваў гэты закон так: „Онтогенэзіс ёсьць кароткае і хуткае паўтарэньне філёгенэзіса, абумоўленае фізыолёгічнымі функцыямі спадчыннасьці (размножваньня) і дапасаваньня (жыўленьня)“ [1]. Організм у сваім разьвіцьці паўтарае гісторыю роду. Гэтае паўтарэньне зьяўляецца найбольш поўным у тым выпадку, калі ў сілу пастаяннай спадчыннасьці захоўваецца найпершая скарочаная эволюцыя, і, наадварот, яно ня поўнае ў тым выпадку, калі ў значнай ступені ўведзена пазьнейшая эволюцыя парушэньняў, дзякуючы зьменліваму дапасаваньню [2]) У эмбрыолёгіі гэты закон зьяўляецца бясспрэчным. Але ён пераносіцца і на псыхогенэтычную прыроду чалавека. Адсюль вывад, што духоўнае разьвіцьцё дзіцяці скарочана паўтарае гісторыю разьвіцьця чалавечага грамадзтва. Проф. Корнілов расшыфроўвае біо-генэтычны закон у адносінах да дзіцяці такім чынам: „Папершае, органічнае разьвіцьцё дзіцяці ў пэрыод да нараджэньня паўтарае разьвіцьцё жывых істот на зямлі ад первястковай каморкі да найбольш складанае істоты чалавека, і, падругое, органічнае разьвіцьцё дзіцяці пасьля нараджэньня паўтарае ўсе стадыі культурна-гістарычнага разьвіцьця ўсяго чалавецтва“ [3]). Гэтыя стадыі культурна-гістарычнага разьвіцьця наступныя: бадзяжнік-дзікун, паляўнічы, пастух, рольнік, гандляр уключна да грамадзяніна соцыялістычнага грамадзтва. Проф. Корнілов не згаджаецца з гэтым законам у двух пунктах.

Папершае, навука да гэтых часоў дакладна не ўстанавіла стадыі культурна-гістарычнага разьвіцьця ўсяго чалавецтва. І, падругое, нават да цяперашняга часу дакладна не ўстаноўлена, якія іменна пэрыоды разьвіцьця дзяцей адпавядаюць вядомым этапам гісторыі чалавечага грамадзтва. Адсюль проф. Корнілов робіць наступнае заключэньне: „Нясумненна, што некаторая саадпаведнасьць паміж разьвіцьцём індывіда і разьвіцьцём роду маецца ў наяўнасьці, але заключэньне, якое робіцца з гэтага, што дзіця ў сваім разьвіцьці паўтарае паступова этапы разьвіцьця чалавецтва, ёсьць ня больш, як толькі вумазаключэньне па падабенству, г. зн. па найменш пэўнаму з усіх тыпаў вумазаключэньняў“ [4]).

Калі мы зьвернемся да Плеханова, то ў яго таксама адчуваецца вядомая асьцярожнасьць у адносінах да біо-генэтычнага закону: ён паказвае, што „псыхічнае разьвіцьцё кожнага чалавека зьяўляецца як-бы конспэктам гісторыі разьвіцьця яго продкаў“ [5]). Але далей Плеханов ужо робіць істотную агаворку: „Само па сабе зразумела,—кажа ён,—што дапасаваньне да асяродзьдзя, *асабліва соцыяльнага*, патрабуе істотных

---

1) Эрнст Геккель. Мировые загадки, стар. 81.

2) Там-жа. стар. 138.

3) Пинкевич. Марксист. пед. хрестом., ч. I, стар. 386—387.

4) Там-жа, кн. I-ая, стар. 393.

5) Плеханов. Сочин., т. VIII, стар. 48.

паправак да гэтага закону, які, паміж іншым, і ў біолёгіі прымаецца ня як бязумоўная карціна. Ва ўсякім выпадку разьвіцьцё зародкаў ёсьць, да вядомай ступені, паўтарэньне разьвіцьця віду; але што сказалі-б мы аб прыродадасьледцу, калі-б ён, вывучыўшы законы эмбрыогеніі, пабачыў у іх выстарчаючую падставу для тлумачэньня ўсёй гісторыі віду“ [1].) Плеханов робіць заключэньне, што біо-генэтычны закон можа быць дапасованы ў эмбрыолёгіі, але што яго дзеяньне ў адносінах да чалавека абмяжоўваецца ўплывам соцыяльнага асяродзьдзя. Тут проблема вырашаецца ў такім-жа духу, як і ў адносінах спадчыннасьці. Спадчынна набытыя ўласьцівасьці маюць вядомае значэньне ў паводзінах чалавека, але тым ня менш асноўным фактарам гэтых паводзін выступае соцыяльнае асяродзьдзе.

Як-жа адносіліся Маркс і Энгельс да біо-генэтычнага закону? На жаль, у Маркса мы не знаходзім, каб ён выказваўся па гэтым пытаньні. Затое досыць выразныя мысьлі маюцца ў Энгельса. З аналізу гэтых мысьляй трэба зрабіць вывад, што Энгельс не займаў адмоўнай позыцыі ў адносінах да біо-генэтычнага закону. Мы чытаем у яго наступнае: „Затым, падобна таму, як гісторыю разьвіцьця зародку чалавека ў жываце маткі прадстаўляе сабою толькі скарочанае паўтарэньне гісторыі, якая разгортвалася на працягу мільёнаў гадоў фізычнага разьвіцьця нашых продкаў, так-жа сама і духоўнае разьвіцьцё дзіцяці прадстаўляе сабою толькі яшчэ больш скарочанае паўтарэньне разумовага разьвіцьця тых-жа продкаў,—прынамсі, больш позьніх“ [2]).

У прыведзенай вытрымцы Энгельс выразна прымае біо-генэтычны закон ня толькі ў адносінах эмбрыолёгіі, але і ў адносінах псыхолёгіі чалавека. Аднак мы ў яго тут-жа знаходзім вядомыя агаворкі, якія адносяцца перш за ўсё да ўстанаўленьня розьніцы ў гэтай галіне паміж жывёламі і чалавекам. Энгельс падкрэсьлівае, што „плянамерныя дзеяньні жывёл ня здолелі палажыць на прыроду пячаць іх волі, тады як гэта здолеў зрабіць толькі чалавек“ [3]).

Далей Энгельс кажа аб прычынах панаваньня чалавека над прыродай, дзякуючы прогрэсыўнаму разьвіцьцю вытворчых сіл. Такім чынам, біо-генэтычны закон аўтоматычна не пашыраецца на жывёл і чалавека, а мае пэўныя корэктывы ў адносінах да кожнага асноўнага віду жывёл, а таксама ў адносінах да чалавечага роду на розных ступенях разьвіцьця. У той час, як жывёлы пасыўна дапасоўваюцца да натуральнага асяродзьдзя, грамадзкі чалавек, дзякуючы працы, актыўна ўзьдзейнічае на прыроду, у выніку чаго зьмяняецца вакольны сьвет і ўласная прырода чалавека. Зьмена прыроды чалавека адбываецца цераз умовы грамадзкіх

[1]) Плеханов. Сочин., т. VIII, стар. 48—49.

[2]) Архив..., кн. II-ая, стар. 101.

[3]) Там-жа.

адносін, бо чалавек узьдзейнічае на прыроду не індывідуальна, а цераз грамадзтва, ва ўмовах якога жыве і змагаецца за сваё існаваньне.

Нясумненна, што і Энгельс прымае біо-генэтычны закон з тэю папраўкаю, якую адзначае Плеханов адносна соцыяльнага асяродзьдзя.

## Што такое псыхіка?

„А калі спытацца,—кажа Энгельс,—што-ж такое мысьленьне і сьвядомасьць і якое іх паходжаньне, то мы знойдзем, што яны зьяўляюцца продуктамі мазгоў чалавека і што сам чалавек ёсьць продукт прыроды, які разьвіваецца ў азначаным асяродзьдзі і разам з ёю“[1])... Сьвядомасьць і мысьленьне тут разглядаюцца як продукт прыроды. Але чалавек, зьяўляючыся продуктам прыроды разам з сваёй псыхікай, у той час зьяўляецца продуктам грамадзкіх адносін. Таму Маркс і Энгельс усюды, дзе толькі трэба, падкрэсьліваюць, што прадстаўленьні чалавека адносяцца або да прыроды, або да грамадзкіх адносін, або да „ўласных уласьцівасьцяй“ людзей. Гэтыя прадстаўленьні зьяўляюцца выражэньнем рэальных адносін і дзейнасьці чалавека, выражэньнем яго вытворчасьці, яго зносін, грамадзкай і політычнай практыкі. „Утварэньне ідэй, прадстаўленьняў сьвядомасьці,—пішуць Маркс і Энгельс,—перш за ўсё непасрэдна ўплетваюцца ў матэрыяльную чыннасьць і ў матэрыяльныя зносіны людзей—у мову рэальнага жыцьця. Прадстаўленьні, мысьленьне, духоўныя зносіны людзей зьяўляюцца тут яшчэ простым пароджаньнем іх матэрыяльнай практыкі“[2]). Такім чынам, па Марксу і Энгельсу, наша сьвядомасьць і мысьленьне перш за ўсё зьяўляюцца вынікам вытворчай чыннасьці. Толькі ў процэсе гэтай чыннасьці нараджаецца мысьленьне. Адзначаючы гісторыю зьяўленьня мысьленьня, Маркс і Энгельс паказваюць, што „першым гістарычным актам людзей, дзякуючы якому яны адасабляюцца ад жывёл, зьяўляецца ня тое, што яны мысьляць, а тое, што яны пачынаюць *вытвараць* сродкі для свайго існаваньня“[3]). Асновапаложнікі марксызму папракалі Фэйербаха за тое, што ён „ня можа разглядаць сьвет пачуцьцяў, як згрупаваную, жывую пачуцьцёвую *дзейнасьць* складаючых яго індывідаў“[4]). „У галовах людзей,—піша Энгельс,—абавязкова адбіваецца ўсё тое, што пабуджае іх да чыннасьці, але як адбіваецца, гэта залежыць ад акалічнасьцяй“[5]). Нашы псыхічныя перажываньні абумоўлены акалічнасьцямі знадворнага асяродзьдзя. Для чалавека характэрна тое, што яго „духоўны сьвет“ узьнікае і афармляецца ў процэсе вытворчай чыннасьці, у процэсе яго актыўнага ўзьдзеяньня на прыроду.

---

[1]) Анти-Дюринг, стар. 31.
[2]) Архив.., кн. I-ая, стар. 215.
[3]) Архив.., кн. I-ая, стар. 214.
[4]) Там-жа, стар. 218.
[5]) Энгельс. Людвиг Фейербах. Выд. Наркамасьветы, 1919 г., стар. 36.

Якія-ж узаемаадносіны паміж фізычным і псыхічным? Гэта проблема ў псыхолёгіі часта вырашаецца мэтофізычна, а стала быць, не набывае навуковага характару. Напрыклад, Вундт абагульняе гэтае пытаньне ў тэорыю псыхофізычнага паралелізму, паводле якой фізычнае і псыхічнае разглядаецца, як два паралельных рады зьяў, якія існуюць самастойна, але знаходзяцца ў процэсе ўзаемадзеяньня. Псыхічнае ператвараецца ў самастойную субстанцыю.

Адзіна навуковым вырашэньнем паказанай проблемы зьяўляецца марксыцкая пастаноўка пытаньня, якая абапіраецца на прынцып монізму. Псыхічнае тут не супроцьставіцца матэрыі, але ў той-жа час не атоесамліваецца з фізыолёгічнымі функцыямі мазгоў. З гэтага пункту гледжаньня сьвядомасьць і матэрыя мазгоў прадстаўляюць сабою адзінства, але ня тожсамасьць, бо сьвядомасьць розьніцца ад матэрыяльнай масы нэрвовай сыстэмы асаблівымі ўласьцівасьцямі, як асаблівая якасьць, зьяўляючыся ў той-жа час продуктам мазгоў. Плеханов піша, што сьвядомасьць ёсьць унутраны стан матэрыі ў руху. З гэтым тэзісам солідарны і Ленін[1]). Даючы гэтае азначэньне сьвядомасьці, Плеханов папераджае, што староньнікі дыялектычнага матэрыялізму ніколі ня зводзілі псыхіку да руху матэрыі, бо ў такім выпадку якасьць была-б зьведзена да колькасьці была-б адхілена дыялектычная пастаноўка пытаньня. Паміж іншым, староньнікі мэханістычнага матэрыялізму (напр., Струмінскі) іменна і спрабуюць разглядаць псыхіку, як рух матэрыі, што зьяўляецца глыбока няправільным. Яны спасылаюцца, напр., на наступныя словы Энгельса: „Мы, нясумненна, „зьвядзем“ калі-небудзь экспэрымэнтальным чынам мысьленьне да молекулярных і хэмічных рухаў у мазгох; але ці вычэрпваецца гэтым існасьць мысьленьня?“[2]). Шмат каму здаецца, што Энгельс сапраўды атоесамліваў мысьленьне з молекулярнымі і хэмічнымі рухамі ў мазгох. Сапраўды-ж Энгельс тут ня зводзіць мысьленьня да руху, а кажа аб об'ектыўных процэсах цэнтральнай нэрвовай сыстэмы, суб'ектыўнае выражэньне якіх і складае нашу псыхіку. „Мысьленьне і сьвядомасьць,—кажа Энгельс,—гэта продукты мазгоў чалавека“. Паміж псыхікай і чалавечымі мазгамі тут ня ставіцца знаку роўнасьці, а першае разглядаецца як функцыя другога. „Матэрыялістычнае адхіленьне „дуалізма духа і цела“ (г. зн. матэрыялістычны монізм) складаецца з таго,—тлумачыць Ленін,—што дух ня існуе незалежна ад цела, што дух ёсьць другараднае, функцыя мазгоў, адбітак знадворнага сьвету“[3]). У другім месцы Ленін паўтарае тое-ж самае: „Адчуваньне залежыць ад мазгоў, нэрваў, сеткавіцы і г. д., г. зн. ад азначаным чынам організаванай матэрыі. Існаваньне матэрыі не залежыць ад адчуваньня. Адчуваньне, мысьль, сьвядомасьць ёсьць вышэйшы продукт асаблівым чынам організаванай

[1]) Ленин. Собр. сочинений, т. X, стар. 66.
[2]) Архив... кн. II-ая, стар. 29.
[3]) Ленин. Собр. сочинений, т. X, стар. 69.

матэрыі"[1]). Гэта ёсьць найлепшая інтэрпрэтацыя поглядаў Маркса і Энгельса па пытаньні аб існасьці псыхікі.

Удалую формулёўку дае і Плеханов. У яго мы чытаем наступнае: „Часта гавораць аб уплыве псыхічнага стану на фізычныя процэсы. Аб гэтым уплыве вельмі многа і ахвотна гутараць цяпер дактары. Я думаю, што факты, якія наводзяць на думку аб гэтым уплыве, часта паказваюцца зусім верна. Аднак тлумачацца яны зусім няправільна. Людзі, якія гутараць аб уплыве „псыхікі" на „фізыку", забываюць, што ўсякі даны псыхічны стан ёсьць толькі *адзін* бок процэсу, *другі* бок якога складае фізыолёгічная зьява ці, вярней, цэлае злучнасьць зьяў фізыолёгічных ва ўласным сэнсе гэтага слова. І калі мы кажам, што даны псыхічны стан вядомым чынам уплывае на фізыолёгічныя функцыі данага організму, то трэба разумець, што паказваемы намі ўплыў выкліканы быў уласна тымі, таксама чыста фізыолёгічнымі зьявамі, суб'ектыўны бок якіх складае гэты псыхічны стан"[2]). Такім чынам, псыхіка ёсьць адзін бок процэсу, другі бок якога складаюць фізыолёгічныя зьявы нашага організму, г. зн. псыхіка ёсьць суб'ектыўнае выражэньне об'ектыўных фізыолёгічных процэсаў. У гэтым іменна і месьціцца правільнае вырашэньне проблемы аб узаемасувязі мысьленьня і матэрыі мазгоў.

Элемэнтарным актам псыхікі зьяўляецца адчуваньне, а найбольш складаным—мысьленьне. Што-ж такое адчуваньне? Адчуваньне, як кажа Ленін сьледам за Фэйербахам, ёсьць суб'ектыўны вобраз об'ектыўнага сьвету. Яно ўзьнікае ў выніку ўзьдзеяньня гэтага сьвету на нашы органы пачуцьцяў. Адчуваньні зьяўляюцца вобразамі знадворнага сьвету і існуюць у нас, але параджаюцца дзеяньнем па-за намі існуючых рэчаў на нашы органы ўспрыманьня. Адчуваньні кажуць аб сапраўды непасрэднай сувязі нашае сьвядомасьці з надворным сьветам. Яны выражаюць „пераварэньне энэргіі знадворнага раздражненьня ў факт сьвядомасьці"[3]). Ленін прыводзіць такі прыклад. Праменьні сьвятла, якія падаюць на сятчатку вока, утвараюць адчуваньне колеру. Гэтыя праменьні зьяўляюцца хвалямі эфіру азначанай даўжыні і азначанай хуткасьці. Розныя адчуваньні таго ці іншага колеру тлумачацца рознай даўжынёй хваль сьвятла, якія існуюць па-за чалавечай сятчаткай, па-за чалавекам і незалежна ад яго[4]). Адсюль відаць, што ўспрымаючы апарат нашага організму (рэцэптары) зьяўляецца свайго роду трансформатарам, які ператварае фізычную энэргію знадворнага асяродзьдзя ў псыхічнае перажываньне, у адчуваньне. У залежнасьці ад характару тых ці іншых органаў успрыманьня атрымліваюцца розныя па характару адчуваньні. Маркс і Энгельс прызнавалі спэцыфічны характар дзеяньня органаў знадворных пачуцьцяў.

[1]) Ленин. Собр. сочинений, т. X, стар. 38—39.
[2]) Плеханов. Сочинения, т. XVII, стар. 124.
[3]) Ленин. Собр. сочинений, т. X, стар. 35.
[4]) Там-жа. стар. 38.

Адно і тое самае раздражненьне, напр., удар, выклікае розныя адчуваньні ў залежнасьці ад таго, якімі рэцэптарамі яно ўспрымаецца. Вока дае адчуваньне сьвятла, тады як слух дае адчуваньне гуку. Неаднолькавае адчуваньне атрымліваецца і тады, калі дзейнічае адзін і той самы раздражальнік на адзін і той самы орган успрыманьня, але дзейнічае не з аднолькавай ступеньню інтэнсыўнасьці. Мы знаходзім у Маркса і Энгельса намёкі адносна парогаў раздражненьняў і адчуваньняў (Закон Вэбэра-Фэхнэра). Яны паказваюць, што супроцьлеглыя адчуваньні match рознастайны толькі пры пэўнай ступені інтэнсыўнасьці, за межамі якой гэта супроцьлегласьць здымаецца, зьнікае. Тады слабыя раздражненьні не даюць ніякага эфэкту, г. зн. ня ўспрымаюцца як пэўнага роду адчуваньні, а празьмерныя раздражненьні, як-бы яны ні былі супроцьлеглы ў адносінах адзін да другога, даюць аднолькавыя вынікі, а іменна: адчуваньне болю. „Заўважым, паміж іншым,—піша Энгельс,—што самая глыбокая цемра і самае яркае рэзкае сьвятло выклікае ў нашых вачох адно і тое самае адчуваньне *асьляпленьня,* і ў гэтых адносінах яны тожсамы для нас“ [1]). Далей ён кажа наступнае: „...у залежнасьці ад даўжыні калыханьняў, праменьні сонца аказваюць розныя дзеяньні; праменьні з найбольшай даўжынёю хвалі пераносяць цяплыню, з сярэдняю—сьвятло, з найменшаю—хэмічнае дзеяньне, прычым максымумы трох гэтых дзеяньняў блізка супадаюць паміж сабою, а *ўнутраныя* мінімумы знадворнай групы праменьняў пакрываюць адзін аднаго па свайму дзеяньню ў групе сьвятла. Што зьяўляецца сьвятлом, а што не-сьвятлом, залежыць ад будовы вока; начныя жывёлы могуць бачыць нават частку не цяплыні, а хэмічныя праменяваньні, бо іх вочы дапасованы да меншых даўжынь хвалі, як нашы вочы“ [2]).

Такім чынам, характар адчуваньня залежыць ня толькі ад ступені раздражненьня, але і ад фізычнай структуры рэцэптара. Адзін і той самы раздражальнік з пэўнай аднолькавай для ўсіх выпадкаў інтэнсыўнасьцю можа выклікаць у розных індывідуумаў неаднальковыя адчуваньні, розьніца якіх абумоўліваецца сваясаблівасьцю ўспрымаючага апарату. Хэмічныя праменяваньні, няўлоўныя для зрокавага апарату чалавека, могуць выклікаць вядомага роду адчуваньні ў начных жывёл, у якіх вочы дапасованы да ўспрыманьня кароткіх хвалявобразных калыханьняў сьветлавага эфіру. Энгельс паказвае, што мурашкі маюць іншыя вочы, як людзі, і што яны бачаць хэмічныя праменьні, якія для нас нябачныя; прычым, мы ніколі не пазнаем таго, якімі іменна зьяўляюцца мурашкам гэтыя хэмічныя праменьні. Але Энгельс тут-жа агаварваецца. Ён справядліва падкрэсьлівае, што мы ў пазнаньні гэтых нябачных для нас праменьняў пайшлі значна далей, як мурашкі, бо „спэцыяльная будова чалавечага вока не зьяўляецца абсолютнаю мяжою для чалавечага

[1]) Архив..., кн. II-я, стар. 65.

[2]) Архив.., кн. II-ая, стар. 65—67.

пазнаньня"[1]). Каб пазнаць сьвет, чалавек памацняе свае органы знадворных пачуцьцяў усякага роду апаратамі, якія штучна ўзмацняюць успрыманьні. У чалавека цяпер ужо перавышаны натуральныя рамкі рэцэптарнай дзейнасьці нашага організму.

Правільнасьць ці няправільнасьць нашых пачуцьцёвых успрыманьняў правяраецца ў процэсе практычнай дзейнасьці. Калі мы карыстаемся рэчамі знадворнага сьвету, каб задаволіць свае патрэбы, мы разважаем аб годнасьці гэтых рэчаў на падставе тых уласьцівасьцяй, якія мы ўспрымаем у іх. Калі ўспрыманьні няправільныя, то аказваецца няправільным і нашае меркаваньне аб годнасьці рэчаў. Тады спроба скарыстаць гэтыя рэчы павінна быць няўдатнай. Наадварот: калі мы знаходзім, што рэч адпавядае нашым патрабаваньням, гэта даводзіць правільнасьць нашых успрыманьняў. У выпадку промаху мы лёгка адкрываем прычыну сваёй памылкі. Тут можа здарыцца, што мы зрабілі памылку дзякуючы няпоўнаму або павярхоўнаму ўспрыманьню ці дзякуючы таму, што данае ўспрыманьне было „зьвязана з вынікамі другіх успрыманьняў такім спосабам, які не апраўдваецца палажэньнем рэчаў". Энгельс піша: „Да таго часу, пакуль мы правільна разьвіваем нашы пачуцьці, правільна карыстаемся імі і дзейнічаем у межах, установленых правільна атрыманымі і скарыстанымі ўспрыманьнямі,—да таго часу мы будзем заўсёды праконвацца, што вынікі нашых учынкаў зьяўляюцца доказам супаданьня нашых успрыманьняў з матэрыяльнай прыродай успрынятых рэчаў. Няма ніводнага факту, паколькі нам вядома да гэтага часу, калі мы былі-б вымушаны прыйсьці да заключэньня, што нашы навукова контролюемыя пачуцьцёвыя ўспрыманьні ствараюць у нашых мазгох такія прадстаўленьні аб знадворным сьвеце, якія паводле сваіх уласьцівасьцяй адхіляюцца ад сапраўднасьці, ці што паміж знадворным сьветам і нашымі ўспрыманьнямі пачуцьцяў гэтага сьвету існуе прыраджоная неадпаведнасьць"[2]). Такім чынам, пры дапамозе ўспрыманьняў мы пазнаем знадворны сьвет. Успрыманьне зьяўляецца асноваю нашага вопыту.

Кажучы аб сьвядомасьці чалавека, Маркс і Энгельс перш за ўсё адзначаюць, што ў нас гэта сьвядомасьць „абцяжарана" матэрыяй, якая ў даным выпадку выступае ў відзе мовы. Апошняя таксама, як і сьвядомасьць, зьяўляецца гістарычным продуктам. Мова, як выражаецца Маркс і Энгельс, ёсьць рэальная сьвядомасьць, якая мае практычнае значэньне і існуе для іншых людзей таксама, як і для мяне. Гэта зьяўляецца сродкам зносін паміж людзьмі. Мы сустракаем у Маркса і Энгельса наступныя мысьлі: „Мае адносіны да майго асяродзьдзя ёсьць мая сьвядомасьць. Там, дзе існуюць якія-небудзь адносіны, яны існуюць для мяне; жывёлы *не адносяцца* ні да чога, *для жывёлы яе адносіны да другіх ня існуюць як адносіны*. Такім чынам, сьвядомасьць ёсьць адна-

---

[1]) Архив..., кн. II, стар. 179.

[2]) Энгельс. Развитие социализма от утопии к науке. Дзярж. Выд., 1926 г. стар. 22.

чальна гістарычны продукт і застаецца ім, пакуль наогул існуюць людзі“ [1]).

Па зьместу сьвядомасьць чалавека мае двоісты характар. Яна перш за ўсё зьяўляецца „сьвядомасьцю бліжэйшай пачуцьцёвай абстаноўкі і сьвядомасьцю органічнай сувязі з другімі асобамі і рэчамі, якія знаходзяцца па-за пачынаючым усьведамляць сябе індывідам“. Стала быць, сьвядомасьць чалавека перш за ўсё пранізваецца соцыяльным зьместам. На першабытнай ступені чалавечага грамадзтва гэта сьвядомасьць мае стадны характар. „Тут чалавек адзначаецца ад барана толькі тым,—пішуць Маркс і Энгельс,—што яго сьвядомасьць замяняе яму інстынкт ці што яго інстынкт носіць сьвядомы характар“ [2]). Зьяўляючыся соцыяльным, сьвядомасьць чалавека ў той-жа час выступае, як сьвядомасьць прыроды. Гэта—яго другая асаблівасьць.

Вышэйшаю формаю псыхікі зьяўляецца мысьленьне. Што-ж такое мысьленьне? Гэта ёсьць злучнасьць ідэй і прадстаўленьняў, зьвязаных паміж сабою ў азначанай сыстэме і ўзьнікшых у выніку вывучэньня намі навакольнага сьвету. Мысьленьне не зьяўляецца актам аднаго чалавека. „Яно існуе,—піша Энгельс,—толькі ў відзе індывідуальнага мысьленьня многіх мільярдаў мінулых, цяперашніх і будучых людзей“ [3]). Такім чынам, мысьленьне выходзіць з рамак індывідуума і зьяўляецца прыналежнасьцю чалавечага роду, існуючы, аднак, у відзе вядомай разумовай дзейнасьці ў паасобных людзей.

Ад таго, што сучаснае грамадзтва распадаецца на клясы, мысьленьне, як і наогул уся псыхіка чалавека, мае клясавы характар. Таму ніяк нельга разглядаць мысьленьне як нешта аднастайнае і пастаяннае. Яно зьмяняецца ў сувязі з гістарычным процэсам разьвіцьця, з аднаго боку, і ў залежнасьці ад клясавай прыналежнасьці людзей у рамках данага грамадзтва—з другога. Можна гаварыць аб аднастайнасьці мысьленьня толькі ў адносінах да людзей аднае і тае самае клясы. Але нават і тут ня бывае абсолютнай аднастайнасьці. „У кожны дany час,—справядліва паказвае Плеханов,—людзі данае клясы маюць аднолькавы—у вядомых межах—сьветагляд і—зноў такі ў вядомых межах—аднолькава глядзяць на грамадзкую зьяву“. У кожную гістарычную эпоху пануюць мысьлі азначанае клясы, якая зьяўляецца пануючай *матэрыяльнай* сілай грамадзтва. Гэтая самая кляса ў той самы час зьяўляецца і пануючай духоўнай сілай. „Кляса, якая можа распараджацца сродкамі матэрыяльнае вытворчасьці,—пішуць Маркс і Энгельс,—мае ў сваім распараджэньні, ў той-жа час, дзякуючы гэтаму, сродкі духоўнае вытворчасьці, бо, дзякуючы гэтаму, яна пануе ў той-жа час у агульным над мысьлямі тых, у каторых няма сродкаў для духоўнае вытворчасьці. Пануючыя

[1]) Архив..., кн. I-ая, стар. 220.

[2]) Там-жа, стар. 221.

[3]) Анти-Дюринг. стар. 76.

мысьлі прадстаўляюць нішто іншае, як ідэальнае выражэньне пануючых матэрыяльных адносін, прадстаўляюць выражэньне ў відзе мысьляй пануючыя матэрыяльныя адносіны, г. зн. адносіны, якія і робяць адну якую-небудзь клясу пануючай, г. зн. прадстаўляюць яго мысьлі панаваньня. Індывіды, якія прадстаўляюць пануючую клясу, сярод іншых рэчаў, валодаюць і сьвядомасьцю і, стала быць, мысьляць; само па сабе зразумела таму, што, паколькі яны пануюць у якасьці клясы і азначаюць увесь зьмест якое-небудзь гістарычнае эпохі, яны гэтае робяць усёю істотаю, г. ё. пануюць, паміж іншым, у якасьці мысьлячых істот, у якасьці вытворцаў мысьлі, рэгулююючы вытворчасьць і разьмеркаваньне мысьляй свайго часу, і, значыць, іх мысьлі зьяўляюцца пануючымі мысьлямі эпохі“ [1]). Тут выразна падкрэсьліваецца клясавы зьмест псыхікі людзей. Матэрыяльнае панаваньне азначанае клясы дае ёй магчымасьць панаваць і духоўна. Яе мысьлі выражаюцца матэрыяльна ў розных помніках культуры, як, напр.: у мастацтве, у літаратуры, у будаўніцтве і інш., накладаючы вядомую пячатку на грамадзкую ідэолёгію данай гістарычнай эпохі.

Кажучы аб мысьленьні, трэба паказаць, што яно ўласьціва ня толькі чалавеку, але і вышэйшым жывёлам. Энгельс сьцьвярджае, што „нам агульны з жывёламі ўсе віды разумовай дзейнасьці: *індукцыя, дэдукцыя,* стала быць, таксама *абстракцыя* (радавое разуменьне чатырохногіх і двуногіх), *аналіз* невядомых прадметаў (разьбіваньне арэха ёсьць пачатак аналізу), *сынтэз* (у выпадку учынкаў жывёл) і, у якасьці злучэньня абодвух, *экспэрымэнт* (у выпадку новых перашкод і пры незнаёмым становішчы“) [2]). Такім чынам, мы знаходзім у вышэйшых жывёл усе тыя мэтоды навуковага дасьледаваньня, якімі карыстаецца і чалавек. Розьніца тут маецца толькі ў ступені разьвіцьця гэтых мэтодаў.

Але чым-жа ўсё такі мысьленьне чалавека розьніцца ад мысьленьня жывёл? Толькі ўменьнем карыстацца дыялектычнаю мысьлю. Энгельс піша наступнае: „... дыялектычная мысьль,—іменна таму, што яна дапушчае дасьледаваньне прыроды самых разуменьняў,—уласьціва толькі чалавеку, дый апошняму толькі на параўнаўча высокай ступені разьвіцьця (будыстыя і грэкі), і дасягае свайго поўнага разьвіцьця толькі значна пазьней у сучаснай філёзофіі“ [3]). Ва ўсім сьвеце пануе об'ектыўная дыялектыка. Мысьленьне, як частка сусьветнага матэрыяльнага процэсу, зьяўляецца суб'ектыўнай дыялектыкай і адбівае ў сабе пануючы ва усёй прыродзе рух шляхам супроцьлегласьцяй, якія, як піша Энгельс, і абумоўліваюць жыцьцё прыроды сваімі пастаяннымі супярэчнасьцямі і сваім канечным пераходам аднае ў другую, або ў вышэйшыя формы [4]). Мысьленьне як у чалавека, так і ў вышэйшых жывёл падпарадкавана агуль-

[1]) Архив..., кн. І-ая, стар. 230.

[2]) Там-жа, стар. 57—59.

[3]) Там-жа, стар. 59.

[4]) Там-жа, стар. 61.

ным законам дыялектычнага разьвіцьця. Але чалавек умее карыстацца дыялектычным мэтодам вывучэньня знадворнага сьвету, тады як жывёлам не ўласьціва такое ўменьне. Ужываньне дыялектычнага мэтоду ў пазнаньні сьвету ёсьць пазьнейшы продукт гістарычнага разьвіцьця чалавечага грамадзтва.

У паводзінах чалавека буйную ролю адыгрывае воля. Апошняя выказваецца ў процэсе яго актыўнай дзейнасьці ў часе перамогі перашкод знадворнага асяродзьдзя на шляху да дасягненьня азначанай мэты. „Усё, што памушае да дзейнасьці паасобнага чалавека,—піша Энгельс,—няўхільна праходзіць цераз яго галаву, дзейнічаючы на яго волю“ [1]). Такім чынам, акалічнасьці знадворнага асяродзьдзя выклікаюць пэўны валявы акт цераз пасярэдніцтва цэнтральнай нэрвовай сыстэмы, зьяўляючыся прычынаю азначанага процэсу мысьленьня, у выніку чаго выяўляецца дзеяньне волі. Энгельс паказвае, што „воля азначаецца палам або пераконаньнем“ [2]). Але пал і пераконаньне не зьяўляюцца самастойнай катэгорыяй, незалежнай ні ад якіх іншых фактараў. Наадварот, яны ў сваю чаргу абумоўлены ўплывам розных акалічнасьцяй. Па думцы Энгельса. такімі акалічнасьцямі зьяўляюцца знадворныя прадметы, а іншы раз ідэальныя рухавікі, як, напр.: гонаралюбства, захапляючая любоў да ісьціны і праўды, асабістая нянавісьць і нават усякага роду дурасьці. Само па сабе зразумела, што гэтыя ідэальныя рухавікі ў канечным падрахунку азначаюцца вядомымі ўмовамі грамадзкіх адносін. Такім чынам, кірунак валявых актаў людзей абумоўліваецца соцыяльна-гістарычнымі прычынамі.

Актыўная і цьвёрдая воля сьведчыць аб цьвёрдым характары чалавека. Такія людзі больш усяго падыходзяць, напрыклад, для ролі грамадзкіх дзеячоў. Пасыўнасьць волі зьяўляецца ўмоваю нерашучых паводзін. Людзі з такою воляю лёгка паддаюцца ўплыву другіх і нават гіпнозу. Энгельс расказвае выпадак аб сваім экспэрымэнце з гіпнозаваньнем аднаго жвавага дванаццацігадовага хлопчыка [3]). У выніку гіпнозу была выяўлена амяртвеласьць мускулаў хлопчыка, страта ім чуласьці, а таксама „стан поўнай пасыўнасьці волі ў злучэньні з сваяасаблівай залішняй узбуджальнасьцю адчуваньняў“[4]). „Словам,—піша Энгельс,—у нашага пацыента была падвойная памяць: адна для стану поўнае прытомнасьці (бодрствования), а другая, зусім адасобленая, для гіпнотычнага стану. Што датычыцца пасыўнасьці волі, абсолютнага падпарадкаваньня яе волі, трэцяе асобы, то ў ёй няма нічога цудоўнага, калі толькі памятаць, што ўвесь стан пачаўся з падпарадкаваньня волі пацыента волі опэратара і

[1]) Энгельс. Людвиг Фейербах. Выд. Наркамасьветы, 1919 г., стар. 38.

[2]) Там-жа, стар. 35.

[3]) Архив..., кн. II-ая. стар. 111.

[4]) Там-жа, стар. 111.

ня мог атрымацца бяз гэтага падпарадкаваньня"[1]. Далей Энгельс паказвае, што адносіны паміж опэратарам і пацыентам становяцца больш інтэнсыўнымі і паасобныя зьявы ўзмацняюцца, выказваючыся нават у стане поўнае прытомнасьці (бодрствования) у тым выпадку, калі падлегласьць волі пацыента набывае звычайны характар.

Гэтыя мысьлі Энгельса аб гіпнозе маюць для нас вялікае значэньне. Тут мы знаходзім адкрытае прызнаньне гіпнотычных зьяў з боку марксызму. Аднак, прызнаючы гіпнотызм, як рэальнасьць, Энгельс зрывае з яго пакрыўку цудоўнага і містычнага, што хацелі прыпісаць яму некаторыя прыродадасьледцы накшталт Уольлеса, Крукса і інш. Ён даводзіць матэрыялістычную існасьць гэтае зьявы. Галоўным яго момантам ён лічыць стан пасыўнасьці волі пацыента, які ня мае сілы проціпаставіць сябе гіпнотычнаму ўплыву опэратара. Але калі здараецца, што пацыент мае актыўную і цьвёрдую волю, тады ніякі опэратар ня можа дабіцца станоўчых вынікаў гіпнозаваньня. „Самы магутны чараўнік-магнэтызёр становіцца бясьсільным, калі толькі яго пацыент пачынае сьмяяцца яму ў твар"[2],—са зьдзекам заўважае Энгельс па адрасу сьпірытуалістых.

Воля паасобных людзей у гістарычным процэсе мае не галоўнае, а другараднае значэньне. Гэта Энгельс тлумачыць так: „... дзейныя ў гісторыі многія адзінкавыя імкненьні ў большасьці выпадкаў вядуць за сабою зусім ня тыя вынікі, якія меліся на ўвазе. Вельмі часта гэтыя вынікі проста супроцьлеглы жаданьням дзеячоў. І ўжо паводле аднаго гэтага, пабуджэньні, якія рухалі дзеячамі, маюць у канечным падрахунку толькі другараднае значэньне"[3].

* * *

У гэтым артыкуле закрануты толькі некаторыя проблемы псыхолёгіі ў асьвятленьні Маркса і Энгельса. Але і гэта група проблем дае выстарчальнае прадстаўленьне аб псыхолёгічных поглядах асновапаложнікаў марксызму.

---

[1]) Архив..., кн. II, стар. 111.

[2]) Там-жа, стар. 111.

[3]) Энгельс. Л. Фейербах, стар. 35.

# КОНСТРУКЦЫЙНЫ СОЦЫЯЛІЗМ

*(Чацьвертая фаза ў гісторыі соц.-дэмократыі)*

## І. Герчыкаў

Тэрмін *„чацьвертая фаза“* ў адносінах да гісторыі соц.-дэм. руху, у асаблівасьці нямецкага, усё часьцей і часьцей сустракаецца ў рускай і чужаземнай літаратуры, як тэрмін, што адзначае той пэрыод, які зараз перажывае соц.-дэмокр. рух Эўропы і зноў такі ў *асаблівасьці Германіі.* Мы падкрэсьліваем у асаблівасьці Германіі таму, што нямецкая соц.-дэмократычная думка (Рудольф Гільфэрдынг, К. Каўцкі, Отто Баўэр і г. д.) іграе і надалей домінуючую ролю ў ІІ Інтэрнацыянале, ня гледзячы на тое, што самы соц.-дэм. рух—рух рабочае клясы Германіі—ужо ня йграе ў міжнародным рабочым руху тэй ролі, якую йграў да гэтага часу. Руская рэволюцыя, зьмена экономічнага становішча і, у сувязі з гэтым, завастрэньне клясавай барацьбы ў Англіі, кітайская рэволюцыя значна адсунула назад значэньне германскага рабочага руху.

Тэрмін *„чацьвертая фаза“* ўтвораны ў нямецкай літаратуры самімі тэорэтыкамі сучаснай соц.-дэм. і ў першую чаргу К. Каўцкім, які ў першым (красавіковым) нумары за 1924 г. соц.-дэм. журналу „Die Gesellschaft“ *) разьбівае гісторыю марксызму на чатыры фазы і дае характарыстыку кожнай з іх.

Але тэрмін *„чацьвертая фаза“* не аднолькавае значэньне і не аднолькавае ўжываньне мае ў рускай комуністычнай і ў нямецкай соц.-дэм. літаратуры. Калі ў другой гаворыцца аб чацьвертай фазе ў гісторыі *марксызму,* то ў першай і не выпадкова—у гісторыі соц.-дэмократыі. Нікольні ня гонячыся за дасьціпнасьцю, а жадаючы сапраўды вызначыць дакладныя адносіны паміж поглядамі на гісторыю разьвіцьця марксызму ў рускай комуністычнай літаратуры, я абазначыў-бы комуністычнае разуменьне цікавячай нас чацьвертай фазы, як чацьвертага пэрыоду ў адыходзе соц.-дэм. ад марксызму. З гэтага пункту погляду, той соцыял-дэмократычны рух, які цяпер уступіў у чацьвертую фазу свайго разьвіцьця, ёсьць паўнейшы і кардынальны адыход ад марксавае навукі, адыход, які сваімі каранямі адыходзіць далёка ў глыб часоў, яшчэ да ўзьніканьня рэвізіянізму, г. зн. да канца 80-ых і пачатку 90-ых г.г.

---

*) „Die Gesellschaft“ № 1. April 1924 г.—K. Kautsky—„Phasen und Zeitschriften des marxismus“.

XIX сталецьця. Гэта павінна азначаць, што калі для К. Каўцкага гісторыя соц.-дэмократыі і гісторыя марксызму ідэнтычны, то для комуністычнай гістарычнай навукі яны ня толькі не ідэнтычны, а больш таго,— яна павінна будзе з усёй масы плыняў інтэрнацыянальнага марксызму, у пераважнай сваёй масе вядомых да гэтага часу пад агульнай назвай соц.-дэмократычных, выбраць сапраўды марксыцкія і аддзяліць марксыцка-падобныя, або антымарксыцкія, і толькі першыя класьці ў аснову сапраўднай гісторыі марксызму, ад першых твораў Маркса і рэволюцыі 48 г., да апошніх твораў Леніна і рэволюцыі 1917-га году. Усё-ж астатняе павінна будзе быць вынесена за дужкі, і тады стане другая задача: паказаць, як з гэтага, вынесенага за дужкі, вырасьлі сучасныя „буржуазныя рабочыя партыі" (выраз Э. Варга[1]), якія носяць назву соц.-дэмократ. і марксыцкіх.

Такі падыход мае свае досыць глыбокія гістарычныя карэньні, калі прыняць пад увагу, што і Р. Люксэмбург і Плеханов, калі ён займаў левую позыцыю ў марксызьме, і ўсё тое левае ў марксызьме, што ў далейшым ператварылася ў комунізм, кваліфікавалі бэрнштэйнаўска-фольмараўскі рэвізіянізм, пры самым яго заражэньні, як антымарксызм, і патрабавалі выключэньня рэвізіяністых з партыі, а ў сучасны момант тэорэтычна, а праз увесь час практычна рэвізіянізм іграе вырашаючую ролю ў соцыял-дэмократыі.

Аналёгічную-ж працу ў адносінах да рускага комуністычнага руху робіць соцыял-дэмократыя. Бальшавізм, гэта—не марксызм, сьцьвярджаюць соцыял-дэмократы, а бакунізм. Марксызм разьвіваецца ў баку ад тых ідэй, якія ляжаць у аснове бальшавізму. Для прыкладу спашлемся на некаторыя месцы з названага артыкулу К. Каўцкага.

У невялікім і сьцісла напісаным артыкуле К. Каўцкі, не гаворачы аб гэтым адкрыта, увесь час вылучае ад марксызму тую плынь, з якое, па яго думцы, вырас бальшавізм. Гэта плынь—бакунізм, якая, з самага зараджэньня марксызму, стаіць у непрымірымай супярэчнасьці да яго.

Гаворачы аб інтэрнацыяналізьме раньняга марксызму, Каўцкі, між іншым, заўважвае: „Mit der Idee eines national eigenartigen sozialismus wie ihn seit Herzen und Bakunin eine Reihe russischer sozialisten verfochten, war der Markxismus von vornherein unvereinbar"[2]) („З ідэяй сваясаблівага нацыянальнага соцыялізму, як яго з часу Гэрцэна і Бакуніна адстойваў цэлы шэраг рускіх соцыялістых, марксызм з самага свайго ўзьнікненьня быў несумяшчальны"). Гаворачы аб часе ўзьнікненьня Інтэрнацыяналу, Каўцкі адзначае, што росту інтэрнацыянальных тэндэнцый у марксызьме не перашкодзіла ўзьнікненьне ў кожнай соцыялістычнай партыі сваіх нацыянальных проблем: „Das die Bewegung eines jeden Landes sich

---

[1]) Э. Варга—„Соц.-дэмокр. партыі". Масква, 27 г., стар. 7-ая.

[2]) К. Kautsky—„Phasen und zeitschriften des marxismus".—Die gesellschaft April 1924 j. s. 18.

seiner besonderen Eigenart anpasste und in diesem sinne einen nationalen charakter annahm"[1]) („Тое, што рух у кожнай краіне прыстасаваўся к яе асаблівасьцям, і ў тым сэнсе набыў нацыянальны характар"), — разам з тым гаворыць далей: „Diese nationale gestaltung der Taktik ist ueberall unvermeidlich, und nicht zu verwechseln mit der nationalrussischen gestaltung nicht bloss der Taktik, sondern auch der Theorie und der grundsätze, die Bakunin lehrte"[2]) („Гэта нацыянальнае афармленьне тактыкі ўсюды няўхільна і няможна яго зьмешваць з нацыянальным афармленьнем ня толькі *тактыкі*, а таксама *тэорыі* і прынцыпаў, якое прапаведваў Бакунін").

Шлях да ўтварэньня II Інтэрнацыяналу ляжаў праз перамаганьне бакунізму, гаворыць Каўцкі: „Zugleich (к часу ўтварэньня II Інтэрнацыяналу. І. Г.) hatten sich alle die vormarxistischen sozialistischen Anschaungen ebenso abgenutzt, wie der neuere Bakunismus in Russland und den romanischen Ländern" [3]) („Адначасна (к часу ўтварэньня II Інтэрнацыяналу. І. Г.) аджылі ўсе дэмократычныя і соцыялістычныя погляды так, як і новы бакунізм у Расіі і ў раманіцкіх краінах").

Так рэзка падкрэсьлівае і адцяняе Каўцкі даўно вядомыя супярэчнасьці паміж марксызмам і бакунізмам. Але нашто гэта патрэбна ў кароткім і сьціслым аглядзе, у якім з поўным посьпехам можна было-б абыйсьціся і бяз гэтай асаблівай увагі да бакунізму. Каўцкага, аказваецца, займае ня столькі бакунізм, колькі бальшавізм. Справа ўся ў тым, што бальшавізм не марксызм, а адроджаны бакунізм.

Гаворачы аб прычынах распаду І Інтэрнацыяналу, Каўцкі піша: „In Wirklichkeit wurde die „Internationale" völlig zersprengt, dank dem Sprengpulver, das der national—russische sozialismus Bakunins lieferte, desen neusste Auflage im Bolschewismus sich der Welt heute als der einzig wahre Marxismus anpreist"[4]) („У рэчаіснасьці, інтэрнацыянал быў да канца разбураны порахам, які даставіў нацыянальны рускі соцыялізм Бакуніна, *новае выданьне, якое ў бальшавізьме праслаўляе сябе цяпер сьвету, як адзіна сапраўдны марксызм*").

Так выразна вызначаюцца соцыял-дэмократамі дзьве супярэчлівыя лініі соцыялістычнага разьвіцьця: ад Бакуніна да Леніна і ад Маркса да навейшай формацыі соцыялізму—Гільфэрдынга, Отто Баўэра і Каўцкага.

З пункту погляду соц.-дэм., гэта чацьвертая фаза марксызму, зьяўляючыся вянцом, канцовым дасягненьнем агульнага разьвіцьця марксызму, зьяўляецца разам з тым зусім новай у ім эпохай і носіць сваю адзначальную назву: „*Конструкцыйны соцыялізм*".

---

[1]) K. Kautsky—„Phasen und zeitschriften des marxismus".—Die gesellschaft. April, 1924 s. 21.

[2]) Ibid.—стар. 21.

[3]) Ibid.—стар. 21.

[4]) Ibid—стар. 20 (падкрэсьлена намі. І. Г.).

У програмным артыкуле першым, у першым нумары Соц.-Дэмократ. журналу „Die Gesellschaft“, узьнікненьне якога (у красавіку 1924 г.) К. Каўцкі адзначае, як epochemachendes зьяўленьне, Рудольф Гільфэрдынг піша: „Wen Engels sein und Marxens Lebenswerk als den Fortschritt des sozialismus von der Utopie zur Wissenschaft bezeichnete, so handelt es sich jetzt um die anwendung des sozialwissenschaft auf die soziale organisation. Es wäre der Uebergang vom wissenschaftlichen zum Konstruktiven Sozialismus“ [1]) (Калі Энгэльс справу свайго жыцьця і Маркса вызначыў як прогрэс соцыялізму ад утопіі да навукі, то тут ідзе гутарка аб прыстасаваньні соцыяльнай навукі да організацыі грамадзтва. *Гэта ёсьць пераход ад навуковага да конструкцыйнага соцыялізму“).*

Паколькі мы тут падышлі к тэрміну конструкцыйны соцыялізм, трэба зараз-жа адзначыць, што конструкцыйны соцыялізм соц.-дэмократаў трэба адрозьніваць ад конструкцыйнага соцыялізму Рамзая Макдональда, тэорыю якога ён разьвіў галоўным чынам у дзьвёх сваіх працах: 1) „Соцыялізм крытычны і конструкцыйны“, вышаўшай у 1921 г. і 2) „Наша політыка“, вышаўшай у 1924 г. Калі соцыял-дэмократы грунтуюцца на Марксе, то Р. Макдональд адкрыта выступае супроць марксызму, матэрыялізму і клясавай барацьбы, як супроць „контынэнтальнай маны“, грунтуецца на соцыялістычных поглядах Гэрбэрта Спэнсэра. Ня дзіва, што сьледам за Макдональдам і Віктар Чернов у 1925 г. выдаў 1-шы том гаданай дзьвёхтомнай працы „Конструкцыйны соцыялізм“, у якой ён паўтарае зады старога народніцтва, заве ад Маркса зноў такі да Спэнсэра, а потым і да Міхайлоўскага і Лаврова [2]).

Якія-ж чатыры фазы марксызму адрозьнівае Каўцкі і чым у асаблівасьці адзначаецца апошняя *чацьвертая фаза.*

І-ая—гэта пэрыод рэволюцыі 48-га году і самай рэволюцыі.

ІІ-ая—пэрыод работы Маркса над 1-ым томам „Капіталу“, утварэньня Інтэрнацыяналу, выйсьця 1-га тому „Капіталу“ (1867 г.) да выданьня закону супроць соцыялістых у Германіі (1878 г.).

ІІІ-яя абымае пэрыод ад выданьня закону супроць соцыялістых да ўзьнікненьня сусьветнай вайны.

Сусьветная вайна ўводзіць нас, а з рэволюцыяй 1917—18 г. г. пачынаецца новая чацьвертая фаза марксызму.—„Der Weltkrieg bildete nur, гаворыць Каўцкі, die Einleitung zu einer neuen höheren Phase des Marxismus. Der Krieg endete mit Ferschärfung der Klassengegensätze und mit vermehrter Kraft der Arbeiterklasse, die des internationalen Zusammenhalts mehr als je bedurfte, ihn mehr als je suchte. Er führte, vielfach das Proletariat an die schwelle

---

[1]) Гл. Д. Марэцкі — „Идейные блуждания социал предательства“ — „Большевик“ № 2, 3-4 за 1925 г.

[2]) Rudolf Hilferding—„Probleme der Zeit“. „Die gesellschaft“ № 1—1924 s. 3- (падкрэслена намі, І. Г.).

der staatsmacht gestattete ihm stellenveise, diese schwelle zu überschreiten" [1]) („Сусьветная вайна,—гаворыць Кауцкі,—зьяўляецца толькі ўвядзеньнем у новую, больш вышэйшую фазу марксызму. Вайна скончылася заваострэньнем клясавых супярэчнасьцяй, павялічэньнем сілы рабочай клясы, якая больш чым калі-небудзь мела патрэбу ў інтэрнацыянальным аб'яднаньні, больш чым калі-небудзь яго шукала. Рознымі спосабамі вяла яна пролетарыят к парогу дзяржаўнай улады, а ў некаторых выпадках дазволіла яму пераступіць праз гэты парог"). Але для таго, каб прадставіць сабе поўнасьцю ўвесь зьмест гэтай фазы, нам патрэбна зьвярнуцца да цытаванага ўжо намі артыкулу Р. Гільфэрдынга „Probleme der zeit", які заслугоўвае выключнай увагі і якога цытуе Н. І. Бухарын у сваім дакладзе VII-му пашыранаму пленуму выканкому комінтэрну [2]).

Але раней, чым мы пяройдзем да вытлумачэньня гэтага зьместу, нашу ўвагу ня можа ня прывабіць тое, што Кауцкі ў сваім гістарычным аглядзе разьвіцьця марксызму так часта ўпапад і неўпапад спыняецца на лясальянстве, як быццам ён на марксызм ня меў ніякага ўплыву і яго марксызм не павінен быў перамагаць.

Я ня буду рабіць усяго вялікага ліку мажлівых па гэтаму поваду паказаньняў, я толькі прыцягну ўвагу да Марксавай крытыкі гоцкай програмы ў зьвязку з гэтымі лістамі Энгельса к Бэбэлю, каб даволі было пераканацца ў тым, што крытыка „сьвятога Фэрдынанда" (па выразу Энгельса [3]) „лясалеўскага сымболю веры (па выразу Маркса), да навукі якога эпітэт нямецкага нацыянальнага соцыялізму" прылажымы ўва ўсякім выпадку ня менш, чым да навукі Бакуніна, эпітэт „рускага нацыянальнага соцыялізму" займае ў гісторыі германскай соцыял-дэмократ. партыі ня меншае месца, чым крытыка Бакуніна ў гісторыі інтэрнацыянальнага соцыялістычнага руху. У гэтых адносінах між лёсам бакунізму і лясальянства вялікая розьніца, якая заключаецца ў тым, што Маркс меў досыць сілы, каб зрабіць уплыў у бок роспуску Інтэрнацыяналу, калі яго перамагалі бакунізм і прудонізм, і ў тым, што ён ня меў даволі сіл, каб разбурыць саюз паміж поўлясальянцамі, эйзэнахоўцамі і лясальянцамі, у аснову якога лягла гоцкая програма, якую Маркс прызнаваў „занадта пачварнай і дэморалізуючай партыю", саюз, які Маркс ня лічыў патрэбным заключаць і за які ён ня браў на сябе ніякай адказнасьці, саюз, з якога вырасла германская соц.-дэм. партыя. Я зусім не датыкаюся нявывучанага пытаньня аб адносінах Лясаля і лясальянцаў да проблемы інтэрнацыянальнай барацьбы рабочай клясы, я толькі напомню наступнае месца з ліста Маркса да Кугельмана, напісанага 23 лютага 1865 г. „Посьпех „Association" (Інтэрнацыяналу),—

[1]) Гл. Д. Марэцкі — „Идейные блуждения социал-предательства" — „Большевик" № 2, 3—4 за 1925 г., стар. 22.

[2]) Н. І. Бухарын: „Капиталистическая стабилизация и пролетарская революция". Госиздат" М. 27 г., стар. 117.

[3]) Лісты Ф. Энгельса да Бэрнштэйна — „ Архіў К. Маркса і Ф. Энгельса", кніжка 1-я.

піша Маркс,—як тут, так і ў Парыжы, Бэльгіі, Швэцыі і Італіі перавысіў усе чаканьні. Толькі ў Германіі мне, натуральна, утвараюць опозыцыю пасьлядоўнікі Лясаля, якія: 1) па дурасьці баяцца ўмаленьня іх уласнага значэньня; 2) ведаюць мае адмоўныя адносіны да таго, што немцы называюць „рэальнай політыкай". Далей, з прычыны таго, што лясальянцы ня ўступілі ў Інтэрнацыянал, Маркс стараецца ўтварыць ячэйкі Інтэрнацыяналу супроць лясальянцаў: „Я цяпер парашыў,—піша ён,—прапанаваць маім прыяцелям у розных мясцох Германіі організаваць у кожным месцы маленькія таварыствы, усё роўна, з якога ліку членаў, прычым кожны член *гэтага таварыства* атрымаў-бы ангельскую сяброўскую картку" [1]).

Гэтае грэбаваньне лясальянствам тым больш дзіўна, што Лясаль і лясальянства займаюць вялізарнае месца ў сучаснай соцыялістычнай літаратуры, у асаблівасьці пасьляваеннай. Што соцыял-дэмократыю ня толькі ў рускім, але і нямецкім лева-соцыялістычным і буржуазным друку абвінавачваюць у поўным адыходзе ад Маркса да Лясаля.

„Па іроніі лёсу якраз у нашы дні,—гаворыць К. Корш у сваёй прадмове да крытыкі гоцкай програмы [2]),—найбольш моцны па ліку соцыялістычны напрамак у Германіі—германская соцыял-дэмократычная партыя—у сваёй новай *гёрліцкай програме* (23 верасьня 1921 г.) формальна адмовілася ад усякага марксызму і зноў напісала на сваім сьцягу якраз тыя лёзунгі Лясаля, дзеля руйнаваньня якіх Маркс пісаў сваю крытыку гоцкага проекту програмы. Каўцкі, якога яшчэ ня так даўно ня толькі такія заўвагі, але пераацэнка значэньня Лясаля Мэрынгам прымусіла выступіць супроць Мэрынга з артыкулам у Neue Zeit, Каўцкі, які яшчэ нядаўна ў № 3 за 1923 г. журналу „Der Kampf" у артыкуле „Маркс і Лясаль" пісаў, што „адносіны паміж поглядамі Маркса і Лясаля лепей за ўсё могуць быць выяўлены на аснове памянёнага намі ліста Маркса к Кугельману", а ў гэтым лісьце Маркс пісаў, што ён асуджаў політычную тактыку Лясаля і што яшчэ ў Лёндоне ён, Маркс, падрабязна „растлумачыў і даказаў" Лясалю, што гаварыць аб непасрэдным соцыялістычным умешваньні такой дзяржавы, як Прусія, бяссэнсіца, а аб перагаворах Лясаля з Бісмаркам гаворыць, што „Лясаль на справе прадаў партыю". Калі ў 1923 г. Каўцкі зусім, як відаць, солідарызаваўся з гэтымі думкамі з ліста Маркса, то ў 24 г., датыкаючыся ў агульных рысах політычнае спадчыны Лясаля, ў артыкуле „Lassalle und die gräfin Hatzfelb" [3]) ён не палічыў патрэбным выступіць супроць тых і надта блізкіх яму соц.-дэмократаў, якія якраз усё тое, што ганьбіў у лясальянстве

[1]) Ліст гэты маецца ў якасьці дадатку да артыкулу К. Каўцкага „Маркс і Лясаль", надрукованы ў № 3 „Der Kampf" за 23 г., артыкул перадрукованы ў зборніку „Памяці Лясаля". Госиздат Украины, 25 г.

[2]) К. Маркс—„Увагі на програму германскай рабочай партыі" з уступным артыкулам К. Корша. Москва, 23. Госиздат.

[3]) „Die Gesellschaft", 1924 г. № 4.

Маркс—ухвалялі. Так, напрыклад, Караль Рэнэр пісаў у 1923 г., „што яго партыя разьдзяляе погляды Лясаля па ўсіх важнейшых програмных пунктах (у пытаньні аб дзяржаве, рэволюцыі і г. д.), а ў 1925 г.: „Калі азірнемся на 60 год назад, то мы ўбачым, што Лясаль меў большую рацыю, чым мы гэта лічылі да гэтага часу. Маркс бачыў на сталецьці ўперад, але дзесяцілецьці, у якіх мы жывем, правільна *ва ўсіх адносінах* (падкрэсьлена намі. І. Г.) прадбачыў Лясаль" [1]). І так, Маркс адсунуты ўдаль, Лясаль выступае на пярэдні плян. А сам Каўцкі пісаў ў 1924 г., што „з ідэй Лясаля дзьве набылі сусьветна-гістарычнае значэньне: вызваленьне пролетарыяту ад буржуазных партый і яго організацыя ў самастойную клясавую партыю і дасягненьне ўсеагульнага, роўнага выбарчага права, як магутнага сродку пролетарыяту ў яго барацьбе за палітычную ўладу" [2]). І ні слова аб разьбежнасьці паміж лясалеўскім і гэгэманскім разуменьнем дзяржавы і матэрыялістычным, клясавым разуменьнем Маркса, ні слова аб тэй пераацэнцы значэньня ўсеагульнага выбарчага права і таго няправільнага зьместу, які ў гэты лёзунг укладваўся, у залежнасьці ад лясалеўскага разуменьня дзяржавы. Так Лясаль ідэнтыфікуецца з Марксам і робіцца аднолькавым з ім асновазакладнікам марксызму.

Усякі, хто знаёмы з манэрай агітацыі Лясаля, ведае, што шмат якія яго творы маюць прыкрыты характар з наўмысна-адхіленай рэволюцыйнасьцю, і з повбаду, напрыклад, усеагульнага выбарчага права мы маем дзьве думкі Лясаля. Адна з іх: „Хто стаіць за агульнае выбарчае права, той заве да прымірэньня" бярэ ў якасьці эпіграфу да сваёй рэвізіі марксызму ў „прадпасылцы социялізму" Эдуард Бэрнштэйн, другую думку перадае К. Корш, гаворачы: „Бо на ўсё калі-небудзь сказанае або напісанае Лясалем аб „усеагульным выбарчым праве" і таму падобных рэчах пралівае вялізарны сьвет палажэньне, якое ён выказаў у кругу сваіх блізкіх: „Кожны раз, калі я гавару ўсеагульнае выбарчае права вы павінны разумець пад гэтым: рэволюцыя і яшчэ раз рэволюцыя". Усё напісанае Каўцкім у апошнія гады не пакідае сумненьня ў тым, што ён прымае Лясаля ў духу Бэрнштэйна, а ня Корша.

У самы разгар імпэрыялістычнай вайны ў лютым м-цы 1915 году Роза Люксэмбург у вядомай брошуры—„Крызіс социял-дэмократыі"—з болем пісала:

„У красе маладосьці і юнацкай сілы гінуць тысячы тых (пролетараў і г. д.), чыё социялістычнае выхаваньне ў Англіі, Францыі, Бэльгіі, Германіі і Расіі было вынікам дзесяцігадовай пропагандыцкай і агіта-

---

[1]) Karl Renner.—„Ferdinand Lassalle. Auswahl von Reden und Schriften nebst kurzer Biographie und geschichtlicher Einführung". Berlin, 1923. K. Renner—„Lassalles geschichtliche Stellung" „Die geselschaft" № 4 1925. Цытую па П. Вінаградзкай „Фэрдынанд Лясаль".

[2]) К. Каўцкі—„Lassalle und die gräfin Hatztfeld". „Die gesellschaft". № 4 1924 г.

цыйнай працы“, гэты гэніяльны крытык каўцкіянства і рэвізіянізму глядзеў на гэтыя тысячы пролетараў, як на атрымаўшых марксыцкае выхаваньне. У той-жа час Макс Адлер у сьнежні 1914 г. аб тых-жа пролетарах пісаў, што гэта „лясалеўскія батальёны выконваюць у справе абароны бацькаўшчыны тое, што ім дыктуе абавязак“[1]). „У духу Лясаля або Маркса былі выхаваны тыя батальёны пролетараў, якіх на службу імпэрыялізму паставіла соц.-дэмократыя, гэта тое кардынальнае пытаньне, на якое павінна адказаць новая гісторыя соцыял-дэмократыі, паколькі чатырохтомная гісторыя соц.-дэмокр. Ф. Мэрынга поўная памылак у сэнсе ацэнкі Лясаля, лясальянства і значэньня лясальянства ў соц.-дэмократычным руху. Мы далёкі ад выказванага П. Вінаградзкай сумненьня ў тым, што соцыял-дэмократы калі-небудзь былі марксыстымі“ [2]), але што роля лясальянства недаацэнена, гэта ня можа прадстаўляць сумненьня.

Гэта тым пэўней, што лёзунг назад к Лясалю зусім ня новы. Ён загучэў, фактычна, яшчэ раней, чым Бэрнштэйн у канцы 90-ых гадоў пачаў рабіць сваю рэвізію марксызму, варочаючыся к Лясалю фактычна, ня гледзячы на адмоўную тэорытычную крытыку.

Раней за крытыку Бэрнштэйна мела месца рэвізіяніцкая дзейнасьць Фольмара, якая пачалася з самага пачатку 90-ых гадоў. Вельмі цікава, як Фольмар сьцьвярджаў, што „дзяржаўна-соцыялістычныя мерапрыемствы (пануючых кляс), апрача волі іх тварцоў, па сутнасьці зьяўляюцца мерапрыемствамі па будаўніцтву соцыялізму“ [3]), падобна таму, як і Лясаль марыў аб соцыялізьме, які павінен быў выліцца з дзейнасьці Бісмарка, апрача волі і сьвядомасьці самога Бісмарка. У 1894 г. Фольмар прыняў запрашэньне на вячэру аднаго з баварскіх міністраў. Ён ня бачыў нічога ганебнага ў тым, каб прымаць запрашэньне міністра на вячэру (дзе, сапраўды, можна знайсьці лепшыя абставіны для перагавораў [4]). Ад славутных перагавораў Лясаля з Бісмаркам, міністэрскай вячэры Фольмара, уступленьне Мільерана ў 1899 г. ў буржуазнае міністэрства Вальдэка—Руссо ва Францыі да сёнешняй згодніцка-коаліцыйнай політыкі соц.-дэмократыі цягнецца адна лінія, і не дарэмна сучасныя соцыял-дэмократы робяць цяпер пераацэнку, здаецца, ужо даўно, беззваротна і аднагалосна ўсьлед за Марксам, асуджаных усёй соц.-дэмократыяй бісмаркаўска-лясальянскіх адносін; і Конрад Бэніш у сваёй працы: „Лясаль—чалавек і політык“, напісанай па даручэньні партыі ў 1923 г., прымае тактычны паварот Лясаля ў бок Бісмарка, безагаворачна, як рэволюцыйную тактыку, бо і Бісмарк, як аказваецца, таксама быў рэволюцыянэрам, з тэй толькі розьніцай, што „Лясаль быў дэмократычным і соцы-

---

[1]) Цытуем па П. Вінаградзкай, opus cit., стар. 10.

[2]) Ibid., стар. 11.

[3]) Е. Рывлін—„Борьба течений в Германской социал-демократии“. „Под знаменем марксизма“ № 11 за 1926 г.

[4]) Ibid., стар. 154.

яльным рэволюцыянэрам, а Бісмарк—нацыянальным рэволюцыянэрам"[1]). Між іншым, гэты пункт погляду на Бісмарка, як на рэволюцыянэра, належыць ня Гэнішу, а К. Каўцкаму, і выказаны ў аднэй з старых яго прац.

Ĭ так, ясна, чаму Каўцкі, кажучы аб Бакуніне, не знаходзіць патрэбным гаварыць аб Лясалі, бо між Лясалем і Марксам пастаўлен Каўцкім знак роўнасьці, а яго супартыйцамі Лясалю пераданы прыорытэт у сэнсе гістарычнага ўплыву на соц.-дэмократычны рабочы рух.

Цяпер мы вернемся да артыкулу Гільфэрдынга, які ўкладвае зьмест у чацьвертую фазу ў гісторыі соц.-дэмократыі.

Мы толькі крыху спынімся на поўнасьцю разьбітых цяпер ужо разважаньнях Гільфэрдынга аб росьце дэмократычных адносін у сучасных дзяржавах Эўропы. Гэтыя суджэньні выказваліся, праўда, яшчэ прыблізна нядаўна ў красавіку 1924 г., але малюнак палітычнага стану Эўропы за мінулы час так зьмяніўся, што разважаньні Гільфэрдынга гучаць глыбейшым анархізмам і наіўнасьцю, з непраўдападобнай лютасьцю асьмеяннай часам.

Імпэрыялістычная вайна, разважае Гільфэрдынг, патрабавала надзвычайнай напружанасьці прамысловасьці, каторая не магла быць выклікана прымусовымі мерамі, а таму дзяржава была прымушана ўвайсьці ў згоду з рабочымі, якія праз свае організацыі зьвязаліся з дзяржавай, якая да гэтага часу была ім чужой, а больш таго—профэсыянальныя саюзы зрабіліся часткай дзяржавы разам з аб'яднанымі органамі і бюрократыяй дзяржаўнага кіраўніцтва. Ĭ гэтыя палажэньні, якія павінны былі адзначыць прымірэньне клясавых супярэчнасьцяй у буржуазнай дзяржаве, гучаць дзіка пры сьвеце нядаўнай барацьбы ангельскіх вуглякопаў і ўжыванага цяпер у Англіі закону супроць профсаюзаў.

Сутнасьцю-ж артыкулу Гільфэрдынга зьяўляецца вучэньне аб тым, што капіталізм перажывае новую фазу разьвіцьця, пры якой процэс утварэньня трэстаў і сындыкатаў у рамках нацыянальна-дзяржаўных і інтэрнацыянальных вядзе да перамаганьня анархіі ў капіталістычнай вытворчасьці і ўтварае „організованы капіталізм" (organisierte kapitalismus). У „організованым капіталізьме" інтарэсы асобных прадпрыемцаў адыходзяць на задні плян і ярчэй выступаюць уперад інтарэсы ўсёй капіталістычнай гаспадаркі, якая цяпер можа рэгулявацца з цэнтраў, што стаяць ня толькі над асобнымі гаспадаркамі, але і над цэлымі дзяржаўнымі ўтварэньнямі. Гаспадарчыя органы пры Лізе Нацый павінны разьвіцца ў тыя цэнтры, з якіх павінна ісьці рэгуляваньне гаспадаркі ў сусьветным маштабе. Плянавая гаспадарка—пераддзьвер'е соцыялізму—утвараецца ўжо ўнутры капіталістычнага грамадзтва. Гандлёвыя і прамысловыя крызісы, хваляваўшыя да гэтага часу капіталістычнае грамадзтва, пры такой плянавай організацыі капіталізму зыходзяць на нішто. Параджэньне гэтых крызісаў і ўсіх супраціўленьняў капіталістычнага грамадзтва—войны і

[1]) П. Вінаградзкая, opus. cit., стар. 7.

рэволюцыі—робяцца зусім непатрэбнымі. Задача соцыял-дэмократыі зводзіцца к таму, каб у таварыстве з перадавымі элемэнтамі буржуазіі будаваць гэты „организаваны капіталізм“, эволюцыянізуючы праз яго да соцыялізму, ажыцьцяўленьне якога прасоўваецца ў надзвычайна далёкую будучыну, як задача, аб якой думаюць, але не гавораць.

Ад марксызму да лясальянства, ад рэволюцыйнага соцыялізму да рэформізму, такі той шлях, які завяршыла соцыял-дэмократыя, і чацьвертая фаза яе гістарычнага існаваньня гэты факт і адзначае. А назва *„конструкцыйны соцыялізм“*—гэта толькі прыкрыцьцё для тых рэвізіяніцкіх шляхоў, якія рашуча адкідаліся калісьці Каўцкім, Гільфэрдынгам і К⁰ і на якія яны вярнуліся цяпер, марна жадаючы захаваць той факт ад няскромных поглядаў пабочных назіральнікаў.

# АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ РАЗЬВІЦЬЦЯ ЗЯМЕЛЬНАГА ЗАКОНАДАЎСТВА БССР

**Аўг. Вішнеўскі**

Сучаснае зямельнае права БССР адрозьніваецца ад зямельнага права іншых саюзных рэспублік дзякуючы мясцовым, гістарычным і бытавым асаблівасьцям нашай краіны.

У залежнасьці ад тых задач, што ў розныя часы ставіла Савецкая ўлада ў галіне зямельнай палітыкі, зямельнае законадаўства ў нас мае наступныя этапы свайго разьвіцьця: 1) ажыцьцяўленьне нацыяналізацыі зямлі 2) зямельная рэформа, 3) узгодненьне зямельнага законадаўства з асновамі новай экономічнай палітыкі і 4) кодыфікацыя законадаўства ў зямельных кодэксах. Адначасна з кодыфікацыяй зямельнага законадаўства пачалася ў нас абрэзка напоўпрацоўных гаспадарак, зьвязаная з надзелам зямлёй. Пра гэта варта пагаварыць асобна.

## 1. Нацыяналізацыя зямлі ў БССР

Пасьля Лютаўскае рэволюцыі сялянства не дачакалася ад часовага ўраду ажыцьцяўленьня зямельнае рэформы ды само ўзялося за ліквідацыю памешчыцкага зямляўладаньня. Пад восень 1917 году зямельны рух, які меў на мэце дзяльбу памешчыцкай зямлі, у Цэнтральнай Расіі, на паўднёвым усходзе ды на Украіне набыў стыхійны характар. Гэтым тлумачыцца тое, што Савецкая ўлада пасьля Кастрычнікавага перавароту ў сваіх першых законах—дэкрэце аб зямлі з дадаткам да яго сялянскага наказу ад 26 кастрычніка 1917 году і ў асноўным законе аб соцыялізацыі зямлі ад 19 лютага 1918 году—пачала ажыцьцяўляць прынцыпы соцыялізацыі зямлі.

Соцыялізацыя ці аграмаджаньне зямлі выяўлялася ў тым, што ўся зямля абвешчана была агульнанароднай маемасьцю, усялякая ўласнасьць на зямлю была скасавана, карыстацца наёмнай працай, прадаваць, купляць ды рабіць розныя ўгоды на зямлю было забаронена. Хто хоча працаваць на гаспадарцы сам, мае права ў парадку чаргі атрымаць для карыстаньня зямлі столькі, колькі вызначана спажывецка-працоўнай нормай.

Дзеля дасягненьня пастаўленых задач уся зямля павінна была пэрыодычна перадзяляцца ў залежнасьці, галоўным чынам, ад прыросту насельніцтва. Апрача таго, павінна было шырака практыкавацца перасяленьне з малазямельных мясцовасьцяй. Ураўнальнае пераразьмеркаваньне

зямлі рабілі самі сяляне ды органы мясцовага самакіраўніцтва—валасныя зямельныя камітэты.

Пролетарыят, забраўшы пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ўладу ў свае рукі, ня быў згодны з ідэяй соцыялізацыі, бо яна з усяе дзяржавы рабіла нейкую перадзельную грамаду (вобшчыну) і таму супярэчыла канечнасьці павялічэньня продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі. Аднак, ён пачаў ажыцьцяўляць гэту ідэю, ідучы на спатканьне жаданьню сялянства, як гэта відаць з наступнай выняткі са стар. 480, т. XV Збору твораў Леніна [1]):

„Ажыцьцяўляючы закон аб соцыялізацыі зямлі—закон, душой якога зьяўляецца лёзунг ураўнальнага зямлякарыстаньня,—бальшавікі з самай поўнай дакладнасьцю ды адзначанасьцю заявілі: гэта ідэя—ня наша, мы з такім лёзунгам ня згодны; мы лічым за абавязак ажыцьцяўляць яго, бо так жадае пераважная большасьць сялян. А ідэя і вымаганьні большасьці працоўных мусяць быць пазбыты імі самымі: ні скасаваць такіх вымаганьняў, ні пераскочыць праз іх нельга. Мы, бальшавікі, будзем дапамагаць сялянству пазбыцца дробнабуржуазных лёзунгаў, перайсьці ад іх як мага хутчэй і як мага лягчэй да соцыялістычных“.

Закон аб соцыялізацыі зямлі ў ранейшай Менскай губ. не ажыцьцёвіўся, бо праз 6 дзён пасьля яго выданьня губэрня гэта была окупавана немцамі, а дагэтуль яна была прыфронтавай паласой, дзе, з прычыны ваенных абставін, нельга было ажыцьцяўляць зямельныя мерапрыемствы.

10 сьнежня 1918 году, дзякуючы лістападаўскай рэволюцыі ў Нямеччыне, немцы з Менску выйшлі, а 30 сьнежня VI Паўночна-заходняя Абласная Конфэрэнцыя РКП пастанавіла абвясьціць самастойную соцыялістычную рэспубліку Беларусі.

З першых дзён свайго існаваньня Савецкая ўлада ў БССР агаласіла ды пачала ажыцьцяўляць прынцып нацыяналізацыі зямлі, у адзнаку ад РСФСР, як гэта відаць з загаду № 27 Менскага Губваенрэўкому і конституцыі, прынятай 4 лютага 1919 году Першым Беларускім Зьездам Саветаў.

Загад № 27 надзычай цікавы. З паданых далей вынятак відаць, якія задачы ставіла сабе ў галіне сельскай гаспадаркі Савецкая ўлада ў гэты цяжкі час барацьбы з імпэрыялістымі:

„Воляй працоўнага народу, коштам многіх дарагіх нам жыцьцяў улада памешчыкаў, капіталістых, фабрыкантаў ды кулакоў скінута. У непамерных пакутах адраджаецца новая вялікая Расія. Вызваленыя Рабоча-Сялянскім Урадам з-пад уціску нямецкіх генэралаў рабочыя ды сяляне Менскай губэрні пасьля доўгага спаньня зноў атрымалі магчымасьць вольна ўздыхнуць і рабіць сваю вялікую ды сьвятую справу за шчасьце народу, за дабрабыт Расіі, за вялікія лёзунгі братэрства і роўнасьці.

[1]) Дз. Выд. Масква. 1925 г.

Надышоў час напружнай працы. Мы павінны шчыльней згуртаваць свае шэрагі, падвоіць, патроіць свае сілы, каб адбіць сусьветных драпежнікаў імпэрыялістых, што акружылі нас з усіх бакоў, што прагнуць народнае крыві ды імкнуцца абавязкова вярнуць зямлю памешчыкам, фабрыкі ды заводы капіталістым, каб зноў запрыгоніць на шмат вякоў рабочых і сялян.

Лепшыя людзі Расійскай зямлі б'юцца ў шэрагах Чырвонай арміі ды льлюць кроў за шчасьце ўсяго народу. Наша задача ў тылу—абярнуць Расію ў адзін ваенны лягер. Мы павінны ўжыць усе захады, каб палегчыць лёс Чырвонай арміі, напаіць, накарміць ды адзець яе. Мы павінны падвоіць, патроіць продукцыйнасьць сельскай гаспадаркі, дзеля чаго трэба скарыстаць усю вольную зямлю, усе сваі сілы мы мусім далажыць, каб захаваць маёнткі ды лясы ад разбурэньня і распаду".

У загадзе гаворыцца, што для дасягненьня ўсіх гэтых мэтаў зямля ды лясы з гэтага часу складаюць уласнасьць рэспублікі, усе непрацоўныя памешчыкі ды арандатары павінны быць выселены з маёнткаў, а маёнткі трэба падлічыць і скласьці падрабязныя сьпісы; пры павятовых зямельных аддзелах організуюцца пад'аддзелы для кіраўніцтва савецкімі гаспадаркамі; разбураныя маёнткі павінны быць адбудаваны, дзеля чаго трэба абсталяваць іх жывым і няжывым інвэнтаром. Сячы лес без дазволу і цягаць маемасьць з маёнткаў бязумоўна забаронена. Гэтаму трэба перашкаджаць усімі магчымымі сродкамі, ня спыняючыся нават перад расстрэлам.

Той самы прынцып нацыяналізацыі зямлі праводзіцца і ў констытуцыі, у пункце „а" арт. 2, у якім зазначана, што прыватная ўласнасьць на зямлю касуецца, і ўвесь зямельны фонд абвяшчаецца агульнадзяржаўнай маемасьцю.

Якім-жа спосабам ажыцьцяўлялася ў нас ідэя нацыяналізацыі зямлі? Адказ на гэта пытаньне мы знойдзем у наступных вынятках справаздачы аб працы Народнага Камісарыяту Зямляробства за 1919 год спачатку ў Вільні, а потым у Менску:

„У Савецкай Літве, згодна асноў комуністычнай політыкі ў зямляробстве, адразу быў пастаўлены прынцып *нацыяналізацыі*, які выявіўся ў тым, што касуецца прыватная ўласнасьць на ўсю без выключэньня зямлю, што дзяржава непасрэдна ўзяла ўсе больш значныя вучасткі зямлі і прызнала дробных уласьнікаў арандатарамі дзяржавы.

Нацыяналізацыя зямлі і стварэньне савецкіх гаспадарак палегчыла тое, што ў нашым краі ня было вялікіх імкненьняў да дзяльбы зямлі. Бязумоўна яны былі, але толькі як патайныя жаданьні, якія актыўна сябе не выяўлялі. Прычынай гэтага былі ня толькі агульныя гістарычныя ды экономічныя ўмовы краіны, але і амаль што адсутнасьць рэзкай клясавай барацьбы, асабліва за апошнія гады, а таксама існаваньне досыць моцнае клясы сельскага пролетарыяту—парабкоў.

Формы, якія мусіла набыць гаспадарчае жыцьцё на вёсцы—гэта, з аднаго боку, савецкія гаспадаркі, пабудованыя на ўзор надта вялікіх маёнткаў, з другога—прыватнае зямлякарыстаньне сялян, якія аграмаджвалі свае дробныя гаспадаркі пры дапамозе розных відаў коопэрацыі. Імкненьня да арцеляў ды комун, так пашыранага ў Расіі, не заўважалася, што тлумачыцца гістарычнымі ды экономічнымі асаблівасьцямі краіны.

У той-жа час умовы працы ў Савецкай Беларусі былі іншыя, як умовы, у якіх Народнаму Камісарыяту Зямляробства давялося разьвіваць сваю чыннасьць у Вільні. Менская губэрня перажыла Лютаўскую ды Кастрычнікавую рэволюцыі. Лёзунгі рэволюцыі былі ёй знаёмы таксама, як і політычныя групоўкі ды іх чыннасьць. Насельніцтва актыўна адносілася да ўсіх мерапрыемстваў рэволюцыйнае ўлады. Апрача таго, Менская губэрня перажыла 9 месяцаў нямецкай окупацыі і мела магчымасьць з практыкі пераканацца, што нясуць з сабой ворагі савецкага ладу.

У ранейшай Менскай губ. было вельмі многа маёнткаў. Яны былі добра абсталяваны з добра наладжанай гаспадаркай. З прычыны ўсяго гэтага нацыяналізацыя маёнткаў з самага-ж пачатку набыла тут больш шырокія разьмеры, як у Расіі. Жыцьцё кіравала на іншы шлях, чым той, што вызначан быў законамі, існаваўшымі ў РСФСР.

Тут варта зазначыць, што асаблівага пярэчаньня нацыяналізацыі зямлі сярод сялян не заўважалася, ня было таксама і настойнага імкненьня да дзяльбы зямлі. У параўнаньні з Віленскай губ., гэтыя тэндэнцыі, бясспрэчна, былі мацнейшыя, з імі мусілі ўвесь час змагацца, але змаганьне гэта абмяжоўвалася мерапрыемствамі агітацыйнага характару.

У канцы сакавіка 1919 г. нашы войскі забралі Вільню, і савецкія рэспублікі Беларусі ды Літвы злучыліся. Тады вось і ўзяліся за ўзгадненьне кірункаў у зямельнай політыцы.

Былі ўзяты пад увагу іншыя ўмовы Менскай губэрні, якая перажыла амаль год рэволюцыі (з сакавіка 1917 па люты 1918 г.) і была пад уплывам тэй зямельнай політыкі, што ажыцьцяўлялася тады ў РСФСР ды выразілася ў законе аб соцыялізацыі зямлі.

Ня гледзячы на гэта, а таксама на некаторыя гістарычна-экономічныя ды нацыянальныя асаблівасьці, зямельная політыка ў сваім галоўным кірунку засталася тэй, якую агаласіў урад яшчэ ў Вільні, а менавіта—політыка шырокай нацыяналізацыі ды апірышча на сельска-гаспадарчых рабочых.

Галоўным для накіраваньня зямельнай політыкі зьявілася пастанова, што толькі тыя выданыя РСФСР законы абавязковы і для Савецкай Літвы і Беларусі, якія пацьверджаны ўрадам Савецкай Літвы і Беларусі. У лік гэтых законаў не ўвайшло „Палажэньне аб соцыялістычным зямлябудаўніцтве.

У пачатку ліпня ў Менску адбылася конфэрэнцыя адказных працаўнікоў Літвы ды Беларусі, дзе горача абгаварвалася зямельная політыка.

Тут пагадзіліся на тым, што кіравацца законамі РСФСР, у аснове якіх ляжыць іншы прынцып, нельга. Ужываньне гэтых законаў, час ад часу канечна патрэбнае для вырашэньня прыватных пытаньняў, робіць блытаніну ды зьбівае з панталыку мясцовых працаўнікоў. Выявілася, што на мясцох пасвойму і розна разумеюць разьвязаньне зямельнага пытаньня і што *нацыяналізацыя, але не соцыялізацыя зямлі адпавядае гаспадарчаму жыцьцю краіны*".

Такім чынам, практычнае ажыцьцяўленьне ў БССР нацыяналізацыі зямлі выявілася ў тым, што ўсе без выключэньне маёнткі былі забраны пад непасрэднае кіраўніцтва зямельных органаў. У залежнасьці ад стану ды ступені культурнасьці маёнткі падзяляліся на 3 катэгорыі. Да першай належалі самыя лепшыя. Туды назначаны былі кіраўнікі ды перадаены інвэнтар і насеньне з усіх іншых экономій. Маёнткі першай катэгорыі павінны былі функцыянаваць пры дапамозе тых парабкоў, што ў іх жылі. Рэшту маёнткаў пакінулі былі пад загадам палітычных пад'аддзелаў пры павятовых зямельных аддзелах. Гаспадарыць у гэтых маёнтках, пакуль яны ня будуць абсталяваны, павінны парабкі ды ваколічныя жыхары, якія мелі за сваю працу ў маёнтку пэўную часьць ураджаю.

Сялянам у гэты час была пакінута тая зямля, якой яны фактычна карысталіся. Сярод іх разьмеркаваньня былой непрацоўнай зямлі не рабілі і не адразалі зямлі ад буйных сялянскіх ды наогул працоўных гаспадарак.

Значыць, у той час, калі ў РСФСР ажыцьцяўляўся прынцып соцыялізацыі, г. зн. адбывалася ўраўнальнае пераразьмеркаваньне ня толькі былой непрацоўнай, але нават і сялянскай зямлі, прычым нацыяналізацыя агалошана была там толькі ў зямельным кодэксе, які ўвайшоў у сілу з 1 сьнежня 1922 г., у нас, у БССР, нацыяналізацыя зямлі агалашаецца і ажыцьцяўляецца ўжо спачатку 1919 г.

Далейшаму самабытнаму разьвіцьцю нашага зямельнага законадаўства перашкодзіла польская окупацыя, якая цягнулася з 8 жніўня 1919 г. па 11 ліпня 1920 г., калі быў забраны ды вызвалены г. Менск.

## 2. Зямельная рэформа ў БССР

Сьледам за вызваленьнем тутэйшага краю ад улады белапалякаў распачалася кіпучая праца зямельных органаў па падрыхтоўцы зямельнай рэформы. Прынцыпы яе былі вызначаны яшчэ ў Смаленску Цэнтральным Камітэтам Комуністычнай партыі Літвы і Беларусі ў тэзах па зямельным пытаньні ад 24 мая 1920 г.

Перш за ўсё былі падлічаны ўсе памешчыцкія маёнткі. Складалі пры гэтым самыя падрабязныя сьпісы ўсяе тае маемасьці, што была знойдзена, і яна перадавалася на схоў камітэтам парабкоў. Потым наладжаны быў апарат, каб праца ў маёнтках ішла бязупынна. Тады-ж Народны Камісарыят Зямляробства вызначыў у выпрацаваных ім тэзах шляхі зямельнай рэформы. Тэзы па зямельным пытаньні зацьверджаны былі

17 сьнежня 1920 г. II Усебеларускім Зьездам Саветаў. У іх Зьезд прызнаў, што грамадзянская вайна з унутранай ды замежнай контр-рэволюцыяй, ваенныя опэрацыі на тэрыторыі Беларусі, чужаземныя окупацыі— пазбавілі сялянства тых зямельных здабыткаў, што зьявіліся вынікам Кастрычнікавай перамогі пролетарыяту над панаваньнем памешчыка і капіталу, ды перашкодзілі далейшым мерапрыемствам у справе ажыцьцяўленьня зямельнай рэформы.

З прычыны земляробскага характару краіны ды адсутнасьці тых фактараў, што даюць магчымасьць разьвіць у значных разьмерах фабрычна-заводзкую прамысловасьць, Савецкая ўлада на Беларусі за галоўнае ў сваёй экономічнай палітыцы лічыла разьвязаньне зямельнага пытаньня, павышэньне земляробскай продукцыі і зьвязаных з ёю галін прамысловасьці.

Разьвязаньне зямельнага пытаньня на Беларусі павінна выявіцца ў рэгуляваньні зямельных адносін і задаваленьні патрэб шырокіх колаў працоўнага сялянства праз належнае разьвязаньне пытаньня а былым непрацоўным земляўладаньні.

Асноўнымі папярэднімі ўмовамі зямельнай палітыкі на Беларусі зьяўляюцца, паперашае, недахват зямлі ў сялян, значная частка якіх малазямельная і бязьзямельная, а падругое—канечная патрэба захаваць вышэйшыя формы сельска-гаспадарчай продукцыі, якія могуць зьявіцца значнай крыніцай задаваленьня ўсім патрэбным працоўных мас гарадоў Беларусі ды насіцелямі дапамогі, якую робіць Савецкая ўлада сялянству ў яго вытворчай працы.

Беларусь на працягу бадай 6 год бязупынна была прыфронтавай паласой і полем вайсковай чыннасьці з пэрыодамі чужаземных окупацый, у часе якіх у ранейшых маёнтках з рацыянальнай гаспадаркай час-часом рабілі конфіскацыі, рэквізіцыі, а таксама рабавалі ды зводзілі быдла, інвэнтар, сельска-гаспадарчыя прылады,—гэта давяло да поўнага заняпаду ў гэтых маёнтках культурнай гаспадаркі; і таму вось на Беларусі прост ня было магчымасьці паранейшаму весьці ў большасьці маёнткаў узорную і вытворчую гаспадарку дзяржаўнага ды мясцовага значэньня.

З прычыны гэтага, як зазначана ў тэзах, Савецкая ўлада на Беларусі ўзялася за разьвязаньне зямельнага пытаньня наступнымі мерапрыемствамі пры ўмове цэнтралізацыі ўсіх спраў земляробства і зямлябудаўніцтва ў адным органе.

„Усе справы аб землякарыстаньні мусяць быць пад загадам Савецкай улады ў асобе яе зямельных органаў,—цэнтральных, павятовых ды валасных. Усялякія зьмены ў землякарыстаньні бяз ведама і дазволу зямельных органаў забараняюцца і лічацца незаконнымі.

Уся сялянская і ўся наогул працоўная зямля застаецца ў ранейшых гаспадароў на правох землякарыстаньня; ім пакідаюцца будынкі, інвэнтар ды маемасьць, за выключэньнем сельска-гаспадарчых тэхнічных машын

ды прылад вытворчасьці, якія аддаюцца ў агульнае карыстаньне праз пракатныя пункты паводле загаду зямельных аддзелаў.

Карыстаньне наёмнай працай, каб толькі мець прыбытак, а не для здабываньня сродкаў да існаваньня, забараняецца.

За працоўную гаспадарку лічыць тую, якая вядзецца самым зямлякарыстальнікам і ў якой не карыстаюцца сталай наёмнай працай.

Ня мае права быць перадана ў асабістае карыстаньне і павінна заставацца пад непасрэдным кіраўніцтвам ды загадам савецкіх органаў зямля, якая належыць савецкім, грамадзкім і культурна-асьветным установам ды прадпрыемствам, а таксама ранейшыя непрацоўныя гаспадаркі, якія патрэбны для організацыі высокакультурных паказальных ці вытворчых народных маёнткаў дзяржаўнага і мясцовага значэньня. Для іх выкарыстоўваецца ня звыш 25 проц. усіх ранейшых непрацоўных гаспадарак з агульнага ліку тых, што ня трапілі дагэтуль да сялян.

Увесь вольны фонд непрацоўнай зямлі, што застаецца, павінен быць дарма разьмеркаваны сярод безьзямельных ды малазямельных сялян і парабкоў у іхнае карыстаньне.

Перадаецца зямля непрацоўных гаспадарак у колектыўнае ці асабістае карыстаньне організованым шляхам праз адпаведныя зямельныя аддзелы па аднолькавай норме, прычым ствараецца зямлябудаўнічая тэрыторыя, якая забясьпечвае пераход да вышэйшых форм гаспадаркі.

Перадача ў парадку часовага разьмеркаваньня павінна быць зроблена да вясны 1921 году.

Тыя вучасткі зямлі, што аддаюцца ў часовае карыстаньне, застаюцца ў карыстаньні ня менш аднаго севазвароту, тры-чатыры гады.

Парадак перадачы зямлі непрацоўных гаспадарак вызначаецца інструкцыяй, якую выдае Камісарыят Зямляробства ССРБ“.

Такім чынам, рэзолюцыя Зьезду пакінула працоўным зямляробам усю тую зямлю, якой яны дагэтуль карысталіся, не зважаючы на праўныя юрыдычныя падставы гэтага карыстаньня. Зямля ранейшая надзельная, купленая, арандаваная і нават забраная ў процэсе рэволюцыі зрабілася працоўнай зямлёй, калі яна ўраблялася сіламі гаспадаркі. Рэволюцыя сьцерла ўсе існаваўшыя да яе адзнакі ўсялякай катэгорыі зямлі—памешчыцкай, урадовай, удзельнай, манастырскай, царкоўнай, надзельнай, куплёнай ды арэнднай, падзяліўшы яе з гэтага часу, паводле ня праўнай, але экономічнай прыметы, на ранейшыя непрацоўныя і працоўныя.

Калі II Усебеларускі Зьезд Саветаў зацьвярджаў гэтыя тэзы, дык ён прызнаў, што праца Народнага Камісарыяту Зямляробства ў справе ажыцьцяўленьня зямельнае рэформы на Беларусі мае характар вялізарнай дзяржаўнай важнасьці, што гэта праца вымагае баявой пастаноўкі выкананьня ўсіх зазначаных задач.

Дзеля выкананьня рэзолюцыі Зьезду Наркамзем 30 сьнежня 1920 г. выдаў інструкцыю наконт парадку нацыяналізацыі маёнткаў. Паводле гэ-

тае інструкцыі, колегія Павятовага Зямельнага Аддзелу, у выніку дакладнага абсьледваньня стану кожнага ў асобку маёнтку ды патрэбы ў зямлі ваколічных вёсак, вырашала пытаньне—ці заснаваць у даным маёнтку савецкую гаспадарку, ці разьмеркаваць яго сярод тых сялян, у каго недахват зямлі. Пастанову колегіі павятовага земаддзелу абвяшчалі насельніцтву і аддавалі потым разам са скаргамі на разгляд у Народны Камісарыят Зямляробства.

З прычыны таго, што разьмеркаваньне ранейшай непрацоўнай зямлі сярод малазямельных сялян у парадку зямлябудаўніцтва вымагала шмат часу і тэхнічных сіл, якіх тады зямельныя органы ня мелі, прыходзілася рабіць часовае разьмеркаваньне. Парадак яго вызначаны быў інструкцыяй, зацьверджанай 28 студзеня 1921 г. Зьездам валасных і павятовых зямельных аддзелаў.

Інструкцыя, зазначыўшы, што права атрымаць зямлю з вольных ранейшых непрацоўных гаспадарак мае працоўнае зямляробскае безьзямельнае ды малазямельнае насельніцтва, вызначыла чаргу надзелу з прычыны немагчымасьці надзяліць усіх грамадзян, у каго недахват зямлі. У першую чаргу атрымлівала зямлю мясцовае, у другую—прышлае безьзямельнае ды малазямельнае насельніцтва, а ў трэцюю—рэшта. За малазямельную лічылася гаспадарка, якая, урбаляючы ўсю чыста сваю зямлю ўласнымі сіламі, не забясьпечвала сваіх патрэб і, каб падтрымаць сябе, выпраўляла паасобных членаў у заработкі.

За найбольш пажаданую форму зямлякарыстаньня інструкцыя лічыла грамадзка-колектыўную апрацоўку зямлі з колектыўным скарыстаньнем сродкаў ды прылад вытворчасьці, але разам з тым яна забараняла прымусовае насаджэньне сельска-гаспадарчых колектываў. Вось чаму, вызначаючы пры разьмеркаваньні зямлі формы, адпавядаючыя жаданьням насельніцтва, прапаноўвалася мець на ўвазе магчымасьць пераходу калі-небудзь да вышэйшых форм сельскай гаспадаркі; з гэтай мэтай раілася выходзіць на выселкі, не драбніць зямлі на невялічкія кавалкі, ухіляцца цераспалосіцы, ня ўкліньвацца ды наогул ухіляцца розных недахватаў зямлякарыстаньня.

Перад тым, як перадаваць зямлю працоўнаму насельніцтву, валасныя зямельныя аддзелы павінны былі выявіць у кожным залюдненым пункце колькасьць насельнасьці, якой патрэбна зямля, зрабіць таксама падлік зямлі, што знаходзіцца ў карыстаньні малазямельных грамадзян, і тэй ранейшай непрацоўнай зямлі, што ёсьць у межах воласьці.

Норма надзелу вызначана была працоўная, г. зн. тая колькасьць зямлі, якую даная гаспадарка можа ўрабіць уласнымі сіламі, і толькі калі бракуе зямлі ў межах воласьці, дык павінна была ў парадку вызначанай чаргі давацца спажывецкая норма, пры якой гаспадарка, якая траціць працу на выраб зямлі, мае магчымасьць задаволіць свае патрэбы дзеля ўзнагароды за страчаную працу.

Пасьля задаваленьня працоўнай нормай сельска-гаспадарчых колектываў безьзямельных і малазямельных паасобных гаспадарак дазволена было даваць ранейшую непрацоўную зямлю ў часовае карыстаньне забясьпечаным зямлёй гаспадаркам, абы ўся яна была ўроблена і засеяна іхнімі сіламі і сродкамі.

З прычыны таго, што Народны Камісарыят Зямляробства ня меў каморнікаў, уся тэхнічная праца па перадачы зямлі, вызначэньні разьмераў зямельных плошчаў і вызначэньні мяжы карыстаньня была ўскладзена на валасныя зямельныя аддзелы.

З абавязкамі сваімі валасныя зямельныя аддзелы аднак ня справіліся. Тым, што пры разьмеркаваньні зямлі яны ня трымаліся вымаганьняў інструкцыі, яны ўнесьлі бязладзьдзе ў галіну зямлякарыстаньня, як зазначае гэта абежнік Народнага Камісарыяту Зямляробства ад 11 жніўня 1921 г. за № 1583. Валасным зямельным аддзелам прапанавана было спыніць працу па часовым разьмеркаваньні ранейшай непрацоўнай зямлі і ўсе матэрыялы, што ў іх меліся, перадаць Павятовым Зямельным Аддзелам. Апошнім даручана было зрабіць урэгуляваньне-праверку часовага разьмеркаваньня і надалей надзел ранейшай непрацоўнай зямлёй рабіць толькі ў парадку зямлябудаўніцтва праз каморнікаў.

Для ўдарнай працы па ўрэгуляваньні часовага разьмеркаваньня ў канцы 1921 г. вылучаны былі па паветах камісіі ў складзе прадстаўнікоў Павятовага Выканкому, Павятовага Земаддзелу і Працзямлесу. Заключэньні камісіі зацьвярджаліся колегіяй Павятовага Зямельнага Аддзелу. У выпадку няправільнага надзелу зямлёй у парадку часовага разьмеркаваньня, зямля гэта адбіралася ў адміністрацыйным парадку. Зямлю-ж, правільна разьмеркаваную, пры ўрэгуляваньні аддавалі ўжо не ў часовае, але ў сталае карыстаньне.

Хаця праверка часовага разьмеркаваньня павінна была скончыцца да 15 сакавіка 1922 г., але яна доўгі час цягнулася і пасьля гэтага.

Каб пакласьці падмурак пад тыя зямлябудаўнічыя работы, што тады адбываліся, і належным чынам накіраваць іх, у 1921 г. Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту было выдана Палажэньне аб соцыялістычным зямлябудаўніцтве на Беларусі. Гэта ў нас быў першы зямельны закон.

Палажэньне лічыць за адзіны дзяржаўны фонд усю зямлю ў межах БССР, каму-б яна ні належала. У аснову зямлябудаўніцтва яно кладзе імкненьне стварыць адзіную вытворчую гаспадарку шляхам паступовага аграмаджэньня асабістага зямлякарыстаньня. Таму на першае месца яно ставіць надзел зямлёй савецкіх гаспадарак, урадовых установ, колектыўных гаспадарак, вызначэньне валасных ды павятовых межаў, і толькі ў апошнюю чаргу дазваляўся надзел зямлёй паселішч ды асобных груп зямлякарыстальнікаў. Зямлябудаўнічая праца мусіць ісьці паводле раней апра-

цаванага пляну. Шмат артыкулаў у Палажэньні прысьвечана організацыі ды высьвятленьню задач народных гаспадарак, с.-г. комун, арцеляў ды суполак па грамадзкай апрацоўцы зямлі.

Сапраўды-ж заснаваньне сельска-гаспадарчых колектываў ішло ў нас марудна. Таму Палажэньне аб соцыялістычным землябудаўніцтве, меўшая моц да выданьня ў 1923 г. зямельнага кодэксу, ужывалася, галоўным чынам, пры адмежаваньні савецкіх гаспадарак і пры разьмеркаваньні запаснога фонду сярод тых грамадзян, у каго бракавала зямлі.

У выніку ліквідацыі ў старой Меншчыне памешчыцкага зямляўладаньня і разьмеркаваньня ранейшай непрацоўнай зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньня сярод сялян, яны атрымалі 425.600 дзесяцін, пад савецкія гаспадаркі было аддана 76.200 дзес. і пад сельска-гаспадарчыя колектывы—4.180 дзес. Рэшта памешчыцкай зямлі ў колькасьці каля 2.000.000 дзес. была пад лесам, і таму яе залічылі ў дзяржаўны лясны фонд. Калі мець на ўвазе, што сяляне 6 паветаў ранейшай Менскай губ. пры скасаваньні паншчыны атрымалі на выкуп 1.417.000 дзес. зямлі, дык пасьля рэволюцыі яны павялічылі плошчу быўшай у іхным карыстаньні зямлі на 30 проц. Сапраўды-ж для паасобных гаспадарак дабаўка гэта будзе значна большая, бо атрымлівалі зямлю з запаснога фонду толькі найменш забясьпечаныя ёю гаспадаркі. У РСФСР сяляне да 94.721.000 дзес. надзельнае зямлі даатрымалі, дзякуючы рэволюцыі, 21.407.000 дзес., г. зн. плошча іхнага зямлякарыстаньня павялічылася на 23 проц.

Ажыцьцёўленая ў БССР зямельная рэформа, у параўнаньні з тымі формамі, у якіх было разьвязана зямельнае пытаньне ў РСФСР, вызначаецца тым, што на Меншчыне ня было, каб стыхійна забіралі памешчыцкія маёнткі, далучалі іх да агульнай масы надзельнай зямлі і ўраўнальна перадзялялі ўсю зямлю па колькасьці едакоў. Такому спосабу разьвязаньня зямельнага пытаньня тут, у нас, перашкодзіла тое, што быў блізка фронт, а потым—окупацыі. Калі-ж утварылася незалежная БССР, дык Савецкая ўлада ўзяла ў свае рукі ажыцьцяўленьне зямельнае рэформы і правяла разьмеркаваньне ранейшай непрацоўнай зямлі організованым парадкам, паводле раней апрацаванага пляну і, да таго, у парадку зямлябудаўніцтва.

У тых мясцовасьцях РСФСР, дзе не пракацілася зямельная навальніца, на падставе інструкцыі Народнага Камісарыяту Зямляробства ад 30 студзеня 1918 г., рабілі простую дзяльбу таго фонду, што меўся, між мала забясьпечанымі зямлёй дварамі і, да таго, у часовае карыстаньне толькі да часу соцыялізацыі зямлі. Калі 22 мая 1922 г. быў выданы асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні, дык гэтае часовае карыстаньне зрабілася сталым.

У нас часовае разьмеркаваньне зямлі пасьля яго ўрэгуляваньня рабілася сталым з пачатку 1921 г., прычым зямля разьмяркоўвалася паводле

працоўнай ці спажывецкай нормы або прыразалася да гэтых норм, г. зн. мелася на ўвазе стварыць вытворчыя ды жыцьцёвыя гаспадаркі, а не зрабіць толькі простую арытмэтычную дзяльбу зямлі.

## 3. Узгодненьне зямельнага законадаўства з асновамі новай экономічнай політыкі

Да 1921 г., у замену данай зямляробу дарма зямлі, агрономічнай ды ўсякай тэхнічнай дапамогі, а ў пэўных выпадках інвэнтару ды насеньня, ён мусіў, у парадку раскладкі (разьвёрсткі), аддаваць дзяржаве ўвесь, бадай, вынік сваёй працы на зямлі—зерне, фураж ды сыравіну, пакінуўшы сабе патрэбную колькасьць харчу ды насеньня.

Такая харчовая політыка не выклікала ў сялян імкненьня да павялічэньня плошчы ворнае зямлі і павышэньня продукцыі сельскай гаспадаркі. Таму ў РСФСР дэкрэтам ад 21 сакавіка 1921 г. харчраскладка была заменена харчпадаткам. З гэтага часу зямляроб, аддаўшы дзяржаве пэўную часьць ураджаю ды сыравіны сваёй гаспадаркі, зрабіўся ўласьнікам вынікаў сваёй працы на зямлі. Гэта выклікала матэрыяльную зацікаўленасьць у зямляроба да павышэньня продукцыі сельскай гаспадаркі.

Пераход да новай экономічнай політыкі ў харчовай справе зрабіў пэўны ўплыў на ўсе бакі народнай гаспадаркі. Хутка і прамысловасьць ад сыстэмы разьмеркаваньня сваёй продукцыі перайшла на грашовы разрахунак і пачала даваць свае тавары на рынак.

Законы ды загады ў галіне зямляробства і зямлябудаўніцтва таксама мусілі быць перагледжаны ў духу новай экономічнай політыкі. З пачатку 1922 г. выдаецца ў нас шэраг зямельных законаў, якія імкнуцца стварыць такія ўмовы, што забясьпечылі-б трываласьць працоўнага зямлякарыстаньня і праз гэта павялічылі-б продукцыйнасьць сельскай гаспадаркі.

Зямельныя законы ды загады папярэдняга пэрыоду пранікнуты былі ідэяй, што ўся зямля ў рэспубліцы складае адзіны зямельны фонд, які зьяўляецца об'ектам аднэй вытворчай гаспадаркі, што дзяржава праз свае органы можа ў адміністрацыйным парадку адабраць у выпадку патрэбы зямлю ад кожнага зямлякарыстальніка і што задачай зямлябудаўніцтва павінна быць насаджэньне колектыўных форм зямлякарыстаньня. Новыя зямельныя законы праводзяць ужо іншыя прынцыпы.

14 студзеня 1922 г. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР выдаў дэкрэт аб вольным выбары форм зямлякарыстаньня. Кожнай зямельнай супольцы ці сельска-гаспадарчаму аб'яднаньню было надана права абіраць па пастанове большасьці поўнапраўных яго членаў хоцьякую форму зямлякарыстаньня, а менавіта—супольную, грамадаўскую (вобшчынную), хутарскую, адрубную, мяшаную і ўсялякую іншую, абы яна вяла да як мага большай інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі.

Характарна, што хаця дэкрэт даваў сялянам права перайсьці да грамадаўскага парадку зямлякарыстаньня, аднак за ўвесь час чыннасьці дэкрэту ў БССР аніводнае сельскае таварыста не зрабіла пастановы аб тым, каб зрабіць ураўнальны перадзел.

22 красавіка 1922 г. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР выдае пастанову наконт мерапрыемстваў да правільнага і трывалага зямлякарыстаньня працоўнага насельніцтва. Пастанова гэта стварае ў нас права працоўнага зямлякарыстаньня, існасьць якога была потым больш падрабязна выяўлена ў асноўным законе і зямельным кодэксе.

Пастанова ЦВК прапануе Народнаму Камісарыяту Зямляробства скончыць у 1922 г. ўрэгуляваньне часовага разьмеркаваньня ранейшай непрацоўнай зямлі і аформіць карыстаньне зямлёю шляхам выдачы працоўнаму сялянству зямляадводных актаў. Зямлю, якая адышла ў працоўнае карыстаньне паасобных гаспадарак і суполак у межах вызначаных норм надзелу, замацаваць у сталае карыстаньне. Вылучаную паселішчам зямлю разьмеркаваць, калі будзе рабіцца зямлябудаўніцтва, па мінімальнай норме між паасобнымі зямлякарыстальнікамі, у каго бракуе зямлі.

3 траўня 1922 г. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савет Народных Камісараў выдаў пастанову аб эксплёатацыі сенажатных ужыткоўнасьцяй угодзьдзяў. Закон гэты прапануе Народнаму Камісарыяту Зямляробства вылучыць са складу ранейшых непрацоўных сенажацяй сенажатны фонд у разьмеры ня больш як 30.000 дзес., а рэшту сенажацяй гэтай катэгорыі разьмеркаваць між савецкімі гаспадаркамі, зямельнымі суполкамі ды абасобненымі гаспадаркамі. Сенажаці-ж, што былі да часу выданьня гэтага закону ў фактычным працоўным карыстаньні насельніцтва, замацаваць за ім на сталае карыстаньне, прычым правіл аб нормах зямлякарыстаньня ня трымацца ў стасунку да мэліараваных сенажацяй.

Пастановы гэтыя кодыфікуюцца і разьвіваюцца далей у выданым 7 верасьня 1922 г. Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР асноўным законе аб працоўным зямлякарыстаньні. Гэты закон выдаецца, каб наладзіць правільнае, трывалае і дапасованае да гаспадарчых бытавых умоў працоўнае карыстаньне зямлёй, якое канешна патрэбна для аднаўленьня ды разьвіцьця сельскай гаспадаркі. У гэтым законе робіцца яшчэ адзін крок наперад у справе стварэньня права працоўнага зямлякарыстаньня. Апошняе можа быць спынена ня йначай, як на падставе тых палажэньняў, што зазначаны ў законе, і толькі паводле пастановы зямельнай камісіі.

Наш асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні вельмі адрозьніваецца ад такога самага закону, выданага 22 мая 1922 г. ў РСФСР. Гэтыя адзнакі будуць паўтарацца потым у зямельных кодэксах ды складуць існасьць асаблівасьцяй зямельнага права БССР у параўнаньні з

зямельным правам саюзных рэспублік. Таму на аналізе гэтых асаблівасьцяй варта крыху спыніцца.

Асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні БССР зусім не ўспамінае аб грамадаўскім (вобшчынным) парадку зямлякарыстаньня, не дазваляе зямельнай суполцы вызначаць пры зямлябудаўніцтве разьмеркавальную адзінку па колькасьці едакоў, забараняе прымусовы выдзел часткі дамаўласьнікаў з суполкі без яго згоды, не дае права суполцы распараджацца зямлёй запаснога фонду, вызначае норму працоўнага зямлякарыстаньня і дазваляе досыць моцным гаспадаркам карыстацца толькі сэзоннай наёмнай працай.

Усе гэтыя адзнакі выцякалі з гістарычных асаблівасьцяй мясцовых пазямельных адносін.

Люблінская вунія 1569 г., як вядома, давяла да пачатковага запрыгоненьня ў нашым краі сялян, пазбаўленьня іх пазямельнай уласнасьці і асабістай свабоды. У выніку гэтага шмат сялян уцякалі з маёнткаў, што шкодзіла памешчыцкай гаспадарцы.

Памешчыкі дзеля ўласнай карысьці прымушаны былі палягчаць становішча сялян тым, што адводзілі ім надзелы для ўласнага карыстаньня. Сьпярша вялікі князь літоўска-беларускі, а потым і памешчыкі правялі ў сваіх маёнтках зямельную рэформу—усю зямлю сельска-гаспадарчага прызначэньня падзялілі на валокі—вучасткі па $21^1/_2$ дзес. Валокі гэтыя былі разьмеркаваны між сялянскімі дварамі і знаходзіліся ў сталым і спадчынным карыстаньні. За зямлю гэту, у залежнасьці ад яе якасьцяй ды іншых выгод, на сялян налажылі на карысьць войчыньніка вызначаныя натуральныя, а потым і грашовыя павіннасьці—паншчыну і чынш. Павіннасьці гэтыя вызначала і спаганяла аканомія войчыньніка, і, такім чынам, сельская суполка тут не адыгрывала тае ролі, што ў Расіі. Яна ня мела права раскладаць павіннасьці між дварамі, спаганяць іх і ўжываць у стасунку да няспраўных плацежнікаў належных мер прымусу. Яна не магла пераразьмяркоўваць зямлю між дварамі па колькасьці едакоў, як гэта рабіла грамада ў Расіі, якая ўся разам адказвала перад памешчыкам за спраўнае адбываньне ўскладзеных на яе павіннасьцяй. Там аканомія памешчыка мела справу з грамадой ды яе прадстаўнікамі, тут—з кожным паасобку дваром. Дзякуючы гэтаму, у Расіі карыстаньне сялянскай зямлёй замацоўвалася за цэлай грамадой, у нас—за дваром. Там, калі рабіліся зьмены ў складзе двароў, дык грамада рабіла ўраўнальнае пераразьмеркаваньне ўсяе зямлі між дварамі па колькасьці едакоў, у нас валока па спадчыне заставалася ў тым самым двары аж пакуль ён увесь чыста ня вымра. Такім чынам, у Расіі ствараўся грамадаўскі парадак зямлякарыстаньня, а ў нас—падворны. Стан гэты быў замацаваны вызваленчай рэформай 1861 г. У ранейшай Менскай губ. 96% сялянскіх грамад атрымалі зямлю на выкуп з правам падворнага зямляўладаньня, а ў Расіі на 80% захавалася была грамада, галоўным чынам,

з мэтай, каб сяляне спраўна рабілі выкупныя выплаты, і дзеля забесьпячэньня іхнага быту, бо там, ня так, як у заходніх губэрнях, ад сялян пры скасаваньні прыгону адабралі былі каля 16% тэй зямлі, якой яны карысталіся за прыгонам, а выкупныя выплаты вызначаны былі амаль удвая супроць існаваўшай тады продажнай цаны на зямлю.

Асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні БССР адбівае мясцовыя асаблівасьці і таму выключае з магчымых спосабаў зямлякарыстаньня грамаду.

Чаму-ж ён не дае зямельнай грамадзе права вызначаць пры зямлябудаўніцтве разьмеркавальную адзінку па едаках, рабочых сілах або мяшаную, як гэта робіць асноўны закон РСФСР?

Тлумачыцца гэта тым, што пры вучастковым парадку зямлякарыстаньня кожны двор у складзе зямельнай грамады мае права на зямлю ў нязьменным разьмеры.

Да рэволюцыі ў 1907 г. ў Расіі, асабліва-ж у даўнейшым Паўночна-Заходнім краі, пачало ажыцьцяўляцца сталыпінскае зямлябудаўніцтва. Яно мела на мэце індывідуалізацыю сялянскай гаспадаркі, выслабаненьне яе з-пад улады грамады і насаджэньне хутароў. Самы працэс зямлябудаўніцтва меў розны характар, у залежнасьці ад парадку зямляўладаньня ў даным паселішчы.

Па тых мясцох, дзе сяляне ўладалі зямлёй на падставе вучасткова-падворнага права, зямлябудаўніцтва ажыцьцяўлялася паводле фактычнага зямляўладаньня, г. зн. кожны двор пасьля зямлябудаўніцтва атрымліваў столькі сама зямлі, але ў адным месцы, колькі ён меў да зямлябудаўніцтва, калі зямля была аднэй якасьці.

Пры грамадаўскім зямлякарыстаньні двор меў права на частку зямлі з надзелу грамады. Частка гэта пэрыодычна зьмянялася, у залежнасьці ад зьмены колькасьці членаў двара. Пры зямлябудаўніцтве рабілася такое ўраўнальнае пераразьмеркаваньне зямлі з прычыны таго, што выбар разьмеркавальнай адзінкі залежаў ад грамады, а яна звычайна пастанаўляла разьмяркоўваць зямлю па едаках. Гэта разьмеркавальная адзінка адпавядала правасьвядомасьці сялян-грамадаўцаў, і яны заўсёды ўжывалі яе ў часе перадзелаў.

На Меншчыне ня было ні грамады, ні зьвязаных з ёю перадзелаў. Таму наш асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні ня даў грамадзе права вызначаць пры зямлябудаўніцтве разьмеркавальную адзінку. Іначай гэта давяло-б да таго, што ўзьнікла-б грамада, якая зьяўляецца перажыткам прыгону, і савецкім зямельным законадаўствам лічыцца за шкодную, бо пры ёй двор ня можа быць пэўны ў трываласьці свайго зямлякарыстаньня і таму ня мае ахвоты аддаваць зямлі як мага больш працы ды капіталу.

Калі сталыпінскае зямельнае законадаўства скасавала выкупныя выплаты, дык яно ўжо ня мела больш падстаў падтрымліваць грамаду.

Наадварот, яно апекавалася над хутарамі ды імкнулася разбурыць грамаду, а з гэтай мэтай дазваляла прымусовыя, бяз згоды грамады, выдзелы з яе часткі домаўласьнікаў, калі ня было агульных разьмеркаваньняў зямлі.

У даўнейшай Менскай губ. выдзелаў гэтых ня было, бо пры вучасткова-падворным парадку зямляўладаньня яны забараняліся. Не ўспамінае пра іх і асноўны закон, які адбівае ў сябе мясцовыя асаблівасьці.

Пры вучасткова-падворным зямлякарыстаньні двор мае права на зямлю ў нязьменным разьмеры. Асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні БССР зрабіў, аднак, у гэтым палажэньні істотную папраўку ды абмежаваў разьмеры працоўнага зямлякарыстаньня нормай, вызначыць якую павінен быў Народны Камісарыят Зямляробства. Вызначэньне нормы працоўнага зямлякарыстаньня зьяўляецца істотнай асаблівасьцю беларускага зямельнага права. Асаблівасьць гэта зноў-ткі выцякае з мясцовых умоў.

У Расіі ў часе зямельнае рэволюцыі 1917—1918 г. зямлякарыстаньне было стыхійна ўроўнена, прычым да агульнай масы зямлі была далучана і ранейшая памешчыцкая зямля, якая трапіла ў распараджэньне грамад.

На Меншчыне, раней з прычыны таго, што блізка знаходзіўся фронт, а пасьля дзякуючы окупацыям, гэтага ўраўненьня ня было. Таму тут, побач з малазямельнымі гаспадаркамі, захаваліся і параўнальна вялікія фольваркі ды хутары з плошчай часамі больш як 100 дзес. Зямлю там ураблялі як сіламі самой гаспадаркі, так і пры дапамоге сталых рабочых, прычым карысталіся яшчэ і машынамі. Хоць з культурнага боку гэтыя гаспадаркі стаялі часамі вышэй ад ваколічных маламожных, але калі-б пакінуць іх, дык гэта было-б соцыяльна несправядлівым. З прычыны гэтага асноўны закон вызначыў норму для працоўных гаспадарак. Лішкі звыш нормы павінны былі быць адабраны для надзелу малазямельных.

Потым асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні БССР, паступова ажыцьцяўляючы прынцып нацыяналізацыі, перадае зямельным органам, у якасьці дзяржаўнага запаснага фонду, усю вольную зямлю і прызначае яе ў першую чаргу дзеля задаволеньня патрэбы ў зямлі тэй зямельнай суполкі, у склад якой уваходзіла гаспадарка, што была пазбаўлена права карыстаньня зямлёй. А гэта таму, што за зямельнай грамадой пакінута ўся зямля, якой яна карысталася, але ня права распараджацца ёю.

Асноўны-ж закон РСФСР ня толькі замацоўвае за зямельнай грамадой пэўныя разьмеры яе зямлякарыстаньня, але і дае грамадзе права распараджацца зямельнымі вучасткамі двароў, якія з тае ці іншае прычыны ўжо кінулі займацца сельскай гаспадаркай.

Яшчэ істотнай асаблівасьцю нашага асноўнага закону а працоўным зямлякарыстаньні было тое, што працоўныя зямляробскія гаспадаркі

былі абмежаваны ў праве карыстацца наёмнай працай. Толькі часова заняпаўшыя гаспадаркі мелі права цэлы год трымаць сельска-гаспадарчых рабочых. Усе-ж іншыя гаспадаркі мелі права карыстацца толькі сэзоннай наёмнай працай. На падставе вось гэтага абмежаваньня пачалася абрэзка буйных гаспадарак.

Нарэшце, асноўны закон БССР пакідае ў сталае карыстаньне зямлю ня толькі зямельным грамадам, але і асобным працоўным гаспадаркам „з дня выдачы ім дакумантаў". Выраз гэты будзе зразумелы, калі мець на ўвазе, што асноўны закон вызначае норму для працоўнага зямлякарыстаньня. Выдача дакумантаў патрэбна была тады, каб замацаваць зямлю, бо хаця пра норму працоўнага зямлякарыстаньня і гаварылася ў законе, але нормы для кожнага раёну вызначаны яшчэ ня былі і разьмеры яе ў кожным асобным выпадку вызначаліся пазьней пры абрэзцы гаспадаркі судовай пастановай зямельнай камісіі. З прычыны таго, што меўся закон аб нормах, дык нельга было замацаваць фактычнага зямлякарыстаньня асобных гаспадарак, не праверыўшы яго шляхам зямельнай рэгістрацыі, абрэзкі ці зямлябудаўніцтва, у выніку чаго і выдаваліся дакуманты, якія замацоўвалі разьмеры зямлякарыстаньня.

## 4. Вынятак лішкаў зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак

Адбіраць лішкі зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак пачалі ў БССР з 1923 г., і гэта абрэзка зьяўляецца істотнай асаблівасьцю беларускага зямельнага законадаўства. Выцякае гэта асаблівасьць з мясцовых умоў. На Меншчыне пасьля рэволюцыі, сьпярша дзякуючы блізкасьці фронту, а потым окупацыям, ня было таго стыхійнага ўраўненьня зямлі, як у РСФСР.

Зямельная рэформа 1920 г. разьмеркавала сярод найменш забясьпечаных зямлёю сялян ранейшую непрацоўную зямлю, але не зачапіла буйных працоўных гаспадарак, такіх, значыць, дзе сельска-гаспадарчую работу рабілі разам з парабкамі і члены двара. Такіх гаспадарак на Меншчыне было даволі многа. Некаторыя з іх мелі да 150 дзес. зямлі. Культурныя гаспадаркі, дзе карысталіся-б машынамі, сустракаліся рэдка. У большасьці была традыцыйная трохпалёўка, зямлю ўраблялі пры дапамозе сталых рабочых, здавалі яе бяз ніякага дазволу ў арэнду і на адработак, а некаторыя гаспадаркі кідалі частку зямлі зусім няўробленай. У той час побач з імі былі малазямельныя гаспадаркі. Пакінуць такія парадкі лічылася за палітычна няправільнае і з гаспадарчага боку нямэтазгоднае, бо павінна была павялічыцца продукцыя зямлі пры больш правільным яе разьмеркаваньні.

Паколькі асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні БССР забараняў моцным гаспадаркам карыстацца сталай наёмнай працай і ўсклаў на Народны Камісарыят Зямляробства абавязак вызначэньня працоўнай нормы, зьявілася канечная патрэба абрэзаць такія гаспадаркі, якія су-

праць закону маюць сталых парабкоў і якія наогул ня могуць уласнымі сіламі ўрабіць усю зямлю, якой яны карыстаюцца. Такія гаспадаркі ў загадах Народнага Камісарыяту Земляробства, а потым і ў заканадаўчых актах былі названы „напоўпрацоўнымі", а вынятак з іх карыстаньня лішкаў зямлі называўся „абрэзкай".

IV Усебеларускі Зьезд Саветаў у сьнежні 1922 г., каб знайсьці больш запаснога фонду для задаволеньня безьзямельных ды малазямельных сялян, пацьвердзіў, што конечна трэба вызначыць сталыя нормы працоўнага зямлякарыстаньня па асобных раёнах Беларусі, і даў дырэктыву наконт абсьледваньня напоўпрацоўных гаспадарак ды абрэзкі іх да вызначаных норм.

Дзеля выкананьня рэзолюцыі Зьезду Народны Камісарыят Земляробства разаслаў усім павятовым зямельным управам абежнік ад 17 студзеня 1923 г. за № 2, у якім патрабаваў ад валвыканкомаў сьпісу усіх напоўпрацоўных гаспадарак, што маюцца ў межах воласьці. Для абсьледваньня кожнай такой гаспадаркі Павятовы Зямельны Аддзел абавязаны быў вызначыць камісію ў складзе зямлябудаўніка, агронома ды прадстаўнікоў валаснога выканаўчага камітэту і сельсавету. Камісія гэта, у выніку дакладнага абсьледваньня, павінна была даць весткі наконт колькасьці тае зямлі, якая можа быць уроблена сіламі данай гаспадаркі. Увесь матэрыял накіроўваўся потым у павятовую зямельную камісію для разгляду справы наконт вынятку лішкаў зямлі з карыстаньня буйной гаспадаркі ў спрэчна-судовым парадку.

Норма працоўнай гаспадаркі тады яшчэ вызначана ня была. Таму абрэзку рабілі на-вока, на погляд тэй адміністрацыйнай камісіі, што рабіла абсьледваньне і паводле пастановы павятовай зямельнай камісіі. З прычыны гэтага падыход да абрэзкі быў самы розны. У той час, калі Бабруйская павятовая зямельная камісія пакідала ў сярэднім на гаспадарку па 7—8 дзесяцін зямлі ды ня лічылася нават з культурнасьцю гаспадаркі (абрэзка хутару праф. Палферава), другія камісіі былі больш літасьцівыя.

Зямельны кодэкс БССР, які ўвайшоў у моц з 15 красавіка 1923 г., дазволіў карыстацца ў сельскай гаспадарцы сталай наёмнай працай пры тэй умове, што двор мусіць захаваць свой працоўны ўклад і не парушаць законаў аб працы.

Здавалася-б, што з гэтага часу павінна была-б спыніцца абрэзка, бо адзінай яе праўнай падставай было карыстаньне ў гаспадарцы наёмнай працай супроць асноўнага закону аб працоўным зямлякарыстаньні. Норма для працоўных гаспадарак тады яшчэ вызначана ня была. Аднак абрэзка робіцца ў ранейшым парадку. Доўга яшчэ ў афіцыяльнай літаратуры ўжываецца тэрмін „напоўпрацоўная гаспадарка", які з таго часу, як увайшоў у моц зямельны кодэкс, робіцца ўжо відочна няправільным.

Толькі ў 1924 г. апрацаваны былі Народным Камісарыятам Земляробства ў абежніку ад 12 ліпня за № 29 нормы працоўнага землякарыстаньня для Меншчыны. З гэтага часу абрэзка набывае ўжо іншае абаснаваньне. Адбіраюцца лішкі, зямля, якая перавышае вызначаную норму, хаця-б яна ўраблялася сіламі данай гаспадаркі. У сувязі з пашырэньнем Беларусі абежнік аб нормах быў перагледжаны. Наркамзем 6 красавіка 1925 г. за № 17 выдаў новы абежнік аб нормах працоўнага землякарыстаньня для ўсёй Беларусі.

У тым парадку, як адбіралі лішкі зямлі з карыстаньня буйных гаспадарак, можна вызначыць чатыры стадыі: а) судовы, б) судова-землябудаўнічы, в) адміністрацыйны і г) землябудаўнічы.

З 1923 г. ўжываўся судовы парадак абрэзкі. Справы аб вынятку лішкаў разглядаліся як спрэчна-судовыя справы, павятовымі земельнымі камісіямі. Іх правярала Вышэйшая земельная камісія пры Ўпраўмэліоземе; пастановы земельных камісій вярталіся да выкананьня праз сельскі савет. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства ад 29 траўня 1924 г. за № 19 парадак гэты зьмяніў у тым стасунку, што судовыя справы наконт абрэзкі буйных гаспадарак перададзены былі на разгляд валасных земельных камісій; пастановы апошніх правяралі павятовыя земельныя камісіі і праз пад'аддзел землябудаўніцтва пасылалі да выкананьня. Такім чынам, з гэтага часу справы аб абрэзцы разглядаліся ў спрэчна-судовым парадку і выконваліся ў землябудаўнічым парадку.

У студзені 1925 г. ў Менску адбыўся беларускі зьезд земельных работнікаў. Там выказвалі пажаданьне, каб абрэзкі буйных гаспадарак рабіліся хутчэй і каб раённым земельным камісіям было дано права рабіць па гэтых справах канчатковыя пастановы і нават рабіць абрэзкі ў адміністрацыйным парадку. Таму на мясцох няправільна зразумелі абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства ад 21 лютага 1925 г. за № 11.255 аб падлічэньні запаснога фонду, у склад якога павінны былі быць па сельсаветах пералічаны часткова падлясная зямля, дзяржаўная земельная маемасьць, а таксама тыя лішкі, што адразаюцца ад буйных гаспадарак. Побач з падлічэньнем запаснога фонду, пачалі рабіць адміністрацыйную абрэзку гаспадарак, меўшых зямлі звыш максымальнае нормы. Працаўнікі сельскіх саветаў, камітэтаў узаемадапамогі дый нават школьныя працаўнікі ўзяліся абмяраць, галоўным чынам, адасобненыя гаспадаркі пры дапамозе першабытных каморніцкіх прылад—вяроўкі ды кія, і тыя лішкі, што яны знаходзілі, тут-жа перадавалі каму трэба было, „пакуль будзе землябудаўніцтва“.

Такая абрэзка відавочна пярэчыла земельнаму кодэксу, згодна якога ніхто ня мог адбіраць зямлі з працоўнага карыстаньня, апрача пастаноў земельных камісій. Па меры таго, як чуткі аб гэтых свавольных учынках пачалі даходзіць да Народнага Камісарыяту Земляробства, былі ўжыты захады, каб ліквідаваць адміністрацыйную абрэзку зямлі.

Нарэшце, выданая дзеля выкананьня рэзолюцыі IV Сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VI скліканьня аб мерах па дадатковым надзеле зямлёй Народным Камісарыятам Зямляробства інструкцыя ад 15 сакавіка 1925 г. наконт парадку разьмеркаваньня запаснога фонду, вызначыла чыста зямлябудаўнічы парадак абрэзкі, у якім той зямельны фонд, што атрымліваецца пасьля гэтага, разьмяркоўваўся сярод малазабясьпечаных зямлёй грамадзян. У самых ужо простых выпадках гэта мог рабіць сельсавет, а ў больш складаных—зямлябудаўнік. Па кожнай справе трэба было, каб складаўся зямлябудаўнічы проект абрэзкі і разьмеркаваньня, прад'яўляўся зацікаўленым асобам і потым разглядаўся зямельнымі камісіямі.

Дзякуючы фармалізму некаторых мясцовых работнікаў, заводзіліся часта справы адносна абрэзкі такіх гаспадарак, якія мелі самыя невялічкія лішкі звыш максымальнае нормы. Справы такія абыходзіліся дзяржаве дарага, а на мізэрныя адрэзкі ня было ахвотнікаў сярод мясцовага насельніцтва. Таму пастановай Саветаў Народных Камісараў ад 6 чэрвеня 1925 г. адносна парадку ўжываньня норм працоўнага зямлякарыстаньня дазволена было наперад адрэзаць лішкі ад буйных гаспадарак да ўнутрыпасельнага зямлябудаўніцтва толькі ў тым выпадку, калі на тэй частцы гаспадаркі, што будзе адрэзана, можна стварыць ня менш як адзін двор паводле вызначанай для данага раёну мінімальнай нормы. Да гаспадарак-жа, што атрымалі зямлю ў парадку савецкага зямлябудаўніцтва, пастаноўлена было гранічных норм зямельнага забясьпячэньня ня ўжываць і пакінуць іх пры існуючым зямлякарыстаньні незалежна ад яго разьмераў.

Далейшае абмежаваньне абрэзкі буйных гаспадарак вызначана абежнікам Народнага Камісарыяту ад 28 ліпня 1926 г. за № 18. Паводле гэтага абежніка, сельскія саветы ўжо ня маюць права рабіць агрэзкі, прычым іх дазваляюць толькі ў тым выпадку, калі ёсьць кандыдаты на атрыманьне адрэзнай зямлі. Нарэшце, абежнік ад 5 сакавіка 1927 г. за № 16 забараняе адбіраць лішкі ад вялікіх цераспалосных двароў, якія ўваходзяць у склад зямельнай грамады да часу, пакуль ня будзе рабіцца ўнутрыпасельнае ў ім зямлябудаўніцтва, а абрэзку адасобленых хутарскіх гаспадарак можна рабіць толькі пры дапамозе зямлябудаўнікоў, прычым мусяць быць захованы ўсе тэхнічныя ды процэсуальныя правілы зямлябудаўніцтва.

Такім чынам, абрэзка буйных гаспадарак, відаць, аджывае свой век. Міне яшчэ 2—3 гады—і яна зойме сваё месца ў гісторыі зямельнага права БССР.

Дагэтуль па ўсёй рэспубліцы адабраны лішкі ад 6.000 гаспадарак. Гэта дало 71.000 дзесяцін запаснога фонду. З прычыны таго, што падлічаных ёсьць яшчэ 14.000 гаспадарак, якія маюць зямлі звыш нормы 141.577 дзесяцін, трэба было-б дасьледваць эканомічныя вынікі абрэзкі яго як у стасунку да тых гаспадарак, дзе была зроблена абрэзка, так і ў ста-

сунку да тых гаспадарак, якія ў выніку гэтага атрымалі зямлю. Вынікі гэтага дасьледваньня дапамогуць разьвязаць пытаньне, ці зьяўляецца экономічна мэтазгодным і далей рабіць абрэзкі буйных гаспадарак.

З выняткам лішкаў замлі з буйных гаспадарак неразрыўна зьвязаны надзел зямлёй. Ня гледзячы на поўную ліквідацыю ранейшага непрацоўнага зямлякарыстаньня ды разьмеркаваньня сярод сялян амаль усяе непрацоўнае зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньня, малазямельле ў нас яшчэ ёсьць. Каля 40 проц. сялянскіх двароў мае так мала зямлі, што пры сучаснай тэхніцы сельскай гаспадаркі ня можа задаволіць іх спажывецкіх патрэб.

З мэтай барацьбы з малазямельлем IV Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ў сваёй рэзолюцыі ад 7 лютага 1925 г. аб мерах дадатковага надзелу зямлёй безьзямельных ды надта малазямельных палічыла за канечна патрэбнае для надзелу малазямельных і безьзямельных гаспадарак па ўсёй рэспубліцы стварыць спэцыяльны фонд, у які павінна ўвайсьці: а) частка дзяржаўнай зямельнай маемасьці, б) тая зямля, што пераведзена з ляснога фонду ў зямельны, в) мэліраваная зямля, г) зямля, што атрымалася пасьля абрэзкі гаспадарак, меўшых звыш вызначанай Народным Камісарыятам Зямляробства максымальнай нормы, д) кінутая зямля. Сэсія даручыла Наркамзему зараз-жа ўзяцца за складаньне пляну работ па надзелу зямлі самых бедных сялян.

Дзеля выкананьня гэтай рэзолюцыі Народны Камісарыят Зямляробства разаслаў 21 лютага 1925 г. начальнікам акруговых зямельных аддзелаў абежнік з інструкцыяй а тым, як рабіць падлічэньне запаснога фонду, а таксама безьзямельных ды малазямельных сялян, якіх трэба надзяліць зямлёй. Для гэтага на мясцох былі створаны спэцыяльныя акруговыя ды раённыя камісіі, якія ў кожным сельсавеце павінны былі выявіць колькасьць зямлі рознай катэгорыі, якая мусіць быць залічана ў запасны фонд, ды яшчэ колькасьць працоўных зямляробскіх гаспадарак, ня меўшых мінімальнай нормы.

У выніку зробленага падлічэньня выяўлены быў зямельны фонд колькасьцю ў 657.489 дзес., г. зн. каля 11 проц. зямлі, якая ўжо была ў працоўным карыстаньні. З гэтага фонду 119.737 дзес. разьмяркована было сярод працоўнага зямляробскага насельніцтва ў 1925 г. і засталося ў запасе на 1 красавіка 1926 г. яшчэ 537.752 дзес.

Як рабіць надзел—гэта вызначаецца інструкцыяй Народнага Камісарыяту Зямляробства ад 15 красавіка 1925 г. ды шэрагам яго абежнікаў. Апошні з іх ад 5 сакавіка 1927 г. за № 16, каб прысьпешыць гэту работу, дык даў права сельскім саветам надзяляць тых, хто мае мала зямлі, у парадку спрошчанага зямлябудаўніцтва без папярэдняй падрыхтоўкі; адбіраць лішкі зямлі ад буйных гаспадарак, якія ўваходзяць у склад зямельнай суполкі з цераспалосным зямлякарыстаньнем далей толькі пры ўнутрыпасельным зямлябудаўніцтве; абрэзку хутароў ды разьмеркаваньне

досыць вялікіх плошчаў запаснога фонду, на якіх ствараюцца колектывы, выселкі ці групы хутароў звыш 5, рабіць і надалей пры дапамозе зямлябудаўнікоў, прычым абавязкова трымацца ўсіх правіл таго парадку што вызначаны для зямлябуданічых спраў.

Калі адмовіцца эд абрэзкі цераспалосных вучасткаў, дык гэта заменіць крыху наш запасны фонд. Дый наогул яго ня хопіць, каб пазбыцца малазямельля. Надалей гэты фонд будзе павялічацца за кошт мэліорава ных балот, якіх у БССР ёсьць звыш 1.000.000 дзес.

Значыць, у нас зямельная палітыка будуецца на тым, што серадняцкім гаспадаркам зямля іхная аддаецца ў сталае карыстаньне, а беднянкія атрымліваюць з запаснога фонду надзелы да мінімальнай нормы. У РСФСР-жа, дзе грамадаўскі парадак зямлякарыстаньня, пэрыодычна адбываюцца ўраўнальныя перадзелы тэй зямлі, што знаходзіцца ў працоўным карыстаньні сялян.

## 5. Кодыфікацыя зямельнага законадаўства

Асноўны закон аб працоўным зямлякарыстаньні зусім не ахапіў усяго зямельнага законадаўства. Цэлых галін апошняга ён не закрануў, напрыклад, праўнай клясыфікацыі зямлі, юрыдычнай прыроды зямельнай суполкі двара, гарадзкой зямлі, дзяржаўнай зямельнай маемасьці ды інш. Таму IV Усебеларускі Зьезд Саветаў даручыў Народнаму Камісарыяту Зямляробства распрацаваць зямельны кодэкс і даць яго на зацьверджаньне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту з мэтай аб'яднаньня ўсіх існуючых асобных законапалажэньняў аб зямлі ў адзін агульны ды зразумелы працоўнаму насельніцтву закон.

29 сакавіка 1923 г. зямельны кодэкс быў зацьверджаны II сэсіяй ЦВК і ўвайшоў у моц з 15 красавіка. У яго аснову быў паложаны зямельны кодэкс РСФСР з тымі адзнакамі, што былі ўжо прыняты асноўным законам аб працоўным зямлякарыстаньні БССР за выключэньнем карыстаньня дапаможнай наёмнай працай. Наш кодэкс, як і кодэкс РСФСР дазволіў зямляробскім гаспадаркам наймаць парабкоў, толькі каб пры гэтым не пераступалі законаў аб працы.

Зямельны кодэкс БССР пацьвердзіў прынцып нацыяналізацыі зямлі, які ажыцьцяўляўся намі з 1919 г., і больш дакладна, як у асноўным законе, адзначыў права працоўнага зямлякарыстаньня, выявіў юрыдычную прыроду зямельнай суполкі і сялянскага двара, зрабіў клясыфікацыю зямлі, вызначыў задачы ды процэс новага зямлябудаўніцтва, устанавіў зямельную рэгістрацыю і пацьвердзіў структуру ды компэтэнцыю зямельнага суда, што быў завёў ужо асноўны закон.

Зямельны кодэкс, аднак, рэглямантуе карыстаньне далёка не ўсялякай зямлёй. Так, пра зямлю спэцыяльнага прызначэньня гаворыцца ў ім усяго ў адным артыкуле, а пра гарадзкую зямлю ёсьць толькі самыя агульныя палажэньні. Такім чынам, зямельны кодэкс датычыць амаль

выключна зямлі працоўнага карыстаньня ды дзяржаўнай зямельнай маемасьці. Дый то яшчэ рэгулюе ён ня ўсе способы скарыстаньня нават такой зямлі,—у кодэксе якраз амаль нічога няма пра мэліорацыю зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньня, пра дарогі на гэтай зямлі ды здабываньне выкапняў. З прычыны гэтага ў будучым зьявілася патрэбным распрацаваць спэцыяльныя законы аб зямлі лясной, гарадзкой, аб распрацоўцы нетраў, аб дарогах ды мэліорацыі.

Хаця выданы ў 1923 г. для Меншчыны зямельны кодэкс ужо ня мае моцы, аднак, каб разабрацца ў сучасным зямельным законадаўстве, дык трэба аналізаваць яго палажэньні, бо ён паложаны ў аснову выданага ў 1925 г. зямельнага кодэксу БССР.

Выданьне новага кодэксу было выклікана першы пашырэньнем Беларусі ў пачатку сакавіка 1924 г. Пасьля пашырэньня Прэзыдыум ЦВК 17 сакавіка пастанавіў трымацца ў далучаных абшарах зямельнага кодэксу РСФСР да асобнага распараджэньня. Пастанова гэта была выклікана як асаблівасьцямі зямлябудаўніцтва па асобных мясцох Беларусі, так і канечнасьцю апрацаваць для ўсяе пашыранае Беларусі агульны зямельны кодэкс, які адпавядаў-бы тым умовам, што стварыліся ў нашай рэспубліцы. А для гэтага патрэбна была вялізная падрыхтоўчая праца.

Зямлябудаўніцтва на Меншчыне да пашырэньня Беларусі мела на мэце абрэзку буйных гаспадарак, каб атрымаць фонд для надзелу малазямельных сялян ды стварыць добраахвотныя выселкі на ранейшай памешчыцкай зямлі, прычым мусілі быць захаваны нормы зямлякарыстаньня кожнага раёну. У той-жа час у Гомельшчыне выдзялялі з суполкі на выселкі, а зямлю разьмяркоўвалі па едаках.

На Смаленшчыне разьмеркаваньне пры выдзелах меншасьці робіцца таксама па колькасьці едакоў, але з хутарскай формай зямлякарыстаньня. Нарэшце, у Віцебшчыне, галоўным чынам, наразаюцца хутары, але ўжо паводле фактычнага зямлякарыстаньня. Натуральна, што як ужо зямлябудаўнічыя справы пачаліся, так іх у тым самым кірунку трэба і весьці. Таму адзін зямельны кодэкс, які вызначаў-бы адзіны прынцып зямлябудаўніцтва на ўсёй тэрыторыі пашыранай БССР, мог быць выданы толькі к пачатку зямлябудаўнічага пэрыоду, хаця адначаснае існаваньне ў межах рэспублікі двух зямельных кодэксаў—на Меншчыне кодэксу БССР, а ў далучанай Беларусі кодэксу РСФСР—было надта нявыгодна.

31 траўня 1924 г. Народны Камісарыят Зямляробства прапанаваў усім павятовым зямельным управам, собраўшы з месц весткі, выказаць свае думкі наконт таго, якія зьмены трэба зрабіць у зямельным кодэксе, што выклікаліся-б асаблівасьцямі мясцовага зямлякарыстаньня ды якіх-бы вымагала практыка работы, зробленай перад гэтым. На працягу лета ў Народны Камісарыят Зямляробства быў прысланы з месц вялікі ды каштоўны матэрыял. Для вывучэньня яго і апрацоўкі новага зямельнага кодэксу 1 жніўня створана была камісія. Перад ёй перш за ўсё стала

пытаньне: які зямельны кодэкс—БССР ці РСФСР—пакласьці ў аснову новага кодэксу. Кіраўнічымі органамі пытаньне гэта было вырашана на карысьць зямельнага кодэксу БССР, які, адбіваючы ў сабе мясцовыя асаблівасьці, не ўспамінаў аб грамадзкім зямлякарыстаньні і лічыў, што грамада ня мае права распараджацца запасным фондам, які знаходзіцца тут пад загадам зямельных органаў з прычыны нацыяналізацыі зямлі.

На тэрыторыі, далучанай да Беларусі пасьля яе пашырэньня, побач з надворным зямлякарыстаньнем, існавала ў часе вызваленьня з-пад прыгону і грамадзкае, але яно паволі зьнікла. За Сталыпіным, пасьля таго, як скасаваны былі выкупныя выплаты, было пастаноўлена, што ўсе тыя суполкі, дзе ня было перадзелаў, перайшлі да падворнага спосабу зямлякарыстаньня. Потым Савецкая ўлада, якая адмоўна адносілася да перадзелаў, бо яны, на яе думку, разбуралі гаспадарчае жыцьцё суполкі, выдала шэраг норм (Збор Узак. РСФСР 1919 г. № 36, арт. 362, 1920 г. № 35, арт. 170), якія абмяжоўваюць перадзелы. Дзякуючы гэтаму грамадзкае зямлякарыстаньне зьнікла к часу пашырэньня Беларусі і ў далучаных да яе мясцовасьцях. Сьведчаць аб гэтым і весткі з месц, што з іхнага боку няма пярэчаньняў супроць таго, што ў зямельным кодэксе, пры пашырэньні яго чыннасьці на ўсю Беларусь, не ўспамінаецца пра гэткі парадак зямлякарыстаньня.

Хоць грамада і зьнікла, але ўплыў яе адчуваўся пры ўнутрыпасельным зямлябудаўніцтве ў выбары разьмеркавальнай адзінкі. У далучаных да Беларусі мясцовасьцях, апрача Віцебшчыны, разьмяркоўвалі зямлю па едаках, што давала падушнае ўраўненьне зямлякарыстаньня і даводзіла часта да таго, што трэба было зьмяніць увесь уклад гаспадаркі, дзякуючы рэзкай зьмене ў ёй зямельнай плошчы.

На Меншчыне разьмеркаваньне зямлі пры зямлябудаўніцтве рабілася на падставе фактычнага зямлякарыстаньня паводле вызначаных для кожнага раёну норм, бо пры падворным парадку, паводле ранейшага зямельнага кодэксу, кожны двор набываў права карыстацца зямлёй у нязьменным разьмеры, калі зямля гэта ўраблялася асабіста гаспадаром ды яго сям'ёй. Дзякуючы гэтаму, толькі вялікія кулацкія гаспадаркі, якія эксплёатавалі для ўрабленьня зямлі сталую наёмную працу, абразаліся ў парадку зямлябудаўніцтва, а малазямельныя гаспадаркі атрымлівалі прырэзку з гэтай зямлі. Такое зямлябудаўніцтва выклікала да сябе прыхільнасьць бядняцкіх і серадняцкіх элемэнтаў і адпавядала клясаваму прынцыпу.

Нарэшце, на Меншчыне ня было прымусовых выдзелаў зямлі з суполкі па дамаганьні меншасьці гаспадароў з прычыны таго, што гэты спосаб зямлябудаўніцтва, паводле даваеннага законадаўства, ужывалі толькі ў грамадзе, і мэтай яго было разбурыць яе, а да таго-ж ён супярэчыў прынцыпу надворнага зямлякарыстаньня. Выдзел меншасьці гаспадароў бяз згоды суполкі наогул разбурае сялянскую гаспадарку, бо

выгодны з боку зямлябудаўніцтва толькі меншай частцы грамады і акідае большасьць. Да таго, як выявіла практыка Гомельшчыны, тая меншасьць, што выдзялялася з суполкі, з прычыны нізкай ацэнкі тэй зямлі, якую ім давалі, атрымлівала яе ня толькі ў адным месцы, але і значна больш, чым пропорцыянальна прыпадала на долю большасьці гаспадароў, нязгодных на выдзел. Выходзіла зямлябудаўніцтва меншасьці за кошт зьбядненьня рэшты суполкі.

Усе гэтыя асаблівасьці, якімі кодэкс БССР адрозьніваўся ад кодэксу РСФСР, адпавядалі таму характару, што склаўся да часу пашырэньня, пазямельных адносін у мясцовасьцях, далучаных да Беларусі. А з прычыны гэтага ў аснову проекта новага зямельнага кодэксу БССР быў паложаны яе ранейшы кодэкс.

Выпрацаваны Народным Камісарыятам Зямляробства проект новага зямельнага кодэксу БССР падany быў у кастрычніку 1924 г. ў Савет Народных Камісараў. Апошні, зьмяніўшы крыху гэты проект, падаў яго на разгляд III сэсіі VI скліканьня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

Проект новага зямельнага кодэксу разгледжаны ЦВК на паседжаньнях 2, 3 і 5 лістапада, прычым пастаноўлена паданы Саўнаркомам проект зямельнага кодэксу ў аснове зацьвердзіць, даручыць Прэзыдыуму ЦВК разаслаць кодэкс на месцы і, прымаючы пад увагу тыя папраўкі ды заўвагі, што будуць зроблены на працягу месяца, канчаткава прарэдагаваць кодэкс ды ўвясьці яго ў жыцьцё.

Усебеларускі Зьезд зямельных работнікаў на паседжаньнях 13—15 студзеня падрабязна абгаварыў проект новага зямельнага кодэксу БССР ды зрабіў свае заўвагі наконт паправак, якія мусяць быць зроблены ў проекце. Народны Камісарыят Зямляробства ўвесь матэрыял перадаў у законадаўчыя ўстановы. Прэзыдыум ЦВК канчаткова прарэдагаваў кодэкс разам з усімі заўвагамі з месц ды папраўкамі Зьезду зямельных работнікаў і абвесьціў яго чынным з 1 красавіка 1925 г.

Новы зямельны кодэкс БССР пабудаваны на тых самых прынцыпах, што паложаны ў аснову ўсіх зямельных кодэксаў незалежных рэспублік, якія ўваходзяць у склад СССР, а менавіта—на прынцыпах нацыяналізацыі зямлі, клясавага падыходу пры зямлябудаўніцтве контролю над зямлякарыстаньнем з боку зямельных органаў, стварэньня права працоўнага зямлякарыстаньня з мэтай яго трываласьці і моцы; апрача таго, паводле гэтага кодэксу, працоўныя гаспадаркі маюць права пры поўных умовах аддаваць зямлю ў працоўную арэнду, карыстацца дапаможнай наёмнай працай, выбіраць спосабы зямлякарыстаньня; двару належыць маемасьць агульнага карыстаньня; улада апякуецца аб таварыскім парадку зямлякарыстаньня і ствараецца спэцыяльны суд.

Аналіз палажэньняў зямельнага кодэксу БССР не зьяўляецца заданьнем гэтага артыкулу, бо ён павінен быць тэмай цэлай навукі-тэоры

зямельнага права БССР. Тут да рэчы будзе зазначыць толькі, чым розьніцца наш зямельны кодэкс ад кодэксу РСФСР.

Апрача тых прынцыповых асаблівасьцяй, што зазначаны былі ўжо, калі мы знаёміліся з асноўным законам аб працоўным зямлякарыстаньні, што паўтараюцца і ў зямельным кодэксе, у ім ёсьць яшчэ і іншыя, выкліканыя практыкай двухгадовага ўжываньня ранейшага зямельнага кодэксу, а таксама водзывамі з месц пры абгаварэньні імі проекту новага кодэксу.

Найбольш істотнымі сярод іх зьяўляюцца наступныя:

1. Выключана ўжываньне мясцовых звычаяў, бо на практыцы мае значэньне ўжываньне толькі такога звычаю, які супярэчыць закону; ужываньне-ж звычаю, не супярэчнага закону, зусім лішняе, бо ў гэтым выпадку ўжываецца закон, а ня звычай.

2. Працоўныя чужаземцы маюць права атрымліваць зямлю ў межах БССР на аднолькавых падставах з грамадзянамі БССР.

3. Былыя памешчыкі пазбаўлены права атрымліваць зямлю ў межах тае акругі, дзе былі іхныя ранейшыя маёнткі, аддаваць зямлю ў арэнду і карыстацца наёмнай працай.

4. Закон прызнае чаргу на надзел зямлёй тых грамадзян, што жадаюць атрымаць яе ў працоўнае карыстаньне, прычым зазначана, што, нараўне з безьзямельнымі ды малазямельнымі тубыльцамі-хлебаробамі, мае права атрымліваць зямлю працоўнае яўрэйскае насельніцтва з прычыны таго, што да рэволюцыі яно было пазбаўлена права ўладаць зямлёй у сельскіх мясцовасьцях.

5. Апрача выпадкаў, пералічаных у артыкуле 17, прызнана, што зямля застаецца ў гаспадарцы на кінуўшага яе члена, калі ён паступіў у навучальныя ўстановы, лечыцца ці невядома куды дзеўся і яго адсутнасьць належным чынам зарэгістравана.

6. У інтарэсах рацыянальнага скарыстаньня кінутай зямлі пастаноўлена адбіраць ад зямлякарыстальніка асобныя вучасткі, якія пакінуў ён без гаспадарчага скарыстаньня на працягу ня менш як 3 год.

7. За перасяленцамі захавана права на зямлю ў тым месцы, адкуль яны выехалі, а таксама права аддаваць на гэты тэрмін зямлю ў арэнду, каб даць ім магчымасьць плянамерна ды выгодна ліквідаваць сваю ранейшую гаспадарку ды набыць сродкі, каб абжыцца на новым месцы.

8. Каб умова арэнды не хавала за сабой незаконнай зьдзелкі на зямлю, вызначана, што зданая ў арэнду зямля трапляе ў запасны фонд, калі да сканчэньня тэрміну арэнды таго, хто аддаваў зямлю ў арэнду, ня будзе ў наяўнасьці.

9. Для далучэньня пры ўнутрыпасельным зямлябудаўніцтве да агульнай раскладкі, апрача ранейшай падзельнай, таксама і адасобненай купленай зямлі (хутароў), якія знаходзяцца ў карыстаньні паасобных двароў тае-ж суполкі, лічыцца, што вучасткі гэтыя ўваходзяць у склад зямельнае суполкі.

10. Устаноўлена, што каб прыгавор сходу аб зямлябудаўніцтве быў законны, трэба, каб было на ім ня менш двух трацін гаспадароў пры абы-якой колькасьці поўнапраўных членаў. Практыка выявіла, што сабраць на сход палову ўсіх поўнапраўных членаў, як гэтага вымагалі раней, не зьяўлялася магчымым, і таму зямлябудаўніцтва часта рабілася на падставе незаконных прыгавораў.

Законны склад выносіць пастанову простай большасьцю галасоў тых членаў, што зьявіліся на сход.

11. Вызначана, што зьмяняць гаспадара, які нядбайна вядзе гаспадарку, павінна зямельная камісія, але не раённы выканаўчы камітэт.

12. Выходзячы з таго прынцыпу, што толькі праца ня зямлю дае права на карыстаньне ёю, а не якое-небудзь сваяўство, вызначана, што пры сямейнай дзяльбе часткі маемасьці ды зямлі вызначаюцца па колькасьці работнікаў у гаспадарцы.

13. Лічыцца за лішняе добраахвотнае абвешчаньне гаспадарак нeнадзельнымі, бо Саветам Народных Камісараў павінны быць выданы абавязковыя пастановы аб абмежаваньні падробненьня гаспадарак шляхам дзяльбы, а Народным Камісарыятам Зямляробства апрацованы нормы непадзельнасьці, прычым нормы гэтыя абавязкова ня толькі для хутароў ды адрубаў, але і для гаспадарак з вучасткова-цераспалосным зямлякарыстаньнем.

14. Зьменена вызначэньне вучастковага парадку зямлякарыстаньня з прычыны таго, што разьмеры яго залежаць ад нормы, якая ўстанаўляецца ў парадку арт. 94 Зямельнага Кодэксу БССР.

15. Устаноўлена, што пры вучастковым парадку зямлякарыстаньня могуць зьмяняцца ня толькі месца і граніцы, але таксама і разьмеры гаспадарак як пры зямлябудаўніцтве, так і тады, калі зямля забіраецца для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб, прычым абрэзка гаспадарак, якія перабіраюць норму, робіцца і апрача зямлябудаўніцтва.

16. Вызначаны парадак адбіўкі сядзібных вучасткаў пры зямляўпарадкаваньні, новым расплянаваньні паселішчаў пасьля пажараў і пры сямейнай дзяльбе.

17. У інтарэсах заахвочваньня да пераходу к колектыўнаму парадку зямлякарыстаньня дазволены выдзел з суполкі без яе згоды часткі гаспадароў, якія зажадалі стварыць колектыў.

18. Замацавана ў сталае працоўнае карыстаньне зямля за паасобнымі працоўнымі гаспадаркамі з дню выдачы ім дакумантаў.

19. Да зямлябудаўнічых работ, што робяцца па ініцыятыве зямельных органаў, належыць абрэзка буйных не залічаных да культурных сельскіх гаспадарак.

20. Растлумачана, што пад зямлябудаўнічай установай трэба разумець зямельную камісію, якая павінна разглядаць як спрэчныя, так і няспрэчныя зямлябудаўнічыя справы. Апошнія дагэтуль у РСФСР разглядаліся на зямлябудаўнічых нарадах. На Меншчыне-ж створаны яны ня былі.

21. Вызначана, што асноўная зямельная рэгістрацыя робіцца ў абавязковым парадку, прычым плата за яе спаганяецца ў бясспрэчным парадку.

22. Спрошчана структура зямельнага суда, а менавіта: замест ранейшых трох інстанцый—валасной, павятовай і вышэйшай зямельнай камісіі—пакінуты дзьве—раённая ды акруговая зямельная камісія.

23. Акруговыя зямельныя камісіі разглядаюць скаргі на пастановы раённых камісій як па існасьці, так і ў касацыйным парадку г. зн. маюць права зацьвярджаць абжаленую пастанову, зьмяняць яе, касаваць, вяртаць справу для новага разгляду і, нарэшце, зусім спыняць справу.

24. Пастановы акруговых зямельных камісій, зробленыя на падставе скаргаў на пастановы раённых, вяртаюцца для выкананьня безадкладна, хаця-б была падана ў парадку нагляду скарга ў Асобную Колегію Вышэйшага Контролю. Усе іншыя пастановы зямельных камісій выконваюцца толькі пасьля таго, як увойдуць у законную сілу.

Такім чынам, між зямельным кодэксам БССР у часе яго выданьня і кодэксам РСФСР была досыць значная розьніца. К гэтаму часу яна крыху зьменшылася, бо пасьля выданьня нашага кодэксу ў зямельным кодэксе РСФСР зроблены зьмены, якія супадаюць з прынятымі ў нас палажэньнямі, а менавіта:

1. Пастановай УЦВК ад 6 мая 1925 г. даўнейшыя памешчыкі пазбаўлены права на надзел зямлёй у тых мясцовасьцях, дзе знаходзяцца іхныя даўнейшыя маёнткі (Арт. 9 Зям. Код. РСФСР і арт. 9 Зям. Код. БССР).

2. Пастановай УЦВК ад 24 кастрычніка 1925 г. працоўным чужаземцам дана права на надзел зямлёй нараўне з грамадзянамі РСФСР (арт. 9 і арт. 9).

3. Тэй-жа пастановай зямельным суполкам дана права здаваць зямлю пад будову (арт. 13 і ўвага да арт. 60).

4. Пастанова УЦВК і СНК ад 4 кастрычніка 1926 г. прызнае, што адсутнасьць члена двара, выкліканая знаходжаньнем яго ў навучальнай установе, а таксама хваробай, не пазбаўляе яго права на зямлю ў складзе двара (арт. 17 і арт. 16).

5. Паводле пастановы УЦВК і СНК ад 14 сьнежня 1925 г. перасяленцы маюць права на сваю зямлю на бацькаўшчыне да 3 год (арт. 18 і арт. 20).

6. На падставе пастановы ЦВК і СНК ад 22 лютага 1926 г. зямля, што была ў арэндзе, залічаецца ў запасны фонд, калі па сканчэньні тэрміну арэнды той, хто здае, ня возьмецца сам уласна за гаспадарку (арт. 30 і 36).

7. Паводле пастановы ЦВК і СНК ад 22 лютага 1926 г. перасяленцы маюць права здаваць сваю зямлю ў арэнду ў тым месцы, адкуль яны перасяліліся (арт. 34 і 33).

8. На падставе пастановы УЦВК і СНК ад 4 кастрычніка 1926 г. члены двара, не працаваўшыя на гаспадарцы з прычыны абавязковай ці выбарнай службы, хваробы ды вучэньня, маюць права вымагаць разьдзелу двара (арт. 75 і 73).

9. Пастанова УЦВК і СНК ад 27 сьнежня 1926 г. зазначае, што ў парадку зямлябудаўніцтва могуць рабіцца перамяшчэньні сядзібных вучасткаў бяз згоды іхнага гаспадара (арт. 126 і 111).

10. На падставе пастановы УЦВК ад 5 мая 1925 г. зямельныя камісіі маюць права зацьвярджаць як спрэчныя, так і бясспрэчныя зямлябудаўнічыя проекты (арт. 207 і 194).

11. Згодна пастановы УЦВК ад 5 мая 1925 г, усе спрэчкі аб правох на карыстаньне зямлёй асобных людзей, двароў ці зямельных суполак, якія здараюцца ў межах раёну, аддаюцца на разгляд раённых зямельных камісій (арт. 213 і 199).

У далейшым трэ' думаць, што розьніца гэта зьменшыцца яшчэ больш, асабліва калі ў нас будзе скончана абрэзка буйных гаспадарак і калі, у сувязі з ажыцьцяўленьнем будаўніцтва, будуць адкінуты правілы аб нормах, а ў РСФСР, па ўзору Валакаламскай грамады, спыняцца ўраўнальныя перадзелы, якія супярэчаць прынцыпам трываласьці зямлякарыстаньня і перашкаджаюць павялічэньню продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ХАРАКТАР ЛІТОЎСКАГА СТАТУТУ 1529 г.

**С. Барысёнак**

## I

Гістарычны шлях юрыдычнага разьвіцьця Літоўскага княства, які прывёў да ўтварэньня агульнадзяржаўнага кодэксу 1529 году, быў даволі складаным. Параўнаўча нямногалічбавы літоўскі народ, аб якім у часы валынскага князя Рамана склалася на Валыні далёка нявыгодная палітычная прыказка: „Романе, худым жывеши, Літвою ореши“ зрабіўся ўрэшце гегемонам сярод цэлага шэрагу старадаўня-рускіх зямель—княстваў. У гэтым новым дзяржаўным целе пануючаю палітычнаю сілаю была, зразумела, нацыя літоўская. Яна дала і сваё нацыянальнае імя дзяржаве („зямля Літоўская, вялікае княства Літоўскае, панства Літоўскае“), хоць яе ўласная нацыянальная тэрыторыя не перавышала 1/10 усёй дзяржаўнай тэрыторыі, хоць сваю магутнасьць яна будавала далёка не сваімі ўласнымі патугамі. На Украіне яшчэ ў другой палавіне XV сталецьця жывуць успаміны аб іншых палітычных суадносінах нацый, якія склалі літоўскую дзяржаву. У 1567 годзе Філон Кміта, дзяржаўца Аршанскі, у сваім лісьце да вядомага князя Рамана Сангушкі піша:

> „Будь господарю *таким Романом, што Литвою орал*, ова за помогою Божею отменитъ, *што Москвою орать будешъ*, да мене слуги и холопа своего не опущай з ласки“ *).

Аднак, літоўская нацыя, узяўшая перавагу ў палітычных адносінах, павінна была дапусьціць удзел у палітычным жыцьці і другія народнасьці; а з другога боку—падпала самай глыбокай праўнай асыміляцыі з чужымі нацыямі (спачатку беларускай, а пасьля польскай). Літоўскае нацыянальнае права не ўладала правам, якое-б падпарадкавала літоўскай дзяржаве старадаўня-рускія землі. Больш таго. Літоўскае права само аказалася пераможаным правам старадаўня-рускім. А між тым, сваё звычаёвае права, нацыянальнае права, у літоўцаў, бязумоўна, павінна было існаваць. На гэта проста паказваюць помнікі. Так, у прывілеі, выданым у 1492 г. Літоўскім урадам Жмудзкай зямлі, гаворыцца, што ў выпадку скаргаў на

---

*) Arch. XX Sanguszków, we Lwowie, 1910 т. VII, стар. 187– Костомаров адкідае за гэтаю прыказкаю гістарычную сапраўднасьць, але яна поўнасьцю адпавядае палітычным умовам часу Рамана.--Костомаров „История России в жизнеописании ее главных деятелей“, выд. Сойкіна, стар. 109.

каго-небудзь з жмудзінаў ці патаемнага абвінавачаньня, прысуд над тым, хто абвінавачваецца, пастанаўляецца не раней, як пасьля папярэдняга судовага разгляду, зробленага на падставе Літоўскага права [1]). На існаваньне „Літоўскага права", якое адрозьніваецца ад права „рускага", паказвае і прывілей на майдэборскае права, данае ў 1499 годзе Менску:

„тое место нашо Менъскъ съ права Литовъского и Руского и которое коли будеть тамъ перво держано, у право немецкое, которое зоветься Майтборъское переменяем на вечные часы" [2]).

Упамінаньне тут аб Літоўскім праве наўрад ці зьяўляецца выпадковасьцю канцэлярскага характару. Так, Менск у скорасьці пасьля далучэньня да Літвы (з пачатку XV сталецьця) знаходзіўся ў непасрэдным кіраваньні літоўскіх князёў, належачы да ліку віленскіх двароў [3]). Гэта тэрыторыя была колёнізавана літоўцамі, хоць сапраўдную пашыранасьць гэтай колёнізацыі трудна азначыць. Але на існаваньне яе ёсьць выразныя паказаньні крыніц. Так, напрыклад, у XV сталецьці ўспамінаецца ў Слонімскім павеце дзесятак (падатковая адзінка) *Літоўскі*, а ў Ваўкавыскім—*Жамойцкі*. „У крыніцах XV і першай палавіны XVI сталецьця можна сабраць ня мала паказаньняў на вайскова-служылую колёнізацыю Чорнай Русі, на існаваньне ў гэтым краі вялікай колькасьці маёнткаў літоўскіх князёў, паноў і баяр" [4]).

З другога боку, і ў карэнную Літву з даўняга часу накіроўвалася колёнізацыя з украінскіх і беларускіх земляў. Так, па словах І. Я. Скржса, на тэрыторыі Жамойці „ёсьць ня мала цэлых маёнткаў, земляў і ўрочышчаў з выключна рускімі назвамі" [5]). Сярод фамілій, якія сустракаюцца ў актавых кнігах, сустракаецца многа фамілій рускага пахаджэньня [6]).

Аднак выявіць асаблівасьці „Літоўскага" права па параўнаньні з правам „рускім" пры сучасным стане крыніц зьяўляецца справаю вельмі труднаю [7]).

Літва, уладаючы потэнцыяльнымі сіламі для ўтварэньня палітычнай гегемоніі сярод беларускіх і украінскіх земляў, выступіла на палітычную арэну без вялікага культурнага багажу, у той час як старадаўня-рускія землі пражылі вялікую і славутую эпоху разьвіцьця матэрыяльнай і

---

[1]) Ясинскій „Уставныя земскія грамоты Литовско-Руского государства". Кіевъ 1889, стар. 124.

[2]) Рус. Ист. Библ. т. XXVII стар. 740.

[3]) Любавскій. Областное дѣленіе и мѣстн. управленіе Литовско-Руского государства". М. 1892 г., стар. 12—15.

[4]) Там-жа., стар. 4.

[5]) Акты, якія выдаваліся Віленскім Камітэтам для разбору спраў старадаўніх актаў, том XXXII. Вільня, 1907, прадмова, стар. XXII.

[6]) Ib., стар. XXI.

[7]) Надзвычайна цікавай і ўдзячнай задачай было-б вывучэньне сучаснага звычаёвага літоўскага права.

духоўнай культуры. А права ўжо даўно вышла за мяжу стыхійнага панаваньня звычаю. Ужо даўно дзейнічала пісанае права, якое к гэтаму часу перанесла ўплыў і законадаўчай творчасьці. Пры такіх умовах Літоўскаму звычаёваму праву, якое ня вышла яшчэ з дзіцячага становішча, трудна было разьлічаць на панаваньне над правам беларуска-украінскіх зямель. У лепшым выпадку яно магло існаваць толькі поруч з беларуска-украінскім правам.

Конкурэнтам „рускага“ права ў Літоўскім княстве выступае права польскае. Прывілей 1387 году адчыняе пэўную легальную дарогу для польскага ўплыву, праўда, спачатку пераважна ў сфэры права дзяржаўнага. Але нельга адмаўляць яго ўплыў і ў другіх галінах права. У Літоўскім Статуце 1529 году ён выяўляецца даволі прыкметна.

Кажучы аб нацыянальным характары Літоўскага Статуту 1529 году, прыходзіцца браць пад увагу іменна гэтыя тры нацыянальных супярэчлівых сілы—права літоўскае, польскае і украінска-беларускае. Ні рымскае, ні чэскае, ні нямецкае права значнай удзельнай вагі ў даным выпадку ня маюць.

II

Мноствам нацыянальных сіл, якія прымалі ўдзел у праватворчасьці Літоўскай дзяржавы, і вытлумачваецца спрэчнасьць пытаньня аб нацыянальным характары кодэксу 1529 году. Тут стыкаюцца самыя супроцьлежныя концэпцыі гістарычнага разьвіцьця праўнага жыцьця, якое папераджала ўтварэньне Статуту 1529 году. Сучаснае становішча пытаньня ўскладнілася яшчэ больш параўнаўча з папярэднім, бо на сцэну выступіла імкненьне выясьніць пераважнае значэньне аднэй з дзьвёх „рускихъ“ праўных сыстэм: украінскай ці беларускай [1]).

Польская гісторыяграфія і да апошняга часу прытрымліваецца традыцыйнага пункту погляду на права Літоўскага Статуту, як на права провінцыяльна-польскае. Так іменна разглядае Літоўскі Статут вядомы сучасны польскі гісторык проф. Кутшэба ў сваёй нядаўнай працы: „Historya źródeł dawnego prawa polskiego“, т. II.

Аднак ужо даўно, з часу Даніловіча, а зусім выразна пасьля параўнаўчага вывучэньня Літоўскага Статуту профэсарам Леантовічам, выявілася падабенства норм гэтых двух помнікаў і закладзена была концэпцыя „заходня рускага“ права, якое прадстаўляе сабою далейшае разьвіцьцё агульна-рускіх пачаткаў Рускай Праўды [2]).

Адсюль патрэбнасьць вывучэньня яго для поўнага ўясьненьня гісторыі „рускага“ права, другой галінай якога зьяўляецца права маскоўскай дзяржавы.

---

1) Тэрмін „рускі“ мы ўжываем, ідучы ўсьлед за сучаснымі помнікамі, дзе ён сустракаецца як супроцьпастаўленьне беларусаў і украінцаў ад Літвы і палякаў.

2) Леонтовіч. Русская Правда и Литовскій Статутъ. Кіевъ, 1865 г. (Адбітак з Кіеўскіх Унівэрсыт. Ізьвесьцяў).

Украінская гісторыяграфія, якая адкідае концэпцыю „агульна-рускага права“, высоўвае пункт погляду самастойнага ходу разьвіцьця юрыдычнага жыцьця, таго права, якое знайшло сваё надворнае выражэньне ў Рускай Праўдзе. Але з тэй прычыны, што права, якое дзейнічала ў беларускіх землях і якое таксама і далей разьвівала пачаткі Рускай Праўды, увайшло ў Літоўскі Статут, дык высоўваецца далейшая задача выясьненьня ўдзельнай вагі праўных сыстэм украінскіх і беларускіх земляў, якія ў поўнай меры склаліся к моманту выданьня Літоўскага Статуту. Справа ідзе не аб тым падабенстве, якое наглядаецца паміж Літоўскім Статутам і Рускаю Праўдаю, а аб тых мясцовых звычаёва-праўных сыстэмах, якія паслужылі крыніцамі для Літоўскага Статуту.

Ва украінскай гісторыка-юрыдычнай літаратуры погляд на Літоўскі Статут, як на помнік украінскага права, найбольш рэзка выказаў проф. Лашчанка [1]). Акадэмік М. Грушэўскі прытрымліваецца некалькі іншага пункту погляду. Ён лічыць, што права Рускай Праўды, якое сформавалася ў сярэднім Прыдняпроўі, у выніку палітычнага і культурнага заняпаду апошняга, не магло мець непасрэднага ўплыву на права вялік. княства Літоўскага ў пэрыод яго формаваньня (XIV—XV сталецьце). Галоўным элемэнтам, які ўтварыў у княстве Літоўскім парадак, права, культуру, быў ня столькі украінскі, колькі беларускі. І калі права Рускай Праўды было ўсвоена законадаўствам і практыкаю вялікага княства Літоўскага, дык запазычана было гэта права Рускай Праўды не з Падняпроўя, а з тутэйшых земляў, з іх права і практыкі [2]).

Зусім зразумела, урэшце, што беларуская гісторыяграфія прылічае Літоўскі Статут да помнікаў беларускага права [3]).

Такая, у кароткіх словах, пастаноўка пытаньня аб нацыянальнай істоце Літоўскага Статуту ў сучасны момант. Але трэба прызнаць, што такое разгалосьсе ў ацэнцы да пэўнай ступені тлумачыцца адсутнасьцю шырокага і паглыбленага вывучэньня крыніц Літоўскага Статуту.

З прац у гэтым напрамку трэба вылучыць раньнюю работу Н. Максімейка [4]). Яна каштоўна асабліва ў тэй частцы, дзе процістаўляецца Літоўскі Статут з польскім правам. Але яна аналізуе крыніцы толькі адных крымінальных законаў, а апрача таго, не дае—пры сучаснай пастаноўцы разгляданай проблемы—правільнай гістарычнай пэрспэктывы, таму што бярэм для параўнаньня, галоўным чынам, Рус. Праўду і Літоўскі Статут, абыходзячы самы важны і патрэбны матэрыял—звычаёвае права і судовую практыку папярэдняга часу Статуту 1529 году. Акадэмік М. Грушэўскі зусім правільна адзначыў патрэбнасьць прасачыць—

[1]) Профэсар Р. Лашчанка. Лит. Статут, яко памятник українського права. Наук. збірник Українського Універс. в Празі. Том. І. Прага. 1923, стар. 66—95.

[2]) М. Грушэўскі „Історія України—Руси“, т. V, стар. 631.

[3]) Проф. У. Пічэта. Гісторыя Беларусі, ч. першая. М. 1924 г.

[4]) Н. Максімейка. Источники уголов. законовъ Литовского статута Кіевъ, 1894 г.

ці адбывалася рэцэпцыя Рускай Праўды літоўскім правам шляхам непасрэднага прыстасаваньня іменна гэтага помніка, ці толькі ўскосным шляхам—паколькі нормы сподыфікаваных у Рускай Праўдзе перайшлі ў юрыдычную практыку беларускіх зямель [1]).

Трэба адзначыць, што проф. Максімейка ў больш познай сваёй працы: „Руская Праўда і літоўска-рускае права“ карыстаецца і матэрыялам з судовай практыкі XV—XVII ст., але толькі, галоўным чынам, з тэй мэтаю, каб літоўска-рускім правам высьветліць Рускую Праўду [2]). Гэта, зразумела, зусім іншы падыход да Літоўскага Статуту.

Сучасная пастаноўка пытаньня аб нацыянальным характары Літоўскага Статуту высоўвае новыя моманты ў дасьледаваньні гэтага помніка. Калі ўжо ўзьнікла спрэчка аб тым, чыя праватворчасьць была больш актыўнай у Літоўскай дзяржаве, дык мабыць патрэбна спыніцца ня столькі на падабенствах розных нацыянальных праўных сыстэм (а іх можна знайсьці ня мала), колькі на рознасьці. З другога боку, толькі вывучэньне звычаёвага права і судовай практыкі, паколькі гэта можна выявіць з судовых спраў гаспадарскага (вялікакнязеўскага) суду, можа зьвязаць Літоўскі Статут з сучаснай яму эпохай. У гэтых адносінах уся папярэдняя літаратура аб Літоўскім Статуце амаль нічога ня можа даць.

III

Юрыдычны сэпаратызм Літоўскай дзяржавы напярэдадні выданьня Статуту 1529 году, які знайшоў сваё выражэньне ў многалічбавых, земскіх прывілеях, заходзіць у далёкую старадаўнасьць. Яшчэ аўтар „Повести временных лет“, выкладаў сваю тэорыю зьяўленьня рускай зямлі, адзначыў рознастайнасьць права, якое дзейнічала сярод розных пляменьняў: „имяху бо обычаи свои, и законъ отецъ своихъ и преданья, кождо свой нравъ“ [3]). Далей летапісец пералічае некаторыя звычаі славянскіх пляменьняў, якіх не існавала, па яго словах, у палян. У яго час узровень праўнага разьвіцьця ў асобных землях быў розны. Так, нават бліжэйшыя суседзі палян—драўляне ведалі яшчэ шлюб шляхам крадзяжу („умыкоаху у воды дѣвица“), у іх панавала помста („убиваху друг друга“). Крывічы называюцца паганымі, таму што, як і Вяцічы, паляць нябожчыкаў і сьвяткуюць трызну.

Гэты юрыдычны сэпаратызм павінен быў адчуць зруйнавальны ўплыў з боку Рускай Праўды. Але да якой ступені ішоў невіліруючы ўплыў гэтага помніка на мясцовае звычаёвае права?

Для параўнаньня Руская Праўда са звычаёвым правам, якое дзейнічала ў розных другіх рускіх землях, ёсьць матэрыял, хоць і ня вельмі

[1]) Грушэўскі. Іст. Укр.—Русі, V, стар. 631.

[2]) Зборнік артыкулаў па гісторыі права, які прысьвячаецца М. Ф. Уладзімірскаму-Буданову. Кіеў, 1904 г.; стар. 382 і наступныя.

[3]) „Повесть временных лѣтъ“ па Лаўрэньцьеўскаму сьпісу. Выд. Архіол. Кам. СПБ, 1910 г., стар. 12.

багаты. У прыватнасьці сваеасаблівасьць права зямлі Смаленскай можна выявіць пры аналізе ўмовы Смаленску з немцамі 1229 году, у эпоху непасрэднай дзейнасьці пашыранай Рускай Праўды.

Адзначым, раней за ўсё, тэрмінолёгію „Смаленскай Праўды“, якая адносіцца да розных галін права:

„Князь, вл[а]д[ы]ка, гость, коупьчь, посълъ, дворянинъ, свобоดѣный члвкъ, моужъ, гарожане, хълопъ, княжь хълопъ, дъбрыи люди, жена, роба, дѣтским, тиоунъ, староста, дроужина, грамота, лихий, моужь, тать, пагоуба, свяжеть без вины, оучинить насилье, извиниться, ouранять, безвѣка биеть, синь любо кровавъ, убитъ, за голову 10 гривенъ.

Соудъ, правда, пересоудъ, соудви, послоухъ, оу жельза оусадить, оу погрѣбъ не мьтати, желью горячее, на полѣ биться, мьтати жеребѣи, дѣтского приставити, наемъ, дѣтьскому пороука, оупирати послухомь.

Товаръ, дѣлгъ, виноватъ кому, заемъ, остатъкъ, платити, продавати, мыто, вѣс[е]ть, вѣсити, коуна смольнеская, ногата смольнеская, гривна серебра, конь, полѣчь, наимоун, посоулить, земледѣржци, пьчать, свободѣнъ, путь, городъ, поставъ“.

У больш раньнім помніку права Смаленскай зямлі—Уст. грамата смаленскага князя Расьціслава 1150 г. [1])—знаходзім наступныя юрыдычныя тэрміны:

„сдумавъ съ людми своими, прощепини, вира и продажа, полюдье, погостъ, передмеръ, дань, истужницы, перевозъ, торговое, мыто“ і інш.

Ці запазычана вышэйпаказаная юрыдычная тэрмінолёгія цалкам з Рускай Праўды? Наўрад ці можна сьцьвярджаць гэтае. У самую старадаўнюю эпоху юрыдычныя тэрміны пераходзілі ў юрыдычны быт, галоўным чынам, са звычайнай жывой гутаркі. Пры панаваньні звычаёвага права многія юрыдычныя інстытуцыі і зусім ня маюць строгага абазначэньня (напрыклад, баярская дума), і вельмі часта адно паняцьце выражаецца некалькімі тэрмінамі. Калі і сустракаюцца ў помніках старадаўня-рускіх зямель тэрміны такія-ж, як і ў Рускай Праўдзе, дык гэта тлумачыцца падабенствам гутарак, якія ўжываліся ў розных землях, не адмаўляючы ў поўнай меры магчымага пераходу юрыдычнай тэрмінолёгіі Рускай Праўды ў права Смаленскай і другіх зямель, трэба прызнаць у аснове зьяўленьня і разьвіцьця гэтай тэрмінолёгіі самастойную аснову ў відзе жывой мовы данай тэрыторыі.

Аналіз умоў з немцамі XII—XIII ст. ст. дае прафэсару Ўладзімірскаму-Буданову падставу сказаць, што „пастановы ўмовы 1229 году зусім падобныя да пастаноў Р. Праўды, мелі моц ува ўсёй паўночна-заход-

---

[1]) Хрестоматия по истории Русской правды, М. Владим.-Буданова, в. I, СПБ, 1908 году, стар. 219.

няй Русі. Пры параўнаньні-ж з дагаворам Ноўгарадзкім 1195 году выяўляецца, што ў XII—XIII сталецьцях ува ўсёй Русі панавала адно звычаёвае права, іменна тое, якое выражана ў Рускай Праўдзе" [1]).

Але калі можна адзначыць у гэтых помніках падабенства, дык заўсёды гэтым не вырашаецца пытаньне аб сэпаратным, мясцовым праве другіх рускіх зямель, усіх яго асаблівасьцяй, якія пераважна і прыдавалі яму жыцьцёвы характар. Права было глыбака конкрэтна, і ім даражылі і яго абаранялі якраз за тое, што яно ня было падобным на права другой мясцовасьці.

Можна паказаць на цэлы шэраг палажэньняў Праўды Смаленскай, якія адрозьніваюцца ад Рускай Праўды. Так, удар па вуху Рус. Праўда лічыць псыхічнай зьнявагай і ўстанаўляе вышэйшаю продаж—12 грыўняў, (Акадэмічны сьпісак, артыкул 3); Смаленская Праўда (арт. 5) прызначае 3 грыўні куп ($^3/_4$ грыўні срэбра). Наадварот, за раны штраф па Смаленскай Праўдзе (арт. 7) удвая большы, чым па Рускай Праўдзе (кар. 25). Па смаленскім дагаворы холоп уладае грамадзянскай праваздольнасьцю (арт. 12). Успамінаецца злачынства, невядомае Рускай Праўдзе—паблуд (артыкулы 17—19).

Асаблівай увагі заслугоўваюць артыкулы Смаленскай Праўды аб полі (арт. 15—16). Гэтага віду суду божага—сучасная Смаленскаму Дагавору Руская Праўда ня ведае. З гэтай прычыны профэсар Максымейка гаворыць: „Больш за ўсё праўдападобней маўчанка Рус. Праўды аб паядынках тлумацыцца тэй акалічнасьцю, што яна зьявілася ў тэй мясцовасьці, дзе паядынкі не практыкаваліся. Ні ў законадаўчых помніках, ні ў судовых актах вял. кн. Літоўскага я не знаходзіў паказаньняў на судовыя паядынкі" [2]).

Трэба таксама адзначыць норму, якая трактуе аб тацьбе (Смален. дагавор, арт. 32) зусім інакш, чым Руская Праўда. (Ак. 38; Кар., 37). Аднак, тут выявілася супярэчнасьць духу ня рускага права наогул, а толькі права Рускай Праўды [3]). Прывілей Віцебскай зямлі амаль літаральна аднаўляе норму Смаленскага Дагавору [4]).

Асаблівасьцю Смаленскай Праўды была забарона весьці супраціўны бок к „жалезу", калі ён сам ня хоча гэтага. (Смаленскі дагавор, 14). Па Рускай Праўдзе прыстасаваньне „жалеза" дапушчалася „изневоли".

Такім чынам, супроцьстаўленьне Рускай Праўды з Праўдаю Смаленскай паказвае, што поруч з падобнымі нормамі гэтыя помнікі зьмяшчаюць нормы, якія значна адрозьніваюцца адзін ад другога. Усё

---

[1]) М. Владимирский-Буданов. Хрестоматия, в. I, стар. 107, увага 50.

[2]) Максимейко. Русская Правда и литовско-русское право. Зборнік, стар. 394.

[3]) Параўнаўчая ўвага 40 да 32 арт. Смален. Дагавор, Владим.-Буданов, Хрестоматия, I, стар. 105.

[4]) Ясинский. Уставные земския грамоты, стар. 177.

пытаньне толькі ў тым, як разумець супольнасьць норм права тых зямель, якія пасьля ўвайшлі ў склад Літоўскай дзяржавы?.. Можна дапусьціць, што Руская Праўда проста перайшла з Кіеўскай Русі ў другія землі і ўжывалася як цэльны комплекс юрыдычных норм. Можна нават паказаць спосаб, якім Рус. Праўда магла ўходзіць у юрыдычны быт другіх зямель—князяваньня адзінай дынастыі Рурыкавічаў. Але тады трудна ўявіць, якім чынам права мясцовае выціснулася правам Рус. Праўды, калі нават шмат пазьней, у XV—XVI ст. ст., за сваё права так хваталася насельнасьць асобных зямель і шанавала яго, ня гледзячы на тое, што розьнасьць у праве земскіх прывілеяў можа нам паказацца не настолькі ўжо вялікаю? Руская Праўда была вядома аўтарам Смаленскай Праўды, аднак не яна лягла ў аснову Смаленскага Дагавору, а права сваё мясцовае, і, мабыць, ня толькі смаленскае, раз Полацак і Віцебск ужывалі таксама яе. Аўтары ня сьпісалі з Рускай Праўды свае нормы, таму што ўнесьлі ў Дагавор нормы, невядомыя Рус. Праўдзе, з аднаго боку,—і з другога, па адных і тых-жа пытаньнях далі свой уласны, зусім самастойны адказ. Апрача таго, хто меў магчымасьць увесьці ў сыстэму мясцовага звычаёвага права Рускую Праўду, як збор звычаяў Кіеўскай Русі? Як справядліва адзначае проф. Філіпаў, Руская Праўда „ня была складзена па загаду князёў і ня была іх „статутам"... яны ніколі не прадпісвалі судом ужываць яе пры вырашэньні спраў. Яна ўжывалася дзякуючы сваёй унутраной вартасьці, а ня дзякуючы свайму афіцыяльнаму значэньню" [1]). Сапраўды, Руская Праўда была выгодна тым, што давала гатовую цьвёрдую пісьмовую формулёўку праўным нормам, але чужое звычаёвае права рэцыпіравала гэтую формулёўку толькі ў тых выпадках, калі істота норм была тая-ж самая, ня супярэчыла традыцыйнай правасьвядомасьці, сваёй мясцовай „праўдзе". Прадстаўляць сабе рэцэпцыю Рус. Праўды, як процэс замены ёю мясцовага звычаёвага права, можна толькі недаацаніўшы значэньня консэрватыўнасьці звычаю ў старадаўнюю пару і адхіліўшы з поля ўвагі існаваньне цэлага шэрагу звычаёва-праўных сыстэм зямель, якія ўвайшлі ў склад Літоўскай дзяржавы. Даволі ўспомніць рэцэпцыю візантыцкага права і яе вынікі. А яно-ж уваходзіла (внедрялось) з дапамогаю дзяржаўнай улады, доўга і ўпарта. Асобныя рэзкія спробы рэформ, як замена Ўладзімерам вір сьмяротнаю караю, цярпелі няўдачу, стыкаючыся з нязрушным звычаем.

Такім чынам, можна прызнаць, што ўжываньне Рускай Праўды—і, пры тым, асобных яе палажэньняў, а не комплексу норм у цэлым—ня зьнішчала мясцовага земскага звычаю, і далейшы процэс разьвіцьця права, які адбываўся ў кожнай зямлі, зьяўляецца разьвіцьцём ня чужога, хоць і падобнага, права, якое мелася ў Рускай Праўдзе, а права свайго, мясцовага.

[1]) Филипповъ. Учебникъ истории русского права. Ч. I, Юрьевъ, 1914, с. 96.

## IV

Ня гледзячы на палітычную самастойнасьць беларускіх зямель: Смаленскай, Полацкай і Віцебскай, ім прыходзілася здаўна коордынаваць сваю замежную палітыку. Так, дагавор 1229 г. ўтварыў Смаленск, аднак гэты дагавор пашыраў сваю моц і на Полацак і на Віцебск, хоць невядома якім чынам быў зьдзейсьнены ўдзел гэтых апошніх у складаньні дагавору:

„Тоя правда Латинескомоу възяти оу Роуской земли оу вълъсти князя смольнеского и оу полотьского князя вълъсти и оу витьбеского князя вълъсти".

Зьмест Дагавору 1229 году рознастайны, але, зразумела, ён ня мог выявіць юрыдычны быт у такой паўнаце, як Руская Праўда, бо мэтаю яго было ўрэгуляваньне міжнародных адносін. Але, мабыць, ужываць у трох землях нормы Дагавору, якія датыкаліся грамадзянскага, крымінальнага права і процэсу, можна было толькі з прычыны вялікага падабенства ў праве гэтых земляў.

Дасьлядоўнік земскіх прывілеяў в. кн. Літоўскага—Якубоўскі, рэстаўрыруючы самы старадаўны тэкст полацкага і віцебскага прывілеяў, прышоў да вываду, што ў аснове іх ляжаць „рады" старадаўніх князёў з зямлёю[1]), а дайшоўшы да нас адрывак полацкіх радаў належыць да першай палавіны XIV сталецьця[2]). „Самая старадаўняя частка полацкага і ўвесь віцебскі прывілей вельмі блізкі паміж сабою, так што ў большасьці выпадкаў паўтараюць тыя-ж самыя палажэньні, у тым-жа парадку і амаль у тых-жа самых выразах. Гэтая акалічнасьць наводзіць на думку, што першапачатковы прывілей Вітаўта, аб якім успамінае полацкі прывілей 1511 году, быў выданы ў аднолькавай форме як для полацкай, так і для віцебскай зямлі, і што тая розьніца, якую мы сустракаем у абодвых тэкстах, трэба прыпісаць пацьвярджэньням Сьвідрыгайла і Сыгізмунда (1430—1440 г. г.)"[3]). Пры складаньні Смаленскага прывілею (не раней 1442 году, па думцы Якубоўскага) узорам мог паслужыць віцебскі прывілей, чым вытлумачваецца дзіўнае падабенства паміж абодвума дакумантамі[4]).

Як-бы то ні было, можна з пэўнасьцю сказаць, што зьмест гэтых прывілеяў у значнай сваёй частцы фіксуе далёкую старадаўнасьць і, апрача таго, у многіх момантах падобны. Такім чынам, супольнасьць права, якое праявілася ў XIII стал. ва ўтварэньні Смаленскай Праўды, існуе і ў XIV—XV ст. ст.

---

[1]) Якубовский. Земские привилеи в. кн. Литовского. Ж. Мин. Нар. Просв., 1903, май, стар. 277.

[2]) Ib., стар. 279.

[3]) Ib., стар. 265.

[4]) Ib., стар. 281.

Якая-ж аснова беларускіх земскіх прывілеяў па сваёй істоце? Прызнаючы, што ў Смаленску, Віцебску і Полацку дзейнічала ў XII—XIII ст. ст. свая Праўда, а ня Праўда Руская, хоць можа і падобная ў многіх пытаньнях, трэба выходныя пункты права гэтых земляў у пазьнейшую пару шукаць якраз у Смаленскай Праўдзе. Прыраўноўваючы Смаленскі Дагавор 1229 году да земскіх прывілеяў, ня прыходзіцца разьлічаць на вялікую колькасьць агульных юрыдычных норм, раней за ўсё, з прычыны таго, што яны розныя па сваіх асноўных мэтах: першы—ёсьць акт міжнароднага характару, а другія—рэгулююць адносіны мясцовага насельніцтва да вярхоўнай улады, а, апрача таго, яны невялікія па свайму аб'ёму самі па сабе, і на сапраўдныя кодэксы зусім не падобны.

I. Полацкі прывілей зьмяшчае права палачан устанаўляць мыты з тавараў, якія правозяцца з Смаленску,—на асновах узаемнасьці:

„естли бы Полачане брали на Смолнянѣхъ мыто отъ соли и отъ воску, и его милость також Смолняномъ велѣлъ брати на Полочанѣхъ мыто отъ соли и отъ воску; а естли бы Полочане на Смолнянѣхъ не брали, ино и Смолняномъ на Полочанѣхъ не брати“[1]).

Мабыць, і смольняне мелі права ўстанаўляць мыта. Гэта відаць і з Смаленскага прывілею, якім даецца смольнянам права браць мыты: вагу мядовую, салянуя, музолкі, коромысел[2]). Гэтыя пастановы зьяўляюцца перажыткам практыкі, выражанай у Смаленскім Дагаворы:

„Всякому Латинескому члвекоу свободѣнъ путе изъ Гочкого берега до Смольнеска без мыта до Гоцкого берега“ (арт. 34).

II. Смаленскі прывілей зьмяшчае пастанову, якая забараняе трымаць корчмы ў Смаленску.

„А корчмы въ городѣ Смоленску не держати“[3]).

У дагаворы 1229 году адпаведнай нормы няма, бо яна не закранае міжнародных адносін. Яна мае на мэце патаемны выраб віна, існаваньне якога прыносіла шкоду фіску. Але аб мытах з корчмаў, якія ішлі ў карысьць князя, успамінае больш раньні помнік—устаўная грамата смаленскага князя Расьціслава Мсьціславіча 1150 г., дзе князь пераўступае ў карысьць царквы свае прыбыткі з корчмаў:

„на Копысѣ полюдыя четыри гривны, а перевоза четыри гривны, а торгового 4 гривны, а корчьмити невѣдомо, но что ся соидеть изъ того десятина святой Богородици“[4]).

III. Адным з самых найстарэйшых злачынстваў, вядомых праву старадаўня-рускіх зямель, зьяўляецца крадзеж. Разьвіцьцё прыватнае ўласнасьці, вялікая каштоўнасьць рэчаў пры параўнаўча невялікім матэ-

[1]) Ясинский. Уст. З. Грам., стар. 156.
[2]) Ясинский, пакаваныя творы, стар. 156.
[3]) Іb., стар. 157.
[4]) Владим.-Буданов. Хрестоматия, т. I. стар. 221.

рыяльным узроўні тагочаснага грамадзтва—ставілі крадзеж у лік вельмі важных злачынстваў.

Руская праўда пашыранай рэдакцыі не дае пацярпеўшаму поўнай волі над злодзеем, злоўленым з рэчаю („с лицом"),—яго трэба было весьці на князеўскі двор. Забойства злодзея караецца продажам у 12 грыўняў (кар. 37). Па агульным асновам Рускай Праўды рэч зварочваецца пацярпеўшаму (арт. 27, 29, 30, 33); яна аплачваецца ў тым выпадку, калі яе неабходна мець на руках для навочнай даказнасьці, без якой нельга весьці збор (свод) (кар. 32, 34).

Цікава параўнаць нормы аб крадзяжу Рускай Праўды з Смаленскай Праўдай. Там толькі адзін маласлоўны артыкул:

„Который Роусинъ, или Латинескый имѣть татя, *надъ темь* емоу своя *вѣля, камь* его хочеть, тамъ дѣнеть" (арт. 32).

Тут няма ні слова аб якім-бы то ні было абмежаваньні права гаспадара рэчы над злодзеям, злоўленым на месцы злачынства. Гэтая норма проста супроцьлежна Рускай Праўдзе. Што гэта сапраўды так, даказнасьцю служыць рознасьць аналёгічных норм у прывілеях Валынскім і Віцебскім. І ў XV сталецьці існавала прынцыповая розьніца норм, якія трактавалі аб крадзяжы.

Валынскі прывілей робіць працяг традыцыі Рускай Праўды:

„*Приличного злодѣя не пускати*, а хто бы яго пустилъ, або на окупъ далъ, и на него бы довод спровный был: тотъ маетъ *вину заплатити* по давному, какъ передъ тымъ было"[1]).

Іншы характар маюць прывілеі беларускіх зямель (Віцебскай, Смаленскай і Полацкай). Зразумела, і ў іх праяўляецца публічны прынцып. Той, хто пацярпеў, не распараджаецца асобаю злодзея, калі ён можа выплаціць таьбу. Але ў выпадку поўнай нявыплатнасьці, злодзей, па Віцебскаму прывілею, аддаецца ў поўнае распараджэньне пацярпеўшаму:

„а не будеть у татя чимъ платити татьбы, ино его истьцу выдати, и гдѣ его всхочеть тамъ его денеть"[2]).

Гэтая формула ёсьць літаральнае паўтарэньне пастановы Смаленскага Дагавору аб праве пацярпеўшага на асобу таця:

„*Камь его хочеть, тамъ дѣнеть*".

Полацкі прывілей таксама ў выпадку нявыплатнасьці злодзея дазваляе выдаць яго пацярпеўшаму. Смаленскі прывілей па гэтаму пытаньню простых паказаньняў не дае.

IV. Руская Праўда мае даволі многа норм спадчыннага права; тэрмін спадчыны—„задница". Тое самае разуменьне Смаленская Праўда перадае тэрмінам—„остатокъ", прычым апошні ахапляе ўсю маемасьць,

---

1) Ясинский, паказаныя творы, стар. 176.

2) Ясинский, паказаныя творы, стар. 177.

рэчы рухомыя і нярухомыя і даўгі. Гэты тэрмін пераходзіць у права літоўскай эпохі [1]).

Праўда, прывілеі беларускіх зямель XV—XVI ст. ст. ведаюць тэрмін „безадщина“—вытворны ад „задница“ і тэрмін „отмѣрщина“. Па тлумачэньню проф. Ясінскага, „отмѣрщина“—гэта маемасьць, якая асталася пасьля спадчынадавальніка, які ня меў законных насьледнікаў, а „безадщина“—маемасьць, якая засталася зусім без насьледнікаў, г.зн. зусім безгаспадарная [2]). Лёс гэтай апошняй быў не аднолькавы па земскіх прывілеях. Так, па прывілеях Віцебскаму, Полацкаму і Смаленскаму вял. князь ня мае права на вымарачаную маемасьць:

„и въ отмерщины не вступатися“ [3]).

Такі парадак супроцьлежны асновам Рускай Праўды, згодна якіх маемасьць зьмёршых ідзе князю (Кар., 103, 104). Асновы Рускай Праўды знаходзяць свой працяг у прывілеі Кіеўскай зямлі:

„а будетъ пустый человѣкъ ни дѣтей, а ни племени: ино на нас тое имѣнье“ [4]).

V. Прывілеі Віцебскі і Полацкі зьмяшчаюць зусім аналёгічныя пастановы аб тым, што суд па крымінальных справах не павінен адбывацца за межамі зямлі, за выключэньнем таго выпадку, калі бакі ўстанаўлялі дабраахвотную падсуднасьць у якім заўгодна месцы:

„А который Полочанинъ имѣтъ намъ о чемъ жаловатися о насильи на Полочанина жъ, прiѣховши въ Литву *один, безъ истца*: намъ зъ Литвы дѣцкого не слати, писати намъ листъ къ воеводѣ нашому, хотя бы о смертной винѣ [5]).

Карэньні гэтай пастановы знаходзім у Смаленскім Дагаворы, які таксама абвяшчае, што суд зьдзяйсьняецца толькі ў сваёй зямлі, але падсуднасьць можа быць зьменена па згодзе бакоў:

„Роусиноу не звати Латинеского на инога князя соудъ, лише предъ Смольнеского князя *аже самъ въсхочете тъ тъ идеть*. Тако Латинескому не звати Роусина на иныи соудъ, лише оу Ригоу и на Гочкым берего“ (арт. 28).

---

[1]) Дагавор 1229 г. „а оумрете не заплативъ, а кто емлеть его остатъкъ, томоу платити Немчиноу“ (арт. 12).

Судебнік Казіміра 1468 г. „а будеть ли въ дому *статковъ* татя того и он домовыми статкы плати“ (арт. 4).

Смаленскі Прывілей: „а хто отходя зъ сего свѣта кому прикажетъ свой *статокъ*, того нерушити“.

Літ. Ст., 1529, 5, 17: ня маюць права адпісваць „в чужую моц застовлены, то ест тот, кого бы кому выдано *съ его статки*“.

[2]) Ясинский, паказ. творы, стар. 172, увага 307.

[3]) Ясинский, паказ. творы, стар. 170.

[4]) Ib., стар. 121.

[5]) Ib., стар. 121.

VI. Віцебскі і Полацкі прывілеі зьмяшчаюць пастанову аб непарушнасьці вырашаных спраў:

„А старыхъ судовъ намъ не посуживати“ [1]).

Гэты-ж прынцып выяўлены ў вельмі падобнай рэдакцыі ў Смаленскім Дагаворы:

„Ни одиномоу же Роусиноу *не дати пересоуда* оу Ризѣ ни на Гочкомь беразѣ; тако Латинескомоу оу Роускои зѣмли *не дати пересуда никомоуже*. Которое орудие докоњчано будѣть оу Смольнескь мьжю Руоскю и мьжю Латинескимь языкомь, пьредъ судиями и пьредъ добрыми людми боль того не починати оу Ризѣ и на Гочькомь березѣ; а что боудѣть дъкончано оу Ризѣ и на Гочкомь берьзе пьрьдъ соуднями и пьрьдъ дъбрыми людми, того оу Смольнскѣ не починати“ (арт. 33).

VII. Прывілеі беларускіх зямель зьмяшчаюць норму, якая рэгулюе ўжываньне спосабаў прасячэньня парукі і пазбаўленьня волі (нятство, доводня, желѣзо, мука).

„Черезъ пopуку *въ желѣза ихъ не сажати*, а ни в которую муку“ (Віцебскі прывілей).

... „А *черезъ поруку*, в нятство не сажати“ (Полацкі прывілей).

... „Не казалъ ихъ милость *въ доводню сажати в таковыхъ малыхъ дѣлѣх*, а велѣлъ ихъ за поруку давати, кромъ своего великого дѣла, в которомъ же не прыгодится на поруку давати“ [2]).

Гэтая норма зусім аформілася ў праве гэтых зямель яшчэ ў XIII сталецьці:

„Аже извиниться Роусинъ оу Ризе, или на Гочком березе, оу дыбоу его не сажати. Аже извиниться Латининъ оу Смольнѣскѣ не мьтати его оу погрѣбъ; аже не боудѣтѣ пороукы, то оу жельза оусадить“, (арт. 8, 9).

Зробленае параўнаньне беларускіх земскіх прывілеяў са Смаленскім Дагаворам зусім ясна даказвае налічнасьць самастойнага росту права гэтых зямель, якое мела свае мясцовыя карэньні. За гэта *своё* права змагаліся беларускія землі, якія абаранялі яго і такі абаранілі, замацаваўшы іх у форме прывілеяў. З другога боку, супрацьстаўленьне Праўды Рускай і Праўды Смаленскай дае падставу сказаць, што найстарадаўняе права зямель, якія пазьней утварылі беларускую нацыянальнасьць, нельга разглядаць, як адбітак з Рускай Праўды. Сам Смаленскі Дагавор далёка ня сьведчыць аб домінуючым уплыве Рускай Праўды. Можна гаварыць толькі аб падабенстве, не забываючыся, аднак, і істотнай розьніцы. Ня Руская Праўда, як цэльны зборнік прававых норм, зьяўляецца асновай

[1]) Ясинский, паказ. творы, стар. 122.
[2]) Ясинский, паказаныя творы, стар. 188.

права, якое зьмяшчаецца ў прывілеях Смаленскай, Віцебскай і Полацкай зямель. Іх права ідзе да сваіх мясцовых праўных асноў. З гэтай прычыны, з падабенства іх з прывілеямі украінскіх зямель таксама няма падстаў выводзіць аб дамінуючым праве гэтых земляў, якія мелі ў сваёй аснове Рускую Праўду.

## V

Найхарактарнай зьявай праўнага жыцьця Літоўскай дзяржавы ў пэрыод да выданьня Літоўскага Статуту 1529 году зьяўляецца юрыдычны сэпаратызм. Спэцыяльныя ўмовы стварэньня Літоўскай дзяржавы спагадалі праўнай дэцэнтралізацыі, а разам з тым і консэрвацыі звычаёвага права, якім рэгулявалася кожная асобная частка дзяржавы. „Консерватизм взачалі став гаслом політики Літовського правительства,—гаворыць акадэмік М. Грушэўскі.—„Мы старины не рухаемъ, а новины не уводим"— повторяло воно при кождій нагоді, і в сих словах, окрім звичайного в ті часи пошановання status quo, звучить переконаннє, що староруські порядки, прынесені руськими землями в ее нове політично тіло, в князівство Литовське, мусять бути в цілости задержані. І Литовське правительство, дійсно, паказувало ім всяке поважання, забеспечало поодиноким землям іх автономію, устрій, практику, ставлячы ім властиво тілько одне жадання, аби всі сі землі, всі суспільні верстви причиняли ся воєнних тягарів державы"[1]).

Хоць земскія прывілеі, асабліва беларускія, і даюць матэрыял з розных галін праўнага жыцьця, аднак яны не маглі разьлічаць на больш ці менш значную паўнату. Калі Літоўскі статут 1529 году, ня гледзячы на ўсе свае дамаганьні быць адзінай крыніцай права, прызнаецца ў немагчымасьці абхапіць усе сфэры жыцьця, дык тым больш не маглі граць ролю кодэксаў прывілеі. Гэта былі гарантыйныя законы, агульныя прадпасылкі для легальнага ўжываньня мясцовага звычаёвага права. Пераважная частка норм права, якія дзейнічалі ў кожнай зямлі, ня была запісана і трымалася толькі ў людзкой памяці; веданьне яе ня пераходзіла за межы сваёй тэрыторыі. Гаспадарскі суд, зьвязаны канстытуцыйнымі гарантыямі, выяўленымі ў прывілеях, прымушаны быў, з гэтай прычыны, ці выяўляць нормы мясцовага звычаёвага права, раней чым вынесьці прыгавар, ці проста пераносіць справу на вырашэньне мясцовага суду. Вырашэньне спрэчнага юрыдычнага пытаньня не на падставе мясцовага звычаёвага права ўсьведамлялася, як „абраза".

„Ино намъ ея видело, штожь таковая рэчъ маеть быти сужона *въ ихъ праве* Дорогицкомъ. И не хотячи есмо *образы* никоторое праву Дорогицкому вчинити, и дали есмо имъ тое до права ихъ Дорогицкого"[2]).

---

[1]) М. Грушевський. Історія Украіны-Руси, т. V, стар. 5.

[2]) Рус. Ист. Библ., т. XX, Лит. Метр., I, стар. 665.

У 1495 г. вял. князь Аляксандар прыслаў грамату п. Кміце Аляксандравічу, намесьніку Чаркаскаму, з прычыны скаргаў паноў зямлі Кіеўскай:

„Про тожъ приказуемъ тобѣ, ажъ бы еси слугъ и людей его не судилъ, ни рядилъ, и винъ и пересудовъ на нихъ не бралъ, подлугъ права вашого, што есми вамъ дали, всей земли Кіевъской“ [1]).

Па справе 1511 году гараднічага гародзенскага п. Федзька Гаўрылавіча з толмачом Касьцюшкам гаспадарскі суд пастанавіў:

„а што ся тыкало того, ижъ бы пан Федько на томъ самъ мелъ присягнути, то ся намъ не видело, и то есмо отложили на сторону, *чого жъ и въ ихъ праве Волынскомъ нетъ* ижъ бы хто мелъ мномо светки прысягати“ [2]).

Скардзілася на гаспадарскім судзе адна берасьцейская мяшчанка на шляхціца гаспадарскага Кульнева, што ён скалечыў яе. Суд прысудзіў па ім аскарджальніцы „пол-невѣсты“:

„водлуг того, ижь она вѣчно на руку хрома, *опытавши* войта Берестейского Донька какъ есть *в нихъ* обычай (ижь мещанину судять—десять гривенъ голову, мещчанце двадцать гривенъ)“ [3]).

У 1514 годзе гаспадарскі суд разглядаў справу аб прызнаньні Сьцецка Беразоўскага вольным чалавекам і прысудзіў на князі Капусьце навязку за пазбаўленьня волі двух мяшчан г. Каменца, якіх ён „поималъ“ замест Сьцецка:

„а князь Капуста маеть его и тыхъ двохъ мещаниновъ и кони ихъ водле *ихъ* тамошнего (каменецкого) права, навязывати“ [4]).

Адсюль відаць, што абяцаньне, якое давалася Літоўскім урадам кожнай зямлі пры выдачы прывілею, „ховати и держати“ дараванае права, „ни въ чомъ не рушити“,—„вѣчно и непорушно, на вѣки вѣкомъ“—ня было казённай фразай, а сапраўды захоўвалася на практыцы. Такім чынам, права Літоўскай дзяржавы да Літоўскага статуту 1529 году зьяўлялася конглёмератам сыстэм звычаёвага права, характэрныя асаблівасьці якіх навукай яшчэ ня выяўлены.

## VI

Як і другія часткі Літоўскай дзяржавы, уласна Літва зьяўлялася асобнай краінай. „Панства Літоўскае“ складалася з уласнай Літоўскай зямлі, Русі Літоўскай і зямлі Берасьцейскай (без Падляськя). Гэта тэрыторыя абдымала прыблізна ранейшыя Віленскую, усходнюю частку Ковенскай, Горадзенскую, Менскую і Магілеўскую губэрні [5]). У этнографічных адносінах гэта былі літоўска-беларускія землі.

---

[1]) Акты, отн. к ист. Зап. Рос., I, № 130.

[2]) Р. П. Б., XX, Литов. Метр., I, стар. 707.

[3]) Р. И. Б., XX, Литов. Метр., I, стар. 1270.

[4]) Р. И. Б., XX, Литов. Метр., I, стар. 137.

[5]) М. К. Любавский. Очерк ист. Литов.-Рус. госуд. до Любл. унии включительно, стар. 76.—Чтения в Импер. Общ. Ист. и Древ. Рос., 1911 г., кн. I-ая.

Як і другія краіны і гэта цэнтральная зямля Літоўскай дзяржавы мела свой земскі прывілей. Такім быў Гарадэлькі прывілей 1413 году, які захаваў сваё значэньне для Літвы, нават пасьля выданьня агульназемскага прывілею 1447 году.

„Літовцы,—гаворыць праф. Любаўскі, — дорожили этим Городельским привилеем, который давал им некоторые важные преимущества перед другими землевладельцами, и при случае ссылались на него в ограждение этих преимуществ. Так, когда король Сигизмунд в 1522 году назначил православного русского князя Константина Ивановича Острожского воеводою Троцким и дал ему первое место „в ловицѣ" господарской рады, литовские паны протестовали против этого назначения, ссылаясь на то, что по Городельскому привилею такие высокие должности на Литве, как воеводства, каштелянства, должны предоставляться обязательно католикам, не схизматикам. И король должен был обещать, что этот случай не будет прецедентом для будущего, і впредь подобные уряды и достоинства не будут даваться русским, без совета старших панов рады, но только литовцам римско-католической веры" [1]).

Як і ў другіх краінах, тут разьвівалася і дзейнічала сваё мясцовае права—„літоўскае і рускае", аб якім успамінаюць прывілеі на Майдэборскае права Менску і другім гарадом.

У гэтай-жа галіне дзейнічаў збор юрыдычных норм, выданы пры Казіміры, вядомы ў навуцы пад назваю судзебніка Казіміра [2]).

Хто ўдзельнічаў у складаньні яго? Пачатак яго гаворыць: „...мы съ князьмы и съ паны-радою нашего великого князьства и со всимъ посполь-ствомъ согадавши урядили есмо такъ" [3]). Што датычыць „паспольства", дык пад ім трэба разумець толькі паважаных асоб м. Вільні, дзе адбывалася складаньне судзебніка. Паспольства актыўнага ўдзелу ў выданьні судзебніка, зразумела, ня прымала [4]). Галоўную ролю грала рада князеўская. Гэта нават ня сойм, бо соймаў, у дакладным сэнсе гэтага слова, г. зн. з выбарнымі прадстаўнікамі шляхецтва, пры Казіміры ня было [5]). Сабраньне, якое займалася судзебнікам, па складу свайму было пашыраным пленумам Паноў-Рады. У адным са сьпісаў судзебніка паказаньне на „все посполььство" прапушчана.

Асабісты склад сабраньня гэтага, на жаль, невядомы, з прычыны таго, што судзебнік не дайшоў у аўтэнтычным відзе, а толькі ў сьпісах, хоць і XV сталецьця. Але ведаючы вялізарную палітычную ролю літоўскай арыстократыі якраз у эпоху Казіміра, якая самастойна вырашала лёс дзяржавы, трудна ўявіць сабе, каб у справе законадаўства праявіўся

[1]) Любавский, очерк, стар. 77.

[2]) Уласна кажучы, назва „судебник" чужая юрыдычай мове літоўска-рускага права. Сам акт называе сябе „листом".

[3]) Владимирский-Буданов, хрестоматия, II, стар. 32.

[4]) Малиновский. Рада великого кн. Литовского, ч. II, в. I. стар. 112.

[5]) Владимирский-Буданов. Рада в. кн. Литов. Записки Соц. Єк. Від. УАН, IV. стар. 228.

чый-небудзь чужы ўплыў. Для гэтага няма ніякіх падстаў. „Область (уласна Літоўскага княства) занимала доминирующее положение в Литовско-Русском государстве. Она была самою населенною, самою многолюдною из всех других. Здесь сосредоточено было наибольшее количество господарских, великокняжеских имений, тут-же преимущественно скучены были и имения правящей литовской знати—князей Гольшанских, панов Гаштольдов, Радзивиллов, Заберезинских и др.“ [1]).

Ад часу Гарадэльскай вуніі рада наогул, пад уплывам літоўскага нацыянальнага элемэнту, адыходзіць ад баярскай думы, як старадаўняруская нацыянальнай формы ўлады арыстократыі, а пры Казіміры і Сыгізмундзе канчаткова ператвараецца ў польскі сэнат. Як даказвае проф. Уладзімерскі-Буданов,—Рада ёсьць установа літоўская па свайму нацыянальнаму духу [2]).

Па сваёй істоце судзебнік прысьвечаны пытаньням, галоўным чынам, крымінальнага права і процэсу. З 25 артыкулаў, 16—у ім трактуюць аб „татьбе“, 3—аб „земных делах“, 1—аб вывадзе чэлядзі, 1—аб знахадцы і 1—аб маставой павіннасьці [3]).

Гэты законадаўчы помнік выяўляе інтарэсы зямляўладніцкай клясы. Атрымаўшы шляхам прывілею 1447 году права доміньяльнага суду, зямляўладнікі павінны былі паклапаціцца аб формальным разьмежаваньні панскай юстыцыі ад вялікакнязеўскай. Судзебнік переважна гаворыць аб панскім і гаспадарскім чалавеку, як рэчы, з прычыны якой (больш правільна, з прычыны злачынстваў, якія гэтымі людзьмі ўтвараюцца) зьяўляюцца рознастайныя праўныя адносіны. Тацьба была самым звычайным злачынствам якраз для незаможных кляс тагочаснага грамадзтва. Даволі праглядзець судовыя акты таго часу, каб пераканацца ў тым, што абвінавачаньне шляхціца аб крадзяжы было надзвычайна рэдкаю зьяваю. Шляхта ўжывала іншыя спосабы,—для яе характэрным было гвалтоўніцтва—разбой, бойка, грабежніцтва, забойства, падпал.

У нас няма помніка права для гэтай галіны, адпаведнага Смаленскаму Дагавору, каб мець прадстаўленьне аб тых асновах, далейшым разьвіцьцём якога зьявіўся судзебнік. Можа тут сапраўды ўжывалася Руская Праўда. Але не ўва ўсім, аднак, судзебнік зьяўляецца працягам Рускай Праўды. У палажэньнях аб тацьбе ёсьць такія нормы, якія па духу свайму проста супроцьлежны Рускай Праўдзе, напрыклад, артыкулы 13 і 14, якія ўводзяць об'ектыўны крытэрый ацэнкі ўкрадзенага: крадзеж рэчы каштоўнасьцю вышэй „полкопы“ ці „полтины“ караецца сьмерцю.

Апошні артыкул судзебніка напамінае Рускую Праўду: яна знаходзіцца ў канцы і гаворыць аб збудаваньні і папраўленьні мастоў. Апрача гэтага артыкулу, няма ніякіх другіх сьлядоў перайманьня Рускай Праўды.

[1]) Любавский, Очерк, стар. 76.

[2]) Владим.-Буданов. Рада, Зап. УАН, IV, стар. 233.

[3]) Ясинский. Уст. Зем. Грам., стар. 8.

Зразумела, можна нагадваць, што ўкладальнікі судзебніка мелі перад сабою, як прототып, Рускую Праўду. Але, папершае, не ўва ўсіх сьпісах Рускай Праўды ёсьць артыкулы аб маставой павіннасьці ў Ноўгарадзе, артыкул, які са слоў Уладзімірскага-Буданова нічога агульнага з Рускай Праўдай ня мае, а, апрача таго, нормы, якія рэгулююць маставую павіннасьць, існавалі, як рэальнае права, незалежна ад Рускай Праўды. Так, адпаведную пастанову мае Смаленскі прывілей:

„а хто коли помостное завѣдаетъ в городѣ тотъ бы с тыхъ людей, которых дѣлница сказится, а зася замоститъ, по грошу бралъ; а чія дѣлница мосту будетъ цѣла, на томъ бы ничого не бралъ".

Налічча такіх пастаноў знаходзіць сваё натуральнае вытлумачэньне ў прыродных умовах літоўска-беларускіх зямель, дзе багацьце вады прымушала клапаціцца аб падтрыманьні мастоў, як шляхоў зносін.

Бліжэй за ўсё можна вытлумачыць выданьне артыкулу аб маставой павіннасьці ў судзебніку тым, што ў часе законадаўчай работы ў Вільні ўзьнікла пытаньне аб непарадках у гэтых адносінах. Можа прычынаю паслужыў сапраўдны выпадак, калі чый-небудзь конь зламаў нагу. Гэты артыкул мае, так сказаць, злобадзенны характар („тутъ бы и нынѣ кождый свои мостьницы замостили"). Ён загадвае:

„а што бы не мѣшкали, сего жь лѣта удѣлали... А пакъ ли которым не задѣлають своихъ дѣлниць сего лѣта, а исплототься тотъ жъ права выступилъ; на томъ намъ вины десять рублевъ".

Судзебнік 1468 г. зьяўляецца кодыфікацыяй мясцовага звычаёвага права, якое дзейнічала ў межах уласна „панства Літоўскага". Няма падстаў прызнаваць яго першай спробай кодыфікацыі агульнадзяржаўнага значэньня. У самым тэксьце нідзе ні гаворыцца, што моц яго пашыраецца на тэрыторыю ўсёй дзяржавы, у той час, як пры выданьні агульна-дзяржаўных актаў гэты момант адзначаецца. Так, у агульназемскім прывілеі 1447 году абвяшчаецца, што ён даецца:

„предреченымъ прелатомъ, княжатомъ, рытеремъ, шляхтичомъ, бояромъ, местичомъ нареченыхъ земль великого княжства *Литовского и Руского и Жемоитского*"...[1])

У прывілеі мітрапаліту Кіеўскаму сказана:

„з ласкі нашое тое право, каторое жъ выпісано въ свитку Ярославъли потвержаемъ симъ нашимъ листомъ нареченному митрополиту, епископу Смоленскому Іосифу и всимъ епископомъ у отчине нашой, *великомъ князьстве Литовъскомъ и въ панъствахъ нашихъ Рускихъ*" [2]).

Калі-б судзебнік Казіміра быў кодыфікацыяй агульна-дзяржаўнага значэньня, ён павінен быў-бы выключыць дзейнасьць земскіх прывілеяў таму што істота апошніх супярэчыла ў многім судзебніку. Калі для Лі-

---

[1]) Владимирский-Буданов. Хрест. II, стар. 21.

[2]) Рус. Ист. Библ., XXVII, Лит. Метр., кн. Зап. V, стар. 748.

тоўскага ўраду выявілася патрэба ў выданьні агульна-дзяржаўнага кодэксу, дык ён зусім лёгічна рабіў вывад, што выданьне і дзейнасьць прывілеяў павінна спыніцца. Пры пацьвярджэньні ў 1501 г. прывілею Валынскай зямлі, была ўнесена ў яго абмоўка:

„а то имъ маемъ всѣ держати тые члонки, што въ семъ нашомъ листѣ верху стоять выписаныи, до тых часовъ, покій права Статуты *въсей земли* отчизнѣ нашой великому князству Литовскому вставимъ; а коли права Статуты у въ отчизнѣ нашой уставимъ, тогды всі земли наши адного ся права держати маютъ и адным правом сужоны будуть подлѣ Статуту“ [1]).

Паміж тым, судзебнік Казіміра і не прэтэндаваў адхіліць дзейнасьць звычаёвага права ў кожнай асобнай зямлі, і выданьне і пацьвярджэньне земскіх прывілеяў цягнулася і пасьля яго. Так, напрыклад, пастановы судзебніка аб адказнасьці злодзея былі падобны з Кіеўскім прывілеем і рэзка адрозьніваліся ад пастаноў Віцебскага прывілею [2]). Аднак, гаспадарскі суд, як гэта было паказана вышэй, зусім ня меў замеру нікому навязваць звычаяў, якія дзейнічалі ў Літве, а прызнаваў у поўнай меры дзейнасьць звычаяў мясцовых.

Пры поўным панаваньні сэпаратызму ў праве Літоўскай дзяржавы можна, аднак, прыкмеціць у практыцы гаспадарскага суду аб'яднальны струмень—поруч з мясцовымі звычаямі ўжываліся і існавалі нормы, якія мелі агульна-дзяржаўнае значэньне. Пахаджэньне іх можна вытлумачыць часткова падабенствам па істоце норм, якія ўжываліся ў розных землях, часткова творчай работай гаспадарскага суду, якому прыходзілася шляхам прэцэдэнту ўтвараць новыя нормы, якія зусім адсутнічалі ў мясцовай звычаёва-праўнай сыстэме.

Вось некаторыя нормы звычаёвага права, якія мелі агульна-дзяржаўнае значэньне.

Права ўдавы, якая ня вышла другі раз замуж, карыстацца маемасьцю свайго мужа ёсьць звычай агульны для ўсяго князства Літоўскага. Так, у 1522 годзе пані Пятровая Яновіча, ваяводзіная Троцкая на судзе заявіла супроць дамаганьняў п. Пятра Станіславовіча, ваяводы Полацкага:

„ижъ отецъ его, панъ Станиславъ о томъ се позывалъ, и вже дей мне съ нимъ право было и мене ваша милость, господаръ, на вдовьемъ столъцы зоставили, *подлугъ права и звычаю стародавного великого князства Литовского*“.

Яна прасіла пакінуць яе на ўдоўем стольцы і гаспадар пастанавіў: „маеть она на вѣдовьемъ стольци мешкати, как иным вдовы, до живота своего“ [3]).

---

[1]) Ясинский. Устав. грам., стар. 73.
[2]) Ib. стар. 177—178.
[3]) Р.И.Б., XX, Литов. Метр., I, стар. 1108.

Права недарослых дзяцей не адказваць па ісках на бацькаўскую маемасьць—старадаўны звычай усёй Літоўскай дзяржавы. Гэта норма была сформулявана ў вырашэньні гаспадарскага суду каля 1514 году па справе п. Літоворавай з баярамі Дзержковічамі:

„Хто по своемъ животе, будучи чого въ держаньи дѣти по себе зоставить малы, тым дѣти мають того быти въ деръжаньи, на чомъ отецъ ихъ—ихъ зоставилъ, до летъ своих, а какъ летъ будуть мети, тогды мають кожъдому права достояти“ [1]).

У 1509 годзе скардзіўся пан віленскі, стараста берасьцейскі князь Аляксандар Юравіч на п. Войцеха Яновіча, што апошні, прышоўшы гвалтам на яго падвор'е ў замку віленскім, паадбіваў замкі ад камор, параз-ганяў вартаўнікоў, дзякуючы чаму шкода вялікая сталася. Пан Войцех абараняў сябе тым, што ўчыніў ён усё „з росказанья господара“, але сам нічога з рэчаў ня браў. Ён прапанаваў існу прысягнуць. Гаспадар з Панамі-Радамі пастанавілі:

„штожъ *зъ вековъ въ панънстве нашом право есть таковое:* какъ богатому, так убогому таковая речъ завжды маеть плачона быти подъ присягою“ [2]).

У 1519 г. Паны-Рада разглядалі скаргу Венцеславой Скіндзярэвіча Ганны з дзеверам яе Янам Скіндзярэвіча на Юрыя Сіруцэвіча аб тым, што Сіруцэвіч Венцеслава „казавъ забити также въ дому своемъ ажь на смерть“. Пан Сіруцэвіч адхіляў гэта абвінавачаньне і даказваў, што на забойства „направы і волі ня было“. У сутнасьці, абвінавайцы ня мелі важкай і простай даказнасьці, браліся прысягнуць, што сьмерць Скіндзярэвіча, дзякуючы яму здарылася. Паны-Рада вынесьлі прыгавор, кіруючыся нормаю звычаёвага права:

„и мы, тому поразумевшы, *ижь тотъ обычай есть и право въ панстве господаря нашого:* „коли въ чиемъ дому будеть гость раненъ або вбитъ, маеть вбийца господарь домовый искати, а головщину маеть самъ платити“.

Тэрмін прысягі быў таксама ўстаноўлены на падставе звычаю: „водле обычая и права земского, третий день“ [3]).

У 1503 годзе судзіліся перад гаспадаром п. Олбрахт Гаштольт з п. Янам Радзвілам з-за таго, што пані Гальжбета, жонка Яновая, а сястра Олбрахтовая, па сьмерці сваёй, ня маючы дзяцей, адпісала свой пасаг мужу. Пан Ян, лічачы, што гэта падсудна духоўнаму суду, адазваўся „да сьвятога бацькі папы“. Вялікі князь вельмі катэгорычна адхіліў гэтае дамаганьне, спасылаючыся на звычай:

---

[1]) Р. И. Б., XX, Лит. Метр., I, стар. 843.

[2]) Р. И. Б., XX, Литов. Метр., I, с. 599.

[3]) Малиновский. Сборник матер., относящихся к истор. Панов-Рады вел. кн. Литов., Томск, 1901, стар. 380.

„ино чого не бывало за предковъ нашихъ, а ни за отца нашого, короля его милости, иж бы ся хто о земскихъ делехъ и провехъ мелъ отзывати до отца светого папежа. И того *нового обычая*, што передъ тымъ здавна не бывало в панстве нашомъ, жодною мерою не хотели есмо допускати“ [1]).

І сапраўды, гэтага старога звычаю суд прытрымліваецца і пазьней. Так, каля 1509 году, у часе судовага разгляду па справе паміж п. Пятром і п. Юрым, ваяводзічам віленскім, аб трэцяй частцы маёнтку, апісанага п. Пятру п. Войцехам Кучуковічам, п. Пётр „зъ великою пильностью“ прасіў у гаспадара дазволу перанесьці гэту справу на духоўны суд. П. Юры таксама згаджаўся на гэта, хоць адважваўся на гэта пры згодзе гаспадара: „естли бы то не было напротивку права его милости“. Пасьля гэтага бакі разам зьвярнуліся з просьбай да гаспадара. Гаспадар прызнаў, што па агульнаму правілу няможна „што ся тычеть земъского права о именье нерухомыхъ речей допустити съ права его милости въ духовный судъ“. Аднак, у выглядзе выключэньня, *„зъ особливое ласки своее*, на ихъ обоихъ жаданье“ дазволіў ім перанесьці справу ў духоўны суд. І тут-жа было абумоўлена, што гэты выпадак ня можа быць прэцэдэнтам на будучыну:

„А впередъ, што ся тычеть о именье и нерухомыхъ речей, его милость жодному подданному своему таковыхъ речей съ своего суда не маеть до духовного права допускати“[2]).

Агульная норма звычаёвага права аб лёсе пасагу пасьля бязьдзетнай жонкі выяўлена ў успамянутай вышэй справе п. Гаштольда з п. Янам Радзівілам:

*„и не только у великомъ князстве,* але и в коруне Польской *есть такой обычай*: „коли девка будет выдана замужъ, а вмреть детей не маючы, тогды тотъ посагъ, который будеть за нею данъ, маеть за ся отданъ быти в тотъ же дом, с которого дому тая девка будеть выдана“ [3]).

Сапраўды, на падставе гэтай нормы разьвязваюцца адпаведныя справы як у беларускіх, так і украінскіх землях.

Так, у 1496 годзе па справе земяніна валынскага Андрэя Цірковіча і сястрэнця яго (зяця) аб дварышчы Давыдоўскім, гаспадарскі суд пастанавіў:

„Коли тая сестра ихъ, за нимъ будучы, а детей съ нимъ не мела, не могла отчыны ихъ мужу своему записывати от нихъ ближних“ [4]).

---

[1]) Малиновский. Сборник материалов, относящийся к истр. Панов-Рады в. кн. Лит. Томск, 1901. стар. 380.

[2]) Р. И. Б., XX, Лит. Метр., I, стар. 627.

[3]) Малиновский, Сб. мат., стар. 380.

[4]) Рус. Ист. Библ. XXVII, Лит. Метр., стар. 658.

Таксама, у 1501 годзе па аналёгічнай справе аб пасагу паміж гараднічым Гарадненскім п. Федзькам Гаўрылавічам з мачыхай жонкі сваёй п. Федзькаваю Пуцяты [1]), гаспадар з Панамі-Радаю пастанавілі:

„колі тая девка (сястра жонкі Федзька Гаўрылавіча) нешодши замужъ, умерла, тотъ посагъ за ся в домъ пал на пана Федзьковы дети—на Путяту и на его братью; а паней Федковой и той дочце ее, которая тепер еще в дому мешкаеть, в то ся не надобе вступати“ [2]).

## VII

Панаваньне праўнага сэпаратызму цягнулася аж да XVI сталецьця. Ужо ў 1501 годзе ўрад у Валынскім пацьвярджальным прывілеі выказаў афіцыяльна, што думка аб утварэньні адзінага для ўсёй Літоўскай дзяржавы кодэксу, які павінен быў скасаваць увесь складаны конглёмерат асобных земскіх звычаёва-праўных сыстэм упаўне пасьпела. Прынцып консэрватызму, які кіраваў законадаўчаю палітыкаю дзяржавы, траціў, мабыць, свае выгады.

У эдыкце 1522 году, раней часу выданым урадам, з прычыны ўвядзеньня ў жыцьцё Статуту, даецца афіцыяльнае тлумачэньне ўтварэньня адзінага кодэксу. „Да гэтага часу ў нашым вялікім княстве Літоўскім,—гаворыцца ў эдыкце,—правасуднасьць адбывалася не на аснове пісанага права, але згодна звычаю, а таксама разуменьню і сумленьню кожнага судзьдзі, гэта значыць адпаведна таму, як здавалася судзьдзі больш справядліва ці больш правільна ці няправільна“ [1]).

Няпэўнасьць норм звычаёвага права і нязвычайная іх рознастайнасьць адбівалася на правасуднасьці, утварала пачуцьцё няпэўнасьці ў вынесеным прысудзе, даючы магчымасьць для злоўжываньняў судзьдзяў.

Ня прыходзіцца пярэчыць супроць правільнасьці тых мотываў, якімі кіраваліся і ўрад і шляхецкая кляса, утвараючы агульна-дзяржаўны кодэкс. Але ўсе адмоўныя бакі сэпаратызму ў праве Літоўскай дзяржавы сталі зразумелымі і відочнымі толькі ў сувязі з пераменай форм народнай гаспадаркі, якая толькі пачала вызначацца.

У самым пачатку XVI сталецьця праяўляюцца яўна адзнакі новай—грашовай—формы народнай гаспадаркі. Гэты процэс патроху захапляе экономічнае жыцьцё ўва ўсёй шырыні, у яго ўцягваюцца ўсе грамадзкія клясы. Дзеля клясы зямляўласьнікаў разьвіцьцё грашовай гаспадаркі ставіла задачу вызваліць свой капітал—зямлю ад уціскаў, якія перашкаджалі ёй быць прадметам вольнага звароту. „Народная гаспадарка, якая даволі такі разьвінулася, і асабліва сельска-гаспадарчы ўздым, што адбываўся тады,—утваралі патрэбу мобілізацыі зямельнай уласнасьці. Прагнасьць за зямлёю з боку асобных прадстаўнікоў шляхецкага стану была

[1]) Князі Пуцяты былі віцебскія жыхары.
[2]) Малиновский. Сбор. мат., стар. 293—294.
[3]) Dzialyński. Zbiór praw litewskich. Poznań 1841, стар. 121—123.

прычынаю значнай прапановы асобнымі зямляўласьнікамі сваіх зямель на продаж" [1]). Аднак, грамадзянскаму звароту, які разьвіўся, перашкаджаў юрыдычны сэпаратызм, адсутнасьць агульных спраў усёй шляхецкай клясы норм матэрыяльнага права і дакладна вызначаных законам норм процэсу.

Папераджальнікамі Літоўскага Статуту 1529 году, як законадаўчага помніка, зьяўляецца цэлы шэраг асобных законаў, выданых у першай чвэрці XVI сталецьця ў форме „ухвал" і „устав", якімі рэгуляваліся некаторыя пытаньні матэрыяльнага і процэсуальнага права.

Аднак, ні паступовае ўтварэньне агульна-дзяржаўных звычаёва-прававых норм, ні асобныя законадаўчыя акты не маглі задаволіць патрэбы ў сыстэматызаваных агульных нормах, патрэбных для грамадзянскага звароту. Трэба было зрабіць далейшы рашучы крок у аб'яднальным процэсе права Літоўскай дзяржавы, адмовіцца ад аўторытэту старадаўняй праўнай традыцыі, якая панавала ў юрыдычным жыцьці. Законадаўца ўжо стаў на шлях вольнай творчасьці, хоць, зразумела, вельмі нясьмела ў першыя часы. Кодэкс павінен быў падраўняць усе асаблівасьці праўных сыстэм асобных зямель, паклаўшы ў аснову панскую зямлю і ўсе палітычныя і экономічныя інтарэсы, зьвязаныя з ёю.

Гісторыя кодыфікацыйных работ, якія скончыліся выданьнем Статуту 1529 году, небагата зьвесткамі. Вядома, што ўпяршыню ў 1501 годзе сам урад заявіў аб неабходнасьці кодыфікаваць законадаўства. Аднак, ініцыятыва ў гэтай справе перайшла ў рукі шляхецкай клясы. На вялікім вальным сойме ў Вільні 1514 году ўсе станы сойму выявілі жаданьне, каб гаспадар дараваў ім пісаныя правы і законы.

Тое-ж самае пытаньне было паднята ў 1522 годзе на Горадненскім сойме і тады-ж гаспадар з Панамі-Радаю „право имъ прирекли дати и тыи вси члонки, какъ ся подданыи наши мають справовати и радити, казали... выписати" [2]). Праз два месяцы пасьля гэтага ў тым-жа годзе ў Вільні адбыўся вялікі вальны сойм. Галоўным пытаньнем на ім было заслуханьне і абмеркаваньне ўрадавага проекту статуту. Такім чынам, у працягу надзвычайна кароткага часу (некалькі месяцаў) урад падрыхтаваў проект кодэксу і прапанаваў сойму на абгаварэньне.

Разгляд гэтага проекту соймам даў аснову ўраду лічыць яго зацьверджаным „всею землею" і ён у тым-жа 1522 годзе выдаў спэцыяльны эдыкт аб увядзеньні ў жыцьцё Статуту і, каб як можна скарэй правесьці яго ў жыцьцё, загадвалася надрукаваць ў яго многіх экзэмплярах. Аднак, урад вельмі пасьпяшаўся, бо Статут законнай моцы яшчэ не набыў.

---

[1]) Пічэта. Зямельнае права ў Статутах 1529 і 1566 гадоў.—Працы Белар. Дзярж. Унів. ў Менску 1926 г., № 11, стар. 90.

[2]) Любавский. Литовско-Русский Сейм. М. 1900, стар. 227.

Статут астаўся не надрукаваным—у гэтым ня можа быць няпэўнасьці[1]). І ня ў гэтым прычына таго, што проект Статуту не атрымаў моцы закону, як думае Пекосінскі[2]). Самая істота проекту не задавальняла ўпаўне шырокія колы шляхецкай клясы.

Справа ў тым, што выданьне адзінага кодэксу ў гісторыі клясавых адносін Літоўскага княства было такім момантам, калі зямляўласьніцкая кляса павінна была забясьпечыць сабе пануючую ролю ў народнай гаспадарцы і непасрэдны ўдзел у палітычнай уладзе. Да гэтага часу неабмежаваным гаспадаром была фэодальная арыстократыя, палітычным органам якой зьяўлялася Рада. Між тым, жыцьцё высунула ўперад і сярэднюю клясу зямляўласьнікаў—шляхту, якая, выносячы на сваіх плячох увесь цяжар часоў Аляксандра і Сігізмунда, усьвядоміла ўжо сваю ўдзельную вагу. Шляхта жадала вызваліцца ад апекі арыстократыі і атрымаць самастойнае становішча ў дзяржаве.

Вось чаму ўраду прышлося яшчэ і ў 1524 годзе паслаць на Віленскі сойм ізноў папраўлены проект Статуту. Пасылаючы на гэты сойм свайго сакратара Вежкгайла з проектам кодэксу, гаспадар, мабыць, быў упэўнены, што ён будзе прыняты, бо адначасна было зроблена распараджэньне канцлеру „тое право выдати всимъ подданымъ нашимъ“ [3]). Аднак, і гэты проект ня быў прыняты соймам „для некоторыхъ члонковъ“. Шляхта дабівалася непасрэднага ўдзелу ў вытварэньні правасуднасьці, каб забясьпечыць сябе ад судовага свавольства і неправасуднасьці магнатаў, у руках каторых быў суд і мясцовы, і цэнтральны. У гэтым і другіх адносінах проект быў няпрыемлімы для шляхты.

Думалася, што ўсе спрэчныя пытаньні будуць разьвязаны на сойме ў Берасьці ў канцы 1524 году, куды павінен быў прыехаць кароль. Аднак, справа зацягнулася да сойму ў Вільні ў 1529 годзе. І толькі з 29 верасьня 1529 году Статут—ці інакш „новыя правы“—атрымаў моц закону.

Выяўляецца цікавая рыса ў гісторыі складаньня проекту І-га Статуту: ён быў вынікам бюрократычнай канцэлярскай творчасьці. У непасрэдным складаньні яго шляхта ня прымала ўдзелу праз сваіх прадстаўнікоў, як гэта было пры складаньні Статуту 1588 году. Прырыхтаваны ў гаспадарскай канцэлярыі проект прад‘яўляўся сойму ўрадавымі дакладчыкамі, сойм яго ня прымаў і ён ізноў варочаўся ў канцэлярыю для дапаўненьняў і перапрацоўкі. Можна думаць, што першапачатковы проект меў бясформены надворны выгляд; трудна сказаць, ці было якраз 13 разьдзелаў, падзел на разьдзелы і артыкулы[4]). Можа ён меў выгляд Судзебніка Казіміра.

[1]) Аб гэтым сьведчыць Бельскі прывілей 1514 г. Статут 1566 г. стар. 5.
[2]) F. Piekosiński. Statut Litewski, cz. I. Kraków 1899, s. 15.
[3]) Докум. Моск. Арк. Мин. Юст., т. I, М. 1897, стар. 516.
[4]) S. Kutrzeba. Historya zródel dawn. prawa polskiego, t. II, s. 69.

Хто быў аўтарам проекту Статуту—невядома. Але, ведаючы канцэлярскі спосаб яго складаньня, няма падстаў усю работу прыпісваць канцлеру Гаштольду. Наўрад ці працавала тут якая-небудзь сталая камісія. Мабыць, Гаштольд, як начальнік дзяржаўнай канцэлярыі, даручыў работу аднаму ці некалькім выпрактыкаваным пісаром. Такім іменна чынам быў падрыхтованы, напрыклад, пісарам Мартынам з Лужка па загаду канцлера п. М. Кезгайла вядомы прывілей 1447 году, так складаліся і іншыя прывілеі. Канцэлярскім чыноўнікам даручалася адзяваць у пісьмовую форму пастановы Паноў-Рады і сойму, чаму яны павінны былі і прысутнічаць пры абгаварэньні законапроектаў. „Очень часто—гаворыць проф. Любаўскі—писари составляли документы на основании того, чему были сами свидетели в раде господарской“ [1]).

З гэтай прычыны, можна з пэўнасьцю сказаць, што гаспадарскі сакратар князь Вежкгайла, які быў пасланы на Віленскі сойм 1524 году з „правамі пісанымі“ ад гаспадара, і быў тою асобаю, якая прысутнічала на сойме, як дакладчык; ён-жа, бязумоўна, згодна ўстаноўленай практыкі, выпраўляў проект па паказаньнях сойму. Пры абгаварэньні другіх проектаў Статуту маглі прысутнічаць і іншыя асобы.

Але, зразумела, канцэлярскі спосаб падрыхтаваньня проекту не адхіляў удзелу Гаштольда, як асобы, якая нясе агульную адказнасьць за работу канцэлярыі. Калі наогул ніякі юрыдычны дакумант ці законадаўчы акт ня мог выйсьці без зацьвярджэньня канцлера, дык тым больш трэба нагадваць блізкі ўдзел і нагляд за кодыфікацыйнай работаю з боку Гаштольда. Ува ўсякім выпадку якраз ад яго залежыў агульны характар зьместу проекту. Ускосна гэта відаць з таго супраціўленьня, якое зрабіла шляхта першаму і другому проектам. Гаштольд, як прадстаўнік магнацтва, зямельнай арыстократыі, і павінен быў прыдаць працы па кодыфікацыі такі напрамак, які адбіваў інтарэсы таго пласту, да якога ён належыў, і які ён ня мог не абараняць.

Гісторыя Літоўскага Статуту 1529 году сьведчыць аб барацьбе між двума пластамі аднэй і тэй-жа клясы зямляўласьнікаў, і сам Статут дае вынік компромісу паміж шляхтаю і магнацтвам з перавагаю ў карысьць апошняга. Ĭ няма зусім адзнак таго, каб падымалася пытаньне аб пераважным уплыве на будучы Статут панаваўшай у якой-небудзь з асобных зямель праўнай сыстэмы. Галоўную ролю гралі клясавыя інтарэсы, аб‘яднаўшыя шляхту незалежна ад таго—ці былі гэта украінцы, беларусы ці літвіны. З гэтага боку нацыянальнае мінулае не заўсёды магло падыйсьці к моманту, і чужое нацыянальнае права, напрыклад, права польскае, прыцягвала грамадзкую ўвагу пры выданьні Статуту. Перад вабнымі пэрспэктывамі клясавага панаваньня пытаньне аб захаваньні пераважнага нацыянальнага ўплыву народаў, якія ўходзілі ў склад Літоўскай

[1]) Любавский. Литовско-Русский Сейм, стар. 384—394.

дзяржавы, адыходзіла, мабыць, на задні плян. Цікавы факт: зямляўласьніцкая кляса Літоўскай дзяржавы ўвесь час надзвычайна ўпарта працівілася праніканьню польскага элемэнту, адчуваўшы сваю „рускую“ нацыянальную адмежаванасьць, аднак, у справе законадаўства прыняла проект кодэксу, многія палажэньні якога былі ўзяты з права польскага. Літоўска-руская шляхта не хацела мець каля сябе палякаў, і ў той-ж час прымала многія модыфікаваныя палажэньні польскага права.

Проф. Максімейка даказаў, што аўтары Статуту 1529 году пісалі палажэньні крымінальнага права, маючы перад сабою законадаўчыя помнікі польскага права. Цікавым зьяўляецца самы факт зваротку да польскага права. Ня дзіва, з гэтай прычыны, што аўтары ўнесьлі ў Статут цэлы шэраг такіх норм амаль тэкстуальна. Такімі зьяўляюцца арт. 6, разьдзел І—аб замаху на ўрадніка гаспадарскага; арт. 21, разьдзел І—аб адказнасьці за ўстанаўленьне новых мыт; арт. 12, разьдзел ІІІ—аб зганьбаваньні чэсьці; артыкул 14—15, разьдзел VII—аб забойстве родзічаў і інш.

Можна паказаць яшчэ на запазычаньні з нямецкага права. Іадсюль аўтары тэкстуальна выпісвалі некаторыя палажэньні. Так, артыкул 11, разьдзел XIII—„коли бы лице в чіей хоромине за замкомъ знайдено было“—узята цалком з саксонскага зерцала [1]).

Хоць чужыя ўзоры наогул сьлізкая глеба для захаваньня ў кодэксе нацыянальнай самастойнасьці, усё-такі, ня прыходзіцца спрашчаць характар рэцэпцыі польскага права. Аўтары Статуту не маглі глядзець на сябе толькі, як на перакладчыкаў, іх работа насіла самастойны творчы характар. Па думцы Максімейка, аўтарам таму прышлося шырока выкарыстоўваць польскае законадаўства, што Статут быў першаю спробаю кодыфікацыі і ў гэтай справе маглі ўзьнікнуць перашкоды ў адносінах формулёўкі законаў [2]). Гэта правільна, але толькі часткова. Юрыстыя, якія працавалі ўсё сваё жыцьцё ў гаспадарскай канцэлярыі, былі даволі спрактыкаванымі, каб даць найлепшую формулёўку любому праўнаму палажэньню. Больш таго. Формулёўка судовых прысудаў гаспадарскага суду часта больш дакладная і ясная, чым адпаведныя формулёўкі Літоўскага Статуту, асабліва ў тых выпадках, калі аўтары бралі за аснову тэкст польскага права.

Шырокае выкарыстаньне польскага права тлумачыцца проста тым, што ўрад павінен быў у працягу некалькіх месяцаў падрыхтаваць проект кодэксу. Зьвязаныя тэрміновасьцю выкананьня заданьня, аўтары хаця-нехаця прымушаны былі пайсьці ня шляхам прапрацоўкі вялізарнага судовага матэрыялу, а проста ўзялі гатовыя формулы польскіх крыніц, перапрацаваўшы іх адпаведным чынам. Гэтым часткова тлумачыцца і непаўната Статуту: маючы польскі тэкст аўтары іншы раз прапушчалі нормы, якія надзвычайна шырока ўжываліся. Так, напрыклад, артыкул 23, разь-

[1]) Максимейко. Источники уг. закон., стар. 179.

[2]) Іb., 127.

дзел VII—„О звадахъ“, які разьвязваў некалькі казусаў звад, не прадугледжвае выпадку, якія найбольш часта сустракаўся ў практыцы—выпадку, калі з двух бакоў маюцца сьведкі звады. Гэта тлумачыцца тым, што аўтары перанесьлі ў Статут перапрацованы тэкст Вісляцкага Статуту. Між іншым і судовыя прыгавары былі выкарыстаны таксама пры складаньні Статуту. Выгадней за ўсё было карыстацца Прывілеямі і Судзебнікам Казіміра.

Аднэй толькі крыніцы няпрыкметна ў Статуце—Рускай Праўды, маючы на мэце яе, як асобны помнік, а не яе нормы. З гэтай прычыны няправільна, з пункту погляду гістарычнай пэрспэктывы, супрацьстаўляць Літоўскі Статут з Рускай Праўдаю, калі гутарка ідзе аб крыніцах Статуту, а разам з тым і аб нацыянальным характары яго. Шырокае пашырэньне Рускай Праўды не выключала мясцовага звычаёвага права, доказнасьцю чаго зьяўляюцца земскія прывілеі. З гэтай прычыны ня права Рускай Праўды павінна зьяўляцца матэрыялам для азначэньня нацыянальнага характару Літоўскага Статуту 1529 году, а звычаёвае права і судовыя прэцэдэнты ў пэрыод непасрэдна папярэдні моманту складаньня і выданьня Статуту 1529 году, паколькі гэты матэрыял даступны выяўленьню з судовых спраў, якія разглядаліся на гаспадарскім судзе. І зразумела, толькі да гэтых прыгавараў, а не да спраў мясцовых судоў, маглі звярачацца аўтары Статуту, і тады ўва ўсім сваім вялізарным значэньні высоўваецца той факт, што правадніком агульна-дзяржаўнай судовай палітыкі быў гаспадарскі суд, які дзейнічаў у сфэры Літоўска-Беларускага нацыянальнага права.

*(Канец будзе)*

# БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА Ў ГІСТАРЫЧНАЙ І АРХЭОЛЁГІЧНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**М. Шчакаціхін**

Нарыс гэты не прэтэндуе на ролю абсолютна поўнага і ўсебаковага бібліографічнага агляду ўсёй тэй навуковай літаратуры, якая мае дачыненьне да рознастайных проблем, зьвязаных з гістарычным вывучэньнем беларускага мастацтва. Задача яго—значна болей скромная і абмежаваная: гэта толькі намеціць асноўныя вехі для азнаямленьня з гэтай літаратурай, адзначыць, па магчымасьці, усё, што ёсьць у ёй асабліва каштоўнага і важнага, нарэшце ў належных выпадках зрабіць вядомую спробу адноснае ацэнкі паасобных прац, галоўным чынам—у мэтах палегчаньня першапачатковае орыентацыі для ўсіх тых, хто жадаў-бы разабрацца ў памянёнай літаратуры болей глыбака і грунтоўна.

Ня гледзячы на тое, што навуковае дасьледваньне і вывучэньне беларускага мастацтва пастаўлена як спэцыяльная навукова-дасьледчая тэма толькі ў самыя апошнія гады, літаратура аб ім, аднак, далёка ўжо не такая малая, як гэтага можна было-б чакаць. Калі складаць шырокую бібліографію беларускага мастацтва, улічыўшы ўсё тое, што зьявілася ў друку да гэтага часу як па асобных зьвязаных з гэтым мастацтвам пытаньнях, так і ў дачыненьні да тых ці іншых паасобных помнікаў,—дык у такую бібліографію прыдзецца ўнесьці, бясспрэчна, не адну сотку назоў, галоўным чынам з расійскай і польскай гістарычнай і архэолёгічнай літаратуры, пачынаючы з першай паловы XIX сталецьця і канчаючы цяперашнім часам,—апроч, зразумела, тых прац, якія зьявіліся па гэтым пытаньні ў апошнія гады ў літаратуры беларускай. Але адносная вартасьць усіх гэтых рознастайных прац зьяўляецца далёка не аднолькавай. Сюды ўваходзяць і вялікія грунтоўныя артыкулы—і маленькія заметкі або паведамленьні, і бесстароньнія агляды адпаведнага матэрыялу—і тэндэнцыйныя асьвятленьні тых ці іншых пытаньняў, зьвязаных з артыстычным мінулым Беларусі. Як агульнае правіла—старая навука не прызнавала, зразумела, беларускага мастацтва як самастойнага артыстычнага напрамку; расійскія дасьледчыкі разглядалі яго як мастацтва расійскае ў „заходніх губэрнях“, польскія—як мастацтва польскае на „крэсах усходніх“; калі і бывалі з гэтага правіла некаторыя выключэньні, дык вельмі рэдкія і ня зусім выразныя. З гэтай прычыны ў адпаведнай літаратуры мы, бясспрэчна, амаль што зусім ня знойдзем ані правільнае пастаноўкі проблемы гістарычнага вывучэньня беларускага мастацтва, ані наогул самага

гэтага тэрміну, да апошняга часу ў навуцы зусім невядомага. Але справа, зразумела, ня ў тэрмінах, і калі падыйсьці да агляду гэтае літаратуры з боку яе фактычнага матэрыялу,—дык выявіцца, што такога матэрыялу ўжо было сабрана і апублікавана досыць многа, і што шмат якія з ранейшых дасьледчыкаў, зразумела, зусім несьвядома, ужо распачыналі падрыхтоўваць і ўмацоўваць той грунт, на якім у цяперашні час паступова расьце ўжо запраўдная гісторыя беларускага мастацтва, як самастойная і мэтодолёгічна цалкам аформленая навуковая дысцыпліна.

Са сказанага ясна што менш за ўсё, зразумела, мы можам чакаць, каб у ранейшай гістарычнай літаратуры, так ці інакш датычнай гісторыі беларускага мастацтва, сустрэліся працы агульнага характару, прысьвечаныя спэцыяльна гэтаму пытаньню. Такіх прац зусім няма, за выняткам аднаго толькі невялічкага артыкулу, які хоць і ня мае асаблівае навуковае значнасьці, але варты бясспрэчнай увагі ў самай гісторыі данага пытаньня. Належыць гэты артыкул пяру нямецкага дасьледчыка д-ра *Альбэрта Іппэля* (Albert Ippel) і ў першы раз быў надрукаваны ў нямецкай мове ў зборніку „Weissruthenien", у 1919 годзе, у Бэрліне (hrsgb. von Walter Jäger) пад загалоўкам „Zur weissruthenischen Kunst" („Аб беларускім мастацтве"). Пазьней з яго зьявіліся два ня зусім удалыя пераклады: адзін у часопісу „Вольны Сьцяг" № 1 (3), стар. 10—11, а другі—асобным выданьнем Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства *(Д-р Іппэль:* Беларускае мастацтва. Пераклад з нямецкае мовы З. Гарбаўца і М. Касьяровіча. Віцебск, 1925). Значэньне гэтага артыкулу ў адпаведнай літаратуры ў першую чаргу, на нашую думку, у самым факце яго зьяўленьня ў чужаземным друку. Якія-б ні былі крыніцы яго пахаджэньня, але надрукаваны ў нямецкім выданьні і падпісаны нямецкім прозьвішчам ён, бязумоўна, адыграў у свой час пэўную ролю, ды грае яе яшчэ і цяпер, паколькі наогул ён быў у літаратуры першым артыкулам, дзе цалкам ясна і выразна была пастаўлена проблема вывучэньня беларускага мастацтва як самастойнай гістарычна-мастацкай зьявы, як комплексу самых рознастайных выяўленьняў артыстычнае творчасьці асобнага народу на асобнай тэрыторыі, дзе ўтварыліся ў цягу сталецьцяў свае ўласныя стылістычныя формы, да гэтага часу зусім яшчэ не дасьледваныя і амаль нікому ў такім асьвятленьні невядомыя. У гэтай рашучай і цьвёрдай пастаноўцы пытаньня была, бязумоўна, першая вялікая заслуга данага артыкулу. Другая, цесна зьвязаная з ёй—гэта наагул увядзеньне ў літаратуру раней амаль што зусім невядомай, правільнай тэрмінолёгіі: уласна Іппэль першы ўжыў у сваім артыкуле цяпер ужо так добра знаёмы нам (але ня зусім яшчэ знаёмы і да гэтага часу ня толькі за рубяжом, але і ў межах нашага Саюзу) тэрмін „беларускае мастацтва" (die weissruthenische Kunst) у дапасаваньні да ўсіх тых помнікаў рознастайнае мастацкае творчасьці, якія ўзьніклі за доўгі час гістарычнага існаваньня Беларусі на яе тэрыторыі; ён-жа, нават, яшчэ болей дэталізаваў сваю тэрмі-

нолёгію, палічыўшы магчымым казаць і аб асобнай „беларускай школе малярства“ (die weissruthenische Malerschule), адзнакі якой ён заўважыў у нямногіх вядомых яму помніках старога беларускага іконапісу, прычым бясспрэчная правільнасьць такога азначэньня, на наш погляд, цалкам пацьвердзілася пазьнейшымі досьледамі гэтае галіны нашага старадаўняга мастацтва, праведзенымі ў самыя апошнія гады *). Тэрмінолёгічная яснасьць артыкулу Іппэля ў пэўных адносінах, здаецца нам, павінна будзе надоўга захаваць сваю моц. Сам аўтар у адным месцы свайго артыкулу правільна зазначыў, што ўжытыя ім тэрміны яшчэ зусім невядомы ў агульнай гісторыі мастацтва, але што з цягам часу яны, бясспрэчна, зробяцца агульна вядомымі і павінны будуць заняць у гэтай навуцы сваё належнае месца. Зразумела, гэта будзе толькі ў выніку многалетніх дакладных досьледаў і адпаведнага іх апублікаваньня, што паступова ўжо пачынаецца цяпер і будзе ў далейшым усё болей расьці і паглыбляцца. У гэтай справе, аднак, для эўропэйскае навуковае думкі можа мець пэўнае значэньне тое, што першая ясная пастаноўка пытаньня і першыя належныя да гэтага пытаньня тэрмінолёгічныя азначэньні зьявіліся ня ў нашай уласнай, але ў нямецкай літаратуры, як вынік, бясспрэчна, об'ектыўнага падыходу бесстароньняга чужаземца да тых матэрыялаў, якія ён бачыў у Беларусі, і якія ён меў магчымасьць, хаця-б павярхоўна, вывучыць.

Што датычыць самага зьместу памянёнага артыкулу, дык у чыста навуковым сэнсе, як мы ўжо зазначалі, ён не зьяўляецца асабліва каштоўным, хоць ён і мае шэраг вельмі цікавых думак. Ясна, што ў умовах ваеннага часу, трапіўшы ў Беларусь як вайсковы ў складзе X нямецкай арміі, д-р Іппэль ня меў магчымасьці займацца грунтоўным і ўсебаковым вывучэньнем усіх тых помнікаў, якія ён бачыў, і даў хутчэй толькі агульны павярхоўны агляд на падставе сваіх першапачатковых (хаця ў большасьці правільных) уражаньняў, ніж стала пагрунтаваны вынік якіх-небудзь спэцыяльных досьледаў. Праўда, для гэтых уражаньняў ён меў усё-ж досыць матэрыялу; помнікі беларускага мастацтва ён бачыў ня зусім выпадкова, але ў цягу пэўнага часу, зьяўляючыся актыўным удзельнікам організацыі дзьвёх краёвых выставак беларускага мастацтва ў Вільні і ў Менску, ён меў магчымасьць зрабіць досыць вялікае падарожжа па Беларусі ў мэтах адшуканьня і зьбіраньня належных экспанатаў; за гэты час ён мог атрымаць крыху большае знаёмства з некаторымі паасобнымі галінамі беларускага мастацтва, што выявілася спачатку ў іншай яго працы яшчэ 1918 г., а ўласна ў каталёгу, складзеным ім да памянёных выставак („Wilna—Minsk. Altertümer und Kunstgewerbe-Führer durch die Ausstellung der 10 Armee“; быў таксама ў беларускім і расійскім

*) Падобныя-ж тэрміны сустракаюцца, праўда, і ў аднэй з прац у навуковай украінскай літаратуры яшчэ 1903 году, аб якой мы памянём у сваім месцы,—але ня так рашуча і ў меней шырокім сэнсе.

перакладах), дзе да некаторых аддзелаў ім былі зроблены досыць цікавыя ўводныя ўвагі. Пазьней, складаючы свой артыкул, д-р Іппэль па магчымасьці абагульніў свае назіраньні і, на падставе гэтага, намаляваў досыць шырокую і ў асноўных рысах правільную карціну.

На думку яго, „мастацтва Беларусі, таксама як і мастацтва Літвы, павінна будзе яшчэ калі-небудзь адыграць вялікую ролю ў агульнай гісторыі мастацтва“ (стар. 94). Першапачатковыя крыніцы яго Іппэль бачыць у вельмі далёкіх сувязях, у тым, што беларуская тэрыторыя ў пэўныя часы грала ролю мяжы Заходняй і Ўсходняй Рымскай імпэрыі на поўначы Эўропы. Шмат у чым, асабліва ў чыста-народным мастацтве, ён знаходзіць тут водгукі старадаўняй антычнай культуры, занесенай плынямі водных гандлёвых шляхоў. З другога боку, у пазьнейшыя часы ён правільна паказвае на поўную незалежнасьць беларускага мастацтва ад бізантыцкага культурнага ўплыву, такога важнага для мастацтва расійскага, і на цясьнейшую сувязь Беларусі з мастацтвам Заходняй Эўропы, часткова Нямеччыны. Апошнюю ён бачыць і ў помніках беларускай школы малярства, з якой ён пазнаёміўся пераважна ў Слуцку і ў Магілеве, і ў ювэлірных вырабах, блізкіх, на думку яго, да вырабаў гданскага ювэлірнага мастацтва. Але побач з тым, ён заўважае, што шмат у чым выяўляецца тут і поўная стылістычная самастойнасьць, як, напрыклад, у драўлянай архітэктуры, у орнамэнтыцы, у ксылёграфіі. Некаторыя пытаньні Іппэль толькі закранае мімаходам, кідаючы правільную думку, але не разьвіваючы яе цалкам. Так, напрыклад, ён правільна зазначае, што карані беларускага малярства трэба шукаць яшчэ ў тых працах, якія рабіліся ў XIV—XV сталецьцях у Польшчы, часткова ў Кракаве, спэцыяльна выпісанымі з Вільні беларускімі майстрамі; у іншай галіне ён правільна падкрэсьлівае, што ў XVIII сталецьці Беларусь мела мастацкую вытворчасьць сусьветнага значэньня, а ўласна вядомую Слуцкую фабрыку паясоў і Урэчанскую шкляную гуту. Маленькія памеры артыкулу не дазваляюць яму спыняцца больш падрабязна на гэтых і іншых момантах. Але наагул праз усю працу адчуваецца шчырае захапленьне новаю тэмаю, імкненьне высьветліць яе хаця-б павярхоўна, але з належнага боку, і цьвёрдая, нарэшце, упэўненасьць, што ў данай галіне ў Беларусі ёсьць шмат яшчэ невядомага, але надзвычайна каштоўнага матэрыялу, які яшчэ зробіцца калі-небудзь прадметам таго ўважлівага і шырокага вывучэньня, якога ён заслугоўвае (стар. 96).

У цэлым артыкул Іппэля толькі намячае самыя асноўныя вехі, дый то ня ў поўным абхваце. Ён закранае далёка ня ўсе галіны беларускае мастацкае творчасьці; ён пакідае амаль што бяз увагі ўсю архітэктуру, асабліва каменную; ён нічога ня кажа аб такой важнай галіне, як разьбярства, дый наогул занадта коратка і бегла характарызуе ўсе іншыя галіны. Імкнучыся выявіць крыніцы і сувязі беларускага мастацтва, ён зусім не заўважыў вялізарнай ролі далёкіх усходніх уплываў для стара-

даўняй эпохі да XII сталецьця ўключна, і ня меншай ролі італьянскага рэнэсансу ў пазьнейшыя часы, побач з правільна вызначанымі ім нямецкімі ўплывамі.

Але ўсе гэтыя хібы мы досыць выразна бачым цяпер, зрабіўшы ў апошнія гады цэлы шэраг самых рознастайных досьледаў па ўсіх галінах беларускага мастацтва. Восем-жа год назад, калі зьявіўся артыкул Іппэля,—як ні малы адносна той тэрмін, што аддзяляе яго ад нашага часу,—і тое, што ён зрабіў, было ўжо досыць добра. У кожным выпадку артыкул гэты як-бы стаў на грані: да яго—былі, можа, і значна болей грунтоўныя працы, але такія, дзе беларускае мастацтва ніколі не называлася сваім уласным імем, дзе яно закраналася толькі выпадкова, то ў якасьці „польскага", то ў якасьці „расійскага" мастацтва, у залежнасьці ад нацыянальных нахілаў аўтараў; пасьля яго—распачаліся новыя досьледы, дзе тэма беларускага мастацтва распрацоўваецца ўжо спэцыяльна і самастойна, якраз у такім напрамку, як гэта было намечана Іппэлем, г. зн. у шырокім гістарычным разрэзе і ў правільным з нацыянальнага боку асьвятленьні. У гэтым сэнсе артыкул Іппэля і мае досыць каштоўнае значэньне: калі ня чыста навукова-дасьледчае, дык у кожным выпадку гістарычнае ў разьвіцьці данае справы, і часткова мэтодолёгічнае для самага яе пачатку.

---

Занадта вялікая, можа, увага, якую мы аддалі невялічкаму, і ў сутнасьці ня столькі ўжо навуковаму, колькі популярнаму артыкулу Іппэля, мае сваё апраўданьне ў асобным характары гэтага артыкулу, як ледзь не адзінай пакуль што працы агульнага зьместу, датычнай гісторыі беларускага мастацтва. Як раней, так і пазьней гэтага артыкулу такога тыпу прац мы болей амаль што ня знойдзем, што і змусіла нас адзначыць працу Іппэля ў першую чаргу. Ранейшая літаратура дае нам або больш менш выпадковыя ўпаміны аб тых ці іншых беларускіх помніках у шэрагу іншых, або монографічныя апісаньні асобных з іх, у лепшым выпадку—об'ектыўнага ці нэйтральнага характару, а ў горшым—у пэўным тэндэнцыйным асьвятленьні. Пазьнейшыя працы, г. зн. галоўным чынам у нашай сучаснай беларускай навуковай літаратуры, выключна прысьвечаны паасобным пытаньням з гісторыі беларускага мастацтва, асобным момантам у яго разьвіцьці, або ізноў-жа паасобным помнікам. Адзін толькі вельмі сьціслы і кароткі агульны агляд напісаны аўтарам гэтых радкоў у расійскай мове для „Вялікай Савецкай Энцыклёпэдыі" (Н. Щекатихин. Белорусское искусство. „Большая Советская Энциклопедия", т. V. М. 1927. Стар. 416—421), дзе зроблены пэўны падрахунак усяго таго, што здабыта за апошнія гады нашай навукова-дасьледчай працай у данай галіне, з разьлікам, зразумела, на шырокага і зусім не ўсьвядомленага ў гэтых пытаньнях чытача. Апроч таго, у беларускім друку зьявілася адзін раз досыць поўная справаздача аб аднэй з нашых пуб-

лічных лекцый, прачытанай для менскага Колектыву выкладчыкаў беларусазнаўства (гл. часопіс „Асьвета", № 3, Менск, 1924, стар. 171—175). Літаратура па агульных пытаньнях гісторыі беларускага мастацтва ўсім гэтым нямногім пакуль што і вычэрпваецца.

Пераходзячы да агляду іншых літаратурных матэрыялаў, лічым патрэбным зрабіць адну агульную ўвагу. У пераважнай большасьці тое, што мы павінны аднесьці да літаратуры аб беларускім мастацтве, ня мае выключнага, спэцыяльнага гісторыка-мастацкага характару. Таму і ў самым загалоўку гэтага нарысу мы кажам аб *гістарычнай* і *архэолёгічнай*, а не аб *гісторыка-мастацкай* літаратуры. Спэцыяльная гісторыя мастацтва да гэтага часу вельмі мала яшчэ закранала беларускія помнікі, часта зусім праходзіла міма іх, а ў некаторых асобных выпадках, нават, уносіла ў пытаньне аб іх пэўную блытаніну. Сярод агульных прац з гісторыі расійскага і, часткова, польскага мастацтва аб беларускіх помніках мы сустракаем звычайна толькі зусім выпадковыя ўпаміны, без сыстэматычнага разгляду нават іншых аднародных помнікаў з гэтай тэрыторыі. Часта нават у адпаведных разьдзелах не адзначаюцца помнікі, ужо раней апублікаваныя ў літаратуры. Для прыкладу можна, скажам, паказаць на тое, што, памінаючы аб некаторых выпадкова вядомых яму архітэктурных помніках XII сталецьця ў Полацку і Віцебску, *А. М. Паўлінов* у сваёй „Истории русской архитектуры" (Масква, 1894) зусім нічога ня кажа аб аналёгічных помніках таго-ж часу ў Смаленску, або на тое, што ў капітальным многатомным выданьні: „История русского искусства" пад рэд. *Ігоря Грабаря,* дзе нават ёсьць спэцыяльныя разьдзелы, прысьвечаныя украінскай архітэктуры і малярству, няма аніводнага слова аб помніках Беларусі, за выняткам толькі кароткага ўпаміну аб беларускім разьбярстве ў цікавай працы *Горностаева* „Барокко Москвы" ў сшытку 8, ды паказаньня на некалькі яўрэйскіх сінагог з беларускае тэрыторыі, якія чамусьці аднесены аўтарам адпаведнага разьдзелу *Паўлуцкім* да тэрыторыі Украіны.

Крыху болей мы можам знайсьці паасобных артыкулаў, монографічных апісаньняў, заметак і г. д., або спэцыяльна прысьвечаных беларускім помнікам, або з частковым упамінам іх у шэрагу іншых. У першую чаргу тут можна адзначыць вельмі цікавую монографію Вільні з спэцыяльнага гісторыка-мастацкага пункту гледжаньня, складзеную нямецкім профэсарам Вэбэрам (*Prof. Dr. Paul Weber.* Wilna, eine vergessene Kunststätte. Wilna 1917), асобныя разьдзелы якое нам прыдзецца яшчэ закранаць у далейшым болей дэтальна. Далей можна памянуць некаторыя артыкулы расійскіх дасьледчыкаў: *Паўлінова, Шэроцкого, Покрышкіна* і некаторых іншых, а таксама польскіх гісторыкаў мастацтва, як, напр., *A. Szyszko-Bohusz,* д-р *M. Morelowski* і проф. *M. Sokołowski.* Можна адзначыць і яшчэ шэраг болей дробных заметак і ўпамінаў, зьмешчаных у „Древностях", выд. Маскоўскага Архэолёгічнага Таварыства, а таксама

ў „Sprawozdaniach“ і „Pracach Komisji i Historji Sztuki“ Кракаўскай Акадэміі Навук. Але наогул лік гэтых спэцыяльных гісторыка-мастацкіх прац не такі ўжо значны і многа болей мы сустракаем або гісторыка-археолёгічных, або нават чыста-гістарычных досьледаў, значэньне якіх у справе гістарычнага вывучэньня беларускага мастацтва зьяўляецца хутчэй дапаможным, хоць у некаторых выпадках і вельмі важным. Адны з іх падаюць тыя ці іншыя весткі, на падставе якіх магчыма больш-менш дакладная або прыблізная хронолёгічная датоўка паасобных, пераважна архітэктурных помнікаў; іншыя зьмяшчаюць у сабе адпаведныя дакумантальныя крыніцы; трэція, нарэшце, нават зьяўляючыся надзвычайна спрэчнымі або часам і зусім памылковымі па сваіх поглядах і вывадах, маюць у той-жа час выключны інтарэс па вялізарнай колькасьці апублікаваных у іх матэрыялаў у выглядзе плянаў, рысункаў, фотографічных здымкаў і г. д., якія пры адпаведным спэцыяльным іх пераглядзе могуць быць вельмі грунтоўнай падставай ужо для спэцыяльнага гісторыка-мастацкага вывучэньня таго ці іншага помніку, а часам маюць і самую высокую каштоўнасьць, напрыклад, у тых выпадках, калі самы помнік у цяперашні час з тых ці іншых прычын ужо зусім ня існуе. У агульным ліку ўсе гэтыя працы складаюць досыць значную па сваіх памерах літаратуру, знаёмства з якой зьяўляецца, зразумела, абавязковым, як база для нашых сучасных досьледаў у данай галіне навукі.

Дэтальнае, падрабязговае апісаньне ўсёй гэтай літаратуры, з дакладным адзначэньнем кожнай дробязі і, магчыма, з паасобнымі крытычнымі ўвагамі на тыя ці іншыя працы, у даным выпадку, як мы ўжо зазначалі, выходзіць за межы пастаўленай намі для гэтага нарысу мэты і павінна будзе зьявіцца задачай поўнае бібліографіі беларускага мастацтва, да складаньня якой у апошнія часы ўжо прыступіла Бібліографічная Камісія Інстытуту Беларускае Культуры сумесна з Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкай. Мы-ж цяпер абмяжуемся толькі папярэднім разглядам, а часткова і простым пералічэньнем найболей важнага з нашага погляду літаратурнага матэрыялу, прычым найбольшую ўвагу мы аддамо ў першую чаргу нямногім памянёным намі працам спэцыяльнага характару, не забываючыся, зразумела, і на тыя памянёныя намі вышэй гісторыка-археолёгічныя і нават чыста гістарычныя досьледы, якія маюць дачыненьне да нашае тэмы і складаюць, як мы ўжо казалі, усё-ж галоўную масу друкаванага матэрыялу, зьвязанага з гістарычным вывучэньнем беларускага мастацтва. Расплянаваньне гэтага матэрыялу ў нашым аглядзе найболей мэтазгодна, на нашую думку, зрабіць па тэмах, г. зн. у хронолёгічным парадку па асобных пэрыодах гістарычнага разьвіцьця беларускага мастацтва і па асобных яго галінах, зазначаючы для кожнай тэмы, апроч старой гістарычнай літаратуры, таксама і ўсё тое, што зьявілася па даным пытаньні і ў нашым сучасным навуковым або навукова-популярным друку, каб даць такім чынам хаця-б самую агульную характарыс-

тыку таго, у якім становішчы знаходзіцца вывучэньне таго ці іншага пытаньня ў сучасны момант.

---

Першым пэрыодам разьвіцьця беларускага мастацтва ў тэрытарыяльным сэнсе мы можам лічыць археолёгічную эпоху, пачынаючы з нэоліту, калі ў вырабах ужо зьяўляюцца элемэнты орнамэнтыкі, і да канца так званага кургановага пэрыоду, г. зн. прыблізна да X-XI сталецьця, прычым умоўна мы можам, як нам здаецца, ужо і ў гэты час казаць аб этнографічна-беларускім мастацтве, паколькі ў большасьці прадметы гэтага часу характарызуюць культуру тых славянскіх пляменьняў, якія зьяўляюцца продкамі сучасных беларусаў. Археолёгічная літаратура, прысьвечаная старажытнасьцям Беларусі, хаця і не зьяўляецца асабліва багатай, але ўсё-ж дае ўжо досыць цікавы матэрыял, здабыты на нашай тэрыторыі шэрагам раскопак і выпадковых знаходак. Зразумела, пасколькі задачы археолёгіі і гісторыі мастацтва далёка не супадаюць паміж сабой,— настолькі часта для нашых спэцыяльных мэт матэрыял гэты зьяўляецца яшчэ сырым, неапрацаваным і вымагае часам паўторнага вывучэньня. Аднак, некаторыя важныя і для гісторыі мастацтва пытаньні ўжо большменш распрацаваны і аўтарамі чыста-археолёгічных прац: да гэтых пытаньняў належыць характарыстыка тыпаў асобных знаходак, высьвятленьне паходжаньня паасобных прадметаў, а разам з тым, значыцца, і адпаведных сувязяй і г. д. Так, напрыклад, працамі *Спіцына*, *Сізова* і некаторых іншых паказана тая вялізная роля, якую адыгралі для старадаўняй беларускай тэрыторыі яе гандлёвыя сувязі з усходам, зазначана прысутнасьць у беларускіх археолёгічных знаходках шэрагу ўсходніх прадметаў і іх мясцовых модыфікацый, высьветлены некаторыя іншыя крыніцы культурных (а ў тым ліку, зразумела, і артыстычных) уплываў з боку скандынаўскіх і рымскіх старажытнасьцяй і канчаткова даведзена амаль што поўная адсутнасьць адпаведных уплываў з боку Бізантыі. Для гісторыі мастацтва ўсе гэтыя вывады маюць асабліва важнае значэньне з тэй прычыны, што пераважную большасьць археолёгічных знаходак, як вядома, складаюць featнастайныя прадметы ўбраньня і аздобы, г. зн. прадметы ўжытковага мастацтва, дзе ўжо з самых раньніх часоў адбіваліся адзнакі пэўнага стылю як у асноўных формах, гэтак і ў дадатковай орнамэнтыцы. Гэта-ж робіць для нас асабліва цікаўным і амаль што ўвесь апублікаваны археолёгічнай навукай матэрыял з кургановых і іншых знаходак, да якога звычайна далучаны самыя дакладныя і дэтальныя апісаньні паасобных прадметаў. У гэтых адносінах найболей каштоўнымі ў археолёгічнай літаратуры можна лічыць выпускі 4, 14 і 28 „Материалов по археологии России“, выд. Археолёгічнае Камісіі, першы з якіх прысьвечаны старажытнасьцям „северо-западного края“, г. зн. пераважна Віцебшчыны, другі зьмяшчае ў сабе апісаньне Люцынскага магільніку, а трэці складаецца з грунтоўнай працы *В. Сізова*: „Гнездовский мо-

гильник близ Смоленска“. Усе яны, апроч цікавага і дакладнага тэксту, маюць вялікую колькасьць фотографічных здымкаў і цэлых табліц са здымкамі з рознастайных прадметаў, якія цалкам характарызуюць мастацкую культуру ўсіх памянёных мясцовасьцяй за пэўны археолёгічны пэрыод. Меней каштоўны зьместам, але таксама багаты фотографічным матэрыялам працы *Ф. В. Покровского*: „Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии“ і „К исследованию курганов и городищ на восточной окраине современной Литвы“, зьмешчаныя ў „Трудах IX Археологического с‘езда в Вильне“ (Москва, 1895—1897, т. I і II). Вельмі цікавы фотографічны матэрыял дае і выданы тым-жа аўтарам альбом здымкаў з колекцый Віленскага музэю („Виленский Музей Древностей“. Вільня, 1892). Асноўным недахватам усіх памянёных прац для мэт гісторыка-мастацкага вывучэньня археолёгічных помнікаў Беларусі зьяўляецца тое, што ўсе яны маюць чыста монографічны характар. Наогул у сьціслай археолёгічнай літаратуры яшчэ зусім няма больш-менш сыстэматычнага падрахунку ўсіх тых паасобных археолёгічных досьледаў, якія былі да гэтага часу праведзены на тэрыторыі Беларусі, а ў сувязі з тым няма і агульных аглядаў усіх беларускіх археолёгічных знаходак ані па пэўных іх катэгорыях, ані ў хронолёгічнай пасьлядоўнасьці іх зьяўленьня і разьвіцьця ў цягу ўсяго археолёгічнага пэрыоду. У гэтым напрамку да самага апошняга часу можна адзначыць толькі некаторыя нязначныя спробы, пры гэтым толькі часткова датычныя беларускіх старажытнасьцяй.

Першая з іх была зроблена больш менш у гісторыка-мастацкім асьвятленьні яшчэ ў 1858 г. *Крашэўскім* (J. Kraszewski. Sztuka u słowian szczególnie w Polsce i Litwie przedchrześcijańskiej. Wilno. 1858 г.), які імкнуўся, на падставе вядомых яму археолёгічных знаходак з тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі, высьветліць асноўную лінію стылістычнае эволюцыі дэкорацыйнага мастацтва тых славянскіх народаў, якія жылі на гэтай тэрыторыі ў дагістарычныя часы. Самая пастаноўка такой шырокай і цікавай тэмы, зразумела, яшчэ і ў наш час ня страціла свайго значэньня. Але распрацоўка яе Крашэўскім, з нашых сучасных поглядаў, і ў адносінах да таго матэрыялу, які сабраўся з часоў Крашэўскага ў археолёгічнай навуцы,—здаецца занадта застарэлай і ня зусім можа нас задаволіць, хоць у асобных мясцох ён выказвае некаторыя правільныя думкі. Асноўныя вывады, да якіх прышоў у сваёй працы Крашэўскі, былі наступныя: параўнаньне паміж сабою рознастайных прадметаў з розных археолёгічных эпох выяўляе пэўны эволюцыйны шлях стылістычнае іх апрацоўкі. „У агульным характары пазьнейшых вырабаў, калі разглядаць іх з гісторыка-мастацкага боку,—кажа ён,—мы бачым вялікую зьмену параўнальна з прадметамі папярэдніх эпох: грунтоўна відазьмяняюцца мотывы орнамэнтыкі, замест адцягненай лініі зьяўляюцца фантастычныя жывёлы, адчуваецца ўзятая за ўзор жывая натура, на падставе якой фантазія майстроў стварае новыя, раней невядомыя формы. Першапачатковыя простыя

аднакаляровыя орнамэнты замяняюцца рознакаляровымі; у бронзавую эпоху адна толькі лінія была адзінай істотай, адзіным матэрыялам орнамэнтыкі— пазьней да яе далучаецца, і часта яе падмяняе фарба. Гэта зьяўляецца адначасна і крокам наперад і заняпадам. Лік аздоб усё павялічваецца, але выкананьне іх робіцца ўсё болей нядбалым, болей фантазіі—але меней майстэрства ў яе выяўленьні, меней, сказалі-б мы, „артыстычнасьці". Адчуваецца мэханічная праца, праца людзей, якія жывуць у заняпадзе аднэй эпохі перад узьнікненьнем новай. Усё аздабляецца, робіцца болей раскошным і складаным, усюды пануе орнамэнталізм, хаця выкананьне нідзе не адпавядае задуму. Як-бы мала нам ні былі вядомы гэтыя далёкія эпохі першабытнага мастацтва, усё-ж досыць параўнаць між сабой, напрыклад, каменную сякеру, дакладна зроблены бронзавы цэльт, або падвеску пазьнейшага часу з выбітым на ёй орнамэнтам, каб праканацца ў зусім асаблівым характары і стылі кожнага паасобнага пэрыоду. У гэтых пэрыодах мы бачым закончаны і поўны цыкль гісторыі мастацтва, якое хаця і не пакінула нам якіх-небудзь вялікіх і выдатных твораў, але павінна ўсё-ж быць прадметам нашай увагі" (Kraszewski, op. cit. стар. 65—66).

Галоўнай хібай прыведзеных разважаньняў Крашэўскага зьяўляецца тое, што ўсе вядомыя яму архэолёгічныя знаходкі з пэўнае тэрыторыі ён бяз усякіх абмовак лічыць як-бы продуктам нейкай аднэй суцэльнай і аднастайнай культуры дагістарычнага часу, тлумачачы заўважаную імі розьніцу ў вырабах паасобных пэрыодаў толькі адным пасьлядоўным эволюцыйным процэсам, які адбываўся нібыта ў межах гэтай культуры. Такі погляд, аднак, занадта спрашчае фактычную рачавістасьць, паколькі, папершае, архэолёгічныя знаходкі з тэрыторыі Польшчы, Літвы і Беларусі часта належаць да розных этнографічных груп першабытнага насельніцтва, а падругое, паколькі самым зьместам сваім знаходкі гэтыя складаюцца ня толькі з мясцовых, але таксама і з прывозных вырабаў, прычым апошнія, зразумела, могуць характарызаваць зусім не процэс нутраной стылістычнай эволюцыі дагістарычнага дэкорацыйнага мастацтва, але толькі напрамкі і эволюцыю надворных культурных зносін і сувязяй. Далей Крашэўскі наогул меў вельмі мала яшчэ матэрыялу. Усе сыстэматычныя і сьцісла навуковыя архэолёгічныя досьледы данае тэрыторыі былі праведзены многа пазьней, у тыя-ж часы, у пераважнай большасьці, вядомы былі толькі выпадковыя знаходкі, часткова пры тым больш-менш спрэчнага пахаджэньня. Гэты недахват матэрыялу ня даў магчымасьці Крашэўскаму прасачыць уважліва і дэтальна нават той схэматычны эволюцыйны шлях, які намячае ён у сваім дасьледваньні. Адсюль адначасна з больш-менш правільна вызначанай асноўнай лініяй стылістычнага пераходу ад геомэтрызаванага лінейнага орнамэнту да органічнае орнамэтыкі пазьнейшых часоў, мы знаходзім у яго схэме і зусім няправільныя зацьверджаньні, напрыклад, адносна ўзаемных дачыненьняў ліній і колераў, якім у шмат якіх выпадках супярэчаць пазьнейшыя архэолёгічныя знаходкі. Нарэшце,

для нашых мэт зьяўляецца адмоўным і тое, што пры агульнай непаўнаце скарыстанага матэрыялу праца Крашэўскага да таго-ж разглядае наогул ня толькі беларускія архэолёгічныя старажытнасьці, але таксама польскія і літоўскія, зьліваючы іх у адну агульную групу і не выяўляючы, такім чынам, тых асаблівасьцяй, якія ў даных адносінах мае ўласна беларуская дагісторыя. Апроч таго, зразумела, зусім натуральна, што ў мэтодолёгічных адносінах праца Крашэўскага далёка ня можа лічыцца адпаведнай тым вымаганьням, якія мы ставім цяпер для гістарычнай навукі, што асабліва датычыць некаторых яго тлумачэньняў тых ці іншых стылістычных зьяў. Ня гледзячы, аднак, на ўсе гэтыя зазначаныя намі недахваты, кніга Крашэўскага яшчэ і цяпер не пазбаўлена цікавасьці—хаця-б ужо з аднэй тэй прычыны, што яна зьяўляецца, як мы зазначалі, амаль не адзінай пакуль што спробай гісторыка-мастацкага аналізу архэолёгічных старажытнасьцяй, часткова ўзятых з тэрыторыі Беларусі.

З ліку пазьнейшых прац можна адзначыць толькі нямногія старонкі з выпуску V „Русских древностей в памятниках искусства“ *Н. Кондакова* і *І. Толстого*, дзе закранаюцца тыя ці іншыя беларускія архэолёгічныя помнікі з навейшых знаходак, галоўным чынам Люцынскага і Гнёздаўскага магільнікаў. Агляд археолёгічных знаходак праведзены ў памянёнай працы, з аднаго боку, па тэрыторыяльных адзнаках, з прычыны чаго тут выдзелены асобныя старонкі для адпаведнага апісаньня былых Віцебскай, Смаленскай, Магілеўскай і Менскай губ., з другога-ж боку, часткова, і па тыпах прадметаў, прычым у гэтых выпадках некаторыя беларускія знаходкі памінаюцца разам з іншымі, і спэцыяльна не выдзяляюцца. Абодва гэтыя прынцыпы апісаньня неяк зьмешаны, аднак у працы *Кондакова* і *Толстого* дый наогул уся яна на наш погляд зьяўляецца ня зусім сыстэматызаванай, неяк ня ўвязанай у сваіх паасобных частках, а часткова і ў вывадах. Цікавыя для нас старонкі даюць толькі досыць павярхоўныя апісаньні некаторых найболей выдатных знаходак з паасобнымі спробамі іх параўнальнага аналізу ў адносінах да пэўных тыпаў, прычым найболей важнае пытаньне—пытаньне аб стопні і характары мясцовай модыфікацыі данага тыпу—ставіцца вельмі рэдка, або нават і зусім ня ставіцца; у пытаньні-ж аб пахаджэньні таго ці іншага тыпу, які сустракаецца на нашай тэрыторыі—мы часта знаходзім занадта павярхоўныя і мала пагрунтаваныя зацьверджаньні часам з выяўным нахілам аўтараў абавязкова бачыць ледзь не ва ўсім тыя ці іншыя сьляды бізантыцкага ўплыву, што можа і правільна для шэрагу іншых, г. зн. украінскіх і часткова расійскіх, разгледжаных аўтарамі тэрыторый, але, бясспрэчна, памылкова ў адносінах да беларускіх археолёгічных помнікаў, сярод якіх ніхто з найболей аўторытэтных прадстаўнікоў археолёгічнай навукі ніякіх рыс бізантыцкага ўплыву не адзначае. Наогул праца *Кондакова* і *Толстого* ў справе гісторыка-мастацкага вывучэньня беларускіх старажытнасьцяй курганавай эпохі дае нам досыць мала. Нават апісаньні

яе далёка ня поўны і не даюць уяўленьня аб усіх пашыраных тут у пэўныя часы хаця-б асноўных тыпах прадметаў, ня кажучы ўжо аб дэталях, якія ў даным выпадку варты асаблівае ўвагі. Што-ж датычыць агульных вывадаў, дык іх амаль што зусім няма, паколькі аўтары спэцыяльна нашай тэрыторыяй, зразумела, зусім ня цікавіліся; тыя-ж вывады, якія ўсё-ж сустракаюцца ў працы іх выпадкова, на нашую думку, зьяўляюцца цалкам спрэчнымі і патрабуюць грунтоўнага перагляду.

Такім чынам, у адносінах да археолёгічных старажытнасьцяй Беларусі пераважнае значэньне ўсяе ранейшае археолёгічнае літаратуры застаецца, галоўным чынам, усё-ж толькі ў апублікаваньні шырокага матэрыялу, часткова апрацаванага згодна з археолёгічнымі мэтодамі вывучэньня, што для цяперашняга часу дае грунтоўныя падставы для ўзьвядзеньня на ім ужо спэцыяльнай гісторыка-мастацкай пабудовы. Але пакуль што гэта зроблена яшчэ ня было, і толькі ў самы апошні час аўтарам гэтых радкоў запрапанована першая спроба ў даным напрамку ў нарысе „Археолёгічныя старажытнасьці Беларусі“, які ў сучасны момант разам з некаторымі іншымі друкуецца Інстытутам Беларускай Культуры (М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Том І, разьдзел І). Будучыня, разам з аўторытэтнымі крытычнымі заўвагамі пасьля апублікаваньня працы гэтай у друку, выявіць, зразумела, наколькі памянёная спроба нам удалася. У кожным выпадку мы імкнуліся даць у ёй як мага болей поўную сыстэматызацыю ўсяго здабытага да гэтага часу беларускага археолёгічнага матэрыялу па пэўных катэгорыях або тыпах прадметаў, з дэтальным разглядам іх варыянтаў, а таксама магчымага іх пахаджэньня. Пытаньне аб стылістычнай эволюцыі ў большасьці выпадкаў мы пакідалі нявырашаным, паколькі з нашага погляду сучасная археолёгічная навука наогул яшчэ ня мае абсолютна бясспрэчных крытэрыяў для хронолёгічных сваіх пабудоў. Замест таго, галоўную ўвагу мы зьвярнулі на высьвятленьне ўсіх магчымых сувязяй і ўплываў, якія адбіваліся ў помніках матэрыяльнай культуры археолёгічнай эпохі, паколькі мы лічым, што ўласна гэтыя фактары зьяўляліся найболей істотнымі і важнымі ў працэсе стылістычнага аформленьня першапачатковага дэкорацыйнага мастацтва на нашай тэрыторыі, дый не пазбаўлены значэньня для высьвятленьня некаторых стылістычных асаблівасьцяй таксама і ў некаторых іншых галінах нашага старадаўняга мастацтва ужо пазьнейшых эпох. Зразумела, аднак, што ўвесь гэты агляд мае толькі папярэдні характар і што з далейшым разьвіцьцём беларускай археолёгічнай навукі таксама і гэты першапачатковы пэрыод гісторыі беларускага мастацтва зможа зрабіцца прадметам значна болей глыбокага і дэтальнага вывучэньня.

---

Наступная эпоха ў гістарычным разьвіцьці прасторавых мастацтваў на тэрыторыі Беларусі ахапляе прыблізна час з канца XI па канец XII стагодзьдзя і характарызуецца зьяўленьнем на гэтай тэрыторыі монумэн-

тальнай каменнай архітэктуры, разам з першымі помнікамі насьценнага фрэскавага малярства ў сувязі з узьнікненьнем больш-менш значных гарадзкіх асяродкаў і першапачатковым дзяржаўным афармленьнем асобных частак этнографічнае Беларусі. У гэтую эпоху Беларусь у першы раз адчувае ўплыў бізантыцкай артыстычнай культуры, які пашыраўся ў гэты і ў крыху яшчэ ранейшы час таксама і ў іншых усходня-славянскіх краінах, пачынаючы з Кіеву, які яшчэ ў X сталецьці зрабіўся адным з найболей бізантынізаваных славянскіх асяродкаў. Уплыў Бізантыі ў першую чаргу выявіўся ў Беларусі ўласна ў архітэктуры, у аснову якой былі пакладзены бізантыцкія тыпы, хоць часам і ў вельмі шырокім значэньні гэтага слова, г. зн. тыпы, уласьцівыя бізантыцкай артыстычнай традыцыі ня толькі ў самай мэтрополіі, але таксама і ў бізантыцкіх провінцыях Усходу, г. зн. Малой Азіі і Каўказу, з якімі Беларусь яшчэ здаўна мела сувязь у сваіх усходніх гандлёвых зносінах. На працягу сталецьця тыпы гэтыя, зразумела, зрабілі пэўную эволюцыю на беларускім грунце, у выніку чаго тут пазастаўся цэлы шэраг вельмі цікавых архітэктурных помнікаў, больш-менш захаваных да цяперашняга часу. Агульны лік іх дасягае дванаццаці, з якіх пяць знаходзяцца ў Полацку, пяць у Смаленску, адзін у Віцебску і адзін у Горадні.

Помнікі гэтыя больш-менш усе зьвярнулі на сябе ў свой час увагу ў адпаведнай літаратуры, хоць толькі ў самыя апошнія часы яны зьявіліся прадметам спэцыяльных гісторыка-архітэктурных досьледаў, якім раней яны падлягалі хіба толькі выпадкова і ў значна меншай ступені за іншыя помнікі таго-ж самага часу, захаваныя ў іншых краінах з тэрыторыі былое Расійскае імпэрыі, як, напрыклад, у Кіеўшчыне, Уладзімеры, або Ноўгарадзе. Часткова гэта, магчыма, тлумачыцца тым, што Беларусь у ранейшыя часы мела вельмі мала мясцовых дасьледчыкаў, пры гэтым аніводнага спэцыялістага па гісторыі архітэктуры; іншыя-ж спэцыялісты ня мелі грунтоўнага знаёмства з беларускімі помнікамі, ніколі не вывучаючы іх сыстэматычна. У кожным выпадку польскія аўтары зусім не закраналі пытаньня аб архітэктурных помніках XI—XII сталецьця, у расійскай-жа літаратуры ня ўсе яны апрацаваны аднолькава, прычым найменей у гэтых адносінах пашанцавала помнікам Смаленску і гэтак званай Калажанскай царкве ў Горадні, і крыху болей—пабудовам гэтага часу ў Полацку і Віцебску. Горадзенская Калажанская царква мае, праўда, некалькі нават монографічных апісаньняў; з іх ліку, аднак, толькі нарыс *В. Грязнова* „Коложская Борисоглебская церковь в гор. Гродне“ (Труды Виленского отделения Московского предварительного Комитета по организации IX Археологического С‘езда. 1893. Таксама асобнай брошурай. Вільня, 1893) і адпаведная табліца „Памятников древне-русского зодчества“, выд. Акадэміі Мастацтва (Пецярбург, 1900, вып. VI, арк. I) могуць прэтэндаваць на пэўнае навуковае значэньне. Але першая з памянёных прац досыць цікава прыкладзенымі да яе зарысоўкамі, плянамі і разрэзамі

разам з дэтальным апісаньнем помніку; ва ўсім-жа іншым яна зьяўляецца глыбака дылетанцкай і зусім ня вычэрпвае нават свайго-ж уласнага фактычнага матэрыялу,—што, праўда, зусім зразумела, паколькі аўтарам яе быў толькі мастак, які здолеў даць добрыя зарысоўкі помніку, а ня вучоны, які мог-бы яго належным чынам дасьледваць. Матэрыялы „Памятников“ болей сур'ёзны, хоць і занадта кароткі. Сярод іх асабліва вартай увагі здаецца проект рэконструкцыі першапачатковага віду будынку, прапанаваны *Горностаевым*, дзе добра і ўдала выкарыстаны вядомыя аўтару матэрыялы. На наш погляд, аднак, ён усё-ж ведаў занадта мала гэтых матэрыялаў уласна з беларускіх помнікаў, што і пазбавіла яго магчымасьці ўнесьці ў сваю рэконструкцыю некаторыя такія дэталі, якія можна было-б знайсьці толькі па аналёгіі да іншых беларускіх будынкаў данага часу, або наогул ведаючы пэўныя асаблівасьці яе архітэктурнага разьвіцьця ў гэтую эпоху. Апроч гэтых дзьвёх прац, нічога больш-менш важнага аб Калажанскай царкве да гэтага часу не напісана. Зразумела, у даным выпадку, як і ва ўсіх далейшых, мы пакідаем бяз увагі ўсе тыя так званыя „гісторыка-статыстычныя апісаньні“ царкоўна-гістарычнага характару, якія нічога не даюць у сьцісла навуковым сэнсе.

Архітэктурныя помнікі Смаленску з эпохі XII сталецьця памінаюцца не адзін раз у агульных гістарычных і археолёгічных працах, датычных гісторыі Смаленску, і маюць, такім чынам, у літаратуры больш-менш падрабязныя і сумленныя, але не спэцыяльныя гісторыка-архітэктурныя апісаньні, без належных параўнаньняў і без патрэбнага фармальнага і стылістычнага аналізу. З ліку гэтых агульных прац можна назваць: „Достопамятности Смоленска“ *І. Орловксого* (Смаленск, 1905), таго-ж аўтара: „Борисоглебский монастырь на Смядыни в Смоленске и раскопки его развалин“ („Смоленская старина“, вып. I, ч. 1. Смаленск, 1909), *С. П. Пісарэва*: „Княжеская местность и храм князей в Смоленске“ (Смаленск, 1894), даклад *Е. Н. Клетновой* Маскоўскаму Археолёгічнаму Таварыству „О раскопках на Смядыни, произведенных Смоленской Ученой Архивной Комиссией в сентябре 1909 года“ („Древности. Труды Комиссии по охране памятников Моск. Археол. О-ва“, IV, 288—297; ёсьць таксама асобнай брошуркай без вызначэньня месца і года выданьня), і некаторыя іншыя. Сярод гэтых прац з гісторыка-мастацкага боку найбольшы інтарэс маюць, бясспрэчна, справаздачы *Орловского і Клетновой* аб выніках сьмядынскіх раскопак. Першая з іх падае апісаньне расчысткі руін найболей старога архітэктурнага помніку ў Смаленску—г. зв. Спасаўскай царквы Сьмядынскага манастыра, якая можа быць аднесена да 1141 г. Другая датычыць аналёгічных раскопак фундамантаў іншай „Малой“ сьмядынскай царквы 1145 г., прычым у абедзьвюх гэтых працах можна знайсьці вельмі каштоўны апісальны матэрыял, некаторыя фотографіі, зьнятыя з раскапаных рэштак будынкаў пляны і г. д., якія даюць падставы для гісторыка-архітэктурнага вывучэньня гэтых цяпер ужо ня існу-

ючых помнікаў. Справаздача *Е. Н. Клетновой* мае, апроч таго, яшчэ і зусім выключны інтарэс, з прычыны таго што ў часе раскопак „Малой“ сьмядынскай царквы былі знойдзены вельмі цікавыя рэшткі фрэскавых росьпісаў, якія зьнішчыліся ў процэсе раскопак, так што адно толькі, што захавала іх для навукі,—гэта зробленае *Е. Н. Клетновой* апісаньне, а таксама фотографічныя здымкі і зарысоўкі. Апошнія матэрыялы самою *Клетновой,* між іншым, амаль што ня былі скарыстаны, і ў кожным выпадку спэцыяльна не распрацаваны,—але некалькі год назад яна ласкава перадала іх аўтару гэтых радкоў для выкарыстаньня, вынікам чаго і зьявілася апублікаваная намі сёлета невялічкая праца: „Орнамэнтальныя росьпісы сьмядынскай Барысаглебскай царквы ў Смаленску“, надрукаваная ў Гістарычна-Археолёгічным зборніку № 1, выд. Інстытуту Беларускае Культуры (Менск, 1927, стар. 67—82).

Што датычыць іншых вышэйпамянёных намі прац, дык разам з агульнымі гістарычнымі развагамі мы часткова знаходзім у іх апісаньні іншых, лепей захаваных смаленскіх будынкаў XII сталецьця, з самым прымітыўным, звычайна, пералічэньнем асноўных элементаў іх пабудовы і без патрэбнай для спэцыяльных мэт дэталізацыі ў азначэньні тых ці іншых асаблівасьцяй іх конструкцыі, так што, карыстаючыся гэтымі апісаньнямі, можна скласьці сабе толькі самае прыблізнае, а часам нават і ня зусім правільнае ўяўленьне аб гэтых помніках. Да гэтага трэба дадаць, што зробленыя ў самыя апошнія гады Смаленскім Музэйным аддзелам рэстаўрацыйныя працы і расшуканьні выявілі ва ўсіх гэтых будынках цэлы шэраг раней невядомых з прычыны пазьнейшых паправак і перабудовак і, у той-жа час вельмі цікавых і важных, першапачатковых архітэктурных дэталяй, што наогул раскрывае зусім новыя горызонты для вывучэньня смаленскай архітэктуры XII сталецьця,—так што і ў гэтым сэнсе значэньне ранейшых прац павінна было-б цяпер паменшыцца, нават і ў тым выпадку, калі-б яны і болей адпавядалі нашым спэцыяльным вымаганьням.

Пераходзячы да спэцыяльнай літаратуры, трэба зазначыць, што, як агульнае правіла, яна смаленскіх помнікаў XII ст., пакуль што, яшчэ зусім ня ведае; як выключэньне-ж можна адзначыць у спэцыяльных працах апошніх год толькі два выпадкі, дзе гэтыя помнікі павярхоўна памінаюцца. Першы з іх мы знаходзім у нядаўна выпушчанай кнізе профэсара Маскоўскага Унівэрсытэту *А. І. Некрасова* „Византийское и русское искусство“ (Масква, 1924), дзе, аднак, літаральна сказана толькі наступнае: „Да сярэдзіны XII сталецьця належыць цікавая царква Парасксвы-Пятніцы ў Ноўгарадзе, з аднэй абсідай і чатырохкутнымі памяшканьнямі для афяравальніка і дзяканіка; яна мае аналёгіі ў Смаленску і бясспрэчна зьяўляецца тыпам, занесеным з Заходняй Русі“ (стар. 79—80). Памянёная тут аналёгія ў Смаленску—гэта Сьвірская царква, і калі адкінуць застарэлы тэрмін „Заходняя Русь“, а таксама занадта, можа, ка-

тэгорычнае аднясеньне царквы Параскевы-Пятніцы да сярэдзіны XII сталецьця, паколькі некаторыя аўтары датуюць яе толькі пачаткам XIV сталецьця,—дык агулам зацьверджаньне аўтара зьяўляецца абсолютна правільным. Але наколькі мала аўтар ўсё-ж знаёмы з беларускімі помнікамі XII сталецьця, ясна з таго, што нават і Сьвірскую царкву, патрэбную яму для довдаду пэўнае думкі, ён ня ведаў як назваць дакладна, дый наогул з таго, што ўсю надзвычайна шырокую і складаную проблему аб узаемаадносінах беларускага і наўгародзкага будаўніцтва ў XII ст. і ў пазьнейшыя часы ён закрануў аднэй толькі выпадковай, хаця і правільнай, але мала пагрунтаванай думкай, і то адносна аднаго толькі, таксама выпадкам, пэўна, вядомага яму прыкладу.

Другі ўпамін аб смаленскай архітэктуры XII ст. мы знаходзім ва ўступе да артыкулу *С. Д. Ширяева:* „Памятники барокко и влияние зодчества Москвы в архитектуре Смоленска 17 и 18 века“ (Труды Смоленских Государственных Музеев“, вып. I, Смаленск, 1924). Аўтара гэтай працы нельга ўжо ўпікнуць у незнаёмстве з смаленскімі помнікамі, бо ён доўга жыў і працаваў у Смаленску і спэцыяльна вывучаў Смаленскую архітэктуру, кіруючы, між іншым, у якасьці загадчыка Смаленскім Музэйным аддзелам вышэйпамянёнымі намі рэстаўрацыйнымі працамі. Аднак, у даным выпадку разгляд смаленскіх будоў XII сталецьця проста не ўваходзіў у тэму яго дасьледваньня, з прычыны чаго ён і прысьвяціў ім усяго толькі адну старонку ўводзін для падмацаваньня пэўнага свайго погляду на ўсю смаленскую архітэктуру наогул. Погляд гэты коратка сформуляваны самім-жа аўтарам, які ў адным месцы свайго артыкулу кажа: „Усё, што ёсьць орыгінальнага ў Смаленскім будаўніцтве,—цалкам павінна быць аднесена за кошт уплываў мастацтва Захаду. Тут можа быць праведзена поўная паралель паміж XII сталецьцем і эпохаю 1654—1760 году“ (стар. 3). Разьвіваючы далей гэтую сваю асноўную думку, аўтар і разглядае ў вельмі кароткім нарысе смаленскія помнікі XII сталецьця, адзначаючы ўсе тыя заходнія элемэнты, якія ў помніках гэтых можна заўважыць. На нашую думку, аднак, такі погляд аўтара, бязумоўна, зьяўляецца занадта спрэчным і аднабаковым. Далёка не адмаўляючы вельмі важнай ролі заходніх уплываў ня толькі ў адным Смаленскім, але і наогул ва ўсім беларускім будаўніцтве, мы, аднак, зусім ня можам згадзіцца з тым, нібыта ўплыў гэты зьяўляецца адзінай крыніцай формальнай і стылістычнай орыгінальнасьці нават у смаленскай архітэктуры эпохі барокко,—ня кажучы ўжо аб архітэктуры XII сталецьця, дзе, з нашага погляду, уся залежнасьць ад Захаду выяўляецца выключна ў дэкарацыйных дэталях, у той час як уся орыгінальнасьць саміх конструкцый, бясспрэчна, ёсьць вынікам, з аднаго боку—мясцовай архітэктурнай эволюцыі, з другога—уплыву некаторых усходніх, часткова каўкаска-бізантыцкіх конструкцый, які, праўда, грае ў Смаленску многа меншую ролю, ніж у іншых частках беларускае тэрыторыі, напрыклад, у

Полацкай зямлі, што тлумачыцца пэўнай розьніцай экономічнага і політычнага становішча гэтых мясцовасьцяй у цягу XII сталецьця. Нам здаецца, што калі-б аўтар быў лепей знаёмы ўласна з полацка-віцебскай архітэктурай гэтага часу, дык, можа, ён і зьмяніў-бы крыху свае погляды; але паколькі знаёмства з апошняй ён меў, здаецца, выключна па працах *А. М. Паўлінова*, аб якіх гутарка будзе ніжэй, — пастолькі памылка яго зьяўляецца больш-менш натуральнай. Апроч таго, зразумела, увесь памянёны кароткі агляд смаленскіх помнікаў XII ст., ня маючы ў данай працы *Шіряева* самастойнага значэньня, наогул ня носіць характару асобнага дасьледваньня, і з гэтай прычыны мала папаўняе агульную літаратуру, датычную беларускага будаўніцтва данага часу. Па чутках, той-жа аўтар меўся скласьці асобны нарыс, прысьвечаны архітэктуры XII сталецьця ў Смаленску, і мы даўно ўжо чакалі зьяўленьня гэтага нарысу,—але да гэтага часу яго яшчэ няма, і калі ён зьявіцца, і ці зьявіцца наогул—нам зусім нявядома. Так, да гэтага часу смаленская архітэктура XII ст., пры ўсёй сваёй важнасьці і цікавасьці,—ня толькі, можа, у гісторыі аднаго беларускага мастацтва, але і шырэй,—застаецца без спэцыяльнага гісторыка-архітэктурнага дасьледваньня, хаця ў сэнсе падрыхтоўчае працы для такога дасьледваньня зроблена ўжо досыць многа. Праўда, у бліжэйшы час будзе апублікаваны адзін агульны яе агляд, у якасьці аднаго з разьдзелаў вышэйпамянёных намі нашых „Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва“, якія цяпер друкуюцца. Апроч таго, нам вядома, што апошнімі часамі над гэтым пытаньнем шмат працаваў намесьнік *С. Д. Шіряева* на пасадзе загадчыка Смаленскім Музэйным аддзелам—*І. М. Хозераў*, які, згодна паведамленьню яго, паданаму ў Камісію гісторыі мастацтва Інстытуту Беларускае Культуры, рыхтуе вялікую, грунтоўную працу аб архітэктурных помніках Смаленску XII сталецьця на падставе сваіх уласных досьледаў.

Значна болей, як мы гэта ўжо адзначылі вышэй, зьяўляюцца распрацаванымі ў літаратуры пытаньні, датычныя полацка-віцебскай архітэктуры XI—XII сталецьця. У даным аглядзе мы можам, нават, зусім адкінуць шмат якія працы агульна-гістарычнага характару, дзе так ці інакш памінаюцца полацка-віцебскія помнікі (напр., працы *А. Сапунова*, *Н. Говорского* і інш.), з тым, каб спыніцца на болей спэцыяльных нарысах гісторыка-архітэктурнага зьместу. Перш за ўсё, старадаўнія помнікі архітэктуры XI—XII сталецьця ў Полацку і Віцебску зьявіліся прадметам спэцыяльнага дасьледваньня *А. М. Паўлінова*, вынікі якога ў скарочанай форме ўвайшлі ў яго кнігу „История русской архитектуры“ (Масква, 1894), а ў болей поўным відзе былі апублікаваны ў якасьці артыкулу пад загалоўкам „Древние храмы Витебска и Полоцка“ ў томе I „Трудов IX Археологического С‘езда в Вильне“ (Масква, 1895). Артыкул гэты падзелены на дзьве часткі, першая з якіх прысьвечана помнікам XI—XII ст., другая-ж—драўлянай архітэктуры Віцебску XVII—XVIII ст.

Апошнюю мы яшчэ памянем у сваім месцы, разглядаючы літаратуру, датычную стара-беларускага драўлянага будаўніцтва. Што-ж да першай, дык трэба адзначыць, што пры ўсіх сваіх недахватах яна зьяўляецца пакуль што ўсё-ж адзіным падрабязным агульным апісаньнем полацка-віцебскіх архітэктурных старажытнасьцяй данай эпохі, і гэтым выгодна адрозьніваецца ад іншых апублікаваных у літаратуры прац, якія маюць болей вузкі, манаграфічны характар. Побач з ёй, як працу агульнага зьместу, можна назваць хіба толькі брошурку *П. Красавіцкага:* „Памятники церковной старины Полоцко-Витебского края и их охранение" („Полоцко-Витебская старина", кн. I; таксама асобным выданьнем (Віцебск, 1911). Але брошура гэтая якраз у тэй яе частцы, дзе разглядаюцца будынкі XI—XII сталецьця, амаль што ня мае орыгінальнага характару і толькі паўтарае вынікі дасьледваньня *Паўлінова* з адпаведнымі пасылкамі на яго артыкул, так што ўсе нашыя заўвагі адносна апошняга цалкам таксама можна аднесьці і да брошуры *Красавіцкага.*

Асноўнай хібай працы *Паўлінова* зьяўляецца ў першую чаргу яе непаўната. Ня гледзячы на тое, што аўтар у свой час вывучаў адпаведны матэрыял на месцы шляхам спэцыяльнага падарожжа, ён усё-ж ня вычарпаў яго да канца і нават ня даў таго, што, бязумоўна, мог-бы даць. З агульнага ліку шасьці полацка-віцебскіх помнікаў XI—XII сталецьця ён разгледзеў больш-менш дэтальна толькі два—віцебскую царкву Добравешчаньня і полацкую Спасаўскую царкву, памянуў павярхоўна таксама два—полацкую Сафію і руіны аднаго з будынкаў Бельчыцкага манастыра і, нарэшце, зусім не зьвярнуў увагі на два іншыя будынкі таго-ж самага манастыра—Пятніцкую і Барысаглебскую цэрквы, якія, праўда, да самых апошніх часоў, на падставе памылковых вестак *Сапунова* і некаторых іншых аўтараў, лічыліся будынкамі пазьнейшага часу і толькі зусім нядаўна, часткова ў выніку нашых уласных досьледаў, вызнаны за помнікі XII ці самага пачатку XIII ст. (гл. наш артыкул у часоп. „Наш Край", выд. ЦБКраязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры, 1925 г., № 1). Другі недахват у працы *Паўлінова*—гэта тое, што нават і тыя помнікі, якія былі ім дасьледваны, ня досыць грунтоўна вывучаны ім у дэталях; з нейкіх прычын зьнятыя ім пляны і профілі маюць недакладнасьці і памылкі, часам досыць значныя, што ў некаторых выпадках не дало яму магчымасьці належным чынам разабрацца ў асаблівасьцях конструкцый памянёных будынкаў і прывяло да спрэчных або і выразна няправільных вывадаў.

Найменей дэтальна аўтар пазнаёміўся з найболей старажытнымі помнікамі Полацку, г. зн. з руінамі першай царквы на Бельчыцы і з рэшткамі полацкае Сафіі. У першым выпадку ён абмежаваўся толькі складаньнем самага схэматычнага і вельмі недакладнага пляну пазасталага фундаманту будынку на паверхні зямлі; ніякіх вывадаў з гэтага ён, зразумела, зрабіць ня мог, паколькі для высьвятленьня дэталяй патрэбны былі-б

раскопкі навокал гэтага фундаманту, якія яшчэ ня зроблены і да гэтага часу. Вывучэньне Сафіі павінна было зьявіцца яшчэ болей складанай справай, так што *Паўлінов* і ў гэтым выпадку абмежаваўся толькі досыць павярхоўным аглядам. Як вядома, першапачатковая полацкая Сафія, пабудаваная яшчэ ў XI сталецьці, у цягу свайго існаваньня многа раз падлягала перабудоўкам і пераробкам; апошняя з грунтоўных перабудовак прыпала на 1738-1750 г., калі фактычна на месцы яе быў узьведзены зусім новы будынак уніцкае катэдры ў стылі барокко, у склад якога часткова ўвайшлі і некаторыя рэшткі першапачатковага будынку, выразна адметныя пры ўважлівым дасьледзе сваёй характэрнай кладкай з старадаўняе цэглы. Найболей значнай з захаваных частак першапачатковай будовы зьяўляецца група альтарных абсід, якая ўведзена ў пазьнейшую пабудову як нейкі бакавы прыдзел да ўсходняга яе фасаду. Уласна гэтая група і была вывучана *Паўліновым*, які зьняў яе плян у адносінах да новага будынку, дапусьціўшы, аднак, у гэтым пляне некаторыя памылкі ў абрысах крайніх частак бакавых нэфаў. Яму засталося, аднак, зусім невядомым,—а можа становішча будынку не дазваляла ў той час правесьці такога дасьледваньня,—што ў сутарэньні сучаснай царквы, пад падлогай, амаль што цалком захаваліся фундаманты ўсіх першапачатковык муроў і слупоў, на падставе якіх, зрабіўшы, праўда, досыць цяжкія тэхнічна прамеры, можна скласьці суцэльны плян усяго першапачатковага будынку. Не скарыстаўшы гэтага высока каштоўнага матэрыялу *Паўлінов* прымушаны быў усе свае вывады адносна конструкцыі полацкае Сафіі пабудаваць толькі на даных вядомага яму пляну альтарнае часткі ды на паведамленьні Васкрасенскага летапісу аб тым, што полацкая Сафія „о седьми версех“; але для пэўных вывадаў гэта было яшчэ замала, з прычыны чаго і зьявілася памылковае, на нашую думку, зацьверджаньне аўтара, нібыта будынак гэты належаў да чыстага кубічнага тыпу, у той час як захаваныя ў сутарэньні рэшткі выразна сьведчаць аб яго пяцінэфнай камбінаванай кубічна-крыжовай конструкціі.

Значна болей увагі *Паўлінов* аддаў вывучэньню віцебскай царквы Добравешчаньня і полацкай Спасаўскай царквы. Вынікі яго дасьледваньня першага з гэтых помнікаў да нашага часу захоўваюць сваё значэньне. Зроблены ім плян будынку мае толькі нязначныя недакладнасьці ў перадачы дэталяй альтарнае часткі, але правільна выяўлены пазьнейшыя прыбудоўкі і асноўны першапачатковы масыў. Верна азначаны характар кладкі будынку, прасочана кладка гэтая па вэртыкалі для выяўленьня пазьнейшых пераробак перакрыцьця і правільна вызначана першапачатковае пакрыцьцё па закамарах. Пры ўсім гэтым, аднак, аўтарам дапушчана адна грунтоўная памылка,—а ўласна вывад, што па кладцы сваёй і стылі віцебская царква Добравешчаньня можа быць аднесена да XI, а магчыма і да X сталецьця. У даным выпадку, здаецца, аўтар захапіўся легендай, замацаванай у гэтак званым „летапісу места Віцебску“, нібыта

царква Добравешчаньня была закладзена княгіняй Вольгай у часе паходу яе на ятвягаў у 974 годзе,—чаму, аднак, ясна супярэчаць якраз стылістычныя і формальныя асаблівасьці гэтага будынку. Досыць хаця-б параўнаць яго плян з плянам полацкай Спасаўскай царквы, якая больш-менш дакладна датуецца трэцяй чвэрткай XII сталецьця, каб зрабіць вывад, што віцебская царква Добравешчаньня ня можа быць ад яе адзелена якім-небудзь значным прамежкам часу. Дый наогул *Паўлінов* не заўважыў, што абодва гэтыя будынкі, пры сваёй агульнай бізантыцкай аснове, маюць ужо такія значныя ўхіленьні ад гэтай асновы ў бок глыбака арыгінальнай і цалкам самастойнай яе пераапрацоўкі,—што вельмі цяжка лічыць іх магчымым аднесьці раней як уласна да XII сталецьця.

Агульнае падабенства конструкцыі віцебскай царквы Добравешчаньня і полацкай Спасаўскай царквы, праўда, было адзначана *Паўліновым*; але ён не зрабіў з гэтага належных вывадаў. Апроч таго, апошні помнік ён наогул вывучыў многа меней уважліва, у выніку чаго яго ўяўленьне аб некаторых вельмі важных дэталях яго конструкцыі аказалася ня зусім адпаведным запраўднасьці. Памылкі яго ў нядаўнія часы былі добра выяўлены досьледамі *Н. Брунова і І. Хозерава*, аб якіх мы скажам ніжэй. Зазначым тут толькі, што *Паўлінов*, паперdroшае, відаць не зрабіў агляду гары будынку, з прычыны чаго ён не заўважыў надзвычайна цікавай і арыгінальнай конструкцыі падкумпальнага постамэнту гэтай царквы, якім яна так моцна адрозьніваецца ад усіх іншых вядомых нам бізантына-славянскіх помнікаў данай эпохі. Падругое, ён ня досыць уважліва дасьледваў самую кладку будынку, у выніку чаго зрабіў вывад, нібыта „царква гэтая ў сваім першапачатковым відзе была аднакаляровая, і гэтым значна адрозьнівалася ад іншых старадаўніх цэркваў, якія мелі кладку не аднастайную, што ўтварала паласатыя фасады“. Запраўды, кладка Спасаўскае царквы аднастайная, г. зн. з аднэй толькі цэглы, без прамежкавых пластоў вапняка, як, напр. у віцебскай царкве Добравешчаньня, але, ня гледзячы на гэта, фасады яе ўсё-ж былі паласатыя, паколькі камень тут быў заменены спэцыяльнымі дэкорацыйнымі пластамі тынку, як гэта выяўлена досьледамі *І. Хозерава*.

Нарэшце, апроч усіх памянёных недакладнасьцяй і памылак, праца *Паўлінова* мае, здаецца нам, і яшчэ адну агульную хібу. Даючы апісаньне помнікаў Полацку і Віцебску, яна вырывае іх неяк з агульнай гісторыка-архітэктурнай сувязі, не вызначае месца іх сярод іншых помнікаў таго часу, не падкрэсьлівае шэрагу характэрных іх асаблівасьцяй і, урэшце, зусім нават ня ставіць пытаньня аб пахаджэньні даных архітэктурных тыпаў і аб іх гістарычнай ролі. Адсутнасьць усяго гэтага ў артыкуле *Паўлінова* пазбаўляе яго належнай закончанасьці і надае яму характар толькі папярэдняй публікацыі матар'ялу,—хоць, можа, у даным выпадку ад аўтара і нельга патрабаваць большага, ніж ён зрабіў, паколькі ў працы сваёй ён стаяў перад зусім новай тэмай, ніколі яшчэ не крану-

тай спэцыяльнай літаратурай. Пазьней, паўтараючы *Паўлінова, Красавіцкі* ў памянёнай намі вышэй брошуры зрабіў да яго некаторыя маленькія дадаткі, галоўным чынам у напрамку набліжэньня некаторых дэталяй полацка-віцебскіх помнікаў да помнікаў пазьнейшай наўгародзкай архітэктуры. Як гэта ні мала было падкрэсьлена ў працы *Красавіцкага*, але ў аснове сваёй гэта было цалкам правільна і намячала верны шлях далейшага вывучэньня гэтых помнікаў, як пэўных крыніц для пазьнейшага наўгародзкага будаўніцтва. Уласна ў такім напрамку і зроблены цяпер некаторыя досьледы апошніх часоў, у тым ліку аналіз полацкае Спасаўскае царквы ў працы *І. Хозерава*, якую мы разгледзім ў далейшым, і напісаны намі нарыс „Беларуская царкоўная архітэктура XI—XII сталецьця“ (разьдзел II вышэйпамянёных намі „Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва“, т. I).

Як мы ўжо зазначалі, іншыя працы, прысьвечаныя полацкай архітэктуры XI—XII сталецьця, маюць выключна монографічны характар. Першай пасьля артыкулу *Паўлінова* зьявілася праца *К. Шэроцкага*: „Софийский собор в Полоцке“, надрукаваная ў томе X „Записок отделения русской и славянской археологии Императорского Русского Археологического Общества“, а таксама асобнымі адбіткамі (Петраград, 1915). У гэтай працы ў першы раз было ўнесена належнае дапаўненьне да матар'ялаў *Паўлінова*, а ўласна былі апублікаваны здабытыя ў часе рэмонтных прац, праведзеных пад кіраўніцтвам *П. П. Покрышкіна*, даныя адносна старадаўніх частак муроў і слупоў першапачатковай Сафіі, захаваных у сутарэньні сучаснага будынку. На падставе гэтых даных аўтарам складзены плян першапачатковай царквы, які выразна выяўляе характар яе конструкцыі, і дзе, на жаль, дапушчана толькі адна, але вельмі сур'ёзная памылка. Як мы ўжо казалі, захаваныя старыя абсіды першапачатковай полацкай Сафіі былі скарыстаны пры перабудове 1738—1750 гадоў у якасьці бакавога прыдзелу, зьмешчанага на ўсходнім фасадзе сучаснага зьвернутага сваёй альтарнай часткай на поўнач будынку. Сымэтрычна гэтаму прыдзелу на заходнім фасадзе зроблена была цалкам аналёгічнае формы прыбудоўка трохабсіднага тыпу, часткова збудаваная з старога матар'ялу. Затынкаваная з надворнага боку прыбудоўка гэтая вельмі падобна да запраўдных абсід, і гэтым можа ўвесьці ў памылку. Але агляд сутарэньня выразна паказвае, што з старадаўнімі часткамі яна ніякай сувязі ня мае, і ласьне пад ёй ў рэштках заходняга муру можна выявіць галоўны ўваход з порталам, і крыху на ўсход ад яго ў асяродкавым нэфе нізкі васьмікантовы постамэнт,—відаць для хрышчальнай купелі, якая знаходзілася калісьці ў прытворы. Складальнік пляну, аднак, чамусьці палічыў гэтую заходнюю прыбудоўку за частку першапачатковае конструкцыі, з прычыны чаго ў яго ўяўленьні першапачатковы выгляд полацкае Сафіі атрымаў нейкі зусім фантастычны характар у відзе квадратовага ў пляне пяцінэфнага будынку, з усходу і з захаду скончанага дзьвюма абсідальнымі

групамі па тры абсіды ў кожнай і з гэтай прычыны толькі заднымі бакавымі ўваходамі ў паўднёвым і паўночным фасадах. Як вынікае з нашых папярэдніх заўваг, такое ўяўленьне, зразумела, зусім не адпавядае запраўднасьці і зьяўляецца глыбока памылковым; грунтуючыся на ім, аднак, аўтар убачыў у полацкай Сафіі і нейкі вынік уплыву з боку романскае архітэктуры, і з гэтай прычыны ня здолеў даць правільнага аналізу яе конструкцыі, ня гледзячы, нават, на тое, што ў іншым месцы свайго артыкулу ён даў і верныя паралелі гэтаму будынку ў іншых вядомых нам Сафіях, а таксама ў Уладзімерскім Усьпенскім саборы. Вывад яго—што полацкая Сафія ёсьць відазьменай „паўднёва-рускага“ храму Кіеўска-Чарнігаўскага тыпу пад уплывам заходняй архітэкуры,—зусім непагрунтаваны, тым болей, што аўтар зусім не зьвярнуў увагі на вельмі цікавую і нязвычайную кантовую форму абсід, а таксама на суадносіны і пропорцыі нэфаў, што магло-б даць яму пэўныя падставы для іншых наблізэньняў, напрыклад, да некаторых помнікаў усходняга, часткова каўкаскага будаўніцтва. Наагул, працу *Шэроцкага* нельга лічыць удалай. Зразумела, яна дала болей дэталяй у параўнаньні да павярхоўнага разгляду полацкае Сафіі, зробленага *Паўлінвоым*, але памылкі ў гэтых дэталях пазбавілі яе значэньня каштоўнага матар'ялу для вывучэньня данага помніку і шкодна адбіваюцца да самага апошняга часу, падаючы няправільныя весткі для іншых аўтараў, якія, карыстаючыся матар'яламі *Шэроцкага*, паўтараюць гэтыя памылкі нанова і нават будуюць на іх цэлыя тэорыі аб асаблівасьцях беларускай архітэктуры данага часу. У даным выпадку мы маем на ўвазе працу *Н. І. Брунова*: „Белорусская архитектура XI—XII столетия“, дзе якраз на падставе памянёнага памылковага пляну *Шэроцкага* аўтар становіцца на такі пункт гледжаньня, з якога ўсё разьвіцьцё беларускай архітэктуры гэтай эпохі ўяўляецца ў абсолютна няверным, на нашую думку, аспэкце. Паколькі, аднак, гэтая праца *Брунова* яшчэ не надрукавана і вядома нам толькі ў рукапісу, надасланым для разгляду ў Інстытут Беларускае Культуры,—пастолькі мы ня лічым магчымым спыняцца на ёй падрабязна ў даным нарысе, адкладаючы гэтую справу да таго часу, калі яна будзе апублікавана.

У сучасны момант мы маем магчымасьць закрануць іншую працу таго-ж самага *Н. І. Брунова*, ужо не агульнага, як памянёная вышэй, але монографічнага характару, прысьвечаную спэцыяльнаму разгляду некаторых конструкцыйных асаблівасьцяй полацкай Спасаўскай царквы. Праца гэтая была надрукавана нядаўна асобнай брошуркай у выданьні Расійскай Асоцыяцыі Навукова-Дасьледчых Інстытутаў Грамадзкіх Навук пад загалоўкам: „Извлечение из предварительного отчета о командировке в Полоцк, Витебск и Смоленск в сентябре 1923 г.“ (Масква, 1926). Перш за ўсё лічым патрэбным наогул ахарактарызаваць тую гістарычную школу, да якой належыць аўтар, і якая вызначае сабой асновы яго агульных поглядаў і яго падыходу да помнікаў беларускае старасьвет-

чыны: ледзь ня з першай старонкі брошуры ў яго тэрмінолёгіі мы знаходзім „Южную Россию“, „Западную Россию“ і г. д.; Беларусь для яго— „одна из русских областей“; беларуская архітэктура XI—XII ст.—„древнерусское зодчество домонгольского (!) периода“. Гэтых прыкладаў, мы думаем, досыць. Школа, продуктам якой яны зьяўляюцца, нам добра вядома,—і даўно ўжо вядома. З поглядамі гэтай школы, на нашую думку, у цяперашні час нават полемізаваць ня варта. Але прыведзеныя намі тэрміны і формулёўкі ўжо з самай першай старонкі працы *Брунова* служаць для нас пэўнай перасьцярогай, і з самага пачатку папераджаюць, чаго мы можам чакаць ад такога гатунку досьледаў.

Усё зазначанае, аднак, датычыць толькі агульных поглядаў аўтара, таксама некаторых вывадаў яго, але не фактычнага зьместу. Апошні зьяўляецца вельмі цікаўным і каштоўным, выяўляючы такія асаблівасьці конструкцыі полацкай Спасаўскай царквы, якія раней зусім ня былі высьветлены ў літаратуры. Як мы ўжо адзначалі вышэй, дасьледваньне *Паўлінова* ня зусім правільна перадало характар верху будынку, дзе зусім ня была заўважана вельмі рэдкая і орыгінальная дэталь, вывучаная і апублікаваная толькі *Бруновым*, і крыху пазьней, але незалежна ад яго, *Хозеравым*. Дэталь гэтая ў тым, што першапачаткова падкумпальны барабан меў у даным будынку нейкія асобныя дэкорацыйныя дадаткі з трохдольнымі аркамі з чатырох бакоў, што стварала зусім асаблівую конструкцыю верху і адбівалася таксама ў шэрагу конструкцыйных асаблівасьцяй іншых частак царквы. Такі прыём зьяўляецца настолькі нязвычайным, што полацкая Спасаўская царква набывае зусім выключнае значэньне ў архітэктуры XII сталецьця ня толькі беларускай, але і наогул усходня-славянскай, што пазьней за *Брунова* правільна было адзначана *Хозеравым*. Сам *Брунов*, аднак, апублікаваўшы першым гэтую цікаўную дэталь, ня здолеў зрабіць з яе належных вывадаў, ня высьветліў яе магчымае агульнае ролі, дый заблытаўся, на наш погляд, у пытаньні аб яе пахаджэньні. З аднаго боку, ён высунуў думку аб уплыве „*русской* художественной воли“ на модыфікацыю асноўнага бізантыцкага тыпу будынку, якая мела месца ў даным выпадку. Гэтую думку, зразумела, можна спаткаць толькі болей як гіронічна. З другога боку, аўтар лічыць, што ў аснову тут быў пакладзены тып кіеўскае Сафіі (!) у выніку перайманьня і спрашчэньня якога і атрымалася, нібыта, полацкая конструкцыя. Але для такога вываду, што таксама правільна зазначыў у сваёй працы *І. Хозераў*, няма ніякіх об'ектыўных падстаў. А з нашага асабістага, яшчэ болей рэзкага погляду,—гэта проста поўная бязглуздзіца, сказаная толькі дзеля таго, каб што-небудзь сказаць, бяз жаднага конкрэтнага пагрунтаваньня. На нашую думку, наогул нельга так прымітыўна тлумачыць гісторыка-архітэктурныя зьявы, г. зн. як вынік нейкага „перайманьня“, у процэсе якога адна пэўная форма нібыта можа перайсьці ў зусім іншую. Апроч таго, для данага выпадку падобнае

„перайманьне“ і мала магчыма, хаця-б ужо з аднэй тэй прычыны, што Полацак быў заўсёды ў такіх варожых адносінах з Кіевам, якія амаль што выключалі ўсякую культурную сувязь яго з апошнім, і ў кожным выпадку ўзор кіеўскае Сафіі ня быў, напэўна, у ліку тых архітэктурных узораў, якія палачане лічылі-б вартым „пераймаць“. Гэтая гістарычная дэталь, напэўна, аўтару была невядома, паколькі наогул усюды ён выяўляе сваё незнаёмства з гісторыяй Беларусі: досыць, напрыклад, ужо таго, што ў дапасаваньні да Полацку ён кажа аб „домонгольском периоде“! Але ня будзем рабіць яму ў гэтым закіды: магчыма, што гэта і ня ўласная яго віна, але наогул вынік таго навуковага напрамку, да якога ён волей ці няволяй мае няшчасьце належаць, і які ўносіць у яго невялічкую працу такую прыкрую падвойнасьць: г. зн. робіць яе хоць і каштоўнай, як мы зазначылі, сваім фактычным матэрыялам, але глыбока шкоднай усім сваім напрамкам, агульнымі поглядамі і вывадамі, у якіх адбіваецца ўся застарэлая мэтодыка былое расійскае „вялікадзяржаўнае“ навукі.

Зьяўленьне ў расійскім друку працы *Брунова* выклікала ў нашым друку належны адказ з боку *І. Хозерава*, які зьмясьціў адпаведны артыкул пад загалоўкам: „Да пытаньня аб Спасаўскай царкве ў Полацку“ ў Гістарычна-Археолёгічным зборніку № 1, выд. Інстытуту Беларускае Культуры (Менск, 1927). *Хозераў*, зразумела, полемізуе з *Бруновым* не па агульных, а толькі па спэцыяльных пытаньнях, падставы для чаго ён мае ў сваіх уласных досьледах Спасаўскае царквы, зробленых ім пазьней за *Брунова*, але, як мы ўжо казалі, цалкам незалежна ад яго, паколькі вынікі працы *Брунова* заставаліся неапублікаванымі з 1923 да самага канца 1926 году. Перш за ўсё, *Хозераў* зазначае і выпраўляе некаторыя памылкі і недакладнасьці *Брунова*, якія сустракаюцца ў зробленых ім плянах і рысунках, і падае конструкцыю Спасаўскае царквы ў болей дэталізаваным відзе. Падругое, ён закранае пытаньне аб пахаджэньні гэтай конструкцыі, прычым у адносінах да асноўнага пляну будынку правільна паказвае на шэраг аналёгій, якія мы маем у такіх помніках, як, напр., віцебская царква Дабравешчаньня або Барысаглебская царква ў былым Бельчыцкім манастыры каля Полацку, г. зн. у помніках, якія ўзьніклі якраз у Полацкай зямлі. Зразумела, ён адхіляе тэорыю *Брунова* аб пахаджэньні Спасаўскае царквы ад Кіеўскае Сафіі. Аднак, ён згаджаецца з *Бруновым* адносна магчымасьці выводзіць віцебскую царкву Дабравешчаньня ад царквы кіеўскага Міхалаўскага манастыра і разыходзіцца з ім толькі ў пытаньні аб крыніцах відазьмены гэтага тыпу, бачачы ў характары альтарнай часткі яго ўплывы романскае архітэктуры, што, з нашага погляду,—неабаснавана. Але адначасна з тым *Хозераў* не бяз рацыі супярэчыць *Брунову* ў пытаньні адносна чыстае дэкорацыйнасьці Спасаўскага падкумпальнага постамэнту і шукае пэўнага конструкцыйнага яго тлумачэньня, што зьяўляецца асабліва ці-

кавым у спробе намеціць далейшы шлях яго архітэктурнае эволюцыі. Тут *Хозераў* вызначае магчымасьць далейшага разьвіцьця гэтага прыёму ў форму трохдольных фронтонаў такіх, напрыклад, будынкаў, як царквы Тодара Страцілата, Спаса-Праабражэньня на „Тарговай старане" і Пятра і Павла на „Сафійскай старане" ў Ноўгарадзе,—і гэтым правільна ставіць пытаньне аб узаемаадносінах паміж беларускай і наўгародзкай архітэктурай і аб уплывах першае на апошнюю, падмацоўваючы яшчэ адным конкрэтным прыкладам тое, што можна пагрунтаваць і на іншых прыкладах, і што, паміж іншым, аўтар гэтых радкоў і спрабаваў давесьці ў сваёй вышэйпамянёнай агульнай працы, датычнай беларускай архітэктуры XI—XII ст. Нарэшце, у заключэньне свайго артыкулу *Хозераў* правільна падкрэсьлівае выключнае значэньне полацкай Спасаўскай царквы ў гісторыі нашага будаўніцтва XII сталецьця, як помніка, дзе бізантыцкая аснова зьявілася ўжо настолькі відазьмененай і пераапрацаванай, што, разглядаючы яго, ёсьць поўная магчымасьць казаць аб зусім самастойным напрамку беларуска-бізантыцкай архітэктуры.

Усе памянёныя намі працы вычэрпваюць спэцыяльную літаратуру, датычную пытаньня аб беларускім царкоўным будаўніцтве XI-XII сталецьця. Аб беглых упамінах *А. І. Некрасова* ў яго ўжо цытаванай намі кнізе „Византийское и русское искусство" (Масква, 1924) аб тэй-жа полацкай Спасаўскай царкве, а таксама аб царкве Добравешчаньня ў Віцебску мы ня лічым патрэбным казаць падрабязна, паколькі ўпаміны гэтыя пагрунтаваны не на ўласных досьледах, а толькі на застарэлай працы *Павлінова* з усімі яе недахватамі. Агульная літаратура наогул адстала ў даным пытаньні ад монографічнай,—што, аднак, зразумела, і ўласьціва таксама і літаратуры, датычнай беларускіх помнікаў іншых эпох, да разгляду якой мы цяпер і пяройдзем. У заключэньне лічым толькі патрэбным зазначыць, што эпоха XII сталецьця ў беларускім мастацтве, як мы ўжо паміналі, дае нам, апроч архітэктуры, таксама і некаторыя пачаткі фрэскавага малярства ў насьценных росьпісах. Але гэтая галіна настолькі мала яшчэ дасьледвана, што адпаведнай літаратуры амаль што зусім ня мае. Вышэй мы казалі аб нашым маленькім артыкуле адносна сьмядынскіх росьпісаў у Смаленску; апроч яго, у № 1 часопісу „Наш Край" за 1925 год (выд. ЦБКраязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры) мы надрукавалі яшчэ адну невялічкую працу: „Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра". Болей аб беларускім малярстве XII сталецьця ў літаратуры пакуль што няма нічога.

*(Канец будзе)*

# ШКОДНАЕ У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**З. Жылуновіч**

*(Што было і чаго не павінна быць)*

Пасьля пяцігадовага зацішша (1916—1920 г.) у беларускай літаратуры наступіла прыметнае ажыўленьне з пачатку 1921 г. К гэтаму часу сталі выкрэсьліваццa новыя пісьменьнікі, пачалі зычэць новыя мотывы ў іх творчасьці. З цэлага згустку дадатных зьявішч выгадна выдзяляецца выступ на літаратурную арэну М. Чарота. Яго бадзёры настрой, яго рэвалюцыйныя пачуцьці, апраўленыя ў прыгожую форму, сьведчылі аб новым, буйным і сьветлым у беларускай літаратуры. За ім ішлі А. Дудар, А. Александровіч і М. Зарэцкі. Выразна падбіралася маладое ядро пісьменьнікаў, на творчасьць каторых меў уплыў Кастрычнік на Беларусі. „Завіруха“ М. Чарота дыхнула жывою сьвежасьцю і прарэзала беларускі літаратурны небасхіл яскраваю маланкаю.

Няхай гудзе віхор, няхай зьмятае
Збудаваныя тут вякамі курганы,
Тут новы будзе край, тут волі дух вітае—
Ня дасьць ён згінуць нам, гаротныя сыны.
Няхай агонь зямлі да хмар шугае,
Ад буры рушачай краіна не засьне...

Да гэткага строю напеваў далучаліся бадзёрыя выступленьні некаторых старэйшых пісьменьнікаў. І над адноўленаю Беларусьсю ўздымаліся хвалі новых песьняў. Літаратура ўбірала ў сябе сокі ўзьнятае цаліны, вяртаючы на выпраўлены грунт службы беларускаму працоўніку. Ранейшы вопыт, праца мінулых гадоў, асабліва глыбіня і значаньне подвігаў пэрыоду соцыяльна-нацыянальнага адраджэньня, браліся ў прыклад і кláліся падмуркам новаму будаўніцтву. Ад аднаго пэрыоду літаратурнага жыцьця да яго наступнага перакідаўся мост. Зьвенамі сувязі былі пісьменьнікі новых дзён, але сваім выхаваньнем многа павінныя папярэднім, перадрэволюцыйным часом, як тыя-ж М. Чарот, А. Александровіч і А. Дудар. У іх сьвядомасьці беларускае літаратурнае жыцьцё мела лёгічную перадатнасьць у сваім разьвіцьці, захоўвала лад суцэльнасьці. Водлуг гэтага ім не магло прадстаўляцца нормальным якая-б там ні была перабойнасьць гэтага разьвіцьця. І ні ў якім разе іх разуменьне

не магло апраўдаць патрэбы ў рашучым адказе ад спадчыны. Калі ў расійскай пролетарскай літаратуры паўсталі нездаровыя прызывы адмовіцца ад клясыкаў і „спаліць Рафаэля“, то, прынамсі, М. Чарот быў зусім ня згодзен з няпрытомнасьцю М. Гарасімава і яго сяброў. Праўда, у адносінах да расійскае літаратуры можна было зрабіць тыя ці іншыя выбачэньні, калі трэ было прыняць на ўвагу яе дарэволюцыйную істоту, як істоту пераважна буржуазную. Беларускай адраджэнскай літаратуры можна было прыпісаць зусім мала грахоў. Яна была ў вогуле багата прасычана соцыяльнымі элемэнтамі, рэволюцыйнасьцю, напорнасьцю. Праглядалі часамі сумныя ноты і часамі наглядалася ўхіленьне ў бок нацыянальных імкненьняў. Але „дух эпохі“ вымагаў гэтага ад беларускіх пісьменьнікаў у адраджэнскі пэрыод. Нацыянальны элемэнт быў складным элемэнту соцыяльнага, будучы ў той-жа час рэволюцыянізуючым сродкам. Паляк-памешчык і чыноўнік-бюрократ расіец, стоячы над беларускім селянінам і беларускім рамесьнікам з пугаю ў руках не маглі ня ўносіць у клясавае змаганьне апошніх нацыянальных прыкрас. Ці-ж можна дапускаць думку нават аб чужасьці мінулых здабываньняў?

У першыя часы працы новага пакаленьня беларускіх пісьменьнікаў ня было і жаднага намёку на гэта. Але наступная пара ўнясла ўжо гэтыя моманты, бязгрунтоўныя і шкодныя. Іх парадзілі ў большасьці прычыны суб'ектыўнага характару; аднак вялікую ролю адыгралі ў іх афармленьні і прычыны об'ектыўныя.

У 1923 годзе ўзрост беларускіх літаратурных сіл прыняў надзвычайны тэмп. За вышэй адмечанымі пісьменьнікамі надышоў шэраг новых, паўстаўшых пасьля рэволюцыі. Мінулае жыцьцё беларускае літаратуры для іх было ўводдалі, умовы яго разьвіцьця мала зразумелы, абставіны— чужыя. Пры сваім спаткненьні з літаратурнаю рэчаіснасьцю, яны пачулі гутаркі аб старым і новым, аб мінулым і сёнешнім. Адно другому супроцьставілася, пры гэтым погляды, галоўным чынам, зьвярталіся на сёньнешняе і заўтрае. Пад уплывам гэтых настрояў у іх і сформавалася скарасьпелая думка, выкрасьліліся погляды, згодна якім—трэба забыць каштоўнасьць мінулае творчасьці, адказацца ад яе значэньня і ад прызнаньня за ёю гістарычнае ролі. Тут, бязумоўна, не абышлося бяз уплыву гэткіх настрояў у расійскім літаратурным жыцьці. Але грунтоўнейшым фактарам гэтаму паслужыла маладосьць саміх успрымальнікаў гэтых павеваў, недахоп у іх крытычных думак, патрэбных для пазнаньня складанасьці гістарычных зьявішч, бурлівасьць пачуцьця і, гэтак сама, якасьці маладых гадоў. Аставалася настроям сабрацца ў адно месца і прыняць чыннасьць. Згуртаваньне літаратурнага аб'яднаньня „Маладняк“—дадало тое, чаго не хапала... Мы гэтым зусім ня думаем сказаць, нібы „Маладняк“ заснаваўся, маючы на мэце менавіта праводзіць у творчасьці гэты настрой. Зусім не. Усё-ж, самы прынцып організацыі яго быў ня зусім вытрыманым. І вось чаму: пад свой сьцяг „Маладняк“ злучыў маладых

пісьменьнікаў не па прынцыпу маладосьці іх ідэёвых напрамкаў, а, галоўным чынам, водлуг фізычнага росту сваіх сяброў. Далей гэта хіба пачала выпраўляцца, але патрабавалася шмат часу, пакуль яна выправілася. На падгатоўку яе выпраўленьня прыпалі гады росквіту „Маладняка“, як організацыі маладых пісьменьнікаў; а гэтаму тэрміну якраз ужыўны тыя зьявішчы, якія мы адносім да катэгорыі шкоднага ў беларускай літаратуры.

Аналізуючы ідэёвы зьмест творчасьці першых сяброў „Маладняка“, можна было зразу бачыць выразную разыходжанасьць іх, прынамсі, у двух напрамках. Адзін напрамак меў пераважнасьць рэволюцыйных настрояў і пролетарскае афарбоўкі, другі адмячаўся ідэёвай нявыразнасьцю з тэндэнцыяй ухілаў у бок вясковай стыхіі. І цікава, што прадстаўнікамі першага якраз былі тыя тры-чатыры пісьменьнікі, аб якіх даводзілася ўпамінаць вышэй. Іх літаратурны вопыт (ужо ён у 1923 годзе падлічаўся трыма гадамі!), большая сугучнасьць бягучаму часу іх настрояў застаўлялі разглядаць маладую організацыю пад гэткім кутом гледжаньня. Тым ня меней, у „Маладняку“ не знайшлося належных даных, каб у процэсе свае працы захаваць ва ўсіх сваіх сяброў усвойныя літаратурнаму жыцьцю норавы, побыт, этыку... (зразумела—ня ў тых лупінах, якія асталіся ад дарэволюцыйнага часу, а ў адноўленых рэволюцыяй рамках). Некаторая частка маладнякоўцаў з-за многіх прычын разумела ролю свае організацыі не як кузьню для новых ідэй у беларускай літаратуры, а як прыпас для разбурэньня спадчыны. Тут ня было нават месца запытаньню: чаму разбураць? Але выглядала з-пад споду крохкае жаданьне—аслабаніць месца, каб не засьціла. Ня шляхам перастаноўкі, а—разбурэньнем. Імпэт маладое натуры і бурлівага пачуцьця! Да ўцехі адно, што гэта бурлівасьць не захапляла ўсяго „Маладняка“, як цэлага; што знаходзіліся сродкі, якімі гэта бурлівасьць астуджвалася. Перадказваем—часта гэтых сродкаў не хапала ў меру. Часамі яны былі паліатыўнымі...

Хутка пасьля свайго заснаваньня „Маладняк“ зрабіў першы крок свае адмежаванасьці ад старэйшых пісьменьнікаў. Гэта было пры сьвяткаваньні 15-гадовага юбілею Цішкі Гартнага. Замест сумеснага ўшанаваньня юбіляра, маладнякоўцы зрабілі сваё, асабовае. На першы пагляд—дробязь, тым ня меней характэрная ў гісторыі беларускага літаратурнага жыцьця. Характэрная, панашаму, зусім не адмоўным бокам, а дадатнымі вынікамі. Справа ў тым, што „Маладняк“ лічыў Ц. Гартнага найбліжэйшым да свае большасьці пісьменьнікам і захацеў падкрэсьліць гэта адмяжованым ад іншай грамадзкасьці ўшанаваньнем яго. Сам-па-сабе гэты факт не даваў сымптомаў на тое, чаму ён быў уступам. На яго, зразумела, увага была зьвернута, і не малая, але вывесьці тых ці іншых заключэньняў на наступнае—было рызыкоўна. Аднак, зусім неўзабаве разьвіцьцё падзей адбылося само сабою. Адыходжаньне ад старых пісьменьнікаў накіравалася пад вострым кутом. Ня кажучы аб дарэволюцыйных

здабытках беларускае літаратуры, і навейшыя творы старэйшых беларускіх пісьменьнікаў сталі падпадаць з боку некаторых маладнякоўцаў „зьніштажаючай“ крытыцы...

І тут, вядома, нічога-б дзіўнага не выглядала, каб самы мэтод крытыкі ня меў, сапраўды, незразумела варожага тону, нястрымана дзіўных наскокаў і зусім нясталых прыёмаў. Мімаволі здаровай часткі маладнякоўцаў на чале з М. Чаротам, а часта наперакор ім, па-за імі, больш экспансыўныя сябры „Маладняка“ хутка павялі галаваломную вайну супроціў старых. Першымі прыладамі да наступу былі абабраны рогі „У рожкі са старымі“ (які тут сымбаль—хто яго ведае), а языку далася поўная воля. Нешта накшалт „свабоды слова“. Гэта „свабода слова“ зычэла ўсімі фарбамі вясёлкі.

Пачалося з крытыкі коласаўскае „Новае Зямлі“. Гэта поэма таленавітага пісьменьніка сваім выйсьцем у сьвет зрабіла вялікае ўражаньне. Твор меў усе правы на тое, каб яго прылічыць да монумэнтальнейшае рэчы ў беларускай літаратуры, да рэчы клясычнае. Ім абагачалася беларуская літаратура вельмі і вельмі значна. Кожны з надзеяй глядзеў на наступнае ў яе разьвіцьці, маючы пацьверджаньне ў „Новай Зямлі“. Але вялікая частка поэмы пісалася Я. Коласам у дарэволюцыйны час, калі панавалі зусім іншыя абставіны; напрамак у яе напісаньні поэта ўзяў строга рэалістычны, і настрой поэмы ня пыхаў яскраваю рэволюцыйнасьцю. Сэнс яе—шуканьне новае зямлі селянінам, які хацеў вызваліцца ад цяжкіх ланцугоў недастач, бядоты, прыціску налогамі і інш., зараз не супадаючы цалкам з настроямі сялян, старыў поэму. Аднак, ахоп ёю жыцьця селяніна ад нараджэньня да сьмерці, сьмеласьць задуму, велічыня і эфэктнасьць вобразу, хараство і насычанасьць малюнкаў, паднімалі гэты твор Я. Коласа на высокую ступню мастацкіх дасягненьняў. Аб гэтым ня было спрэчкі. Між тым маладняковец Л. Жыцень, наперакор усяму і ўсім, у тым ліку і здароваму розуму, агаласіў сваю асабовую думку аб „Новай Зямлі“. У „Радавай Руні“ № 3-4 за 1924 год у артыкуле „Слова аб літаратуры“ ён так „атэстуе“ знатны твор Я. Коласа і яго самога: „А цяпер павалэндаемся па нашай літаратурнай палісадзе (а стылік, бачыце, стылік!). Нашы рэцэнзэнты, хоць маладыя і нехлямяжыя (!), хочуць давясьці, што „Новая Зямля“ Я. Коласа ёсьць „монумэнтальнейшы твор і выдатнейшая зьява ў беларускай поэзыі“ (лапкі Л. Ж.), „буйны твор“ (лапкі Л. Ж.), які ня ведае сабе роўнага твору“... Але „калі глядзець на яго з гістарычнага боку, то ў ім ёсьць дзікі народніцка-інтэлігенцкі патрыётызм і ўласьніцкія прывычкі, якія ня маюць апраўданьня (!)“. І, згодна Л. Жыценю, з ім трэба толькі так паступіць: „Прачытаўшы, ставім яе з даволі несамавітым настроем на паліцы для кніг побач Шэйна ці Фэдароўскага—вось так, на ўсялякі выпадак“. Хвасянуўшы па Я. Коласавых „немачных песьняў жальбы“, крытык курыць ладан маладым пісьменьнікам, у ліку якіх лічыць сябе.

Сьледам за Л. Жыценем ў № 5 за 1924 год часопісь „Маладняк" на зборнік вершаў Я. Журбы „Заранкі" накінуўся з лаянкаю другі крытык, Ул. Гайдукевіч. Свою рэцэнзыю-лаянку на гэту кніжку ён перасыпаў, як макам, гострымі, размашыстымі сказамі на старога заслужанага пісьменьніка, літаральна ўтаптаўшы яго ў гразь. Аб „Заранках" Ул. Гайдукевіч зрабіў гэткія вывады. „Зборнік вершаў Я. Журбы „Заранкі" паказвае нам: 1) як ня трэба пісаць маладым нашым поэтам; 2) чаго ня трэба друкаваць у гэты час нашым выдавецтвам, калі беларускаю літаратураю пачынаюць цікавіцца суседзі нашы, і калі, пры адсутнасьці поўных збораў твораў нашых выдатных пісьменьнікаў, гэткія зборнікі будуць лічыцца за „ўзорнае" (лапкі Ул. Г.) з беларускае літаратуры... Трэба адразу сказаць, што з гэткімі творамі не чакае слава ні Я. Журбу (якому трэба яшчэ, мусіць, гадоў 15 папрацаваць, каб навучыцца хоць „гладкія" (лапкі Ул. Г.) вершы пісаць), ні нас, беларусаў. Шкада толькі, журботна, што кнігу надрукавалі ў ліку 3.000 экз."

Здарылася так, што да зборніку „Заранкі" надрукавалі портрэт Я. Журбы, дзе ён быў зьняты ў студэнцкай вопратцы дарэволюцыйнага фасону—аўтар іншае фотографіі ня меў. І гэта натхніла Ул. Гайдукевіча выказацца аб прыведзеным выпадку гэткімі словамі паклёпу: „Пераблытанасьць зборніку („Заранкі") вельмі гарманіруе фотографіі поэты, на якой ён нам зьяўляецца ўва ўсёй „красе" (лапкі Ул. Г.) наплечнікаў з царскімі вэнзэлямі і блiскучых гузікаў. Гэта-ж 1924 г., гэта-ж восьмы год рэволюцыі!.. Але лепш ня будзем успамінаць, бо ён і сам пэўна пачырванее".

Ад гэткае інсынуцыйнае крытыкі пачырванець было ня дзіва. Дзіва было, што самі крытыкі ад яе не чырванелі. І рабілася яшчэ большае дзіва, адкуль у іх набылася ў кароткі час сланёвая неўразьлівасьць ад прыёмаў і тону свае крытыкі. Гэта была шкодная ўласьцівасьць, але чамусьці некаторым ранейшым маладнякоўцам уласьцівая. Ішлося, як знарок, водлуг пагаворкі: „Калі хочаш, каб на цябе зьвярнулі ўвагу, зрабі якую-кольвечы дурасьць". Некаторым гэта дурасьць здавалася спрытам або нават і гэройствам... Прынамсі Н. Чарнушэвічу ў ролі крытыка, які таксама раней быў маладнякоўцам *). У сваім артыкуле „А. Гурло, як поэта і грамадзянін" (№ 6 часоп. „Маладняк" за 1924 г.) ён гэтак раўняе А. Гурло з Я. Коласам (А. Гурло ў той час належаў да тае-ж організацыі, што і яго крытык): „Песьні жальбы" (Якуба Коласа)—гэта тлень, перададзеная ў архіў. „Званы працы" (А. Гурло)—гэта веснавейны сьпеў, гэта пясьнярскі падарунак першым (!) прывідам вечна маладое пролетарскае вясны... Яго апошнія творы багаты ня толькі пролетарскім зьместам, яны багаты і формай. Старыя формы—спадчына аўторытэтаў-нашаніўцаў адкідаюцца ім, як зношаны лапаць, які можа

*) Н. Чарнушэвіч прызнае зараз свае ранейшыя абмылкі, і гэта яму прасьціма, Гайдукевіч-жа ня ў моцы гэтага зрабіць.

забрудзіць чыстую нагу *). Сказана, як бачыце, сьмела і зычна. І пры гэтым—бессаромна. Хто з яго што сышча? Як з гуся вада. Язык без касьцей. Гэта надмернае вярценьне бяскосьцьнага струманту ўвайшло было ў свайго роду спэцыяльнасьць, стала сьмікалкаю ў тых, каму ён часткова замяняў розум. Тыя-ж з крытыкаў, у каго апошняга ня гэтак бракавала, ужывалі іншы спосаб, таксама далёкі ад этыкі і прыстойнасьці.

У 1925 годзе вышла кніжка Янкі Купалы—„Безназоўнае". Поэта ёю засьведчыў сваю любасьць, сваё захапленьне падзеямі Кастрычнікавай рэволюцыі. Пасьля доўгае маўчанкі, ён прапяяў новаму жыцьцю моцны, натхнены акафіст. Беларусь, быўшы бяз назвы, безназоўная, стае жывым, вядомым, знатным, уваскрашаючым стварэньнем. Чырвоны Кастрычнік перававбражае краіну-пакутніцу, краіну мучальніцу. „Безназоўным" Янка Купала стварыў незабываны настрой, пераліў красу рэволюцыйнай падзеі ў прыгожасьць свайго мастацкага, захапляючага лірызму. Крытыку А. Бабарэку захацелася абвергнуць агульны настрой, створаны „Безназоўным". Болей таго, ён рашыў зруйнаваць дашчэнту значнасьць гэтага Янкавага твору. І ўзяўся за крытыку. У № 7 „Маладняка" за 1925 год у артыкуле „Вясну радзіла восень" „маладнякоўскі Белінскі" гэтак „крушит" „Безназоўнае" і яго аўтара. „У зборніку 1925 г.,—піша ён,—Янка Купала акунаецца ўжо ў „Безназоўнае", знача, невядомае, што знаходзіцца за межамі пазнавальнасьці. І вось адкрываецца зборнік вершам, у якім гучыць затайная ўсьмешка (?! З. Ж.):

...О, так! Я—пролетар!..
Яшчэ учора раб пакутны—
Сягоньня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!
Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... Ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі!

А далей і само „Безназоўнае":

Спачатку яно шалясьцела
Вельмі ня сьмела,
А потым лізнула ваконца
Ціха, як сонца.

І чамусьці гэтае „яно" далей называецца ліхам:

Во, як пачалося ў нас ціха
Тое ўсё ліха,
Што на'т беларускія межы
Усталі з залежы.

Ясна, можна тлумачыць гэты сымболь, як вобраз ідэі адраджэньня Беларусі, як вобраз і самой Беларусі, *але можна разумець і што-не-*

*) Да рэчы, А. Гурло сам нашанівец, ён ніколі ні ў творах, ні ў гутарках не пацьвердзіў Чарнушэвічавых слоў аб ім.

*будзь іншае (!), калі зьвярнуць увагу на такія выразы, як* (курсіў наш. *З. Ж.*):

Сяляне і сялянкі!
Цацанкі-абяцанкі
Збываюцца для вас.

Паўстае пытаньне, чаму такі эпітэт—„цацанкі“? Няўжо толькі для музыкі? Або:

Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.

Чаму эпітэт „засмучанай“?

Няўжо толькі для рыфмы? Або чаму іменна ўсім Беларусь павінна дагаджаць, калі яна „на куце ў хаце сваёй села“?

Вось гэты доўгі допыт у тоне і напрамку допытаў крымільнага вышуку А. Бабарэка ўжыў для Янкі Купалы не здарма. Крытыку прышло ў розум улічыць поэту наводнымі пытаньнямі не ў якім-кольвечы „дробным ідэёвым непаразуменьні“, а чуць не... у контр-рэволюцыйным ухіле. Гэтыя яхідныя, са злосным выразам на твары запытаньні, гэтыя намёкі і наводы служылі крытыку вышэйшым самалюбаваньнем сваёю здольнасьцю няўмольнага прокурора. Нешта накшталт Робесьп‘ера...

Так крытыку вялікасьць свайго вобразу лунала ва ўласным выабражэньні. Сапраўды-ж, грозны прокурор быў ня чым іншым, як сіратлівым Санчо-Панчо. Нават горш гэтага. Спусьціўшы некалькі часу пасьля свайго скэтлянд-ярдаўскага допыту Янкі Купалы ў артыкуле „Вясну радзіла восень“, А. Бабарэка к дваццацігадоваму юбілею песьняра, у кніжачцы „Маладняк—Янку Купалу“, гавора зусім іншае аб творчасьці і духоўным „я“ песьняра. Паміж іншым, на гэты раз нядаўні абвінавайца ўзьдзявае на сябе маску абаронцы, і кажа: „У поэты яшчэ з маленства зараджаецца вось гэта думка, каб сынтэзаваць „сонца і волю“ далёкіх прастораў з „вялікім морам людзкога, забытага шчасьцем жыцьця“. І далей: „У Янкі Купалы вызначаецца гэткі прынцып творчасьці, а іменна—прынцып клічу, каб „выклікаць водклік у сонным сяле“,—каб „усю Беларусь—неаб‘ятну, як мора, убачыць у ясным, як сонца, сьвятле“. „Трэці прынцып творчасьці Янкі Купалы такі: песьня—гэта зброя змаганьня за лепшую будучыну роднага краю“. І нарэшце, А. Бабарэка заключае аб Янку Купалу: „Гэтым усім, ясна, ня вычэрпваюцца ўсе прынцыпы творчасьці поэты. Яны багаты і align рознастайны, як багата і само „я“ поэты, якое матэрыялізавана ў мастацкім слове. Мы гэтым хочам толькі адзначыць, што яны вызначаюцца некаторымі фактамі з асабістага жыцьця. Імі-ж да некаторага стопню вызначаецца і агульная накірованасьць сьветагляду поэты, які характарызуецца імкнёнасьцю—

З цэлым народам гутарку весьці,
Сэрца мільёнаў падслухаць біцьця“.

Ці-ж трэба было больш трэзвага, больш бесстароньняга падыходу да найвялікшага з беларускіх песьняроў, як гэта зроблена ў прыведзеных

вытрымках? І яшчэ цуднейшым рабіўся папярэдні выбрык А. Бабарэкі, які сьведчыў аб нясталасьці крытыка, аб дзяцінстве, занесеным на старонкі часопісі, аб мудрагельстве, замест сур'ёзнае і адказнае справы. Нельга-ж кіравацца правілам, што папера ўсё церпіць і... не чырванее. Часамі яе бялізна горш чырвані. Але—што каму да гэтага. Не зважаў ні на вошта і Ўл. Дубоўка, які (проста незразумелым стаецца!) у тэй-жа кніжачцы „Маладняк—Янку Купалу“ нячувана дзіка апляміў Якуба Коласа. І чамусьці ўмысна ў час урачыстага сьвяткаваньня юбілею Янкі Купалы. Няўжо яму здавалася, што, даючы адначасна пахвальбу юбіляру і ганьбуючы яго таварыша-сябра і саратніка ў змаганьні за вялікую справу вызваленьня працоўных Беларусі, ён цешыць Янку Купалу? Нельга было згадзіцца з гэтым. Болей таго, жудасна ставала ад безадчотнае сьмеласьці пайсьці на напісаньне наступных радкоў аб Я. Коласе: „Сыканьне і гойканьне распачалі супроць „Маладняка“ некаторыя старыя пісьменьнікі і культурнікі, спагадаючыя ім. Адзін поэта, які прэтэндуе на нейкае нязвычайнае значэньне ў Беларусі, напісаўшы тысячы радкоў, зьвязаных прымітыўнымі, дзіцячымі дзеяслоўнымі рыфмамі, стаў вольна ці нявольна на чале гэтых *сыкуноў* (курсіў Ул. Дубоўкі)... Але дарма! Сьмехам і жартамі праводзяць цяпер гэткіх „дзеячоў“ (лапкі Ўл. Д.)“. У падобным артыкуле ў часопісі „Аршанскі Маладняк“ № 1 (артыкул: „Янка Купала і „Маладняк“) зноў-жа Ўл. Дубоўка пра Якуба Коласа кажа: „У той час, калі некаторыя старыя пісьменьнікі беларускія, замест таго, каб дапамагчы маладым беларускім поэтам і пісьменьнікам у іх творча-грамадзкай працы, заняліся пісанінай фэльетонаў на маладых пісьменьнікаў, ды носяць па школах, па сямілетках, дзе зачытваюць нашаму малодшаму пакаленьню; у той час, калі некаторыя старыя пісьменьнікі нашы (праўда, нікудышныя) прымушаюць сваіх дзяцей выпісвацца з піонэрскага атраду, куды яны былі запісаліся,—у той час Янка Купала зьвяртаецца да моладзі з натхнёным заклікам“...

Гэта празывалася змаганьнем „маладнякізму“ з „адраджанізмам“. Гэтым расчышчалася дарога маладым сілам. Пасьля вось падобнае „расчысткі“ некаторыя з ранейшых маладых свае творы, свае выданьні ставілі супраць беларускіх выданьняў. Не аднойчы заяўлялася: „Трэба на тым ці іншым зьезьдзе наладзіць маладнякоўскую выстаўку“. Калі на гэта даводзілася, што Белдзяржвыдат выстаўку ўжо наладзіў, было адказам: „То наладжана выстаўка беларускае літаратуры, а мы хочам наладзіць выстаўку маладнякоўскае літаратуры“.

Аставалася пацілкаць плячыма і зьдзівавана пытаць: няўжо гэта сапраўднасьць? Калі-ж далей у часопісі „Маладняк“ (№ 5 за 1924 г.) той-жа Ўл. Дубоўка ў артыкуле „Па мастацкіх кутках“ хвацка вылаяў выдавецтва „Савецкая Беларусь“, стала вачавідкім, што ўсё гэта сапраўднасьць, жывая, ачулая, бяспрычынная сапраўднасьць...

У выдавецтве „Савецкая Беларусь“ бедным, безграшовым, з 1922 г. да 1924 г. выдалася некалькі зборнікаў мастацкае літаратуры. Выдавалася яна па аўтарам у парадку набыцьця рукапісаў ад іх. Яшчэ ў 1921 г. гэтых рукапісаў было куплена ад розных пісьменьнікаў літаратурна-выдавецкім аддзелам Наркамасьветы на некалькі томаў для друкаваньня іх за рубяжом. Дзякуючы розным прычынам, у Нямеччыне давялося надрукаваць усяго тры кніжкі: „Песьні працы і змаганьня“ Цішкі Гартнага, яго-ж першую частку роману „Сокі Цаліны—Бацькава Воля“, і „Казкі жыцьця“ Я. Коласа. Выдавецтва „Савецкая Беларусь“ узялося выдаваць набытыя рукапісы ў сябе. І выдала вось гэткія кніжкі: „Спадчына“ Янкі Купалы, „Водгульле“ і „Новая Зямля“ Якуба Коласа, „Пад родным небам“ і „На зачарованых гонях“ З. Бядулі, „Заранкі“ Я. Журбы, „Барвенак“ А. Гурло і пазьней крыху „Веснаход“ М. Чарота і „Трэскі на хвалях“ Ц. Гартнага. Частка апошніх была сучасьнікамі „Маладняка“, усе-ж іншыя набываліся і выдаваліся, калі „Маладняка“ не існавала... Прынамсі, калі ў „маладнякоўцаў“ (апроч М. Чарота і А. Гурло, чые кніжкі „Савецкая Беларусь“ выдала), ня было чаго выдаваць. Гэта ня ішло на ўвагу, і супроціў выдавецтва празычэла з вуснаў Ул. Дубоўкі гэткая філіпіка: „Выдавецтву „Савецкая Беларусь“ усё роўна ці друкаваць творы Журбы ці „Маладняка“. Ну, дык у чым-жа справа? Можа дрэнна расходзяцца творы сяброў „Маладняка“ і таму іх ня друкуюць? Але, не! Зборнік „Комсамольская нота“—двух сяброў „Маладняка“—зусім ня горш іншых беларускіх выданьняў, а нават лепш. У чым-жа яшчэ сабака закапана? „Можа форма ў „маладнякоўцаў“ няпрыгожая?“ Але і з гэтага боку не падкапаешся. Іншыя сябры „Маладняка“ адзяваюць свой зьмест у такія прыгожыя вопраткі, што, бязумоўна, могуць паспрачацца з самымі галоўнымі „прывелеяванымі“ ў выдавецтвах песьнярамі. У чым-жа і яшчэ справа? Чаму гэтак ня хочуць выдаваць „маладнякоўскія“ творы? Мы ня ведаем. Слова за выдавецтвам“. Тут, як бачым, справа чарговага наступу, ня болей. Бо „Белтрэстдрук“ сапраўды нічога не выдаваў—а „Савецкая Беларусь“ выдавала творы без разбору аўтараў.

Пры заснаваньні Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва знайшлася яшчэ большая мажлівасьць да выданьня ў тым-жа бесстароньнім у адносінах да аўтараў напрамку. Тым ня меней, помнячы розьніцу між беларускай і маладнякоўскай літаратурамі, частка ранейшых маладнякоўцаў выдавала свае творы ў кніжніцы „Маладняк“; праўда, праз кніжніцу можна было прапусьціць творы лягчэй, ды яшчэ гэта прыдавала некаторы эфэкт. Але па-за гэтым эфэктам расьлі і адмоўныя зьявішчы. Апошніх было нямала, і па значэньню свайму яны не маглі не адбівацца і на багатых дадатных баках працы і творчасьці „Маладняка“ і на сталасьці беларускае літаратуры. Праз кніжніцу знайшлі мажлівасьць угледзець сьвет тыя пачынальнікі-пісьменьнікі, якім і ня суджана было быць пісьменьнікамі. Пры гэтым выданьне твораў справодзілася некатораю помпэзнасьцю,

як выдрукаваньне портрэту аўтара і пахвальная рэцэнзія. Дзякуючы гэтаму малады поэта, неасталёваны ні ў ідэі, ні ў настроях, ні ў ведах, набіраўся гонару, чванства, самаўпэўненасьці і на ўсё ды на ўсіх глядзеў з плёвага пункту гледжаньня. Ён адчуваў сябе кітом, на якім зямля трымаецца, і ўрэшце была двайная страта: і для беларускае літаратуры, і для самога пісьменьніка. Ну, але, дапусьцім, што бяз гэтага нельга было абысьціся. Усё-ж лёгка было абмінуць празьмернасьць самахваленьня, як то ў большасьці рабілася тымі-ж быўшымі маладнякоўцамі, якія адлічаліся рагатасьцю ў змаганьні са старымі. Тут, як і там, ня мелася супынку. Апроч узаемных рэцэнзій, пахвал, шчодрыя сябры-крытыкі раздзьмухалі ў надзвычайнае здарэньне тыя зьявішчы, якія, сапраўды, часта выглядалі недарэчнасьцю. Цікавы ў гэтых адносінах водгук У. Гайдукевіча на кніжку Я. Пушчы „Раніца рыкае“. Гэта кніжка мела адну асабістасьць—густату ў зьмесьце, пераблытанасьць сказнае мовы і багацьце анормальнай вобразнасьці. З гэтага, далёка недадатнага боку, яна ябеднымі языкамі перавярнулася ў пагаворку. Аднак, наперакор усяму і ўсім, У. Гайдукевіч прапяяў ёй натхненыя дыфірамбы. Ён пісаў („Маладняк“ № 8 за 1925 г., арт. „Раніца рыкае“): „Адным з тых непакорных хлапцоў, якія першыя згуртаваліся *ля організатара „Маладняка“ Міхася Чарота* (курсіў У. Гайдукевіча), якія павялі змаганьне за новае жыцьцё, за рэволюцыю сродкамі мастацкай літаратуры,—стаў і *Язэп Пушча* (курсіў У. Г.). Ня толькі стаў, *а і выклікаў немалы гармідар сваімі вершамі, сваімі вобразамі. Больш таго, першы зборнік вершаў, які ляжыць перад намі, назваў—„Раніца рыкае“* (курсіў наш. *З. Ж.)*. Чытаеш раз, перачытваеш другі. Хочацца сказаць: не загіне беларуская культура, беларускае мастацтва. *Першы зборнік маладнякоўца* (курсіў У. Г.) сьведчыць аб гэтым, яскрава сьведчыць...“ Далей ідзе ў гэткім-жа настроі поўны разбор твораў у „Раніцы рыкае“. І з якога боку ні паглядзі, як ні пастаў—пэрлы ды годзі. Вось проста Язэп Пушча—гэта ня хто іншы, як wunderkind. Пры гэтым—паўстаўшы, як сфінкс. Надзвычайная асоба, а таму і творчасьць яе надзвычайная таксама. Мілагучная, прасычаная „сакавітасьцю, сьвежасьцю і арыгінальнасьцю вобразаў“, з тэматыкай настолькі цікавай, як і з формальна-мастацкім бокам творчасьці. Нават У. Гайдукевіч дайшоў да таго, што заключыў, нібы Я. Пушча зрабіў нейкую перасьцярогу мінуўшчыне і ўсім яе прыхільнікам. Гэта ўсё зборнікам „Раніца рыкае“. Знарочыстасьць падвялічыць той гармідар, які ўсяго і атрымаўся ад „Раніцы рыкае“,— вось навошта сходзіла крытыка У. Гайдукевіча. Бо зусім не сакрэт, што „Раніца рыкае“ выклікала іранічныя ўхмылкі нават ува многіх цяперашніх маладнякоўцаў. Так, здаецца, што і сам Ул. Гайдукевіч, пішучы, быў далёка ад сур'ёзнасьці. Нельга-ж, сапраўды, было сур'ёзна казаць аб тым, што здатна выклікаць ня што іншае, як гармідар. Але чыннасьць гэткага характару была ўспрынята некаторымі быўшымі маладнякоўцамі не на жарты. Прыкладаў—хоць адбаўляй: і ў паводзінах, і ў творчасьці.

У № 237 газэты „Савецкая Беларусь“ за 18 кастрычніка 1925 г. была надрукавана рэцэнзія на № 9 часопісі „Маладняк“ нейкага Я. Кудзера, побач з гэтай рэцэнзіяй той-жа самы крытык зьмясьціў і рэцэнзію на № 6 „Полымя“. І вось—„Полымя“ з-пад пяра крытыка вышла нікудышным, нічога ня вартым, хоць вазьмі і выкінь вон. Затое „Маладняк“ аказаўся непараўнанай па якасьці кніжкаю. Што-ж акрасьляла яго якасьць? Усё, наогул, а ў прыватнасьці філёзофскія імпрэсіі А. Бабарэкі пад назвай „вобразы бяз рамак і асадкі“. У гэтых вобразах, па словах крытыка, А. Бабарэка „паказаў шмат таямніц душы чалавека, таямніц сьветабудовы, у аснове якога заложаны не хаос, а гармонія“. Гэтыя імпрэсіі мелі ніжэйпаданы канчатак:

... Чалавек—
— Інструмант...
... Душа—
— Акорды...
... Пачуцьці—
— Гукі...
... Сэрца—
— Тон...
... Воля—
— Сіла...
... Розум—
— Капэльмэйстар...
... Жыцьцё—
— Даўжыня...
... Сэнс—
— Што гучыш...
І—
— Калі акорды душы твае не заглушаюць пустаты неасяжных даляў—
— Ні зямлі, ні неба ня відаць...

Якая тут „глыбіня філёзофіі“—алаху ды крытыку з ім вядома. Сапраўды—гэта было нічым іншым, як гармідарам, ці з розумам ці не, ня судзім, а ручым—што з капэльмэйстрам... Палачка апошняга часамі перадавалася з рук у рукі для ўзаемнага апяваньня дыфірамбамі.

Што за прычыны накіроўвалі некаторых маладнякоўцаў на гэткі шлях? Гэтых прычын было многа, але ніводная з іх не вымагалася ні ўмовамі грамадзкага разьвіцьця, ні патрэбаю разьвіцьця беларускае літаратуры. Наадварот, асноўныя з іх—гэта незразумеласьць ролі і значэньня справы, да якое яны (некаторыя маладнякоўцы) мелі дачыненьне. Маладосьць—і праз яе—неадпаведнасьць. Нясталасьць—і дзякуючы ёй—блазнасьць.

---

К канцу 1925 году адмечаныя выбрыкі і мудрагельства ў беларускай літаратуры сталі пераважваць над дадатнымі бакамі ў працы і разьвіцьці „Маладняка“. Гэта кідалася ў вочы ня толькі староньнім наглядальнікам за жыцьцём маладых пісьменьнікаў, а і многім сябрам „Маладняка“ на чале з М. Чаротам. Ён і раней адмячаў надмернае чванства ў некаторых сваіх колегаў, але спадзяваўся на яго выжываньне самім

процэсам працы. Час-ад-часу ў гутарках са многімі маладнякоўцамі паасобку і на сходах філій ён зьвяртаў на гэта таварыскую ўвагу. Гэтага аказвалася мала. І на зьезьдзе „Маладняку“ М. Чарот адкрыта асудзіў самахвальства, самаўпэўненасьць, дзіцячую рызыку найболей няўстрыманых сваіх таварышоў па організацыі. Праўда, гэта не перашкодзіла Ўл. Дубоўку тут-жа яшчэ раз недалікатна чапіць гасьцей зьезду— старэйшых пісьменьнікаў.

Тым ня меней „Маладняк“ пасьля зьезду пачаў атрымоўваць зусім інакшы выгляд. Усё болей стала зьвяртацца ўвага на самакрытыку, на ўспрыманьне належнай этычнасьці для тых, у каго яе не хапала.

Ці абмінуў-бы ён, будучы ў суцэльнасьці, тыя перашкоды, якія заключаліся ў апісаных намі зьявішчах так, як гэта ён зрабіў пасьля,— цяжка сказаць. Ясна адно, што адкол ад яго грамадкі пісьменьнікаў, у якіх—проста прымха якаясь—апынуліся ўсе тыя, хто, галоўным чынам, культываваў вольнасьць ад этыкі і выкліканьне гармідараў,—вельмі паспрыяў для далейшага ідэёвага жыцьця „Маладняка“.

Аднак, калі мы можам з уцехаю констатаваць адмечаныя посьпехі ў „Маладняку“, то зусім інакшае мы бачым у „Узвышшы“.

Апошняе, ня гледзячы на паказную сталасьць ды прысвоеную знарочыстасьць, не пакідае старых традыцый. Дзяцінства і задзёр, чванства і культываваньне выбрыкаў—сыстэматычна цягнецца надалей. Досыць пералічыць вось гэтыя выпадкі апошняга часу, як: выступленьне Я. Пушчы на дыспуце [1]) аб часопісі „Узвышша“, выступленьне там-жа Ўл. Дубоўкі [2]), зьняважлівае падколваньне маладнякоўцаў у друку (глядзі час. Узвышша № 2), і, нарэшце, апавяшчэньне „Узвышша“ наконт фэльетону С. Друка аб ітогах дыскусіі.

Усюды выглядае адно: захапленьне гармідарам, культываваньне неэтычнасьці, ужываньне дзіцячых выбрыкаў. Своеасаблівая вобразнасьць згубіла ўсякія рамкі і асадкі, прыняўшы выгляд разбазыранасьці...

Апошняя вельмі яскрава выказваецца ў нехаценьні лічыцца ні з кім і ні з чым [3]). Малейшы намёк на ідэолёгічныя хібы ў іх творчасьці, на ўпадачнасьць настрою, на недалікацтва ў спрэчках, на прымітыўнасьць абсталяваньня розных тэзысаў ды пляцформаў—выклікае ва ўзвышшаўцаў дзіцячы задзёр і гэткага-ж гатунку лаянку. Цікава, да рэчы, справа з вышэйуспомненым нахілам да скэтлянд-ярдаўскіх прыёмаў у дыскусіі, што выразна паказвае рэдакцыя і тон узвышшаўскага паведамленьня наконт артыкула Сымона Друка „Аб скутках дыскусіі“ ў № 2 „Узвышша“.

---

1) На дыспуце аб час. „Узвышша“ № 1 Я. Пушча сказаў: „Ц. Гартны ня любіць М. Багдановіча за тое, што той не пахваліў яго вершаў у 1912 г.“.

2) Там-жа Ўл. Дубоўка два разы заявіў, што „у нас ёсьць толькі два пісьменьнікі— Янка Купала і Якуб Колас“.

3) Для прыкладу: у сваёй часопісі „Узвышша“ узвышаўцы ані словам не ўспамінаюць у хроніцы аб працы старэйшых пісьменьнікаў. Пасьля дыспуту яны ўспомнілі аб маладнякоўцах, аб якіх у першым нумары „Узвышша“ таксама не замовілі і словам.

Ня дзіва пасьля гэтага, што настойна вынікае пытаньне аб патрэбе сапраўдных „рамак і асадкі“. Друк не павінен служыць дробным мэтам мяшчанскага характару. Літаратура, што мае перад сабою найадпаведнейшыя заданьні выхаваўчага характару, ня мусіць вульгарызавацца праз апушчэньне да прымітыву. Мажлівасьць вольнага доступу на старонкі часопісяй, што падарыла Кастрычнікавая рэвалюцыя кожнаму, ня тлумачыцца адкіданьнем усякіх законаў і ўсякіх граніц. Калі хлапцу ўдаецца скласьці адзін верш больш-менш удачліва, а чарговыя псаваць,— то тут няма абавязку, які-б дапушчаў сапсаваныя друкаваць бяз усякае папраўкі ці крытыкі. Гэта элемэнтарная ісьціна. Той-жа элемэнтарнай ісьцінаю будзе і палажэньне аб сумлівасьці ў поэтыцкай здольнасьці таго, хто сумеў выпадкова напісаць адзін-два вершы. Аднак, мы бачым, што малейшая спроба крытыкі цягне за сабою абурэньне і разам з тым вядзе да ўнікненьня ад яе праз самастойны друк. Прыблізна гэта характарызуецца вось якімі правіламі: „Які-небудзь Чарот, ці Піотуховіч, ці іншы сьмее чапаць мяне? А ну іх! Я сам сабе крытык, сам сабе настаўнік *)“. Гэта хваравітасьць, пароджаная павольнымі адносінамі да маладых, нясталых хлопцаў, дае аб сабе знаць вельмі чула.

Патрэбна дачасна спыніцца вакол зачэпленага пытаньня і ўдзяліць яму належную ўвагу. Мы не нагэтулькі багаты, каб дазваляць траціць час на стварэньне гармідару, на практыкаваньне ўзаемнага самахвальства і гульні ў бязьмежную вольнасьць. Мы ня створаны да ігры ў пустую вобразнасьць, якая пасьля сябе пакідае сьляды лопнутай мыльнай бульбанкі. Перад намі кіпучае жыцьцё, поўнае глыбокае творчасьці ва ўсіх сваіх галінах, перад намі нясупынная праца над стварэньнем соцыялізму. Літаратура мусіць прыняць чынны ўдзел у гэтай працы, літаратура павінна надаваць энэргіі і бадзёрасьці працаўніком, гартаваць іх сілы і распаляць веру ў бліжэйшы прыход пастаўленае Кастрычнікам мэты. Адыходзіць у бок, азірацца назад, адцягацца ад сапраўднасьці—знача губіць справу, за якую стаіш. Заплюшчваць вочы на свае абмылкі, а то і ўзносіць іх перад іншымі—праступак. Абыходзіць маўчаньнем гэтыя розныя недахопы—сорам.

Ласьне з-за туману фіміамных напеваў ня відны бываюць голыя плямы іх? Ці можна схаваць той факт, які кажа аб усякай адсутнасьці ў пераважнага ліку маладых пісьменьнікаў твораў на тэмы сучаснасьці, які не знаходзіць адбітку ў іх творах агромністага процэсу бадаўніцтва новага жыцьця, які паказвае на ашчэднасьць бадзёрых нотаў прызыву да гэтага будаўніцтва, які не знаходзіць вобразаў колёсальнае вялікасьці перараджэньня духоўнага сьвету, быту, поглядаў працоўных станаў беларускага жыхарства, народнае інтэлігенцыі, які пералічае цэлы шэраг іншых тэм, што чакаюць: не дачакаюцца сваіх мастакоў?

*) Трэба адмеціць частыя рэзкасьці ў нападах асобных узвышшаўцаў на М. Піотуховіча.

Нельга і няможна з гіронічнаю ўхмылкаю адзывацца аб гэтым, як аб „казёншчыне“, „надзеннасьці“ і інш.

Нельга і праступна адказваць на адметкі гэтага ды іншых недахопаў у творы лаянкамі, выбрыкамі, мудрагельствам.

Дзіка і шкодна ўхіляцца ад крытыкі, заражаючыся хвараблівымі самаўверрам і самаўпэўненасьцю.

Пара быць сталымі!

Мінула тры гады з тае пары, калі гэта шкадлівая плынь улілася ў беларускае літаратурнае жыцьцё. У некаторых яна адбілася на складзе нораву і на процэсе думаньня. Але ў агуле беларуская літаратура асталася ня ўразенаю. Тля, што псуе маладыя яе пупінкі, мусіць быць вытруена. Рашуча. Чыстае паветра няхай ахутае роўны агароджаны шлях яе далейшага разьвіцьця.

# ЮГАНЭС БЭХЭР

## Янка Б.

## Яго жыцьцё і творчасьць

I

Іоганэс Бэхэр зьяўляецца адным з самых выдатных пролетарскіх пісьменьнікаў сучаснай Нямеччыны. Яго творчасьць складае цэлую эпоху і патрабуе спэцыяльных дасьледзін з боку гісторыка літаратуры. Нашыя радкі на гэта не прэтэндуюць. Нашая задача ў агульных рысах, апрача жыцьцяпісных даных, паказаць чытачу асноўныя моманты ды ідэі творчасьці пісьменьніка.

Іоганэс Бэхэр нарадзіўся 22-га мая 1891 году ў Мюнхэне, цэнтры каталіцкай Баварыі. Гэтая акалічнасьць, як відаць, і паклала некаторы рэлігійна-містычны адбітак на частку яго раньніх твораў. Яго бацька быў за судзьдзю, потым за прокурора. Я помню,—кажа Бэхэр у спэцыяльна напісаных для „Полымя“ аўтобіографічных радкох,—як мой бацька зьбіраўся звычайна на службу: раніца, пачышчаны з вечара сурдут, цыліндар, усё ў добрым выглядзе—гэта ён ідзе на месца кары сьмерцю. Прышоўшы на полудзень дахаты, бацька садзіўся есьці, бы нічога ні было. Я дзівіўся, што ні на яго руках ні на прыгожых белых манжэтах ня было відаць ні каплі крыві. Калі мае школьныя працы ня былі ў парадку, мой бацька і мне пагражаў заўсёды „карай сьмерцю“ і „катаргай“, апісваючы пры гэтым процэдуру кары самым падрабязным чынам.

На шчасьце чалавецтва, будучы поэта не пайшоў па сьлядох свайго бацькі, і ніколі нага яго ня ступала на крывавы паркет судзьдзяў і катаў.

Ня гледзячы на ўсё гэта,—кажа далей Бэхэр,—маё дзяцінства можа быць названым цалком шчасным. Летам мы езьдзілі ў Швайцарыю, Тыроль ды інш. Мае бацькі кахалі мяне, і я меў усё, што хацеў. Не клапаціла мяне асабліва і школа: лекцыі для мяне былі лёгкія, я атрымліваў лепшыя адзнакі гуляючы. Не абыходзілася, зразумела, і без „шпаргалак“. Але карыстаўся імі я так трапна і здольна, што ніводзін настаўнік ня мог заўважыць гэтага. Маім захапленьнем было плаваньне. Будучы членам клюбу плыўцоў, я часта здабываў рэкорды.

Але вось прышоў час выбару профэсіі. Сыны ўсіх нашых знаёмых былі афіцэрамі. А таму на гэтай профэсіі прыпыніўся і мой выбар.

Афіцэрскай годнасьці, аднак, Бэхэр не дасяг. У юнака ўзьнікаюць конфлікты з бацькамі. Конфлікты гэтыя зьяўляюцца вынікам пачатку самастойнага мысьленьня. У маладым, цікавым выабражэньні Іоганэса ніяк ня можа ўлажыцца многае з таго, што яго бацька лічыць гладкім і бясспрэчным. Ён пачынае сумнявацца ня толькі ў правільнасьці жыцьцёвых укладаў вакольнай яго асярэдзіны, але нават у аўторытэце самое дзяржавы. Але як быць, як дайсьці да праўды, калі ажыцьцяўленьнем гэтага аўторытэту зьяўляецца родны бацька? Будучы аўтар пад уладай сумненьняў знаходзіцца нядоўга. У адзін прыгожы момант ён бярэ рэвольвэр і вырашае ўсе свае трагічныя пытаньні тым, што пушчае ва ўласныя грудзі пяць куль.

Шэсьць месяцаў ідзе барацьба паміж жыцьцём і сьмерцю. Перамога застаецца за жыцьцём, і аднойчы ўвесну самазабойца становіцца на ногі. Крызіс прайшоў.

Гэта быў дзіўны вясновы дзень,—прыпамінае аб гэтым моманце пісьменьнік:—сьвет мяне асьляпіў. Я ледзь мог глядзець, але ўсё-такі заўважыў, што вуліца кіпіць людзьмі. Над імі віхурылі чырвоныя сьцягі. Было першае мая.

Пасьля няўдачнай спробы паквітацца з жыцьцём, я пачаў ад бацькоў выдаляцца ўсё больш і больш. Я пачаў вывучаць хутка мэдыцыну, і філёзофію, спрабуючы адначасна шчасьця ў поэзіі. У маёй нязгоднасьці са сьветам муза была адзінай зброяй для мяне. Тымчасам выбухла вайна. Яе патос захапіў мяне на тры дні, усяго толькі на тры дні, ня болей. Пасьля гэтых трох дзён я зрабіўся ворагам вайны і перайшоў у лягер пацыфістых, даючы веры адначасна „дэмократыі“. Свае думкі і настроі я перадаў у маіх творах таго часу.

У пачатку 1917 году Бэхэр уваходзіць у партыю нямецкіх незалежных соцыялістых, будучы адначасна і членам клюбу спартакоўцаў, г. зн. комуністых. Офіцыйна ў комуністычную партыю Бэхэр запісваецца толькі пасьля нямецкае рэволюцыі.

Маё тагочаснае жыцьцё,—кажа пісьменьнік,—было жудам. Бацькі мне не памагалі. Я бадзяўся халодны, галодны па месяцох, спаў на лавах. Гэты жуд з цягам гадоў узмацняўся, мяне пачалі зноў апаноўваць роспач і пакутныя сумненьні. Але я не загінуў, не апусьціўся і не апаў безнадзейна дух. Усё перажыў. Але затое вышаў з гэтых перажыткаў другім чалавекам. Я пазнаў новае жыцьцё: жыцьцё „на лёце“, жыцьцё са шчэмленымі зубамі, дзе галоўную ролю граюць голад і барацьба за існаваньне. Так я адшліфаваўся і загартаваўся.

Далучыўшыся да комуністычнае партыі, я тым самым зьвязаў свой лёс з лёсам рэволюцыйнага пролетарыяту. Я быў першым нямецкім пісьменьнікам, які прывітаў вялікі чырвоны Ўсход у маім вершы „Савецкай Расіі“. З маіх апошніх твораў „Газавы роман“, „Левізытэ“ сталі вядомы і заграніцай. Гэта рэч выдана ў СССР і ў Чэхасла-

ваччыне, але забаронена ў Нямеччыне. Проці мяне было распачата за яе ў свой час судовае перасьледаваньне па абвінавачаньню мяне „ў дзяржаўнай здрадзе“. З турмою за свае творы я пазнаёміўся, між іншым, раней: год таму назад мяне пасадзілі за краты за кнігу „Труп на троне“. Але цераз пяць дзён вызвалілі, бо рабочыя масы, а таксама шмат якія пісьменьнікі пачалі рашуча протэставаць. Пасадзіць мяне за краты за „Левізытэ“ прокуратура пакуль-што не адважваецца.

Мае аўтобіографічныя нарысы былі-б няпоўныя,—канчае Іоганэс Р. Бэхэр,—калі-б я ня выказаўся аб маіх намерах аб кірунку мае працы. „Кірунак“, уласна кажучы, не зьяўляецца ў даным выпадку цалком адпаведным словам, бо мой кірунак усталяваўся і стаіць цьвёрда. Як і да гэтага часу, я буду і ў далейшым лічыць сябе радавым салдатам і весьці барацьбу за вызваленьне пролетарыяту. У мае бліжэйшыя пляны ўваходзіць напісаць фільм „Вайна“. У гэтым фільму павінна быць абмалявана вайна, як яна была, як яна ўяўляецца ў мірных абставінах і якою яна будзе. Для эпосу вайны цяпер якраз час і гэты эпос павінен быць абмаляваны. Бяда толькі ў тым, што на шляху мае працы стаіць цэлая маса сёнешняй Нямеччыны. Наступная мая задача складаецца з жаданьня напісаць гісторыю другога Інтэрнацыяналу—таксама ў выглядзе фільму свайго сцэнарыя. І, урэшце, маім трэцім імкненьнем зьяўляецца напісаць гісторыю аднэй фабрыкі. Над ажыцьцяўленьнем гэтых трох проектаў я галоўным чынам цяпер і працую.

Свае творчыя пляны пераўтварае пролетарскі пісьменьнік у жыцьцё ў надзвычайна скромных умовах. Туліцца ён з жонкай бадай-што не на гары, у нейкай шкляной мансардзе. Мансарда зьяўляецца ўсім: кухняй, рабочым габінэтам, месцам для спаньня. У ёй аўтар гэтых радкоў не заўважыў нават печы. Кофе на пачастунак госьця—значыцца аўтара гэтых радкоў—Бэхэр зварыў на сьпіртоўцы.

Але затое ёсьць машынка, гардая тым, што яна належыць да ліку продкаў усіх машын—на якіх пішуць. А таму пачынае задавацца—крахтаць, пыхкаць раней, чым падыдзеш да яе.

## II

Характарыстыку творчасьці Іоганэса Бэхэра трэба пачаць з паказаньня на няздольнасьць пісьменьніка служыць кон'юнктуры. Пісьменьнік бедны, але не падкупны. Яго творчае служэньне, як і яго натура, ня ведае ніякіх лук. Яно заўсёды шчырае і просталінейнае. Усе тыя пераломы, якія мелі месца ў псыхолёгіі ды ў ідэолёгіі Бэхэра, зьяўляюцца цалком шчырымі, вынашанымі ў нетрах уласнай натуры. Яго натура ў самым пачатку жыцьцёвага шляху зьненавідзела пустыя, дзьмутыя формы і павяла з імі барацьбу. Некаторы ідэалізм і незадавальненьне формамі жыцьця ўласьцівы кожнаму юнаку. Але „сьвятая нянавісьць і нуда за сьвет“ мінаюцца, як толькі юнак стане на шляху да харошай кар'еры,

ад яго палкага ідэалізму не застаецца знаку. Была бліскучая будучына перад юнаком Бэхэрам. Але ён ёю зганьбаваў у імя служэньня ідэалам гаротнага чалавецтва. Будучы студэнтам мэдычнага і філёзофскага факультэту (у Мюнхэне ды Іене, а потым і Бэрліне), Бэхэр не аднойчы зварачаўся за адказам на пытаньні з штодзеннага жыцьця, што яго каталі да навукі. Але ні анатомія чалавечага цела, ні філёзофскае вывучэньне ўздымаў і рухаў яго духу ніякага адказу яму даць не маглі. Гэтае бясьсільле навукі прыціскае будучага поэту яшчэ больш, разыходжаньне са сьветам шаблённай штодзеннасьці робіцца мацнейшым і яму нічога не застаецца, як зьвярнуцца да сьпісаў за вышукамі ісьціны да самога сябе, да ўласнага натхненьня.

У 1914 годзе выходзяць у сьвет яго першыя зборнікі: „Падзеньне і Трыумф“ і „Проба ў прозе“, напісаныя ў працягу 1912—13 г. Ня гледзячы на тое, што матэрыялам для гэтых кніг паслужылі асабістыя перажыткі, яны, аднак, адбіваюць далёка не адны індывідуальныя мотывы. У іх адчуваецца жыцьцё цэлай асярэдзіны, у іх адчуваецца воля да свабоды і новага жыцьця. Сум, радасьць, каханьне—такі асноўны зьмест першых спробаў пяра Бэхэра. Два першыя зборнікі дваццацігадовага юнака зьвярнулі на сябе агульную ўвагу ужо адным тым, што ў іх быў выклік усяму сьвету. Аўтар казаў: „Не“. Хоць у гэтым „не“ і адчувалася юнацкая задзірастасьць і віхурная кроў маладосьці, але было ясна, што гэта ня „не“ роспачы або дэлітанізму. Тлумачэньне гэтаму „не“ чытач мог знайсьці ўжо ў першых-жа радкох „Падзеньне і Трыумф“. „Калі-б мне ўдалося,— пачынае сваю вершаваную аповесьць аўтар:—калі-б мне ўдалося праткнуць і падняць дух вашай штодзенай плесені“. Жаданьне ўскалыхнуць мяшчанска-буржуазную сажалку паставіў Бэхэр у аснову ўсёй сваёй дзейнасьці. Пад гэтым дэвізам творыць і працуе пісьменьнік і цяпер, нязьменна ідучы за сваімі ўласнымі наказамі. Ні страх, ні спакуса не адхілялі яго ад раз прынятага асноўнага кірунку. Мяняліся формы, але не мянялася сутнасьць. Дарма скэптык гэту цьвёрдасьць будзе тлумачыць ганарыстасьцю. Гэтага ні ў творах, ні ў думках пісьменьніка няма. Яго заўсёднымі падарожнікамі зьяўляюцца скромнасьць і сіла. Заносьлівасьць маладых, што зьбіваюцца са шляху, талентаў для яго чужая. Бэхэр аднолькавы ў шчасьці і няшчасьці. Ніколі з яго вуснаў ня выходзілі яшчэ скаргі асабістага характару.

Эўропэйская вайна для дваццацітрохгадовага Бэхэра не зьявілася нечаканасьцю і зьдзівіла яго куды менш, чым спрактыкаваных сівых дыплёматаў і палітыкаў. У сваім творчым прадбачаньні ён ня мог ня бачыць, куды вядзе шлях сучасных правапарадкаў. Энтузіазм вайны, як ён сам прызнаецца ў сваіх аўтобіографічных радкох, захапіў яго ўсяго толькі на тры кароткіх дні і то, мабыць, больш у моц інэрцыі. Пасьля гэтых трох дзён малады хлапец робіцца пацыфістым і пачынае з вайною барацьбу. Чым больш небясьпечна робіцца па пытаньні аб вайне мець уласную думку,

тым больш часта і рэзка падае Бэхэр свой пацыфічны голас. Яго кнігі, што вышлі ў час вайны—„Да Эўропы“, „Братаньне“, „Урачыстая песьня проці часу“ і „Сіон“ прадстаўляюць сабою сьмелы пляцдарм барацьбіта. Не шкадуючы сілы, сячэ барацьбіт сваім слоўным мечам на ўсе чатыры бакі, каб толькі як-небудзь адхіліць нясьпелае чалавецтва ад таго крывавага шаленства, у якое яно ўтапілася з галавой. Якім чынам гэтыя кнігі былі прапушчаны тады цэнзурай—незразумела да гэтага часу. Аўторытэты цэнзурнай справы тлумачаць гэта тым, што няпісьменныя генэралы і фэльдфэбэлі ад літаратуры проста не зразумелі новага стылю і новых формаў выкладаньня аўтара. Але затое зьмест кніг быў добра зразумелым неспрактыкаваным, але чулым сэрцам масам. У адным з сваіх вершаў—„Новы Сынтакс“, які зьявіўся пазьней, Бэхэр выкладае „спэцыяльную тэорыю мовы“, выданых ім проці вайны кніг.

Адмовіўшыся ад старых форм выкладаньня, Іоганэс Бэхэр зрабіў тым самым у мове рэволюцыю. Разбурэньне старых форм, атрымаўшых права грамадзянства і якія лічыліся непарушнымі, зьяўляецца толькі адным з спосабаў у барацьбе пісьменьніка з руцінай буржуазнай умоўнасьці ў літаратуры. Уведзены ім стыль узяты проста з жыцьця. Гэта ня вымарачны склад габінэтных мысьліцеляў, а само вакольнае жыцьцё. Тут, усё ясна, проста, зразумела і разам з тым орыгінальна і высока мастацка. Бэхэр вызваліў друкаванае слова ад розных пабочных надбудоў, нэвеліровак, баласту і зьвярнуў яму яго першародную простасьць і сьвежасьць.

Крытыкі, што спачатку пазіралі коса, прызнаюць цяпер бязумоўна за складам і стылем Бэхэра ўсе правы на літаратурнае і мастацкае жыцьцё. Хутка зьявіліся і пераймальнікі. Гэтым апошнім, аднак, не пашанцавала. Пераняўшы бэхэраўскую мову, яны ня здолелі даць ёй бэхэраўскі зьмест. Атрымалася бесталяннае тупаньне на месцы, падобнае на мігі малпаў. Справа пераймальнікаў правалілася. Сапраўдныя пераймальнікі бэхэраўскіх спосабаў яшчэ не выкрышталяваліся. Талентам трэба нарадзіцца.

Творамі „Сьвяты сон“, „Вершы аб Лёттэ“, „Аб богу“, „Гімны“, што зьявіліся ў сьвет у пэрыод 1918—1923 г. г., ды балядамі, гімнамі і одамі проці вайны Бэхэр завяршае цыкль рэчаў сваёй раньняй творчасьці. Бэхэраўская муза гэтага пэрыоду прасякнута мотывамі вялікай духоўнай глыбіні. Бэхэр не баіцца апушчацца ў глыбіні чалавечых нетраў. Бяручы для сваіх тэм падзеі штодзеннага жыцьця, ён спакойна адбівае іх цераз эмпірычную прызму. Адгэтуль і атрымліваецца ўражаньне, што пісьменьнік будуе свае першыя літаратурныя пірамiды нібы на фундамэнце рэлігійна-моральнага догмату. Кругавыя рухі Бэхэра, калі можна так выразіцца, навокал бога ня ёсьць дылетанскія спробы мастака паслужыць мастацтву дзеля мастацтва. Не, гэта шчырая спроба знайсьці шляхі і спосабы служэньня чалавецтву. Пасьля вышукаў у гэтай галіне абстрактнага аўтар зварачаецца да зьяў рэальнага, ужо з гатовымі сынтэзамі. Гэтымі сынтэзамі зьяўляецца барацьба працоўнага сьвету за жыцьцё.

Таму ўсе далейшыя творы Бэхэра напоўнены, галоўным чынам, мотывамі суму па адрасу прыгнечаных і абяздоленых, прычым гэта ня ёсьць сум профэсыйнага спачуваньня або філянтропічнага спачуцьця да пакутных. Не, гэта сьлёзы і сум уласнай душы Бэхэра, якая зьвязана з жыцьцём працоўнага непарыўнымі ніткамі. Але душа Бэхэра адначасна ведае струны бадзёрых сугуччаў, тых сугуччаў, што клічуць рабочага да барацьбы, да волі, да соцыялізму. Імпульсы бадзёрага ў моцна насычаных соцыяльнымі момантамі творах пролетарскага мастака і барацьбіта пераважаюць натхняючы чытача на барацьбу з знадворнымі ўмовамі, на адшуканьне новых шляхоў, на трапны абыход небясьпек і на актыўнае супраціўленьне ім.

Апошнімі творамі Бэхэра зьяўляюцца: „Усім", „Наперад, чырвоны фронт", „Труп на троне", „Галодны горад", „Банкір на полі бітвы" і цэлы шэраг дробных рэчаў як прозаю, так і вершам. Усе гэтыя творы напісаны пасьля вайны. Об'ектам іх зьместу ўзята жыцьцё нашага часу. Сумныя і шэрыя малюнкі штодзеннасьці пад пяром Бэхэра ажываюць і напаўняюцца такім магутным мастацкім і бытавым зьместам, што чытач, датыкаючыся яго, мімаволі адчувае сапраўднае дыханьне самога жыцьця. Чырвонай ніткай, аднак, зьяўляецца ў творчасьці апошніх гадоў Бэхэра барацьба са зданьню вайны і барацьба з капіталам на мірным фронце. Творчы талент мастака выступае з аднолькавай рашучасьцю проці абодвух спосабаў капіталістычнага забойства працоўных. Змагацца, змагацца і яшчэ раз змагацца, Бэхэр лічыць сваім абавязкам і як пісьменьнік, і як член комуністычнай партыі. Кінутае калісьці маладым юнаком „не" з гадамі аформавалася, знайшло свае шляхі, умацавалася і складае цяпер у творчым арсэнале мастака магутную прыладу. Не дарма-ж капіталістычная прокуратура так сочыць за творамі Бэхэра і так сурова іх прасьледуе. Сваю сілу пісьменьнік чэрпае ў студні самога жыцьця. Таму яго слова паліць і рэжа да болю.

Усяго зьявілася ў сьвет бэхэраўскіх твораў каля 25 томаў. Апошнім з іх, які нарабіў асабліва шмат шуму, зьяўляецца роман, назва якога абазначана хэмічнай формулай „$(ChCl:Ch)_3$ As (Lewisit)".

Формула гэта новая, выпрацавалася ў выніку газавай вайны на фронце, яна незнаёма нават шмат-якім хэмікам. Але пад ёю тоіцца вельмі зразумелая і вельмі прыступная для ўсіх тэма з жыцьця ўжываньня газаў у мінулую вайну. На падставе цэлага шэрагу афіцыйных дакумантаў Бэхэр абагульняе жуды газавай бойні ашалеўшага капіталізму. Канчаецца роман заклікам да рашучай барацьбы проці магчымасьці новага газавага ўзаемазьнішчэньня. „Барацьба з новай газавай вайной—гэта і ёсьць адзіная справядлівая вайна",—гукае аўтар і ставіць гэты выгук („Адзіная справядлівая вайна") пад назву кнігі. Роман у Нямеччыне забаронен, хоць Бэхэр у ім выступае не як космополіт ці вораг Нямеччыны а як кахальнік свайго народу, грамадзянін.

Творчасьць Бэхэра, як мы ўжо адзначылі, рухаецца шляхам псыхолёгічных ды ідэолёгічных пераломаў. Яна падзяляецца па пэрыодах. Да гэтых часоў у ёй можна адзначыць два асноўных пэрыоды: пэрыод дарэволюцыйны і пэрыод пасьлярэволюцыйны. Спэцыялісты знойдзе ня мала зьмен і ў формах бэхэраўскай творчасьці. Але гэта ўсё задачы гісторыка літаратуры. Тут-жа пакуль-што можна адзначыць, што сваім выступаньнем на полі літаратуры Іоганэс Бэхэр заклікаў да жыцьця новы сьветагляд, новае, не шаблённае разуменьне жывога жыцьця пакутнага чалавецтва. Тая праўда, якая складае жывое ядро яго творчай дзейнасьці і якая выражаецца са значнай мастацкай яскравасьцю і сілай, будзе доўга служыць маяком у барацьбе прыгнечаных і пакрыўджаных за лепшую будучыну.

# КНІГАПІС

**Паўлюк Трус. Ветры буйныя.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск. 1927 г. 134 стар. 16*⁰.

На новы зборнічак вершаў Паўлюка Труса „Ветры буйныя“ ўжо пасьпела зьявіцца рэцэнзія П. Брусьніцы на старонках „Зьвязды“ за 11 верасьня г. г. Рэцэнзэнт знаходзіць шмат адмоўных бакоў у творчасьці маладога песьняра, як яна выяўляецца ў новым зборніку яго вершаў. „Можна сьмела казаць“, заяўляе крытык, „што поступу наперад у зборніку „Ветры буйныя“ няма чаго шукаць, што калі ў папярэднім зборніку Трус яшчэ быў часамі арыгінальным песьняром, то ў даным зборніку ён займаецца перапевамі старога або перайманьнем твораў такіх пісьменьнікаў, як Шэўчэнка, Купала, Багдановіч, Есенін, Пушкін, Кальцоў і інш. Ды гэта і зразумела, поэта мае малы лексычны багаж, яму патрэбна недзе шукаць новых слоў, прыгожых вобразаў; ён за імі і звараччаецца да вышэйпералічаных песьняроў“.

Прыклады такіх перайманьняў з Янкі Купалы, Есеніна і Т. Шэўчэнкі і даюцца ў рэцэнзіі. Адсюль—вывад, досі неспагадлівы для аўтара зборніку, што ён пайшоў „брыдкім“ шляхам. Рэцэнзія і мае такі менавіта загаловак: „На брыдкім шляху“.

Ці маецца рацыя гэтак, у высокай ступені пэсымістычна, глядзець на творчасьць маладога поэты?

Няможна адмаўляць: у чым-кольквек паказаньні П. Брусьніцы слушныя. Папершае, гэта датыча перайманьняў. Бязумоўна, яны ёсьць. Таксама мова Труса не багата новатворамі.

Аднак, што адсюль вынікае?

Адносна пераймальнасьці трэба мецць на ўвазе, што яна часам выступае і ў буйных талентаў, а ў маладшых, што вельмі прыметна і ў нашых, без абы-якіх выключэньняў маладых поэтаў, выступае асабліва выразна. Бяром, напр., „Босыя на вогнішчы“ Чарота,—тутака зусім ясны ўплыў з боку Блока. А ці есенішчына не адбілася на творчасьці А. Дудара, Ан. Вольнага і інш.? Псыхолёгічна разважаючы, пераймальнасьць зьяўляецца адным з фазісаў развою творчасьці кожнага пісьменьніка. Шлях да выяўленьня самабытнасьці ідзе ад перайманьня, насьледаваньня. І на тэй падставе, што ў П. Труса ў зборніку „Ветры буйныя“ побач з арыгінальнымі вершамі (а такіх вершаў значная большасьць) ёсьць вершы з перайманымі сюжэтамі і нават проста пабудаваныя прыстасоўна да вершаў Купалы, Есеніна і Шэўчэнкі, я прынамсі ня судзіў-бы так рыгарыстычна аўтара, як гэта робіць П. Брусьніца: маладосьць ёсьць маладосьць, і няможна на кожнага маладога поэту глядзець, як на „монстра“.

З другога боку, пытаньне аб слоўніку—па сутнасьці вельмі складанае пытаньне. Можна лічыць нават за дадатны бок слоўніка Труса, што ён наогул ухіляецца ад стварэньня сваіх новых штучных слоў ня ў прыклад іншым маладым поэтам. Сапраўды, якое мы маем права ў поэзіі ствараць штучныя словы, калі ня выкарыстаны багатыя крыніцы народнай мовы? Але-ж толькі на глебе народнай мовы можа разьвінуцца

наша поэзія. Ня шкодзіла-б нашым поэтам, а асабліва поэткам, на манер таго, як Пушкін калісьці вучыўся расійскай мовы ў маскоўскіх праскурніц, павучыцца жывой беларускай мовы ў старых вясковых бабулек. А мова Паўлюка Труса—тым і вартая, што яна блізкая да жывой народнай мовы.

Магчыма іначай падыйсьці да выяўленьня творчасьці маладога поэты ў зборніку „Ветры буйныя". Гэты зборнік магчыма ацаніць, як паказальнік асноўнага кірунку і асноўных інтарэсаў Труса. Найбольш за ўсё паказальны ў гэтых адносінах, як мне здаецца, верш поэты „Я пакахаў цябе да сьлёз":

Ой, вёска, вёска пры гасьцінцы,
Пад ціхі гоман вербалоз,
Яшчэ з гадоў свайго дзяцінства,
Я пакахаў цябе да сьлёз!

Твае гаі .. У цьвеце нівы...
Твае вішнёвыя сады .
Пад гоман рэчак гутарлівых
З табой я вечна малады!

Заплачуць вербы над крыніцай,
Як я, ўдалі ад тваіх хат,
Сягоньня ўспомню вечарніцы
І сьпевы гулкія дзяўчат.

„Ой, там за гуменцам,
За зялёненькім...
Ціха шуміць зялёная дуброва"...

Тваіх я песень не забуду,
Як не забуду й цьвет красы,
І доўга, доўга слухаць буду
Твой сьпеў ў паўночныя часы.

Няма чаго гаварыць: Трус зусім не гарадзкі поэта. Асноўныя мотывы яго творчасьці—вясковыя мотывы. Крыніца—народныя сьпевы. Трус да захапленьня любіць вёску і вясковую прыроду. Ён жыве вясковымі польнымі краскамі, жыва ўяўляе сябе, як шумяць бярозы і гойдаюцца вербалозы. У кожным яго вершы з зборніку знойдзем або краску або дрэва. Найкаханейшае яго слова—„цьвет". Пры гэтым праўда і тое, што „доўга, доўга слухаць" будзе ён мілагучны сьпеў народны, сьпеў беларускае вёскі. Ці гэта ёсьць „брыдкі шлях"—шукаць крыніц поэзіі ў жывой народнай творчасьці? Зразумела, што не, і назваць *гэты* шлях брыдкім—значыць выявіць няведаньне карэньняў кожнай сапраўды мастацкай поэтычнай творчасьці. Ня трэба забывацца, што беларуская поэзія, паасобку, вырасла з магутных карэньняў фольклёрызму. Вось таму-та поэзія Труса і зьвярнула на сябе ўвагу літаратурнай крытыкі: Трус бліжэй, чымся ўсе нашы іншыя маладнякоўцы, стаіць да народнай поэзіі. Найлепшыя вершы з усяго яго зборніку тыя, што напісаны проста ў перайманьне народным („Ой, у полі тры таполі", „Ой, вярбіна зялёная", „Цячы рэчка з-пад явару"). Не дарма, на Труса робяць асаблівы ўплыў якраз народныя поэты—беларус Купала, украінец Шэўчэнка.

Зразумела, што зборнік „Ветры буйныя" ў цэлым і паасобку выхваляць асабліва ня прыходзіцца. У цэлым для яго характэрна прыкрая аднастайнасьць мотываў і пэўная беднасьць зьместу. Паасобку,—некатовыя вершы, а можа і значную частку іх, магчыма было-б без вялікай шкоды выкінуць. Да гэтай катэгорыі асабліва адносяцца два адрыўкі з поэмы „Цыганка". Перайманьне з Пушкіна тут зусім яснае, аднак, калі для Пушкіна была яшчэ натуральнай „разгульнасьць вясёлая", дык поўнай фальшу гучаць у вуснах маладога хлопца:

І ў гэтых казках-успамінах
Майго жыцьця—разгулу дні...

Наогул-жа П. Трусу, як і іншым нашым маладым поэтам, магчыма пажадаць выношваць свае вершы і не сьпяшацца з выпускам *цэлых* зборнікаў сваіх юнацкіх твораў.

**М. Байкоў.**

**Аркадій Любченко. Буремна путь.** *Оповідання, книгоспілка, 1926. 165 ст.* У гэтай кніжцы мы знаходзім дзевяць апавяданьняў. Ня ўсе яны, аднак, маюць аднолькавую вартасьць. Больш удаецца аўтару апісаньне вёскі з новым бытам. Мы бачым барацьбу

„коммольців“ з сынамі кулакоў (Дні юности), прычым на гэтым фоне клясавых узаемаадносін аўтар развагачвае нават гісторыю каханьня. Сутычку новага пакаленьня са старым можна знайсьці і ў паасобнай сям'і. Быўшы панскі кучар Ян, вораг „слабоды“ (Із темного передпокою), ня можа памірыцца з тым, што яго дачка Зося паступае ў комсамол. Такую-ж сутычку паміж бацькам, які любіў піць чай у папа і лавіць „божественні слова“, і сынам яго комуністым бачым у апавяданьні „Чужі“. І нагогул можна сказаць, што соцыяльная антытэза зьяўляецца галоўнай асновай, на якой будуе фабулу сваіх твораў А. Любченко. Гэта антытэза часам прыдае яго апавяданьням нейкую схэматычнасць. Прачытаўшы пачатак, напр., апавяданьня „№ 2002“ (а іменна аб тым, як пан даведаўся, што выйграў білет яго найміткі), можна ўжо прыблізна дагадацца аб тым, які будзе канец гэтага апавяданьня. Больш орыгінальнымі па зьместу можна лічыць творы „Гайдар (степова легенда)“, „Зяма“ і „Тихий хутір“.

У апошнім апавяданьні А. Любченко яскрава маляваў, як гэроя, які калісь браў жвавы ўдзел у соцыяльнай барацьбе, засасала мяшчанская будзёншчына з пялёнкамі і грамофонам. І калі да яго павінна была прыехаць „товаришка Зіна“, з якою яго зьвязвалі ўспаміны аб тым, як яны калісьці ў час соцыяльнай барацьбы засталіся жывымі на бруку толькі ўдвох,—усе іншыя былі забіты,—Паўлу стала сорамна за сваю жонку-мяшчанку, і ён уцёк з хаты. Украінскі бэлетрысты даволі яскрава малюе нікчэмнасьць новага жыцьця Паўла.

„Перед очима—міцна, кругленька постать, з-під червоної косинки товсті щоки, подушка тримтючих грудей“. Калі-ж дзіцянё заплакала ў калысцы, яна „клубочком покатилася да ліжка... Разстебнула пазуху і, годуючи дитину, пополивла з нею по кімнаті“ (стар. 88—89).

Ударныя вобразы знойдзем і ў іншых мясцох кніжкі. Вось якіма фарбамі ён малюе набліжэньне навальніцы: „Десь далека-далека гуркотіли навантажені бодньми велетенські вози, і коротко злітали в небо молочно-фіялкові химерні птахи...“ Але ўсёткі ў параўнаньні з іншымі некаторымі украінскімі пісьменьнікамі А. Любченко рассыпае вобразы ня вельмі шчодраю рукою.

**П. Б.**

**Беларускі Архіў, том I (XVI-XVII ст.).** *Менск, 1927 г., 267 стар.* Гісторыка-археолёгічная Сэкцыя Інстытуту Беларускай Культуры прыступіла да выданьня зборніка дакумантаў пад загалоўкам „Беларускі Архіў“, першы том якога ўжо выпушчаны ў сьвет. Том, які мы разглядаем, зьмяшчае ў сабе цэлы шэраг дакумантаў, што маюць першараднае значэньне для вывучэньня соцыяльна-экономічнай і палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Надрукаваныя дакуманты зьяўляюцца копіямі дакумантаў, захаваных у архівах Кракава, Варшавы, Ленінграду і Масквы, а таксама і ў Магілеўскім архіве. Дакуманты сабраў *М. В. Доўнар-Запольскі і Д. І. Даўгяла.* Апошні сабраў усе дакуманты, якія адносяцца да гісторыі Магілеўшчыны.

Дакуманты Беларускага Архіву дзеляцца на тры групы. Да першай групы належаць дакуманты, якія ахапляюць значны пэрыод часу ад 1548 да 1566 году і характарызуюць дзейнасьць цэнтральных установ Вялікага Княства Літоўскага. З пералічаных дакумантаў заслугоўвае асаблівае ўвагі дагавор рады Вялікага Княства Літоўскага, што быў зроблены з вялікім князем Жыгімондам-Аўгустам, у красавіку 1548 г. У дакуманце пералічаюцца тыя двары і мясцовасьці, якія перайшлі да Жыгімонда II, і якія раней належалі або Жыгімонду I, або яго матцы, каралеве Боне. Дагавор вызначае і ўмовы, на падставе якіх Жыгімонд II мае права распараджацца

адданымі яму землямі. Дакумант ня мае даты Можна згадзіцца з думкай Д. І. Даўгялы, рэдактара Беларускага Архіву, што вышэйназваны дагавор быў зроблены не раней красавіка 1548 г.

Другая група дакумантаў зьмяшчае ў сабе перапіску Жыгімонда-Аўгуста з маршалкам Вял. Княства Літоўскага Астафам Багданавым Валовічам (Остафием Богдановичем Валовичем). І той і другі былі дужа віднымі палітычнымі фігурамі, і дзеля гэтага перапіска Жыгімонда II з ім мае першараднае значэньне. Лісты Жыгімонда-Аўгуста даюць магчымасьць вывучаць Берасьцейскі Сойм крыху з іншага боку, параўнаўча з тым, як гэта рабілі М. К. Любаўскі і Н. А. Максімейка, якія ў сваіх досьледах, галоўным чынам, ссылаліся на даныя Літоўскае Мэтрыкі. На Берасьцейскім Сойме 1566 году была група літоўскіх патрыётаў, якія зьбіраліся абавязкова сарваць Сойм з тым, каб не дапусьціць заключыць вуніі з Польшчай. Лісты Жыгімонда-Аўгуста сьведчаць аб тым, што сам Жыгімонд быў на баку палякаў і быў гатоў згадзіцца на вунію Аляксандра Казіміравіча, але што Сойм у сваёй большасьці быў супроць вуніі. Лісты Жыгімонда II служылі інструкцыямі Яну Хадкевічу ў тых мэтах, каб апошні накіраваў дзейнасьць Сойма і дэпутатаў у пажаданым для караля напрамку. Дзякуючы гэтым дакумантам, барацьба на Берасьцейскім Сойме паміж прыхільнікамі і супраціўнікамі вуніі вядзецца дужа рэзка. У іншых лістах Жыгімонд датыкаўся пытаньняў аб адносінах да Масквы і Фінляндыі ў зьвязку з тым, што Ян Хадкевіч быў высланы ў якасьці пасла ў Лівонію, і яму была выдана інструкцыя, якая вызначала яго дзейнасьць. Відаць, гэтыя лісты Жыгімонда былі адказам на ліст Хадкевіча, ад 12 чэрвеня 1566 году, у якім літоўскі маршалак выкладаў плян сваёй дзейнасьці ў Фінляндыі. Аднакжа, ліст гэты не дайшоў. Уся славутая эпоха 60 гадоў XVI веку, калі ішла ўпартая барацьба па цэламу шэрагу пытаньняў шляхты з магнатамі, дужа яскрава паказана ў надрукаваных лістох.

Другая група дакумантаў зьмяшчае ў сабе рознастайныя дакуманты, якія датычаць да 1562—1697 г.г. Яны непасрэдна датыкаюцца інтарэсаў шырокіх груп мяшчанства і сялянства. Для вывучэньня соцыяльна-экономічнай гісторыі гэтыя дакуманты зьяўляюцца, па свайму зьместу, надта цікавымі. Дакуманты другой групы, па свайму зьместу, могуць падзяляцца на некалькі катэгорый. Да першай катэгорыі належаць дакуманты, у якіх апісваецца знадворнае становішча гораду, інвэнтары, рэвізіі і забесьпячэньне гораду ўсялякімі ўгодзьдзямі, як грунтамі, барамі, пушчамі, агародамі, пляцамі і млынамі. Другая катэгорыя дакумантаў спэцыяльна прысьвечана пытаньню аб павялічэньні абароны гарадоў. У трэцяй катэгорыі дакумантаў ідзе гутарка аб Магдэбурскім праве ў Магілеве. Чацьвертая катэгорыя дакумантаў зьмяшчае ў сабе каштоўныя даныя адносна гандлю. У шэрагу дакумантаў маюцца каштоўныя даныя адносна разьмераў мытных падаткаў, а таксама адносна правоў купцоў, дробных гандляроў, прасалаў. Пятая катэгорыя дакумантаў выкрывае клясавую барацьбу, якая вялася паміж рознымі грамадзкімі групамі, паміж мяшчанамі і шляхтай, цэхамі і магістратамі, мяшчанамі і замкавай уладай. У шостай катэгорыі дакумантаў паказаны надта цікавыя даныя адносна права пропінацыі, так званага „сыченья и меду и продажи водки“. Нарэшце, апошняя катэгорыя дакумантаў зьмяшчае ў сабе пацьверджаньне розных прывілеяў. Усе гэтыя дакуманты, галоўным чынам, датычаць Магілева і Магілеўшчыны. Для вывучэньня ўсходняй часткі Беларусі XVII веку гэтыя дакуманты маюць асаблівую каштоўнасьць. Неабходна зьвярнуць увагу на ўставу но-

вага і старога мыта, які выданы гораду Магілеву 20 мая 1629 году.

Трэцяя група дакумантаў характарызуе фінансавую політыку Вялікага Княства Літоўскага. Асабліва каштоўным зьяўляецца дакумант, які характарызуе мытную політыку літоўскага ўраду. Апублікаваны дакумант адносіцца да 1546 году і знаёміць з тымі зьменамі, якія былі зроблены літоўскім урадам у раней існаваўшых мытных падатках. Дакумант зьмяшчае ў сабе надта каштоўныя даныя для замежнага гандлю. Хаця-ж М. Доўнар-Запольскі ў сваёй працы „Государственное хозяйство великого Княжества Литовского при Ягеллонах“, том I, Кіеў, 1901 г. ужо азнаёміў чытача з гэтым новым мытным тарыфам, праўда, на аснове другога матар'ялу, зьмест якога супадае са зьместам, што апублікаваны цяпер дакумантам. Дзякуючы гэтаму Д. І. Даўгяла знаходзіць магчымым прызнаць дакумант, які друкуецца Беларускім Архівам, копіяй таго дакуманту, што карыстаўся М. В. Доўнар-Запольскі. Да гісторыі князкага скарбу адносіцца таксама справаздача падскарбія земскага Яроша Валовіча, якая была ім зроблена ў Вільні 16 лістапада 1615 г. па маемасьці вялікага князя, над якой ён апякаваўся 11 год.

У дакуманце, што адносіцца да 1549 году, пералічаюцца выдачы, зробленыя вялікім князем літоўскім, тых сум, якія знаходзіліся ў распараджэньні вялікага князя Жыгімонда. Грашовыя выдачы рабіліся для розных мэт. Грошы даваліся на ўтрыманьне прыдворнай чэлядзі, на дапамогу бедным, за розныя паслугі, на харчаваньне розных прыдворных служачых, пасланцом, якія пасылаліся вялікім князем у розныя месцы, на розныя выдаткі князкага двара, на пэнсію пастаяннаму краўцу і, нарэшце, у асабістае распараджэньне вялікага князя. Нарэшце, апошні дакумант, што адносіцца да 1570 году, зьмяшчае ў сабе інструкцыю для камісараў, якая была складзена на аснове пастанаўленьня Варшаўскага Сойму 1570 году, каб выслухаць справаздачы ад зборшчыкаў пагалоўнага падатку і якая была ўстаноўлена на Соймах 1565-1567-1568 г.г. і на Сойме Люблінскім 1569 году. Зборнік выданы надта прыгожа. Рэдактарам Беларускага Архіву зьяўляецца Д. І. Даўгяла, які ўжо раней здабыў сабе сьвядомасьць сваімі археографічнымі выданьнямі. Беларускі Архіў, з пункту гледжаньня археографічнага, не выклікае аніякіх пярэчаньняў. Гісторыкі Вял. Княства Літоўска-Беларускага знойдуць у Беларускім Архіве шмат каштоўнага матэрыялу, які высьветліць некаторыя бакі жыцьця Вялікага Княства Літоўска-Беларускага і, асабліва, мала вывучаны XVII век. У апублікаваным Беларускім Архіве маюцца звычайныя паказьнікі: географічны, асабісты і прадметны. Застаецца пажадаць, каб Інстытут Беларускай Культуры і надалей выдаваў такія каштоўныя зборнікі дакумантаў, патрэба ў якіх асабліва адчуваецца цяпер, калі фактычна спынілася выданьне дакумантаў, што характарызавалі-б далёкае мінулае жыцьця народаў. Для гісторыі беларускага народу, так мала вывучанай, Беларускі Архіў дасьць шмат матэрыялу.

**У. Пічэта.**

**Практычны беларускі вайсковы слоўнік.** *Часьць І-я (расійска-беларуская). Вайсковая Камісія пры Інстытуце Беларускае Культуры. Менск, 1927 г. Друкавана ў Смаленску. Дзяржаўная друкарня імя Сьмірнова. 251 старонка.*

Атрымаўшы для разгляду гэтую кніжку і не зьяўляючыся вайскоўцам-спэцыялістым, аўтар гэтых радкоў першапачаткова думаў, што яго заданьне абмяжуецца некалькімі вельмі кароткімі ўвагамі аб тэхнічна-слоўнікавым і правапісным боку данае працы.

Але ў сапраўднасьці слоўнік мае ня выключна вайсковыя, а часткаю політычна-асьветныя і нават агульна-

адукацыйныя мэты. У гэтых і ў шмат якіх іншых адносінах ён вельмі падобны да аналёгічнага украінскага выданьня, і таму мы разгледзім яго больш падрабязна.

Тут ёсьць такія словы, як *ад*—пекла (відавочна дзеля экскурсаў у гісторыю рэлігіі), *борщ* и *щи* (кулінарыя), *вялікая мядзьведзіха* (астрономія), *буйвол* (зоолёгія), *изнасиловать* (крыміналістыка), *истерика* (мэдыцына), *инквизицыя* (гісторыя царквы), *молния* (мэтэоролёгія), *трагедия* (поэтыка), *холерык* (псыхофізыолёгія), *щавель* (батаніка) і т. п. Такіх слоў вельмі многа.

Гэта, бясспрэчна, зьніжае ў значнай меры практычную вартасьць слоўніка, як даведачніка для вайскоўцаў, бо ім патрэбна перш за ўсё чыста вайсковая тэрмінолёгія, а ўсё іншае яны павінны шукаць у агульным беларускім лексыконе.

Але мы яшчэ вельмі небагаты. Дапамог наогул, і асабліва слоўнікаў, у нас мала. Таму разгледзім даны слоўнік з агульна-асьветнага боку.

*Правапіс.* Корэктаваўся гэты слоўнік, відавочна, вельмі сьпешна, таму мы знаходзім і ў расійскіх і ў намы знаходзім і ў расійскіх і ў нашых словах пэўную колькасьць друкарскіх памылак. Дзеля гэтага да пытаньня аб дакладнасьці правапісу трэба падыходзіць з асаблівай асьцярожнасьцю. Бясспрэчна, аўтары імкнуліся правесьці прынцып гэтак званага няпоўнага аканьня ў чужаземных словах, высунуты ня гэтак даўно С. М. Некрашэвічам, г. зн. замест чужаземнага ненаціскнога *о* пісалі *а*. Аднак гэты прынцып ня ўсюды вытрыманы: мы бачым монумэнт, мораль, моральны, мораторыум. Калі ў слове монополія першае *о* можа мець дадатковы слабы націск, бо гэтае слова двухкарэннае, дык манометр павінна пісацца праз *а* нават і парасійску, бо тут *а* і ў чужаземным корані; аднак мы бачым: монометр—мономэтр, тады як у выразах манарх, манархія мы знаходзім аканьне. „Олігархія“, „опэрацыя“ пішуцца чамусьці праз *о*, а „алімпіяда“—праз *а* і г. д.

Тое самае і адносна іншых правіл правапісу чужаземных слоў—няма ніякае пасьлядоўнасьці: сыгнал, сымболь, сымуляцыя, сыстэма—і чамусьці сіндыкат, зігзаг, азімут. Слова *траекторыя* (крутая) павінна мець *е*, а ня *э*, бо лацінскае trajectus—перакінуты, мае гук j. Блёкада перадае чужаземнае l сярэдняе праз *л* мяккое, а галоп—праз *л* цьвёрдае. Аднак у большасьці выпадкаў мы бачым *л* мяккае; падобна на вышэйпаданае слова галоп яшчэ жалатына (лепш было-б жалятына). *Тир*—цір, а *тираж*—тыраж, хоць французкія словы tir і tirage паходзяць ад аднаго і таго-ж самага кораню (са значэньнем: таргаць, смаргаць). *Касір*, магчыма, і правільна, бо пафранцуску caissier з пэўнаю ётацыяю. Серозное истечение—„сярознае выдзяленьне“, нават ня з *е*, а з *я* (трэба было-б э: лацінскае serosus—падобны да сыроваткі), а чамусьці „інжынэр“, тады як пафранцуску ingénieur, што ў нас павінна было-б даць канчатак—*ёр*, або прынамсі—*ер*.

Мы ўжо не спрачаемся з тым, што з мэтаю адрозьніць паняцьці „форточка“ і „калитка“—першае перадаецца словам *хв*ортка, а другое—*ф*ортка. Трэба толькі памятаць, што гэтая розьніца выключна графічная: той, хто скажа хвортка ў адным выпадку, вымавіць так-жа сама і ў другім.

Словы блёкгаўз, дрэдноўт і т. п. трэба было-б пісаць праз *ў*, а мы бачым *у*. Чужаземнае g лягчэй памякчаецца, чымся h. Таму незразумела, як можа зьявіцца гэні (genius) побач з гегемоніяй (hegemonia). Трэба было б якраз наадварот: гені і гэгемонія. Аднак гімн было-б лепш, чымся гымн.

*Зьмест слоўніка.* Мы ўжо сказалі, што гэта слоўнік мяшанага тыпу—спэцыяльна-агульнага. Гэта ўжо само па сабе нядобра, хоць укладальнікі ў прадмове і гавораць аб неабход-

насьці даць чырвонаармейцу словы, патрэбныя для палітычнага выхаваньня і для агульнага ўжываньня. Але, зразумела, тады трэба было больш стараннасьці ў падборы неспэцыяльна-вайсковых тэрмінаў. Трэба больш пасьлядоўнасьці: калі ёсьць „пекла“, дык павінен быць і „рай“ і „чысьцец“, а калі „пякельны агонь“ — паняцьце чыста вайсковае, нешта падобнае да гураганнага агню або штось іншае ў гэтым родзе, дык можна сказаць аб ім, не гаворачы аб самым пекле (выкінуўшы слова „ад“).

Перш за ўсё адзначым зусім няправільныя пераклады. Индивидуум у расійцаў=слову *особь*, а не *особа*, а ў слоўніку мы знаходзім асоба. Ці-ж можа расьлінны або нават жывёльны individuum звацца асобаю? *Покорять* панашаму будзе не пакараць (=наказать), а падбіваць; *донос* будзе *даказ*, а не „удаваньне“ (=рисовка, позировка); *желудок*—*страўнік*, а ня *кіндзюк* (=расійскому крыху зьневажальнаму слову *утроба*); *тележка* (ручная) перададзена словам *цялежка*, а не *вазочак*, як трэба было-б; *хвоя* перакладзена словам *хвоя* (=сосна), а правільна было-б *іглiца*; *хронический* не *паўторны*, а *хронічны* і некат. інш.

Далей ёсьць пераклады няпоўныя і прыблізныя або няўдалыя з боку пабудовы. Калі *антирелигиозный* яшчэ можна перадаць словам „процірэлігійны“, дык *антисемитизм* нельга перакладаць выразам „процісэмітызм“, бо тут справа зусім не ў змаганьні супраць навуковай тэорыі аб існаваньні паасобнай групы сэміцкіх народаў, а ў барацьбе з яўрэйскаю нацыяй. *Башлык* трэба пераклaсьці словам *каптур*, а не „башлык“; *безнравственность* — немаральнасьць, тады як *нясумленнасьць*= бессовестность, нечестность (паняцьці блізкія, але ня тожсамыя); *безжалостный*—бязьлітасны, тады як неміласэрны=немилосердный; *брюки* не „штаны“, а хутчэй за ўсё—*нагавіцы*—слова прыгожае і зусім адпаведнае нямецкаму Beinkleid; *вымогательство* не „вымаганьне“ (=требование), а *вымушэньне*; *втянутость* ня „ўцягласьць“, а *ўцягнутасьць*; *выдержка* ня толькі „вытрамка“ і „вынятка“, але і *вытрымаласьць* (моральная ўласьцівасьць).

Слова *грузить* перакладзена *грузіць* (зусім нядобра) і *накладаць* (ужо лепш), а *наладоўваць* чамусьці няма; *двор*—толькі „двор“ (а дзе-ж дзядзінец і панадворак?); *внятный*—унятны (выразна, добра чутны); *втулка* — утулка (шпунт); *внезапность* можна перакласьці ня толькі „неспадзяванасьць“, але і „раптоўнасьць“; *законодательный* — не *законадальны*, а „законадавальны“ або „законадаўчы“; *длиться* ня толькі „доўжыцца“, але і „працягвацца“; *изворотливый* і *исполнительный* перакладзены адным словам *спраўны*; для першага з гэтых выразаў правільны пераклад будзе, здаецца, *выкрутны*; *керосиновая лампочка* часьцей завецца „газьніцай“, а не „газоўкаю“; *колёсная мазь* лепш гучыць, як *коламазь*, чымся „каламазь“ (трэба ўхіляцца няпрыемнае асоцыяцыі з калам); *лодка*—„чайка“—прыгожая мэтафора—параўнаньне з птушкаю, але чаму ня дадзен і *човен?* Мортира (францускае mortier) дало па гукавых законах далёкае мінуўшчыны ў нас „мажджэр“, прайшоўшы праз Нямеччыну і Польшчу (Mörser, moździerz). Чаму было ўтвараць новае слова „мартыра“—невядома. *Мачта* ня можа ў нас пісацца так, як у расійцаў. У нас павінна быць *машта* (ням. Mast), як і пошта (ням. Post), асабліва дзеля таго, што і ў чыста славянскіх выразах мы маем тую-ж самую зьяву (з даўнейшага *чьто* атрымалася ў нас *што*, як, паміж іншым, вымаўляюць і расійцы). Гэта, аднак, належыць ужо да фонэтыкі. *Одобрение*—ухвала (але гэта толькі адносна зацьвярджэньня нейкае пастановы); здаецца, можна-б было дадаць і лацінскае слова апро-

бацыя, якое і ў нас даўней ужывалася. Пераклад слова *обрабатывать*—„абрабляць“ гучыць менш добра, чымся „апрацоўваць“. *Пенсия* нельга перакладаць „пэнсія“ (=жалованьне), а трэба сказаць *эмэрытура* (=рас. пенсия); *пруд* ня толькі „сажалка“, але і „стаў“ (калі гавараць аб млыне); *смертоносный* не „сьмертаносны“, а хутчэй за ўсё „сьмяротны“; *сквозняк*—скразьнік (ці ня лепш будзе *цяга*); *словесный*—славесны (лепш — *слоўны*); *тундра* — тундра (але можна-б было сказаць і *імшара*); *убедительный*—пераканальны (і пераканаўчы); *тёс*—цёс (дошкі); *удаль*—зухвальства (паказана і *адвага*, але лепш будзе *зухаватасьць*); *угол*—вугал (а дзе *кут* і *рог?*); *фаза* агульнае значэньне *фаза* (але аб месяцы гавораць *квадра*); *хутор*,—хутар (лепш „фальварак“, „хвальварак“); *царапина*—пісуга (*іскрабіна*); *цепенеть* — дубець (і *дранцьвець*), *циркуляр*—цыркуляр (і *абежнік*); *юркий*—юркі (але гэтае слова крыху з романічным адценьнем,—таму лепш *вёрткі* або *круткі*) і г. п.

Дадатным бокам слоўніка зьяўляецца дакладнае паказаньне розных адценьняў сэнсу ў словах і фразэолёгічныя ўвагі. Гэта мы ўжо бачылі ў слоўніку Байкова і Некрашэвіча, а вайсковы лексыкон яшчэ больш уперад пасунуўся ў даным кірунку. Бяз гэтага цяжка карыстацца слоўнікам і, ужываючы твор Байкова і Гарэцкага, дзелаводы пісалі, напрыклад, аб „адбудаваньні“ (замест—*аднаўленьні*) студэнта ў правох“ і г. п.

Далей трэба сказаць, што нават з агульна ўжываных (не спэцыяльных) слоў ёсьць у вайсковым слоўніку шмат такіх, якія не сустракаліся ў ранейшых аналёгічных працах.

Удалымі новатворамі зьяўляюцца, напрыклад, „самакат“, „самалёт“ (шкада, што і аўтомобіль не заменен „самаходам“, бо ёсьць-жа *параход*, а ня грэцкі *пироскаф*); брудавоз (ассенизатор). Добра перакладзены баллотиравать — *лёсаваць*; будировать — *узварушваць* (каб унікнуць гоманіма—*будаваць*); счёты (прылада) *рахубнік* (што лепш за немагчымае *шчоты* і нават за мала выразнае *лічыла*) і даволі згодна з нямецкім Rechenbrett) і шмат іншых выразаў.

У правапісе добрая навіна—напісаньне *разьгінаць* з *ь*. Сапраўды, выключэньне адносна *г, к, х* здаецца ня добра угрунтаваным.

Агульнае ўражаньне ад слоўніка—здавальняючае; нават пры цяперашніх недахопах гэта ўсё-ткі вельмі карысная кніжка—і колькасна і якасна.

**Л. Цьвяткоў**.

**Акадэмічная бібліотэка беларускіх пісьменьнікаў. Кн. I. Творы М. Багдановіча.** *Вершы—апавяданьні—тэкст—варыянты—увагі. Падрыхтована Літаратурнаю Камісіяй Інбелкульту. Пад рэдакцыяй проф. І. І. Замоціна. Т. I. Коштам Інстытуту Беларускае Культуры. Менск—1927. XV+502 стар. 4 портрэты, зьнімак з магілы пісьменьніка, 4 зьнімкі з аўтографаў, 2 стар. памылак друку.*

Творы М. Багдановіча, хаця ў адным пакуль што томе, які ўрэшце-ж дачакаўся свайго выхаду ў сьвет, належаць да „Акадэмічнай бібліотэкі беларускіх пісьменьнікаў“, складаньне якой становіць непасярэдную задачу Інстытуту Беларускай Культуры. Першы том гэтых твораў зьяўляецца канкрэтным вынікам дзейнасьці Літаратурнай Камісіі Інбелкульту ад часу яе закладзін у пачатку 1925 г. Малавата за тры гады. Але лепш абы-што, чымся нічагуткі.

Максім Багдановіч, як тыповы прадстаўнік дарэволюцыйнай інтэлігенцыі, з боку сваёй ідэолёгіі і літаратурных інтарэсаў-нахілаў—увесь у далёкім мінулым, і яго творчасьць непасярэднай цікавасьці з погляду сучаснасьці не выяўляе. Нават маецца рацыя думаць, што яго вершы, багата аздобленыя рознымі надпіскамі і прыпіскамі з француской, італьлянскай, лацінскай моваў і наскрозь прасякнутыя чужым нашаму часу ідэалістыч-

ным сьветапоглядам, зусім ня будуць даступнымі для шырокіх колаў з сялян і работнікаў, для якіх у першую чаргу павінна прызначацца наша літаратура. Аб тым, што нават чытачы „Нашай Нівы“ скардзіліся ў свой час, калі там друкаваліся вершы М. Багдановіча, на недаступнасьць іх—выразна сьведчыць В. Ластоўскі у сваіх „Прыпамінах аб М Багдановічу“ у апошнім № „Крывіча“ за 1925 г. Толькі нялічныя вершы М. Багдановіча складаюць выключэньне з агульнага правіла. Да гэтай катэгорыі належаць: „Слуцкія ткачыхі“, „З песьняў беларускага мужыка“, „Доля мужыка“, часткова,—„Краю мой родны!“ І толькі.

Аднак, М. Багдановіч мае значэньне з акадэмічнага погляду. Як поэта, ён займае азначанае месца ў *гісторыі* беларускай літаратуры. Тутака ён зьяўляецца прадстаўніком інтэлігенцкага тыпу творчасьці. Праўда, мова М. Багдановіча ня ёсьць дасканалай беларускай мовай. Аднак, поэта ўваходзіць у гісторыю нават з недахопамі сваёй мовы, як об‘ект *навуковага* дасьледваньня. Адсюль зусім натуральным зьяўляецца выданьне твораў М. Багдановіча ў сэрыі „*Акадэмічнай* Бібліотэкі“. А выданьне яго твораў у першую чаргу тлумачыцца, апрача высокай якасьці тэхнічнага боку вершаў М. Багдановіча, дзесяцігадовым юбілеем ад часу яго сьмерці ў траўні 1917 г.

У першы том твораў М. Багдановіча ўвайшлі вершы поэты, як ужо друкаваныя (зборнік „Вянок“, часопісі „Наша Ніва“, „Будучына“, расійскі „Голас“ і інш.), гэтак і тыя, што знайшліся ў рукапісных матэрыялах, дастаўленых рознымі асобамі, галоўным чынам, бацьком М. Багдановіча. Побач з вершамі ў беларускай мове дадзены і вершы поэты ў расійскай мове, сярод якіх—яго ўласныя пераклады некаторых вершаў, напісаных пабеларуску. З апавяданьняў—8 у беларускай мове і 4—у расійскай. Выданьне зроблена на ўзор тыповых акадэмічных выданьняў літаратурных твораў,—з так званым „крытычным апаратам“, г. зн. з увагамі, якія датычуць як генэзы пэўнага твору, гэтак і паасобных слоў і выразаў аўтара. Выданьне першага тому мае на сабе пэўныя адзнакі працы спэцыялістых, і даволі ўдала пачынае сабою сэрыю „Акадэмічнай бібліотэкі беларускіх пісьменьнікаў“. Тое, што з напісанага М. Багдановічам не ўвайшло ў першы том, мае скласьці зьмест другога і трэцяга томаў.

Пры выданьні першага тому твораў М. Багдановіча Літаратурнай Камісіі ІБК давялося правесьці досыць цяжкую працу. Патрэбна было сабраць вершы поэты, раскіданыя па розных часопісях, прычым гэты збор адбываўся пры ня зусім памысных умовах. Як паказвае рэдактар кнігі, проф. Ів. Замоцін, у падрадковай увазе да сваёй прадмовы на стар. XIII, „у Менску камісія не змагла знайсьці нават поўнага экзэмпляру „Нашай Нівы“, так што копію аднаго там надрукаванага вершу („Як Базыль у паходзе канаў“ № 68) прышлося выпісваць з Ленінграду“. Гэта паказаньне ня зусім адпавядае рачаіснасьці, прыніжаючы пры тым значэньне Менску, як асяродку беларускай культуры: прынамсі ў Беларускай Дзяржаўнай Кніжніцы ў Менску ёсьць некалькі камплектаў „Нашай Нівы“ за розныя гады. Аднак, дапушчальна, што некаторыя нумары газэты камісія магла і не знайсьці. У кожным выпадку праца збору матэрыялаў пры пэўнай хаотычнасьці нашай кніжна-бібліотэчнай справы—ня лёгкая праца. Ня лёгка, разумеецца, было працаваць і над рукапісным матэрыялам, часткаю папсаваным ад пажару, які здарыўся ў доме бацькі Багдановіча. Праца камісіі ўскладнялася і агульным станам пакуль што яшчэ вельмі мала распрацаванай беларускай літаратурнай гісторыяграфіі. Значную дапамогу Літаратурнай Камісіі пры падрыхтоўцы вершаў М. Багдановіча да друку маглі-б зрабіць калішнія рэдактары

большай часьці гэтых вершаў,—Янка Купала і В. Ластоўскі, аднак першы чамусьці, як відаць з прадмовы рэдактара, ня быў заклікан да працы ў Камісіі, а з другім камісія магла мець толькі лістоўную сувязь. Такім спосабам, працу праводзілі homines nowi, апрача проф. Замоціна, Ул. Дубоўка і *В. Мачульскі*. Асабліва многа было зроблена апошнім.

Недахопы выданьня з погляду *навуковай крытыкі*, бязумоўна, ёсьць. Частка іх паказана ў прадмове рэдактара. Да гэтай катэгорыі належыць, апроч няўхільнай непаўнаты ў падборы вершаў, значная недакладнасьць у іх датаваньні, адсутнасьць патрэбных даведак адносна гісторыі самога вершу,—асабліва адносна генэзы таго ці іншага вершу, што наглядаецца ў вельмі значнай колькасьці выпадкаў. Другога роду недахопы стаяць у сувязі з асаблівасьцямі мовы М. Багдановіча. У прадмове зусім слушна сказана, што, „мова гэтая ў сваім лексычным складзе і ў граматычных асаблівасьцях, бязумоўна, павінна выклікаць шмат агаворак“. Аднак, далей чытаем: „але гэтыя агаворкі ўвайшлі ў увагі ўсяго часткова, як паказаньні, напр., на выразныя русіцызмы і полёнізмы“. „У больш падрабязным і сыстэматычным выглядзе ацэнка мовы М. Багдановіча“, суцяшае нас прадмова, „можа быць зроблена ня ў увагах, а ў асобным спэцыяльным артыкуле“ (XII стар.). Сапраўды, недахопы гэтай часьці крытычнага апарату выданьня асабліва выразна б'юць у вочы. Дзівіць якаясь непаступовасьць паасобных заўваг і адсутнасьць пэўнага мэтоду іх укладаньня. Напрыклад, у ўвагах да № 132 („У Вільні“) чытаем: „суючшчыя“—форма, утвораная на ўзор рас. „літар. мовы“. Зьяўляецца натуральнае пытаньне: чаму ўвага рэдакцыі спынілася толькі на гэтым слове, калі ў вершы ёсьць „сьпяшчы“, што, аднак, не абгаворана? У наступным вершы № 133 „гусьцеючым“ таксама не абгаворана, а ёсьць толькі ўвага: „Русіцызм—„срэдзь“, хаця зусім не заўважаны іншыя больш цікавыя русіцызмы,—напр.: „ужо *відна, як*...“, „агні *запылалі*“. Другі прыклад,—у ўвазе да вершу 227 чытаем: „у слове істоптаны (9 р.) ужыта неўласьцівая беларускай мове прыстаўка „із“, аднак у вершы № 295 слова „ізьлішкі“ прымаецца, як беларускае без агаворкі. Чым вытлумачыць такую зьяву? Мне здаецца, што тут прычына адзіночная—адсутнасьць пры апрацаваньні крытычнага апарату пэўнай дапамогі з боку спэцыялістага беларусаведа-мовазнаўцы.

Пэўнае незадаволеньне пакідае і тэхнічны знадворны бок выданьня. Дзьве (цэлыя дзьве!) старонкі друкарскіх памылак, якія дададзены да кнігі, ня робяць чэсьці корэктарам і наогул Выдавецкаму Аддзелу Інбелкульту. Памылкі на дзьве старонкі—гэта зьява зусім нязвычайная для акадэмічных выданьняў. Ёсьць і іншыя недахопы тэхнічнага характару: рознасьць шрыфтоў (гл. напр., стар. 199), нероўнасьць вёрсткі, агульная *неахайнасьць* друку. Ня вельмі добрае ўражаньне пакідаюць і дададзеныя да кнігі зьнімкі. Магчыма было-б набыць для гэтых зьнімкаў лепшыя клішэ і выдрукаваць іх на больш добрай паперы. Аднак, папера для кнігі наогул ужыта добрая.

У заключэньне прыходзіцца пашкадаваць, што першы том твораў М. Багдановіча ня вышаў своечасна,—да дню юбілею поэты, і спазьніўся на цэлыя 3 месяцы (замест траўня кніга вышла толькі ў жніўні).

Пажадана, каб далейшыя выпускі „Акадэмічнай бібліотэкі беларускіх пісьменьнікаў“ выходзілі больш акуратна і ў больш дасканальным выглядзе.

**Крывіч.**

*Рэдакцыйная колегія:* **З. Жылуновіч, М. Зарэцкі, Я. Ліманоўскі**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ